# 12/2005

# ПОЛЫМЯ



## ПЕРАМОГА

Ты ішла франтоў гарачым наступам
З кананадай, гулкаю стральбой.
Столезна сырых магільных насыпаў
Засталося ў свеце за табой.

І цана твая — усім вядомая:
У мільёны выдыхаў салдацкіх,
Хто ляжыць удалечы ад дома
І сягоння у магілах брацкіх.

Ты акопаў кіламетры вырыла
У падзоле глейкім і жвірах
І заўсёды — нежаданым выраем —
Адганяла чалавечы страх.

Сцяўшы зубы, брала ў рукапашную
Пікі безыменныя высот
І хвілінай, гордая, бясстрашная,
Выцірала свой салёны пот.

Ты дымамі шыр зямлі асмужыла
І агнём крышыла і мячом,
Гусеніцай танка поле плужыла.
Чвякала ў дрыгве сырым квачом.

Ля кастроў у слоту часта грэлася
І па сто куляла франтавых.
І, калі атака узгарэлася,
Аддавала ў мёртвыя жывых.

Ты ішла, дзе шпарка, дзе спаволена,
Скрозь прымаючы грудзьмі свінец.
Мроіла ў кароткім сне дазволена,
Што наступіць ёй, вайне, канец.

Свет з руін-пажарышчаў уздымецца,
Выблісне прамень жывой вясны.
І тваім ахвярна-светлым іменем
Назавуць апошні дзень вайны.

**Мікола Мятліцкі**



60-годдзе
**ПЕРАМОГІ**

# ПОЛЫМЯ


**12**

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

(914)

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА

**2005**

снежань





РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2005

## ЗМЕСТ





**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**



## Уладзімір МАЗГО

### БЕЛАЯ ВЕЖА

Тут,
як згадкі,
стагоддзі жывуць.
Вежу гэтую
Белай завуць:
Пабялела
ад гора
не раз...
І, здаецца, —
як светлы абраз,
Міраточыць
барвовай крывёй,
Нібы ў нас
чорны грэх перад ёй.

### ЖЫВОГА СЛОВА ЧАРАДЗЕЙ

*Памяці Уладзіміра Юрэвіча*

Жывога слова Чарадзей
Ашчадна,
адмыслова
Спяшаў данесці
да людзей
Крынічнай сілы
Слова.

---

*Мазго Уладзімір Мінавіч нарадзіўся 5 сакавіка 1959 года ў гарадскім пасёлку Зэльва Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1985). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі літаратуры для малодшага школьнага ўзросту ў выдавецтве «Юнацтва». Цяпер — вядучы рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Пад спеў крыніц», «Вершаліна», «Марафон», кніг для дзяцей «Калі спрачаюцца маланкі», «Суседзі па сусвеце», «Смехапад», «Прыгоды марахода».*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры (2005).*

Яно свяцілася наскрозь
Хвілінаю любою,
Надзіва чыстае ад рос,
Сагрэтае любоўю.

Скаваў мароз
крынічны спеў.
Самотная Дуброва...

Але данесці Ён паспеў
Да нас
жывое Слова.

* * *

Вяртанне гэта —
нібы свята.
Таму вяртаюся
туды,
Дзе нагадае зноўку хата
Мае світальныя гады.

На міг
бег часу замаруджу
І засяшаю напраcткі
Туды,
дзе ранкам вершы вуджу
З крынічна-чыстае ракі,

Якая, —
не спазнаўшы бруду, —
Уся ў тумане-малацэ,
Дзе я мацней сціскаю вуду
У зачарованай руцэ.

* * *

Пусцеюць хаты
на сяле.
Старэюць вёскі,
выміраюць.
Дзядок —
крыху «навесяле»:
— Не ад'язджай! —
унуку раіць. —
Цябе, —
легенду барані, —
Знайшлі ў капусце,
не ў валюце...

А кроны
славяць карані
У зелянеючым
салюце.

* * *

Спяшаемся жыць,
мы спяшаемся жыць,
Баімся,
што час міма нас прабяжыць,
Схаваецца
за паваротам,
Адкуль
не вярнуць яго потым.

Спяшаемся жыць,
мы спяшаемся жыць
І часам сваім
у жыцці даражыць,
Які
нагадае нам скора,
Што Заўтра —
няма без Учора.

## ПАСЛЯ ЗІМЫ

Пасля сумнай
працяглай зімы,
Разганяючы хмары самоты,
Вочы ў вочы
сустрэліся мы
На пероне
чаканай пяшчоты.

Сакавік,
быццам хуткі цягнік,
Працінаючы далі,
імчыцца.
Як настою,
паветра глыні —
Самы час
ад тугі палячыцца.

Хоць жыццё —
то падзенне,
то ўзлёт,
Весніх мрояў
дасхочу хапае.
У вачах
растае сумны лёд —
За слязінкай
слязінка скупая.

## ВЯСНОВАЕ

На хвалях ракі,
Як вярыгі,
Паразрываныя
Крыгі.

А сонца
Смяецца высока.
І пахне
Бярозавым сокам,

Нібы сырадоем,
Паветра.
А поўня,
Схуднелая ў ветах,

Спрабуе
Дрыготка і слаба
Аб шыбіну неба
Пашкрабаць.

* * *

На крыльцах
сонечных стракоз
Трымцела ранне.
А за пракосам
бег пракос
У шчыраванні
Касы
над роснаю травой
На фоне злакаў...
Да слёз
жаўрук над галавой
Ад шчасця плакаў.

* * *

Я чакаў цябе даўно,
А спаткаў —
так нечакана.
Ты была маёй вясной,
Маладой і закаханай.

Стала цесна ў мроях мне —
Я хачу
расправіць крылы,
Бо паклікалі мяне
Залатыя небасхілы.

Адляцелі ў даль гады,
Адшумелі недарэчы.
Толькі веру,
як тады,
Кожнай новае сустрэчы,

Што,
як зорачка з нябёс,
Праляціць у час вячэрні —
І зямны твой вечны лёс
Нечакана пераверне.

* * *

І навошта
з табою аднойчы
Мы спаткаліся —
вочы ў вочы?
Мы спаткаліся —
вусны ў вусны
У той вечар
спакусны-спакусны...

Таіса БОНДАР

# ГУЛЬНЯ Ў ПАДКІДНОГА

*Раман*[*]

## Частка другая

## Баш на баш

Жыццё не проста нагадвае гульню, яно — гульня! Гульня ў падкіднога. Калі той, хто прайграе, застаецца дурнем... Проста. І справядліва. Не ўмееш, не спадзяешся ні на ўдачу, ні на хітрасць — не бярыся. Сядзі збоку і назірай. Па магчымасці хаваючы ад зацятых ігракоў, што ты не адно прысутнічаеш, што ты — сведка: каму з тых, хто паказаў сябе дурнем, спатрэбіцца потым сведка? Тое і яно. Лялечкіна што марна не скажа.

Лялечкіна — шаноўна дама бальзакаўскага ўзросту, чый стан, чый твар і незадаволеная грымаса на ім адбіваліся ў гэту хвіліну ў люстэрку... Людміла Пятроўна, Лялечка, Люсі... Тры не падобныя адна на адну жанчыны ці адна ў трох розных абліччах — ідзі разбярыся! Імя сваё ўсякі ведае, а ў твар сябе ніхто не помніць, так, здаецца, казалі мудрыя? Ну, ды так ці не так, а яна нешта ўсё часцей падоўгу прастойвае перад люстэркам, смакуючы нечаканую толькі на першы погляд думку, што і імя — толькі маска. Зручная, з часам усё больш шматслойная, усё больш неабходная маска, пад пэўным нумарам запісаная некалі ў метрычнай кнізе жыцця. І колькі ні абдзірае, ні здзірае яе часам з перакошаным ад болю тварам: «Старэеш, старэеш, Пятроўна!», колькі, сліняючы пальчыкі, ні заціpae, ні залізвае потым на ёй сляды кіпцікаў, уговорваючы сама сябе: «Лялечка! Лялёк! Люсіка...», колькі ні запівае горкаю каваю, звыкла бадзёра падміргваючы свайму адбітку ў люстэрку: «Вышэй галаву, Людміла Пятроўна!», маска толькі крыху, зусім крышачку ссоўваецца і яшчэ шчыльней прылягае да твару. Лялечкіна, Людміла Пятроўна. І ўсё на тым.

Ат! Галоўнае, нягледзячы ні на што, за гадамі паспяваць. За гадамі, а не за шкадаваннямі. Зморшчынкі ўкруг вачэй з'явіліся? Крэм, лёгкі масаж, аўтатрэнінг... Сум у вачах? Узмах павекаў, уздых, усмешка... Адзінота абазвалася? Кубачак кавы, кілішак добрага віна ў кампаніі суседкі... Спакой варты некалькіх намаганняў, хай сабе і не вельмі прыемных.

Прыемных, непрыемных... Ужо ж, што ў тым прыемнага — запрасіць на бакал віна старую з кватэры насупраць — Галену Феакцістаўну Пірагову? Адно, што ўсякае лухты пра вернасць ідэалам наслухаешся. Калі будзеш слухаць. Гэткая сямідзесяцігадовая развaліна: парахня сыплецца, пасмы сівых валасоў на галаве не набярэцца, а туды ж! — пра вернасць ідэалам, пра духоўную моц партыі... Цьфу ты, Божа мой!

«Няўжо ніколі, ніводнага разу не пахіснулася вера?» — спытала ў яе неяк. Спытала амаль абыякава, адно каб прадоўжыць згаслую гаворку, а яна раптам ускінулася, запунсавела, як макаў цвет.

---

[*]Заканчэнне. Пачатак у № 11, 2005 г.

Не магу
без тваёй прыгажосці,
У якой
ёсць таемнае штосьці,
У якой
вочы моляцца зорам
І твае валасы
пахнуць морам.

Я з табою спяваў
і смяяўся,
Я з табой
развітацца баяўся,
Бо цябе пакахаў
яшчэ змалку —
З мора казак
дзяўчыну-русалку.

А калі
прыйдзе час развітацца,
А калі
мы не зможам спаткацца, —
Хоць на міг
пачакай,
калі ласка! —
Хай прадоўжыцца
гэтая казка.

* * *

Стаім на мосце,
А рака,
як час,
Шапоча штосьці
Хвалямі для нас.

Вунь бераг правы —
Тое,
што было, —
Схавалі травы,
Снегам замяло.

А бераг левы —
Замірае плынь —
Шумяць залевы,
І гарчыць палын.

Нацяты нервы
Хуткае ракі,
Дзе будзяць нетры
Шумныя вякі.



«Што вы, што вы, Люсі! Як можна? — замахала рукамі. — Вам, работніку апарата, не тое што сумненні — ценю іх у душы будзіць нельга! Вы — на Алімпе. На вас народ пазірае».

Тут яе, памятае, і прарвала. Не крыкам прарвала — Людміла нават голасу не павысіла, — а злосцю: Алімп, бачыце, ёй прымроіўся! Народ на іх, абраннікаў улады, пазірае!

«Ну які народ! — выціснула з сябе ўсмешку.— Дзе вы бачыце народ? У раз'юшаных чэргах? Каля піўных ларкоў? У цесных гарадскіх канурках, падвешаных да напоўненых шумам і свістам каналізацыйных труб? На плошчы — пад павыцягванымі з дзедаўскіх скрыняў сцягамі? У перапоўненых турмах ці прапахлых потам казармах? Ці мо на сходах і сходках самага рознага кшталту, балазе ўсе вольніцу пачулі?»

Усміхалася, а старая пазірала на Лялечку, на яе з'едлівую ўсмешку з непадробным жахам, не ведаючы, што і думаць. А што тут было думаць? Павінна ж і ёй некалі надакучыць тая роля, якую скрозь змушана іграць у прысутнасці Пірагоўвай. Як жа! Непадкупная бальшавічка адорвала сваёю прыязнасцю, шчодра дзялілася вопытам служэння ідэалу: слухай, а не — падымай вочы ўгору, і маліся... Абрыдла. Збрыдзела ўсё. Магла яна хоць дома адчуваць сябе чалавекам?

«Вы жартуеце, Люсі?» — цямнеючы тварам і запінаючыся, са спадзяваннем перапытала Пірагова, і Лялечкінай (ну, не дурніца?) нечакана стала шкада яе: не згорбленая ні гадамі, ні нягодамі, проста-такі кашчавая ад пласкагрудасці і худзізны старая, старанна разгладжваючы і зашпаклёўваючы пудраю зморшчыны, і так заўсёды нагадвала размаляваную кітайскую марыянетку, а тут, спалоханая, пакрыўджаная нечаканасцю слоў, і зусім адзеравянела. «Скажыце, што вы жартуеце!»

«Ну, канешне ж, жартую,— адвярнулася, каб не бачыць яе згаслых і таму адразу паглыбелых, пазападалых вачэй.— Прабачце, Галена Феакцістаўна, жарт атрымаўся няўдалы».

«Цяпер усе так імкліва мяняюцца».

«Час такі. Змушае думаць, — дастала з бара распачатую бутэльку кабернэ і бакалы.— Шкада, што думаць мы не прывыклі і не ўмеем».

«Што-небудзь здарылася, Лялечка? — занепакоілася яна, забываючыся на сваю крыўду.— Вы на службе ў партыі, а калі курс такі нестабільны і ледзь не ў пашане здрада...»

Людміле не хацелася слухаць ні пра партыю, ні пра зменлівасць яе курсу.

«Давайце па глыточку вып'ем, Галена Феакцістаўна, — прапанавала.— Каб стронцый у арганізме на залежваўся».

Пра стронцый — спецыяльна. Каб тэму памяняць. Каб разважанні пра здрады ідэалам і масавае рэнегатства ў партыі зноў не прывялі яе да сумненняў. Вока ў старой пільнае: толькі дай падставу ці, Божа збаў, чым-небудзь закрані веру — яе, Пірагоўвай, веру ў правільнасць і ахвярную веліч пройдзенага ёю і краінаю шляху...

Верыць — і няхай верыць! Людміле што да таго! Яна, урэшце, адзіная з суседзяў, з кім, не зневажаючы сябе, сваёй гордасці, льга падтрымліваць хоць нейкія зносіны: гэткая ж, у адрозненне ад матронаў сямействаў вакол, адзінокая, як і яна, таму не мела прычыны пры сустрэчы надзімацца ад пагарды ці звычайнага бабскага страху за свайго благавернага.

Быў у Пірагоўвай хто калі-небудзь ці так і прахадзіла яна ў дзеўках, невядома. Часам, як у тую хвіліну, смакуючы віно, Лялечкіна спадцішка раз-

глядвала яе, шукаючы хоць бы нейкую прыкмету полу і не знаходзячы: даўно тая была жанчынаю, калі наогул была...

«Галена Феакцістаўна, вам ніколі не муляла адзіноцтва?» — спытала, нечакана нават для самой сябе, перапыняючы, на паўслове абрываючы старую, яе квяцістыя разважанні.

«Не муляла... што? Адзіноцтва? Я вас правільна зразумела, Люсі?» — не хаваючы крыўды, падцяла яна вусны.

Люсі, Люсі! Як старая не разумела, што яе, Людмілу, раздражняла гэтак, на французскі манер, перароблена імя ў яе вуснах?

«З мяне нікудышняя гаспадыня. Але... — зрабіла глыбокі ўдых, набіраючыся рашучасці, — але і вы, Галена Феакцістаўна, жанчына, і ў вас некалі не склаўся жаночы лёс! Скончаная сямігодка — немалы набытак па тых часах, рост на партыйнай рабоце быў забяспечаны, я разумею. Ды і шмат — яшчэ не ўсё... Па сабе ведаю».

«У вас непрыемнасці,— зноў настрылася тая. — Валерый Юр'евіч... незадаволены?»

«Вам што, вядома... — выціснула з сябе, думаючы, як правільней зрэагаваць: засмяяцца ці абурыцца яе залішняю дасведчанасцю, і ўрэшце (крыху ненатуральна) засмяялася.— Госпадзі, ну для каго з нашых — гэта таямніца? За кожным жа — значыцца, і за мною! — і вуха, і вока... Каб з тропу не збілася, каб у выпадку чаго...»

Смяялася, а сама адчувала, як унутры заварушыліся, сталі разбягацца ледзяныя голкі — гэткія дробненькія голачкі страху... Хоць з чаго б, здавалася? Той, гэты каханак? Якая розніца?

«Люсі, хочаце, я дам вам параду? — перастала старая ўзірацца, быццам і сапраўды падманулася яе смехам і супакоілася. — Адразу, адначасова быць па абодва бакі барыкад немагчыма — гэта азы палітычнай асветы, і не вам іх даводзіць. І ўсё ж узрост, адносіны змушаюць мяне перасцерагчы вас ад лёгкасці — так, так, Люсі, ад лёгкасці пераарыентацыі. Не той, што на словах (словамі скрозь, як мячыкамі, жангліравалі!), а той, што ўнутры, у душы. Паверце, гэта толькі здаецца, што хто-хто, а ты на вудачку часу не трапіла, што варта атрэсціся, адвярнуцца — і новы час, новы шлях адкрываюцца пагляду, прымуць цябе, тваю спадзеўку. Тыя, хто вырываецца са спратаў часу, са сваіх былых перакананняў, пакідаюць на зламаных кратах не толькі кавалкі выдранае з мясам скуры, але і раструшчаную душу».

«Але ж хіба... — не скончыла Людміла фразы, адчуўшы, што гаворка станавілася задужа сур'ёзнаю, каб проста аджартавацца ці зноў паспрабаваць змяніць яе кірунак.— Галена Феакцістаўна, даражэнькая, з чаго вы ўзялі, што я прагну змен? Што веру ў магчымасць нейкіх змен? Я глыбока паважаю вас, пройдзены вамі шлях, і хоць няма ўва мне вашае цвёрдасці, але і паперадзе часу я ніколі не бегала. Нават у маладосці».

«Змены адбываюцца тады, як мяняюцца людзі, — азвалася Пірагова, хутчэй не на яе словы, а на свае думкі. — А людзі мяняюцца, драбнеюць, сваёй Бацькаўшчыны, свайго абавязку перад продкамі і нашчадкамі цураюцца. Адны — дзеля таго, каб у дэмакратах пакрасавацца, другія — каб паспець кавалак тлусцейшы ад чужога, ад дзяржаўнага ўрваць. Бедная краіна!»

«Бедны чалавек!» — падняла Людміла свой бакал.

«Вось вы, Люсі, сказалі, — як не чула, ды і не чула тая воклічу, — што ў мяне не склаўся жаночы лёс. Лухту, прабачце, сказалі. Лёс — заўсёды мужчынскага роду. Як і час. Запомніце».

Сказаўшы гэта ўрачыста, нават крыху змрочна, яна змоўкла. І доўга маўчала. Колькі разоў прыгубіла віна, калі і адпіўшы, то самае нічога, колькі разоў адчужана, як бы з далёкае свае маладосці, зіркнула на Людмілу, на яе думку, залішне какетліва для саракатрохгадовай жанчыны апранутую: ужо ж, і свабодная, глыбока адрытая блузка з крэмавага крэпдэшыну, і абляпаныя фірмовымі біркамі штонікі, няхай сабе і дома, па-хатняму, не адпавядалі яе іміджу каляапаратнае дамы. Ну, не адпавядалі, дык і не адпавядалі: свой імідж Лялечкіна стварала сама. І старая, хоць часам і пазірала з прыхаваным асуджэннем, крыўдліва падцінаючы вусны, але ўголас асуджаць асцерагалася — памятала выказаную ёй аднойчы незадаволенасць.

Маўчанне зацягвалася, пачало ўжо ціснуць на плечы, а Людміла ўсё яшчэ чакала працягу сказанага. Няспешна, па глытку піла віно і чакала. Тое, што лёс, як і час, заўсёды толькі мужчынскага роду, Пірагова трапна заўважыла — было над чым падумаць сам-насам з сабою ў вольную хвіліну...

«Калі-небудзь я раскажу вам, як была жанчынаю».

«Хіба вы не...» — вырвалася ў яе міжволі і, ледзь паспеўшы прыкусіць язык, каб недагаворваць да канца тое, што, напэўна, пакрыўдзіла б старую, усмешку ўтрымаць усё ж не здолела: нездарма, выходзіць, не знаходзіла прыкметаў полу... Хоць чаго яшчэ ад іх чакаць?

«Іх», маючы на ўвазе старых, памянула ў думках даволі скептычна, але ўжо праз хвіліну, згадаўшы пачутае, яна была глыбока ўражана зробленым прызнаннем: з яе падобнае і абцугамі не выдралі б!

«Вы, маладзейшыя, марна абвінавачваеце нас у слепаце; вера можа быць толькі сляпою. Толькі! Інакш — разбураецца, разбураючы чалавека», — рэзка абрывала Галена Феакцістаўна гаворку, і хоць Людміле ўжо муляла распытаць яе падрабязней, знайсці разгадку яе ўпэўненасці ў сабе, дакапацца да сутнасці, якая, аказалася, не ўся ў тым, што навідавоку, усё ж пагадзілася з гэтым яе правам, кіўнула і, быццам і не было ніякае сур'ёзнае гаворкі, стала частаваць госцю купленымі ў службовым буфеце яблыкамі...

Тэлефон? Яе няма. Яна яшчэ не вярнулася са службы. Яна прагульваецца пад дажджом. Ці з пудзелем, калі так праўдзівей. Прымае ванну. Урэшце, ляціць на Месяц! З шасці да васьмі яе ні для каго няма, і ўсе, каму трэба пра гэта ведаць, ведалі. Ні выпадковых званкоў, ні выпадковых знаёмых у Лялечкінай не бывае: мінуліся тыя часы. Мінуліся і забыліся: шматкроп'е на самым пачатку біяграфіі...

Біяграфіі? Гэта яна абмовілася. У каго з іх, цяперашніх, ёсць біяграфія? Так... Абрыўкі размаляваных алоўкамі карцінак... На адным абрыўку — скрыўленыя няўмелаю рукою пяцікутнікі зорак на вежах няўклюдаў, больш падобных на ніколі не бачаных чарапах, чым на танкі; на другім — стужкі пражэктараў і букеты салютаў; на трэцім — дом з мноствам акон, завешаных стракатымі фіранкамі, з-за якіх, смеючыся, выглядвае касматае сонца... Слюдзяныя сколкі макухі, пляскатая, пашытая з анучак лялька, у якой з прарэхі на шыі цярушыцца саламяная труха; адсечаная галава баязліва звергнутага ідала, што валялася сярод рознага злому на пусташы; радасць, якая ад цямна да цямна выплёсквалася ў прасцяг з чорнага вуха рэпрадуктара на слупе, — вехі маленства! Далей — трохі ясней, выразлівей, але па-ранейшаму няпэўна, з там-сям падцёртымі гумкаю прагаламі: васьмёркі, выпісаныя веласіпеднымі коламі на пыль-

най, яшчэ не забрукаванай вуліцы, ці канькамі, прыкручанымі абрыўкамі парашутных стропаў прама да валёнкаў — на лёдзе свіслацкай затокі; шпаргалкі з першымі формуламі будучага шчасця; патаемная мара пра капронавыя панчохі; на свой лад перароблены маналогі Джульеты — перад вышчарбленым люстэркам; сіняк пад вокам як доказ жаночага раўнапраўя... Усё неаднойчы падціралася, падчышчалася, аздаблялася цытатамі з газетных перадавіц: патрабавалася ж не нейкая там біяграфія, а чыстая, па магчымасці, ідэальна чыстая анкета. Каб не было ў ёй якіхсьці там закардонных Джульетаў (раптам сваяцтва з ёю адкрылася б!), ні якіхсьці расплывістых мараў (спярша — панчохі, а потым, глядзіш, і да буржуазнае распусты пацягне!), каб, Божа збаў, нічым не вылучалася анкета з тысяч, з дзесяткаў тысяч іншых. Год і месяц нараджэння. Сацыяльнае паходжанне. Партыйнасць. Адукацыя... Усё рэгламентавана. Усё, што ад кожнага патрабуецца на працягу жыцця. Споўнілася сем гадоў — пайшла ў школу. Падбіралася да дзесяці — павязала чырвоны гальштук юнай камуністкі. Ледзьве пераваліла за трынаццаць — зубрыла першы ў сваім жыцці статут. Хіба гэта біяграфія?!

Канешне, пашукаўшы, знайшлося б колькі слабых суцяшэнняў, накшталт: «Жыццё даецца толькі адзін раз...», ці: «Я другой такой земли не знаю...», ці, урэшце: «Чалавек — гэта гучыць горда...» А то не гучыць! І горда гучыць, і правільна. У ідэале. Вось толькі ідэал, нават прыцярушаны сажаю мінулага, яго папялішчаў, таму і ідэал, што недасягальны ні ў блізкім, ні ў далёкім будучым. Недасягальны! — да гэтай сарамлівай высновы схіляецца любая філасофія, і спрадвеку зямное, глебавае «давярай і правярай» тут недарэчы: словы словамі правяраюцца, высновы — высновамі, а жыццё тым часам ідзе. Ідзе. Незалежна ад усяго існага. Як гадзіннік у пустым, пакінутым усімі пакоі.

Дні мінаюць, тыдні, гады... Сорак тры гады націкала, а калі? І што такое — гэтыя сорак тры пражытыя гады, як сэнсу ні ў іх паслядоўнасці, ні ў іх паспешлівасці няшмат? Куды, за якою такою мараю гналіся яны — і яна разам з імі! — калі даўно страчана мэта, калі, нягледзячы на ўсе намаганні, боўтаецца на жыццёвай паверхні так, як і раней? Айчынныя панчохі змяніліся імпартнымі калготкамі, культ бацькі народаў перайшоў у культ героя, паабчапіянага бліскучымі цацкамі прыдуманай славы, сумленнасць, шчырасць сталі перашкаджаць, і пазбавіцца ад іх аказалася не так цяжка...

Хоць стоп! Чаго гэта яна за ўсіх агулам распісваецца? Ёй што — да ўсіх астатніх? Каго-каго, а Лялечкіну прыпішуць да дурняў, што млеюць ад слінявага замілавання пры думцы пра народ. На-род! Бог бачыць, Людміла Пятроўна Лялечкіна, — не самы горшы яго экземплярчык, а і то, калі не прыкідвацца,— дрэнь. Добрая дрэнь. А пра сяго-таго з народа і згадваць нанач без таго, каб не саграшыць, нельга. Чыстыя нячысцікі. Ці таго горш — быдла. Тупое, з прапітымі мазгамі быдла, для якога не тое што мэты, сэнсу ніякага жыццё не мае: выпіць, пажэрці, а як няма чаго, то і проста рукавом уцерціся, не стрымаўшы ікаўкі... Цьфу! Дзякаваць Богу і свайму хараству, даўно службаю ў высокім доме ад гэтага народа адгароджана!

Так, так, дзякаваць трэба і свайму хараству, якое дагэтуль вабіць мужчынскія позіркі... Думае пра гэта звыкла, як пра нешта, што само сабой разумеецца, але потым, усё яшчэ крывячы вусны ва ўсмешцы, міжволі цягнецца паглядам да люстэрка. Тое, што ёй не дваццаць, ясна з першага позірку, але і яе гадоў ёй ніхто не даў бы: светлыя, колеру залацістае саломы валасы, акуратна зачасаныя і ўкладзеныя ў мудрагелістую, хоць і свабодную,

як таго дыктавала мода, прычоску, чысты, без адзінае прыкметнае зморшчынкі лоб над нешырокімі, прыгожа выгнутымі бровамі, зеленкаватыя, у дробную сонечную крапінку вочы, тонкая, амаль празрыстая скура вакол іх ледзь заўважна кранутая першым, лёгкім рабаціннем, якое прыняў бы за зморшчыны толькі яўны яе незычлівец, зграбны носік, не пазбаўленыя прывабнай пачуццёвасці вусны, дагледжаная, па-майстэрску падоўжаная глыбокім выразам блузкі шыя, не чапаныя загарам і па-ранейшаму пругкія грудзі.. Усё о'кей. Гадоў сем яшчэ пратрымаецца, а там...

Там, як кажуць, Бог бацька. Сёння ж, цяпер — сама сабе гаспадыня. Хоча — моліцца, хоча — смяецца, зарупіць — поўная хата маладжавых кавалераў набяжыць, ды не абы-якіх, а з высокіх кабінетаў. Падставіць губкі катораму, пагладзіць кончыкамі пальцаў лысіну, шапне вядомае ўсім жанчынам запаветнае слоўца — і той так прыліпне — не адарвеш, пакуль пра абавязак, пакінуты ў высокім кабінеце, ці пра пагрозу выпадковага выкрывання не нагадаеш...

Памятае... Дасюль не ведае, навошта ён ёй здаўся тады, гэты падпалкоўнік. Чыста заалагічная цікавасць, ці што?

Гасцініца — не тое месца, дзе ў такіх, як яна, адбываюцца знаёмствы. Тым больш гасцініца старога правінцыйнага горада, у якой і нумароў прыстойных, па сутнасці, няма: адзін-два для абласнога ці сталічнага начальства, калі б раптам уздумала яно, як у той раз, у гасцініцы заначаваць, і тыя — у агульным калідоры, наскрозь прапахлым кепска вымытаю, заляжалаю бялізнаю і хлоркаю, аддзеленыя ад гэтага калідора толькі дзвярыма, канешне ж, не двайнымі, хоць і не скасабочанымі, як астатнія.

Раззлаваная, раздражнёная не так гасцінічным нумарам, як тым, што, скарыстаная для «высокага» прадстаўніцтва на свяце горада, ці то з-за лішняе ўвагі, ці то з боязі ўгнявіць залішняю ўвагаю да яго спадарожніцы Самога, пакінута на цэлы доўгі вечар у самоце, спярша мерала пакой хуткімі, нецярплівымі крокамі, потым, знясіленая гэтым кружэннем, тантаннем паміж ложкам і сталом, плюхалася ў крэсла і нейкі час тупа пазірала ў пацямнелае акно.

Спадарожніца! Тое і яно, што ехала са спадзяваннем на штосьці іншае — большае, а ў выніку, быццам пакараная за гэта спадзяванне, сядзіць у казённым, з прэтэнзіяю на раскошны, нумары адна. Як апошняя з жанчын...

«Старэю!» — мільганула страшная сваёю праўдаю думка, але ў гэты момант у дзверы пастукалі, і яна, не хаваючы пераможнае радасці, кінулася адчыняць.

— Ш... што вам трэба? — праз сілу вымавіла і, сціраючы з твару ўсмешку, утаропілася ў асілка, які стаяў у дзвярах: высокі, шыракаплечы, з дужымі валасатымі рукамі, якія толькі напалову прыкрывалі закасаныя рукавы тонкага чорнага світэра, ён нагадваў бы грамілу, калі б не нервовы твар і глыбокі, пранізлівы позірк ярка-сініх вачэй.

— Падпалкоўнік Шэршань. Нас, калі памятаеце, аднойчы ўжо знаёмілі,— спакойна адрэкамендаваўся ён, прытрымаўшы дзверы, якія яна ўжо хацела прычыніць.— Вам аддалі на гэту ноч пакой, дзе я жыву ўжо другі тыдзень. Я не ў крыўдзе, не, Божа мой, але...

— Але?! — злёгку павысіла яна голас, з задавальненнем адзначыўшы, што гэта не насцярожыла падпалкоўніка (Людміла ўжо ўспомніла і яго, і тое, на якой службе ён знаходзіўся), — адно твар яго на момант ажыў, падсвечаны якімсь унутраным, даволі жорсткім агнём.

— Справа ў тым, што якраз сённяшні вечар я не магу правесці адзін, сам-насам, і прыйшоў прасіць вас, Людміла Пятроўна, дазволіць мне пасядзець з вамі, — сачыў ён за яе тварам, за кожным зрухам на ім, чытаючы, як здалося, яе думкі даволі лёгка. — Гатовы гутарыць на якую заўгодна тэму, нават самую небяспечную! Паверце, намер самы што ні на ёсць чысты.

— Спадзяюся, — адступіла ад дзвярэй, прапускаючы яго ў пакой, і ў пакоі адразу стала цесна і душна, так што яна на міг пашкадавала, што паддалася націску падпалкоўніка і свайму настрою: ужо ж гэты візіт не застанецца незаўважаным, ды і карысці...

— Вы, пераканаы, не зазіралі ў халадзільнік,— па-гаспадарску скіраваў ён адразу ж да халадзільніка,— а я трымаю там добры каньячок. Якраз для такое нагоды.

— Якую такую нагоду, падпалкоўнік, вы знайшлі сёння тут, у нумары, што няхай і ўсяго толькі на гэтую ноч стаў маім?

Сашчапіўшы рукі на грудзях, назірала за падпалкоўнікам з цікаўнасцю ні ў што не пасвечанай жанчыны, хоць нямала для свайго полу і ўзросту ведала пра орган ці, дакладней, — ордэн, якому ён служыў: была б у такога хоць самая дробная зачэпка — ужо ж ён ведаў бы, як да яе падступіцца. «А мо знайшоў якую зачэпку?» — мільганула ў галаве, але Людміла тут жа адмахнулася ад насцярогі: нічога, што зацікавіла б КДБ, за ёю не было, ды і падпалкоўнік паводзіў сябе хоць і па-гаспадарску, але і не афіцыйна. І некалькіх хвілін не прайшло, а на стале ўжо стаялі каньяк і мінеральная вада з халадзільніка, келіхі (менавіта келіхі, а не кілішкі) і сподак, на які, выцягнуўшы іх з кішэні, Шэршань паклаў дзве шакаладкі.

— Вы не адказалі на маё пытанне, — нагадала, каб што-небудзь сказаць, і тут жа, бліснуўшы ўсмешкаю, дадала: — І пытання, ці буду я з вамі піць, гэтаксама, здаецца, не прагучала.

— Адказваю: піць са мною неабавязкова. Важна, што я буду піць не адзін, — падсоўваў ён бліжэй да невялікага століка крэслы. — А нагода? Нагода цудоўная! — бліжэй пазнаёміцца з самаю прыгожаю ў апараце жанчынаю. Некалі ж трэба, праўда?

— Колькі вам гадоў? — спытала, так і не вызначыўшы яго ўзросту сама.

— Ды вы сядайце, сядайце, Людміла Пятроўна. Я ўсё раскажу! Наперадзе — доўгі, ціка-авы вечар...

Ён працягнуў апошнія словы, займаючыся дзіўнаю, адначасова і неверагоднаю, і простаю, справаю: вынятым, яна не заўважыла адкуль, пісталетам адкаркоўваў бутэльку. Дзеянні яго, трэба сказаць, рабілі ўражанне. Адчувала, што распачыналася невядомая і ад таго яшчэ больш прывабная гульня, і, не ведаючы наперад ніводнае свае рэплікі, чамусьці была ўпэўнена, што сакрушальнае паражэнне ёй не пагражала — усё-такі не пагражала.

Апусцілася на крэсла, старанна выбрала свабаднейшую позу і, не хаваючы гэтага, стала разглядаць падпалкоўніка, ягоны не так самаўпэўнены, як жорсткі, гэтаю жорсткасцю і яшчэ прыхаванаю, а то і несвядомаю пакутаю раз'едзены знутры твар: то тут, то там быццам абпалены, падхліснуты якімсь жахлівым, страшным хваляваннем, пад скураю ўспыхваў, перакідваўся далей і далей ледзь заўважны нервовы рух, каб пакінуць на скуры імклівы хвалісты след і згаснуць, супакоіцца ў халодных, выстуджаных за гады вачах. Рух, які, калі назіраць за ім, палохаў сваёю непрадказальнасцю і няўцямнаю выбуховаю сілаю: страшным, відаць, станавіўся Шэршань у гневе...

— За вас, Людміла Пятроўна, — падняў ён свой келіх, не асабліва настойліва пасунуўшы ў яе бок другі, напоўнены ледзь не напалову. — За тое, што не збаялася правесці вечар са старым служакам.

— Колькі вам гадоў? — не дакранулася яна да падсунутага келіха.

— Пяцьдзесят два, — перакуліўшы ў рот каньяк, адкінуўся ён на спінку і ўпершыню адкрыта зірнуў жанчыне ў вочы. — Немалады, як бачыш.

— Мы ўжо на «ты»? — выціснула з сябе ўсмешку, каб схаваць, што ад яго адкрытага пагляду як мароз прабег па спіне.

— Дазваляю сабе па праве старэйшага... Ды і цырымоніі не люблю разводзіць. Але калі... — свідраваў ён яе паглядам.

— Не, не! Чаго ўжо там? Валяйце... На мужчыну ў та-кі-і-ім узросце грэх крыўдаваць. Тым больш, калі ён на службе.

— Я не на службе, — рэзка адазваўся Шэршань, адводзячы позірк, і тут жа ўзяў сябе ў рукі, памякчэў. — Частуйцеся шакаладам. Спецыяльна для вас.

«Вас» ён прамовіў падкрэслена ветліва, хоць у голасе, здавалася, чулася крыўда, і яна, зразумеўшы, адчуўшы яго крыўду, немаведама чаму (піць жа, тым больш каньяк, не намервалася) падалася да свайго келіха і, усміхаючыся на сваю рашучасць, спакойна прапанавала:

— Відаць, самы час выпіць на брудэршафт. Як?

— Хоп! Вось гэта па-мойму. Цаню, цаню, Людміла Пятроўна, — шчыра ўзрадаваўся падпалкоўнік і тут жа, наліўшы сабе, няспешна падняўся, чакаючы яе рэакцыі. — Папраўдзе, нават не чакаў.

— Прывык, што цябе баяцца?

— А ты — не баішся?

Рукі, перакрыжаваныя асцярожным рухам, ужо звязвалі іх, а позіркі ніяк не маглі сустрэцца: то ён адводзіў вочы, то яна. Калі ж сустрэліся — выбліснула, бліснула, абпаліўшы імгненне, насцярога, але напружанне аслабла, і стала трохі лягчэй.

— Ну, разам! — не ўсміхнуўся, як таго патрабаваў момант, падпалкоўнік, і ў Людмілы сцялася ў нядобрым прадчуванні сэрца.

Выпілі. І давялося дапіць да канца, бо Шэршань настойліва ўтрымліваў яе не толькі рукою з келіхам, а і другою рукою, мякка заведзеною за галаву, — моршчылася і піла: сама ж прапанавала! Потым, спрабуючы ўхіліцца ад абавязковага пацалунка, лёгенька тузанулася і, калі ў яго на твары выбліснула ўсмешка, пераможная, канешне ж, усмешка, нечакана зазлавала і, не даўшы яму больш ніводнага імгнення (і тым самым — перавагі), сама кранулася ягоных вуснаў.

— Усё, усё, падпалкоўнік! Справа зроблена, — выслізнула з рук. — Ты абяцаў цікавы вечар, а разыгрываць страсць, якой няма, нецікава.

— Ну, ну, — адступіўся яўна не задаволены сабою Шэршань, і па пругкасці, якая раптам з'явілася ў ягоных рухах, па тым, як адмяк, паружавеў твар, адчувалася, што каньяк рабіў сваё, і недавер, і ўнутраная напружанасць, што скоўвалі яго дасюль, паслаблі. — Разыгрываць страсць нецікава, кажаш? Што ты можаш ведаць пра страсць?

— Я, канешне, добрае дзесяцігоддзе пакуль што не дабрала да пяцідзесяці двух, ды ўсё ж, па ўсіх мерках, даўно не дзяўчынка, — зручней уладкоўвалася Людміла ў крэсле, разгортваючы і ламаючы на долькі шакалад. — Так што...

— Хочаш, раскажу пра цябе ўсё, як ёсць? — курыў, не пазіраючы на яе, Шэршань.

— Увесь кампрамат, сабраны на мяне за гэтыя гады? — хрумсцела яна абгорткаю з фольгі, быццам не адчуваючы, што гуляе з агнём.

Кароткі позірк у яе бок. Лёгкі — скрозь клубы цыгарэтнага дыму — смяшок.

— Я забыў спытаць: дама не курыць?

— Ты не адказаў, падпалкоўнік.

— Бог мой, ну які на такіх, як ты, кампрамат? — глыбока зацягваўся ён, разглядваючы яе так, быццам толькі што заўважыў яе прысутнасць. — Змарнаваная на розныя глупствы маладосць, самаўпэўненасць красуні, якая ведае сабе цану, заўсёднае ўменне выгадна сябе прадаць, калі трэба...

— Жорстка. Жорстка, падпалкоўнік, — ледзьве ўтрымлівала Людміла сябе ў крэсле.

— Ты ж настойвала на адказе,— пырснуў ён у яе келіх каньяку, свой, як і раней, напоўніўшы роўна напалову. — Я не абвінавачваю. Я канстатую. А наконт жорсткасці... Жорсткасць — дзіўная штука. У адным выпадку караецца, у другім — лічыцца неабходнаю, так што не будзем з гэтым спяшацца, так? Ты — не горшая з тых, хто мне калі-небудзь падабаўся.

— А-а-а, — не хавала яна крывой, пагардлівай усмешкі. — Аказваецца, я табе падабаюся! А я, дурніца, ужо грахі свае пачала ў думках перабіраць, спрабуючы здагадацца, які з іх прыйшоўся не даспадобы ўсёмагутнаму КДБ.

— Дурніца і ёсць, — нязлосна, значна мякчэй, чым гаварыў дасюль, пацвердзіў падпалкоўнік, і, калі яна амаль што шчыра засмяялася, яшчэ мякчэй прадоўжыў: — Выпадковых сустрэч не бывае, тут я згодны, але калі б мы, Людміла Пятроўна, схацелі трасянуць цябе або твайго шэфа, то ўжо ж зрабілі б гэта не так і не тут.

— Ну, канешне, канешне! Тут чыста заалагічны інтарэс. Прыгожая, прадажная (непрадажных сярод нас, як вядома, не трапляецца!) баба апынулася ледзь не пад самым бокам, навошта ж абмінаць выпадак? Так? Тым больш, што і думкі не ўзнікае, што яна ўчыніць скандал, пажаліцца начальству?

— З вар'яткамі справы не маем, — спакойна пазіраў ён на Людмілу, пэўна, расчырванелую ад абурэння, крыху, самую крышачку разыгранага.— З сучкамі, што перад кожным нагу задзіраюць, таксама. У чым жа справа? У тым, што адразу, як толькі ўвайшоў у пакой, не падкамячыў цябе пад сябе?

— Ты, ты... — захлынулася яна ўжо зусім непадробным абурэннем. — Я табе не шлюха з праспекта!

— Дык жа і кажу, — аднымі вуснамі ўсміхнуўся Шэршань: вочы засталіся халоднымі і калючымі.— З такімі справы не маем... Вып'ем? Га? Мне дапамагае.

— Гэта відаць, — буркнула, астываючы.

— Сабачай работаю тут, у Полацку, займаемся, — перайшоў ён на сваё. — Вып'еш — лягчэй трохі... Хоць заснеш пасля... А піць адзін не магу...

Растлумачыў — нібыта прабачэння папрасіў.

Па адмяклым яго твары блукала няўлоўная ўсмешка, у вачах з'явіўся бляск, які ажывіў іх, надаўшы ўсяму абліччу амаль чалавечы выраз, і яна раптам падумала, што перад ёю сядзіць патэнцыяльны алкаголік, якому не сёння, дык заўтра не дапамогуць ужо ні жалезная яго воля, ні ўсёпераможнае адчуванне свайго абавязку: унутраны агонь спальваў і спаліць яго, звергнуўшы ў пекла пражытага і перажытага.

Вярнулася шкадаванне: гэткі экземпляр мужчыны, самца, а час яго мінаў, калі ўжо не мінуў, у жорсткай барацьбе з самім сабою, са сваёю магутнаю прыродаю, за сённяшнія падпалкоўніцкія пагоны, у якіх і красаваўца, відаць, нячаста даводзілася.

— Сказаць, пра што думаеш? — зноў напоўніў ён роўна напалову свой келіх. — Пра тое, што співаецца паціху падпалкоўнік Шэршань, співаецца і сап'ецца ў выніку — угадаў? Угада-аў... Толькі гадкоў пяць-шэсць наперадзе ў мяне яшчэ ёсць, а калі парода не падвядзе, то і ўсе восем. Так што шкадаваць мяне, Людміла Пятроўна, не трэба. Не табе мяне шкадаваць.

— Чаму ж не мне? — забрала ў яго бутэльку і падліла сабе каньяку: чамусьці непрыемна глядзець, як ён п'е адзін, не хмялеючы, а неяк дзіўна ўвесь час мяняючыся з твару: напружанне змяняецца мяккасцю, расслабленасцю, каб зноў узнікнуць, засвяціць халодны пагляд і згаснуць, і так бясконца, кожны раз з нейкім іншым адценнем, у нейкім іншым асвятленні. — Ты ж сам сказаў, што я табе падабаюся.

— Цябе самую трэба б пашкадаваць, ды вось не ўмею...

Яна маўчала. Не хацела, каб ён працягваў, і адгароджвалася маўчаннем, але ён як і не заўважаў яго. Задумліва пакручваў у пальцах адным глытком апарожнены келіх і пазіраў некуды праз яе, ці то забыўшыся на толькі што сказанае, ці то падбіраючы лягчэйшыя, мякчэйшыя словы.

— Ты не зведала ні кахання, ні страсці... Так, так, не зведала! — панізіў, прыглушыў ён голас у адказ на бязгучны пратэст. — І не таму, што агонь твой нікому не прыдаўся, не. Ты, як скнара над сваім скарбам, праседжваеш над ім доўгімі вечарамі, начамі, думаючы, што грэешся, і не знайшлося нікога, хто ўзяў бы цябе за шкірку, тыцнуў носам у цёмны куток, дзе які ўжо год мочыцца твая адзінота, і спытаў, дзеля чаго Бог даў табе хараство і сілу.

— І дзеля чаго ж? — нервова заглынула яна свой уздых.

— Ужо ж не дзеля таго, каб за падтрымку ці дробную паслугу вылізваць старых імпатэнтаў.

— Вы... вы... вылізваць? — спрабавала яна засмяяцца і ніяк не магла саўладаць з дрогкімі раптам вуснамі.

А ён ужо заўважыў і яе крыўду, і дрыжанне вуснаў і, мякка прыкрыўшы сваёй магутнаю далонню руку Людмілы, супакойліва пагладжваў яе, хоць вочы яго паблісквалі і словы, калі прарваліся, крыўды не змякчалі:

— Ды чорт з імі, з тваімі купцамі! Усё я пра іх і без цябе ведаю... Захацелася за «алкаголіка» расквітацца, вось і ляпнуў. Цяпер усё? Вып'ем? Выльем рэшту ў нашы пасудзіны і вып'ем...

— Адкуль ты толькі зваліўся на маю галаву? — перапыніла яна ягонае вуркатанне і, вызваліўшы руку, адвярнуўшыся, выпіла: усё адно ўжо вечар быў сапсаваны, а так мо засне хутчэй, каб адразу — самаю ранічкаю! — у Мінск, дамоў... — Мне трэба яшчэ шэфу пазваніць.

— Куды? У лясны домік? — як працверазеў ён адразу і, матлянуўшы раз-другі галавою і дапіўшы каньяк, спакойна выпрастаўся ў крэсле. — Там, калі спатрэбіцца, маладзейшыя за цябе знойдуцца.

Памаўчаў, быццам пракруціў у галаве ўсё сказанае, і дадаў:

— Прабач, калі чуць табе гэта непрыемна.

— Прыемнага, як быццам, сапраўды мала, — ціха азвалася яна. — Ну, ды ты ж і зайшоў не дзеля таго, каб сказаць мне прыемнае.

Яны былі квіты. Тое, што яна не спатрэбілася шэфу, не надта засмучала: падумаеш, гусак абшчыпаны!

Ад выпітага каньяку прыемна кружылася галава, хацелася, каб недзе непадалёк гучала музыка, хацелася, каб хтосьці ўзяў яе на рукі і кружыў, кружыў...

— Дапамагчы?

— Што?! — яна ледзь не забыла пра падпалкоўніка, пра тое, што ён усё яшчэ знаходзіўся ў пакоі, што ён назіраў за ёю.

— Я прапаную сваю дапамогу, — паўтарыў Шэршань яшчэ цішэй, і яна здзіўлена зірнула на яго знізу ўверх: стаяў, узвышаўся над крэслам, зноў нагадваючы злога асілка. Менавіта злога, нягледзячы ні на ціхія словы, ні на ўсмешку.

Людмілу быццам за язык хто пацягнуў.

— О-ля-ля! Ты хочаш сказаць, падпалкоўнік, што я ўжо ў тым стане, калі мне патрэбна дапамога? Я проста падумала, што ты знік, згінуў з вачэй. Я — не тое, што ты знойдзеш, і пры ўсім тым, што прадавала сябе тады, калі мне — мне, чуеш? — было трэба (гэта ты правільна вызначыў!), я ўсё-такі не шлюха. А калі і шлюха, то ўжо ж не для такіх, як ты. Ты мог бы ўзяць мяне сілаю, але не пасмееш, не асмелішся: мы ж не ў падвалах тваёй установы, га? Тое і яно. Тое і яно, чорт вазьмі!

Яна яшчэ недагаварыла, а ён ужо падняў яе з крэсла, падняў лёгка, як пушынку, на адных выпрастаных руках, і марна тузалася, адбіваючыся, — так, на выпрастаных руках, грэбліва, як ёй, узбуджанай выпітым і сказаным, здалося, перанёс на ложак. Паклаў. Выпрастаўся. Моўчкі, без адзінага слова павярнуўся да дзвярэй. І тут, бышцам адзін пругкі клубок гневу (большага здзеку з сябе яна не памятала!), узвілася Людміла на ложку і, саскочыўшы, пачала злосна, з усяе сілы малаціць кулакамі ў яго плечы.

— Ненавіджу! Ненавіджу ўсіх вас! Таўстаскурая жывёліна! Усё б толькі сілаю казыраць, усё б толькі глуміцца!

Не памятае, гэтыя ці іншыя, грубейшыя словы, выкрыквала, малоцячы яго кулакамі, — гэта была істэрыка, і падпалкоўнік адразу зразумеў. Памарудзіў, быццам даваў магчымасць самой узяць сябе ў рукі, потым адным рухам, рэзка павярнуўся і, абхапіўшы яе рукамі, прыціснуў да сябе. Прыціснуў так моцна, што яна захлынулася сваім крыкам, яго блізкасцю, цішынёю, якая наступіла раптоўна і надоўга. На цэлую вечнасць, думала, не асмельваючыся і варухнуцца ў гэтым абдымку.

Падпалкоўнік маўчаў. Людміла не чула нават яго дыхання. І калі нарэшце спакойна, быццам нічога не адбылося, пачулася ціхае, спачувальнае: «Супакоілася? Успомніла, што гэта гасцініца?», адчула не толькі палёгку, але і ўдзячнасць: нарэшце! чаго гэта яна на самай справе? у кожнага свая служба...

— Цікавая ў нас атрымалася гаворка, праўда? Адпусціўшы яе, сумна падміргнуў, быццам так, такім чынам развітаўся, і пайшоў да дзвярэй.

— А калі мне і сапраўды патрэбна дапамога? — нерашуча памкнулася Людміла следам.

— Не патрэбна! — нават не павярнуў ён галавы.

— Ды пачакай ты... Мы ж нават не развіталіся, — спынілася ў яго за спіною.

— Падражніць схацелася? Ну, давай, — рыўком павярнуўся ад дзвярэй Шэршань: твар у яго пабраўся плямінамі, вочы пацямнелі, вусны ледзь заўважна ўздрыгвалі, але гаварыў ён нягучна, узважваючы кожнае вымаўленае слова. — Пара б ужо ведаць, што, разбудзіўшы ў мужыку звера, прасіць літасці позна.

Цяпер змоўкла, аглушаная ўдарамі сэрца, яна. Пазірала на яго і маўчала, пакусваючы губы: не рабіць жа самой гэты апошні крок: падпалкоўнік не з тых, хто чакае яго ад жанчыны, а калі з тых...

— Ат, чорт вазьмі! — ступіў ён да яе, і, ці то ад страху перад небяспекаю, якую выклікала сама, ці то ад жару, што ўскалыхнуўся ў ёй ад пацалунка, якім упіўся ён у яе вусны, на момант згасла, знікла з вачэй святло.

Яшчэ чапляючыся за свядомасць — перш за паветра, у якім паплыла, потым за дужыя, прагныя да яе цяпла і бязлітасныя ў гэтай празе рукі, яна ўжо аддавала сябе гэтай сляпой празе, гэтай цёмнай сіле. Стогн захлынуўся новым пацалункам, у цела, страсна паглынаючы яго, урастала другое, незнаёмае, і праз боль, праз несвядомае адштурхванне — жаданае. І Людміла не магла бараніцца — і баранілася, напружваючы ўсю сілу, каб зліцца з тым, другім, дужэйшым целам, не даць паглынуць сябе, пагасіць да таго, як згасне разбуджаная ў ёй прага, каб у бязлітаснай барацьбе гэтай, у пакуце ад болю і насалоды, ад ненасытнага болю і нечалавечай насалоды, адчуць той момант, калі з першым глытком паветра вернецца растрачаная, выпітая ім да канца сіла.

Калі ад вільготных дотыкаў чужых, уладных вуснаў разляпіліся, прыўзняліся вейкі, убачыла не твар — вочы на ўвесь твар, у якіх згасалі, распырскваючы халодныя водбліскі, маланкі.

— До, падпалкоўнік, — ледзь варухнула засмяглымі вуснамі, адчуваючы новую гарачую хвалю, што ўжо накочвалася на іх, уціскаючы адно ў аднаго.

— Мая гэта ночка, мая! — прыціскаўся ён да яе тварам, шэптам, стогнам, лашчачы, камечачы пацалункамі грудзі, і цела зноў не належала ёй: то ўзлятала, то падала на гіганцкіх вогненных арэлях шалёнай, дзікай яго страсці. — Усю сілу табе аддам, усю прагу... Даверся ёй: яна твая... твая...

— Твая! твая! твая! — успыхваў і гас над ёю, у ёй яго шэпт, і Людміла адштурхвала, абпякаючыся, адштурхвала яго, каб тут жа рвануцца, упасці следам...

Дзіўна, але па сённяшні дзень яна не ведала ягонага імя.

Сёння ж... Таму і ўспомніўся падпалкоўнік сёння, што зранку, гадзін у дзесяць, зайшоў у прыёмную — высокі, падцягнуты, іранічны. Зачапіў яе абыякавым паглядам, скіраваўся да дзвярэй кабінета, кінуўшы:

— Далажыце Івану Кузьмічу. Ён выклікаў.

Матлянулася з-за стала напярэймы.

— Іван Кузьміч заняты. Вам давядзецца пачакаць, падпалкоўнік.

— Палкоўнік, Людміла Пятроўна, палкоўнік. Шэршань Анатоль Сямёнавіч, — насмешліва схіліўшы галаву, амаль упёрся ён у яе магутнаю сваёю грудзінаю і міжволі, а мо і знарок, як не прыціскаў да скуранай абшыўкі на дзвярах, але нават не зварухнуўся ў адказ на нямы яе пратэст.— Мужчыне, як бачыце, лягчэй атрымаць павышэнне.

— Любое крэсла на выбар — ваша,— паспрабавала яна вызваліцца.— Прашу вас, палкоўнік Шэршань...

— Зноў давядзецца піць на брудэршафт пры сустрэчы, га? — пасур'ёзнеў ён, хоць вочы па-ранейшаму смяяліся.

— Пры сустрэчы? — вярнулася да яе ўпэўненасць, ледзь толькі вызвалілася і села за свой стол. — Вы хочаце сказаць...

— Я хачу сказаць: ніхто ні ад каго не застрахаваны, — заглыбіўся той у якіясь прынесеныя паперы ці зрабіў выгляд, што заглыбіўся, і яна змушана была зрабіць тое ж самае.

Праз дзве, самае большае — тры хвіліны, не вытрымаўшы, падключылася да ўнутранай сувязі.

— Іван Кузьміч, вы выклікалі палкоўніка Шэршаня? Ён у прыёмнай.

— Так, так. Мы заканчваем, — пачулася ў адказ, і Шэршань, склаўшы ў папачку паперы, падняўся, зіркнуў у яе бок. Нешта яму муляла, і ён няспешна падаўся да стала, да Людмілы — яна ж, адчуўшы, што сэрца праваньвалася некуды ў бездань, не на жарт спалохалася.

— Не надумала памяняць гаспадара?

— Прашу вас...

Ён, усміхаючыся, балюча сцяў яе запясце.

— Запомні: я так проста не выпускаю здабычу, калі яна раптам трапляе мне ў рукі, — сказаў і, не так ад таго, што яна спалатнела і ў любы момант магла страціць прытомнасць, як ад таго, што адчыняліся дзверы кабінета, адступіўся, не азірнуўшыся, пайшоў ад стала.

Ад стала, не з успамінаў... Ну чаго, чаго яна ўвесь час пераскоўвае адну і тую ж балючую думку: залежная, зноў залежная ад мужчыны! І дужэйшы ён, і мудрэйшы, і абраннейшы... Дабрынёю, любоўю, ахвярнаю самаадданасцю жаночаю няйначай корміцца, як усе іншыя, каб выжыць у натоўпе, сярод абыякавай а то і варожай прыроды, а паспрабуй паставіць сябе побач — тут жа і чуеш, здаецца, раздражнёнае, уладнае: «Куды? Свайго месца не ведаеш?» І — свіст бізуна. Ці кінутага наўздагон пакменню каменя. Каб вярнуць на адведзенае ім, гаспадаром, месца. Каб, Божа збаў, не знайшлося ў яе вартага ўвагі пярэчання. Ён жа — дазваляе сябе любіць, чаго яшчэ?

І то праўда. Чаго яшчэ? Волі? Самастойнасці? Разумення? Прызнання? Вось яна, Лялечкіна, — перад сваім адбіткам у люстэрку, і цэлы космас месціцца паміж ёю і ім. Адно патушы пагляд лёгкім узмахам вейкаў — і сальецца з ім, стане яго бязмежнаю прастораю, не сэрцабіццём, думкаю збудзіўшы цёмныя, набрынялыя мінулым глыбіні, якія адгукаюцца ўздыхам святой Марыі, песняю Сафо, прароцтвам Касандры, малітваю Ефрасінні Полацкай, смехам Беатрычэ, блаславеннем Жанны д'Арк... І няма чаго гэтаму новаспечанаму палкоўніку ці ўсяму свету даводзіць, што гэта не перабольшванне: іх вобразы, як і тысячы іншых, гэткіх жа яркіх ці ўжо кранутых забыццём і невыразных, увасоблены ў ёй і часам, з гадамі ўсё часцей, патрабуюць сваёй долі рэчаіснасці.

Гэтаксама гульня? Канешне. Але без удзелу мужчыны.

Ужо ж, фантазія, яе загадкавы, поўны таямнічых пераўвасабленняў свет — адзінае, што належыць толькі жанчыне. Дзе ўжо дзе, а тут спробы мужчын прад'явіць свае правы, а то і заваяваць, падпарадкаваць яе сабе, заканчваліся паражэннем: яны або адступаліся, або станавіліся душэўнахворымі, сваёй душэўнай хваробе, як потым высвятлялася, абавязаныя і творчасцю, і пасмяротнаю славаю. А яна, жанчына, жыла ў гэтым свеце, прыгажэючы, вырастаючы ў сваіх уласных вачах пад яго дрогкім святлом: якія толькі кветкі для яе там ні цвілі! якія толькі вышыні ёй там ні скараліся!

Дом, сям'я, сямейнае шчасце... Большасць людзей і на дух не пераносяць смельчакоў, што адкрыта выказваюць незадаволенасць тым убогім жыццём, якое яны прынялі як належнае, наканаванае, і што? Гэта іх права, а яна... Яна смяялася і з гэтага права (якія правы ў рабоў?), і з гэтага мізэрненькага шчасця іх штодзённае барацьбы за выжыванне: барацьба з бязглуздымі перашкодамі, з тупасцю і хамствам не варта штодзённых высілкаў, няўжо гэта не відочна?

Мужчына — гэта той, хто забівае. Так было заўсёды. Так і сёння. Толькі сёння і ён, і тая, каго ён выбірае для ложка, ці для кухні, ці, калі пашанцуе, на пэўны час і для таго і другога, не спяшаюцца ў гэтым прызнавацца нават самім сабе. Усміхаюцца. Падыгрываюць адно аднаму. Хлусяць да самай апошняй хвіліны — з самымі, як думаюць, лепшымі намерамі.

Людміла разумела: апошнім часам пол набыў такую невыразнасць, што і крыўдаваць няма на што: людзі раствараюцца ў мностве, множацца парамі, становяцца натоўпам, скопішчам аднолькава гарсэтна-пінжачных постацей, шэра-карычневаю сараканожкаю і, захопленыя бегам, гонам за прывіднаю ўдачаю, не заўважаюць, як становяцца — па сутнасці, даўно сталі! — бясполымі.

І ўсё ж у тым супрацьстаянні, якое доўжыцца з незапамятных часоў, яна, жанчына, не знаходзіла, не бачыла пераможцы. Ведама ж, дасягненне — разумець, што ў падмурку сусветнае гісторыі ляжыць не толькі трагедыя смерці, а і трагедыя полу! У трагедыі заўсёды ёсць магчымасць стаць фарсам, і што-што, а гэтая магчымасць не застаецца нескарыстанаю.

Дом, сям'я, сямейнае шчасце... Цьфу ты, Божа мой! Ды адно прыгледзецца да гэтага шчасця! Двое — у шлюбе, што знаходзіцца пад аховаю царквы і дзяржавы, — ведаюць свае целы, як ведаюць сваю мэблю, і кладуцца ў ложак, бо ўжо гадзіна ночы, а заўтра цяжкі дзень, і не адчуваюць пяшчоты ад дотыку знаёмай рукі ці пляча, бо заняты думкамі, што з'явіліся толькі цяпер, у гэта імгненне, а целы і так заўсёды побач — толькі руку выпрастаць...

Не, здараецца, што шлюб засмоктвае іх — і яны цалуюцца, і гэты пацалунак — як кропка. Кропка, што завяршае дзень, яшчэ адзін дзень, і ім, дваім, не выйсці за межы гэтага ведання, за межы будзённасці — з вечнага «цяпер», якое не іхняе «цяпер», а іхняе «заўжды». І гэта — шчасце?!

Канешне, мо нейкім чынам ім і дапамагае ўпэўненасць, што яны ніколі адно аднаго не страцяць: яны — пара, з даўно мёртвымі для кахання целамі, і ніякія чамаданныя зборы нікога не падмануць. Дастаткова пачуць у трубцы дарагі голас — і вось яны ўжо вяртаюцца, і прызнаюцца альбо не прызнаюцца ў сваім шкадаванні, і зноў жывуць бытам, які і ёсць іх ісціна, — у піжаме і з зубною шчоткаю ў роце, выпацканым пенаю, на вачах у другога, з музейнаю галізною ў ванне, якая даўно не хвалюе ні пагляду, ні ўяўлення, з гаворкаю пра гасцей, якія толькі што пайшлі, ці пра духоўнасць, якая іх дваіх лучыць... Звыклая, лёгка пазнавальная карцінка! Усе яны — жывыя людзі. Але пры чым тут шчасце?!

Скажуць: ну, а ты — ты сама... Яна? Яна не ўмее і не хоча падбіраць з гразі крошкі радасці і смяецца — здольна смяяцца з усіх, хто падбірае іх і думае, што ён шчаслівчык. Усё ці нічога — гэта звычайна нічога? Што ж, няхай лепш нічога, чым шэранькая радасць усведамлення, што я — як усе. Яна — гэта яна. Не перамагла, да канца не перамагла свае прыроды, так, але і не скарылася ёй: ніколі пакорна не схілялася перад яе ўладаю, ніколі не дазваляла ёй цалкам завалодаць сабою — і пляваць хацела на ўсё тое, чым яна яе прагла завабіць. Няма такога лёсу, над якім нельга ўзвысіцца пагардаю і абыякавасцю, няма!

Мужчына — гэта той, хто забівае. Хто з году ў год, са стагоддзя ў стагоддзе забівае любоў, спадзяванне на несмяротнасць у любові, спадзяванне на перамогу харастава, гармоніі ў свеце, створаным з хаосу і мораку. Сіла — не здольна што-небудзь стварыць, і ён, мужчына, безыменны ў натоўпе гэткіх жа, як сам, пераможцаў, — забівае. А жанчына... Жанчына

вымушана жыць тым жыццём, якое для яе падрыхтавалі і за якое ёю ж пагарджаюць, — вымушана прымаць за сапраўднае сваё ўбогае шчасцейка, зьлепленае з няўдач, вечнай галечы, сораму, страт і грахоў.

Не, не! Аднойчы вывеўшы сябе з гэтае гульні, Людміла больш не жадала далдоніць загадзя вывучаныя рэплікі, якіх чакалі ад яе самаўпэўненыя партнёры, — яна выбрала маўчанне. Маўчанне і пагарду. Жыццё якнебудзь ды прадоўжыцца. Толькі не скарыцца, не жыць раслінным жыццём у затхлай атмасферы пустапарожняй балбатні. Толькі ні словам, ні духам не ўдзельнічаць у агульнай хлусні пра чалавечае шчасце, толькі не выкрываць свайго імя, свайго болю, адно каб далучыцца да адвечнага шэсця жанчын — да шэсця да месца, якога няма на зямлі: да вар'яцтва. Вось гэта ўжо — не!

Адмаўленне ад полу — гэткае ж страшнае выраджэнне, як і распуста, яна знае, знае і — адмаўляецца, адракаецца ад свайго полу і ад супрацьлеглага. Быць чалавекам — гэта ўсё, што ім наканавана? Што ж. Ды дапаможа ёй сонечнае святло пераносіць гэта рабства!

Тэлефон... Зноў некаму пільніца? Няхай пачакае. Яна сама выбярэ той момант, калі, адвярнуўшыся ад люстэрка, вызваліцца ад яго чараў і ўступіць у рэальнасць вечара. Яшчэ аднаго вечара...

Рабства... Не тое каб яна пагадзілася на яго, нічога іншага проста не дадзена. І ўсё ж у яе волі — не выказаць з гэтае нагоды ні радасці, ні смутку. Так, Людміла не належала да племені герояў, не магла павесці за сабою люд, нават калі б вырвала з грудзей сэрца, — не магла і не хацела. Рабамі народжаныя людзі засталіся рабамі і па-ранейшаму ўкрыжуюць любога, хто скажа ім пра гэта, хто паспрабуе, толькі паспрабуе асвятліць дарогу. Мяняюцца відэацацкі, гучныя слоўцы, ілжывыя прамоўцы, асвятленне — натоўп той жа, з тою ж, заўсёднаю, статкаваю псіхалогіяй.

Ненавідзела! Не магла ўзненавідзець свет — і ненавідзела, ненавідзела яго! За тое, што не можа, не здольна (ягоная часцінка!) ні змяніць яго, ні адпрэчыць — яго вабнасць і яго ўладу, і выжыць, жыць, не зважаючы ні на яго гнёт, ні на мярзотнасць таго, што дазваляла з сябе выраблаць.

Злом вякоў? Злом тысячагоддзяў? Магчыма. Але ж жыццё прыпала на гэты час, на гэты яго прамежак, і нешта ж трэба супрацьпаставіць!

Спрабавала прадаць сябе даражэй, назубок вывучыўшы чужую, не для яе напісаную ролю — і своечасова адступілася: не сцыкуха ж маладзенькая, каб на жураўля ў небе спадзявацца! Спрабавала (і гэта яна, загадчыца адной з прыёмных самай высокай партыйнай установы!) змірыць свае думкі з Богам — марна: увесь час сярод тлуму і бясконцых усплёскаў злосці, нянавісці, неўспрымання людзьмі адно аднаго ні ў гэтай злосці, ні ў гэтай нянавісці адчувала толькі пустату, толькі бездань — і пад сабою, і над...

Атрымалася: самой, уласнаручна вывесці сябе з гульні, назіраць збоку — працей. Працей і спакайней. Тое і яно.

Калі ўзабрацца на высокую выспу і зірнуць уніз, на людзей, падобных на казюрак з вышыні чалавечага росту, ні ўбоства, ні хараства, ні ненажэрнасці, ні злосці іх не разгледзець. А калі — яшчэ вышэй, каб рассыпаным макавым зернем натоўп убачыўся? Ці зусім знік у хвалістым, зменлівым ландшафце зямлі, убачаным сёння праз кінакамеру з космасу? Застануцца прырода — і род чалавечы, барацьба, якую яны вядуць паміж

сабою. Дзе тут месца Богу? Ці, дакладней, дзе іх месца ў сэрцы Бога? Час пажырае іх, сваіх дзяцей, і значыць: іншага не заслужылі. Як заплачана, так аддзячана.

Вось і корпаецца цяпер у сваіх думках, як у кучы смецця... Хоць што ўсе шкадаванні? Што ўсе шчырыя і няшчырыя гуканні да Бога скрозь пустыню паміж ёю і Небам? Бязвер'е, як кароста, раз'ядае ўсё вакол і ў ёй, і нічым, нічым ужо не адолець свае смяротнае абыякавасці...

— Вас слухаюць, — услед за голасам урываецца ў тэлефонную трубку яе раздражнёнасць.

— Я хвілін праз трыццаць заеду...

— Ты хацеў сказаць: можна, я праз хвілін трыццаць заеду?

— Прабач. Я так і хацеў сказаць, — пасля даволі красамоўнае паўзы азваўся Валерый Юр'евіч, змушаючы яе ўспомніць, што для яго яна — Лялёк, Лялечка.

Успомніла. Памянуўшы аднаго з нячысцікаў, не самага горшага, калі параўноўваць (а параўноўваць было з кім!), лёгка ўваходзіць у ролю:

— Канешне, канешне! Я ўся — чаканне! Мы так даўно не бачыліся... Бачыліся не так і даўно, ну ды роля ёсць роля. Тым больш, што Паўлюку яна сапраўды сім-тым абавязана. Хоць бы сваёю кватэраю на двух узроўнях вось з гэтаю ўтульнаю, з яго дапамогаю ў свой час абсталяванаю спальняю. Шкада, спаць у ёй даводзіцца самой, сам-насам са сваімі думкамі ці снамі. А сноў Людміла не любіла. І першае, што рабіла, прачнуўшыся, — спрабавала сцерці з памяці ўсё, што прыснілася, нават калі снілася што-небудзь прыемнае. Усё роўна заўсёды не адно, дык другое, глыбока прыхаванае, пахаванае некалі ў душы, выплывае, усплывае ў сне з самага донца яе, а яна ж і хавала яго, каб адкаснуцца, адрачыся і ніколі не згадваць. Па меншай меры, да канца. Як у выпадку з падпалкоўнікам.

Хоць чаго там! — не самы гнюсны гэта ў яе жыцці выпадак: плоць узяла сваё, і якую б цану за яго потым ні заплаціла, усё ж не пераплаціла, не. Тая ноч, шалёная, бессаромная ў сваёй неўтаймоўнай страсці, варта таго, каб пра яе памятаць: першы — адзіны! — раз за жыццё адкрылася ёй, што глыбіня чалавечага падзення і ёсць мерка духоўнае яго перамогі над сабою, над жывёльнаю сваёю прыродаю.

Ужо ж, Людміла перамагла і засталася чалавекам, як заўсёды перамагала, пераломвала сябе, у душы саромеючыся не раптоўнага падзення, а цяжкой, хмельнае тугі, якая заставалася пасля яго ў крыві і не-не ды і пачынала брадзіць. Было, было такое: да думкі пра самазабойства даходзіла, калі цераз край пачынала выплёсквацца гэта туга, — любога б, здаецца, абняла, любому аддала сябе ў такую хвіліну, толькі б адпіў ад яе, толькі б забраў, спаліў у сваім агні нерастрачаную, перастаялую прагу ўсё яшчэ маладога, дужага цела.

Потым сама смяялася: як жа, аддала б! так і ўзяў бы яе нехта! Нават калі стрэла б каго сярод ночы на пустой гарадской вуліцы, той, напэўна, наўцёк кінуўся б — як ад вар'яткі, ахопленай якойсьці злачыннаю страсцю: пары ёй, бачыце, не стае, сілу няма каму аддаць!

Яна цяпер усміхалася, хоць усмешка трохі і гарчыла: успаміны ўспамінамі, а трэба спускацца і прымаць душ, бо паўгадзіны, адпушчаныя Валерыем Юр'евічам, ужо міналі, і ён вось-вось з'явіцца атрымаць сваё — сваю законную, як яму здаецца, долю яе ўдзячнасці, яе пяшчоты. Не сілы — нашто яму, бяссіламу, сіла? — а скупой, строга адмеранай ёю пяшчоты.

— Я ўся — чаканне! — паддражніла сама сябе і, падагнаная гучным смехам, збегла па лесвіцы, не зачыняючы дзвярэй, скінула ў ванне халацік (ён на гэты вечар не спатрэбіцца) і занырнула пад струмені пушчанай на ўсю моц вады: змыць, змыць усе думкі, усе згадкі і спадзяванні, каб з палёгкаю ўздыхнула душа, перш чым, адпушчаная, глухая і сляпая ад сораму за сваю абалонку, за гэтае вось поўнае жыццёвага імпэту цела, стоіцца дзе-небудзь пад ложкам ці за шафаю, пакуль яна будзе церціся ля старога імпатэнта.

— Я ўся — чаканне, чаканне, чаканне! — прытанцоўвае яна пад даволі халоднымі струменямі, агладжваючы грудзі, бакі, то адну, то другую сагнутую ў калене нагу, і калі нарэшце выбіраецца з ванны на мяккі варсісты дыванок, цела гарыць і, у чакайні першага мяккага дотыку ручніка, сцінаецца ад непрыхаванае асалоды.

— Бог мой, якое ў цябе цела! Які водар ідзе ад твайго цела, Лялёк!

Уздрыгвае: паўгадзіны ж яшчэ не прайшло, ды і дзверы... Хоць што гэта яна? У Валерыя Юр'евіча свой ключ ад дзвярэй, а прыйшоў раней, бо спяшаўся: няўсцерп чалавеку!

Да Людмілы вяртаецца пачуццё гумару, і, дражнячы госця, яна не спяшалася адзецца. Тым больш, што прыгожае кімано, у якім хацела яго прыняць сёння, ляжыць на крэсле ў пакоі.

— Ванна ў тваім распараджэнні, — бессаромна ідзе паўз яго, раптам зніякавелага і бездапаможнага: ехаў жа, каб, абнюхваючы, агладжваючы раз-пораз паслухмянае яго рукам цела, дзівіцца на яго — няхай дзівіцца. А што не на ложку, якая яму, урэшце, розніца?

Гэта жорстка, Людміла разумела, хоць, калі зірнуць на Паўлюка... Усміхаецца стары распуснік, задаволены! Знайшла сапраўды, як выказаць сваю пагарду!

Хапае з крэсла кімано, таропка, блытаючыся ў шырокіх складках, нацягвае яго на сябе: годзе! паглядзеў — і досыць!

— Ты магла б...

— Не магла! — абрывае яго, не даўшы дагаварыць, хоць тут жа раскайваецца. Твой халат, як заўсёды, у ванне. Пераапранайся і падымайся наверх. Фрукты і віно я вазьму туды. Як?

— Дзве-тры мінуты на ўсё, Лялёк! У мяне сёння мала часу, — адгукнуўся Валерый Юр'евіч ужо з-за прычыненых у ванну дзвярэй. — На століку ў прыхожай мой падарунак.

Раскаянне глыбее: вечна ў яе думкі, мроі накладваюцца на жыццё, засланяючы яго, калі не адпрэчваючы. «А прыдуманае ж і пражытае — розныя пласты рэчаіснасці, Людміла Пятроўна! Час ужо не блытаць іх, — нязлосна папракае сябе, збіраючы ў кухні на паднос патрэбны посуд і спрабуючы ўгадаць, што прынёс Валерый Юр'евіч сёння. Пакуначак невялікі — штосьці амаль бязважкае...

Калі, прыхапіўшы падарунак, падымаецца з падносам наверх і нарэшце пазбаўляецца ад яго, тут жа разгортвае пакунак і застывае ў нерашучасці, у нерашучасці і захапленні: пеньюар! сапраўдны французскі пеньюар! Дзе толькі стары і агораў яго?

Скамечанае кімано ляціць на ложак. Накінуўшы лёгкі, амаль бязважкі ўбор француженак (французскіх шлюх! — саркастычна падказвае абуранае яе радасцю пачуццё рэальнасці), адмахваецца ад падказкі і паварочваецца да люстэрка: лёгкая крэмавая афарбоўка празрыстае тканіны стварае ўражанне незвычайнае, амаль казачнае — так, нібыта яна агарнулася ў аблачынку, набыўшы яе лёгкасць і цеплыню.

— Ну-у, Лялёк! Такога эфекту і я не чакаў...

— Праўда? — зіркае то на яго, то на свой адбітак у люстэрку. — Я нават сумелася...

— Чаго, дурненькая? — стаяў ён ужо побач, за спіною, прыціскаючыся да яе, узіраючыся разам з ёю ў тую, адлюстраваную шклом і ягоным пажадлівым паглядам шлюху, якою Людміла сябе адчувала цяпер у поўную меру. — Ды я сплю і бачу цябе вось такую... такую...

Рукі яго, дрогкія, прагныя, знаёма агладжвалі, абмацвалі яе плечы і грудзі, крадком, раз-пораз заміраючы, спаўзалі ніжэй, пакуль зусім не аціхлі, не стаіліся там, куды імкнуліся, — і тады са стогнам асалоды ўпіліся ў шыю, у ямачку над ключыцаю яго сухія, не расслабленыя нават у пацалунку вусны. Заплюшчыўшыся, не маючы ні сілы, ні смеласці зірнуць на сябе цяпер, ва ўладзе пажадлівых і ў гэтай пажадлівасці бяссілых рук свайго старога паклонніка, яна чакала. Сцікалася ад кожнага іх руху, непрыемнага, у нечым нават агіднага, і чакала: зараз, зараз змусіць павярнуцца, прыпасці да яго, адкрываючы для пацалункаў твар... Секс для пасвечаных!

— Пойдзем... пойдзем, Лялечка... — мармыча Валерый Юр'евіч, абмацаўшы ўсё, што мог дастаць з вышыні свайго апаратнага росту, і яна ведае, што наступны момант, калі давядзецца ўлегчыся ў прывабнай, эфектнай позе на ложку і нават злёгку пакапрызнічаць перад тым, як...

Ну, ды ўсяму свая чарга! Не трэба толькі засяроджвацца на думцы, што ёй гэта непрыемна: звыклы сцэнарый, звыклыя ласкі... Яна ж і сама не хоча браць ініцыятыву ў свае рукі, тым больш, што плацяць ёй, неаднойчы падкрэсліўшы гэта на пачатку сувязі, не за ініцыятыву.

— Віна?

— І віна! — усміхаючыся, выслізвае ў яго з рук. — Але толькі калі піць будзем з аднаго келіха. Перш ты, потым я, потым зноў ты... Астатняе на закуску.

— Але, але, рыбачка, — не можа ён адарвацца ад яе і, хоць кончыкамі пальцаў, а кранаецца то пляча, то рукі па ходу, смешна перабіраючы нагамі, каб на рух, на адзіны рух яе апярэджваць. — Я так люблю, калі ты становішся паслухмянаю!

Нябось, перакананы, што робіць яе шчасліваю! А хоць і не перакананы, што яму да таго, як Людміла прымала яго старэчую пажадлівасць? Галоўнае: прымала. І гэта патрабавала ад яе не такіх ужо аграмадных высілкаў: калі трымала сябе ў руках і нічым, ні ўзлётам брыва, як кажуць, не паказвала сваіх сапраўдных адносін да гаспадара становішча... Ат, знайшла пра што думаць!

— Мы ж так і не выпілі віна,— перапыніла маніпуляцыі бессаромных у сваёй сляпой празе рук, — а не зашкодзіла б.

— Для цябе, Лялечка, што заўгодна, — пацягнуўся Валерый Юр'евіч да падноса. — Вып'ем, і ты скінеш з сябе ўсё: харaство павінна быць асязальным...

— Ты хочаш сказаць: змяя, якая не можа змяніць скуру, гіне? — усміхаецца, адкідваючы ўбок скінуты пеньюар.

— Змяя? Якая змяя? — няўцямна перапытвае ён, і па ўсім відаць, што сэнс сказанага не дайшоў да яго.— Віно зусім не ацвярожвае...

— На тое і віно, — падкурчыўшы ногі, садзіцца і забірае ў яго з рук келіх, з якога расплёскваецца віно. — Хіба ты не хочаш на хвіліну-другую схмялець?

— Я хачу, хачу! — тыцкаецца ён тварам ёй у жывот, хапаючы, камечачы вуснамі жывую гарачую плоць, — яна ледзь паспявае зрабіць колькі глыткоў і адставіць келіх, каб паспрабаваць хоць вонкава натхніцца ласкамі, за якія ён заплаціў наперад, і заплаціў шчодра.

«Змяя, якая не можа змяніць скуру, гіне... Чаму я сказала гэта толькі што? Адкуль узяла?» — круціцца ў галаве, пакуль звыкла, са звыклаю абыякавасцю аддаецца яна ўладзе знаёмых рук, у якія даўно перайшла ўся ягоная сексуальнасць, уся ягоная страсць, і не можа разгадаць загаданую сабе загадку. Можа, сапраўды прыспеў час змяніць скуру, змяніўшы гаспадара?

— Бліжэй, бліжэй, Лялёк! Мне трэба цябе адчуць, мне трэба...

У душы расце супраціўленне, у грудзіне варочаецца млосць. Раптам разумее, што гэта яе сустрэча з Паўлюком — апошняя, што больш не здольна — не хоча! — цярпець гэты здзек з сябе, са сваёй прыроды ні за якія даброты, і калі надалей і падпусціць да сябе каторага, то гэта будзе мужык, мужчына, а не слінявы стары грыб з пасадаю замест... Трэцца аб яе, як аб набітую трухою лялькў!

— Ты сёння проста цуд, Лялёк, проста цуд, — прыкрыўся крысом халата Валерый Юр'евіч, задаволена адсопваючыся, а яна ўжо саскочыла з ложка, больш не зважаючы на яго, дапіла налітае ў келіх віно.

— Ты казаў, што ў цябе мала часу, — нагадала.

— Да, да, да, — успомніў, заварушыўся той, падымаючыся, і, больш па звычцы, чым па волі згаслага ўжо жадання, аблапаў яе, абыякавую да ўсяго, і чмокнуў у звыкла падстаўленую шчаку. — Глыток віна, і пабег, пабег! Я нават машыну сёння не адпускаў. Так што, праводзь, Лялёк, уніз... Ты сёння проста цуд!

Ён доўга мармытаў яшчэ штосьці сабе пад нос, спусціўшыся, доўга корпаўся ў ванне, апранаючыся, доўга круціўся перад люстэркам у прыхожай і, калі нарэшце пайшоў, злосць ускіпела ў ёй з такою сілаю, што, здаецца, яшчэ б хвіліну-другую...

Калі ціха, асцярожна абзываецца званок, яна раз'юшаная тым, што які ўжо раз змоўчала, сцярпела ўсю гнюснасць падобнага спаткання, яшчэ стаіць перад зачыненымі дзвярыма. Таму (з намерам паслаць Паўлюка, калі ён вярнуўся, туды, дзе чэрці свіней пасвяць) рыўком адчыняве іх насцеж, як аказалася, перад адным з цэкоўскіх інструктараў — суседам знізу, па тым, як загараецца яго пацямнелы адразу позірк, разумеючы, што гэта рэакцыя на яе замежны ўбор.

— Чым абавязана? — не хавае пагарды і да яго візіту, і да яго разгубленага выгляду.

— Я на хвілінку, калі дазволіце.

— Усяго на хвілінку? — не дае яму дагаварыць.— На дзве-тры хвілінкі жонка не адпусціла б?

— Ды не, — чырванее той, адводзячы пагляд. — Мне здалося, што я бачыў...

— Табе не здалося,— спакойна рэагуе яна на тое, што ён ведае, хто ад яе толькі што пайшоў.— І што?

— Мае ў ад'ездзе, — зазлаваў раптам і ён, адкідваючы ўсе цырымоніі. — Не знайшоў, да каго звярнуцца з просьбаю пазычыць хлеба, вось і падняўся да цябе, Людміла Пятроўна.

— А-а-а, — насмешліва адгукнулася яна, жэстам запрашаючы яго зайсці ў прыхожую, і калі ён, павагаўшся ўсяго імгненне, заходзіць, і дзве-

ры за ім зачыняюцца, у тым жа тоне прадаўжае: — Не ведаю, як наконт хлеба, а наконт усяго астатняга...

— Здзекуешся? — не ведае ён, як сябе паводзіць далей, бо, даўшы яму зайсці, Людміла не даю яму прайсці ў пакой, загароджваючы дарогу.

— Ну што ты, Віктар! — прыпамінае яна яго імя. — Тваё колькі ўжо ў ад'ездзе?

— Чацвёрты дзень...

— Ну вось бачыш!

— Што? Што ты маеш на ўвазе? — не разумее ён, хоць чырвань ужо адхлынула ў яго ад твару, а цела напружылася ў салодкім прадчуванні адно ад намёку.

А ў Людмілу як чорт раптам усяліўся, падштурхваючы, змушаючы спагнаць з гэтага, маладога, тое, што не здолела ўзяць ад яго папярэдніка: для нечага ж ускіпела ў ёй злосная сіла!

— Пачакай! — цягнецца цераз яго плячо да дзвярэй, да ўнутранага замка, і ён, змушаны падтрымаць яе, на міг адчувае блізкасць звабна адкрытага пагляду цела і ў той жа міг страчвае над сабою кантроль...

— Я не хацеў... я не магу... — яшчэ апраўдваецца, спрабуе апраўдацца, а рукі яго ўжо зрываюць з Людмілы дарагі ўбор, і яна не так стрымлівае яго, як падганяе, прыспешвае, распальваючы пацалункамі, у якіх, пэўна, не менш чым вызваленае, адпушчанае на свабоду прагі наталення, і прыхаванае, неўтаймоўнае яе нянавісці.

Праз хвіліну яны, счэпленыя ў адзін шалёны клубок, ужо качаюцца па падлозе, засланай дываном, і чаго ў гэтай яраснай барацьбе двух целаў, двух жаданняў больш — узаемнае насалоды ці ўзаемнае нянавісці — яна не хоча вызначаць. Адчувае, што гэтак жа, як і ён, мужчына, хоча браць, толькі браць ад другога цела, ад іншае, не свае сілы, і тое, ці падабаецца гэта мужчыне, упершыню не важна.

Калі ён адрываецца ад яе, супакойваецца і, раскінуўшы рукі, застывае побач, Людміла падымаецца, спустошаная, стомленая гэтаю барацьбою, ідзе ў ванну. Доўга плёскаецца пад душам — так, быццам хоча змыць, сцерці з сябе не толькі гэты вечар, а і ўсякі напамін пра яго. Доўга, з прыемнасцю падстаўляючы ручніку зноў пасвяжэлае, бадзёрае цела, выціраецца, накідвае халат.

— Ты ўсё яшчэ тут? — здзіўляецца прысутнасці надзьмутага ад усведамлення нечакана лёгкай перамогі Віктара. — Пайшоў прэч!

— Ш-што?! — зрабіўшы ўжо крок насустрач, натыкаецца ён на зняважлівыя яе словы.

— Я сказала: цяпер пайшоў прэч! — грэбліва разглядае Людміла скарыстанага толькі што маладога пеўніка. — І каб я цябе ніколі — чуеш? — ніколі больш не бачыла ў сябе каля дзвярэй!

— Але...

Яна ўжо насцеж расчыніла дзверы і, назіраючы, як ён спалохана, бачком, бачком выслізвае з кватэры, ціха, помсліва смяецца.

Смяецца нейкі час яшчэ і тады, калі застаецца адна, і смех не згасае, а зусім нечакана пераходзіць у ціхае ўсхліпванне.

Ненавідзела! Як жа яна ненавідзела разумнікаў усіх эпох! Паслухаць каторага, дык жанчына нараджаецца мадоннаю, якую чакаюць любоў і пакланенне. Ці таго больш, толькі вакол яе сэрца, поўнага матчынае любові, можна сабраць сусвет... Лухта! Якая любоў? Які сусвет? Усе яны поўзаюць па паверхні жыцця, апроч біялагічнага, ніякага іншага яго сэнсу не ведаю-

чы. Не ведаючы і не прызнаючы. І жанчынамі — імі! — у гэтым жыцці як пагарджалі, так і пагарджаюць. Уздыхаючы, смуткуючы ў чаканні высокае, усёабдымнае любові, да нябёсаў узносячы жанчыну — абстрактную, намаляваную ўяўленнем жанчыну! — скрозь прыгнятаюць яе, ператвараюць у жывёліну, здзекуюцца з яе спадзяванняў на самастойнасць і роўнасць. Нездарма ж іх філосафы (жанчын, нябось, у сваё кола і па сённяшні дзень не ўпускаюць!) сцвярджалі, што яна, жанчына, без сувязі з мужчынам не была б у поўную меру чалавекам, бо ў ёй, бачыце, задужа цёмная прыродная стыхія, — нездарма ж не прызнавалі і не прызнаюць у ёй асобу. Ды ўжо ж! Дзе ёй, жанчыне, загнанай, затузанай бытам, стаць асобаю? Накарміць бы сваёю плоццю ўсіх, пастаўленых лёсам вышэй, усіх, у кім курчыцца, плача п'янымі слязьмі асоба!

Любоў? Цуд? Таямніца? Ды ўсё ж даўно вытлумачана, разгадана, расказана і перасказана. Звычайны шал пачуцця, які часова зрушвае з месца звыклыя рэчы, паняцці, перакананні. Кароткае забыццё, раставарэнне сябе ў кімсьці іншым. Патрэба, уцеха, падман... Як хочаш назаві, а цуду не адбываецца...

Работніца, хатняя гаспадыня, маці, жонка, каханка, шлюха — кожны можа разлічваць і разлічвае на тое, што яму патрэбна. Гэта зручна. З гэтым усе даўно звыкліся. Ніхто нічога не прагне мяняць: што — на што? Зручны расклад жыцця — на пошук сонечнага зайчыка? Звыклую сцежку, што нітуе з домам і з людзьмі, — на хісткі міраж? Яны ж і так усе пакараны — кожны сваім жыццём. Адно азірнуцца, угледзецца ў любы, як не ў свой уласны твар: на ім цёмнымі кругамі пад вачамі, зморшчынамі і зморшчынкамі вакол пазначаны не толькі іх, жаночы, лёс, а і гістарычны лёс чалавецтва — уцёкі яго ад прыроды, ад біялагічнае, жывёльнае свае сутнасці. Марныя ўцёкі. Зноў і зноў усё пачынаецца спачатку. Ад Адама і Евы. Так і жывуць дасюль паміж спробамі насыціць распусную, ненасытную плоць і думкаю пра любоў як пра шлях да свае несмяротнасці.

Любоў! Цьфу ты, Божа мой... На гэтым шарыку, аблюбаваным для жыцця Космасам, яны выслізгваюць з рук, з абдымкаў адно аднаго — так, быццам ён пакрыты ледзяною карою: яны і на міг не могуць утрымацца, зліцца ў адно, а туды ж — пра любоў! Ды калі б сапраўднаю была любоў, яна не з'яўлялася б, як прывід, у абліччы іх дурных страсцей, яна складала б само існаванне, само жыццё, і не было б, не ўзнікла б патрэбы думаць пра тое, як не застацца ў адзіноце, пакінутаю ці падманутаю, як у тыя дні, калі да дна, да донца агаляецца ўся бязглуздая мітусня, уся нясцерпная мука жыцця, знайсці ў ім, у жыцці, нейкі сэнс...

Думкі перамешваюцца з усхліпамі, злоснымі і бездапаможнымі: жаласна, з жалем і нянавісцю, раз-пораз выціраючы мокрыя шчокі проста далонню, пазірае Людміла на сябе, заплаканую, у люстэрку, якое памятае не толькі нядаўняе яе паражэнне... Хоць чаму паражэнне, чаму? Зрабіла тое, што намервалася, і так, як схацела, — у чым жа справа? Адкуль слёзы? Па чым, па кім?

Раскошны пеньюар, падабраны з падлогі, кідае, грэбліва скамячыўшы, у ванну. Не азіраючыся больш на люстэрка, ідзе да лесвіцы. Марудзіць, перш чым пачынае падымацца, і ўсё-такі не азіраецца: вечар застаўся ззаду — і няхай застаецца. І зусім неабавязкова пакідаць вузельчык на памяць. Зараз дап'е ў самоце віно — і спаць, спаць! Новаё жыццё пачнецца заўтра...

Усмешка, ледзьве прабіўшыся ўслед за гэтаю спасылкаю на заўтра, сама асвятляе далёкую згадку — пяцігадовую дзыгу, танюткую, з тонкімі ручанятамі, у якіх, заціснутае ў кулачкі, уздрыгвае толькі што напоўненае гучным плачам паветра.

— Ну чаму, чаму ты мне не верыш? — дрогка прамаўляе яна ў нябачны з-за слёз мамін твар. — Я буду слухацца і не пайду, не пайду больш да ракі з хлопчыкамі, вось убачыш! Заўтра ж не пайду!

— Чаму ж заўтра, а не ўжо сёння? — цікавіцца мама, абыякавая, як ёй здаецца, і да яе слёз, і да яе абяцанняў.

— Але ж новае жыццё заўсёды пачынаецца заўтра, — не разумее яе недаверу: пераканана ж, што заўтра стане вялікай і ўсё вакол — нават жыццё! — таксама вырасце разам з ёю.

Мама ўсміхаецца, і яна добра бачыць яе вясёлую ўсмешку — і адсюль, з сённяшняга вечара, добра бачыць: смяюцца вочы, смяюцца, разбягаючыся па твары, вясёлыя зморшчынкі, смяюцца нават рукі, якімі яна раз-пораз усплёсквае ў паветры, перш чым прысесці, абхапіць яе, прыгарнуць да сябе.

— Заўтра пачынаецца новае жыццё... Заўсёды заўтра...

Смех яе, словы яе кружаць за Людмілаю па спальні! — ад ложка да шафы, зноў да ложка — яна не заўважае сваіх рухаў, сваіх дзеянняў, хоць, здаецца, усё-такі дапівае віно і разбірае пасцель. Святло гасне, не пагасіўшы ўспаміну, мо таму, што ён абудзіў падсвядомае жаданне вярнуцца назад, адчуць сябе малою, кволаю побач з маці, пад яе абаронаю, і не расці — не вырастаць, каб не стаць дарослаю так хутка, так незваротна хутка.

— Проста не знайшлося ў свой час нікога, хто ўзяў бы цябе за шкірку, тыцнуў носам у цёмны куток...

Падпалкоўнік? Тут?! Ён жа паспеў ужо стаць палкоўнікам і не мог, ніяк не мог з'явіцца ў яе доме!

— Скажы лепш, няўжо нічым не заплаціла за тую ноч, га-га-га! Няўжо нічым? Ніводным са сваіх падфарбаваных пёркаў?

Ён яшчэ смяецца! Людміла, забыўшыся пра гордасць, павінна прасіць урачоў вырваць, абцугамі выдраць з яе ягонае паганае семя, што прарасло, расце так імкліва, што яна вось-вось пачне раздзімацца, а ён с м я е ц ц а!

— Ганіце яго адсюль! — просіць урача і раптам з жахам бачыць, што гэта ён, урач, смяецца з яе, з яе страху, з кожным імгненнем становячыся ўсё больш падобным на Шэршаня. — Вы... Ты не зможаш зрабіць аборт... Я не хачу, чуеш? Ты ж не ўрач, палкоўнік, ты не асмелішся! Пагукай мне ўрача!

Крык пераходзіць у лямант, потым у такі гучны стогн, што ў самой закладвае вушы, а яна ўсё крычыць, вырываючыся з дужых, валасатых рук, хоць адчувае, што адна за адною, як тонкія перацягнутыя струны, лопаюцца галасавыя звязкі, і боль не выходзіць горлам, а сцякае кудысьці ўніз, усярэдзіну, туды, дзе, раздзіраючы тканкі жывата, пачынае варушыцца, тузаецца штосьці чужое, чужароднае. Яно не можа так тузацца, яно яшчэ не магло вырасці настолькі...

— Яно? — смяецца яе кат, прывязваючы да якогась жахлівага крэсла і перакідваючы яе разам з ім галавою ўніз. — Гэта я н ы! Твае дзеці!

— Дзе...ці?! — заглытвае, праглынае яна свой стогн, адпускаючы, выпускаючы боль на волю.

— Ну не кацянятамі ж ты ад мяне, чорт вазьмі, зацяжарала, — бурчыць палкоўнік, пачынаючы распранацца, і яна знізу ўверх, з жахам пазірае, як

агаляецца яго аграмаднае валасатае цела, як яно падаецца бліжэй і бліжэй, навісае над ёю, і не можа не тое што закрычаць, расцяць вуснаў.

Боль становіцца вастрэйшы, яна ўжо не спрабуе з ім змагацца, растваючыся ў жаху, у чаканні чагосьці горшага, найбалючага. І яно насоўваецца з немінучасцю наступнае хвіліны: з'яўляюцца двое ў белых халатах і масках і аддзіраюць, адцягваюць ад яе палкоўніка, які сцінаецца, меншае, знікае проста на вачах, потым падступаюцца да яе, і адзін з іх, вышэйшы, з акрываўленымі, як ёй здаецца, рукамі, груба рассоўвае ёй ногі. На яе кволы пратэст толькі злёгку паварочвае галаву і па-змоўніцку падміргвае:

— Ну што, не надумала раджаць? Тады плаці, красуня! Усімі ненароджанымі дзецьмі заплаціш за гэту работу...

У яе цямнее ўваччу — яна правальваецца ў гэту цемру, у чарнату і, не чуючы нічога, нават страшнага болю, раптам зноў чуе глухаваты голас палкоўніка:

— Жорсткасць — дзіўная штука: у адным выпадку караецца, у другім бласлаўляецца... Ніхто ні ад каго не застрахаваны, Людміла Пятроўна. Вось гэта ўжо не!

— Пайшоў прэч! І ты! Ненавіджу! — крычыць у чарнату, у бездань, куды правальваюцца сказаныя ім, паўтораныя колькі разоў словы.— Не я іх забівала, не я!

— Цішэй, цішэй, дачушка, — астуджае яе гарачы лоб ціхі мамін шэпт. — Я цябе пагайдаю на арэлях, хочаш?

— Не хачу,— палохаецца Людміла таго, што мама прыняла за арэлі тое жахлівае крэсла, у якое яна ўціснута болем, болем і жахам. — Няўжо ты не разумееш, мама, што я ўжо даўно не маленькая, што я вырасла?

Не адказаўшы, мама пачынае ціхенька пагойдваць і спяваць — спявае штосьці пра сонечную пражу, з якой вытчацца сцяжынка, пра залацістыя кветкі і іх салодкі водар і, спяваючы, бязважка, амаль нячутна кранаецца яе рукою. Гэтыя мяккія асцярожныя дотыкі сцягваюць, загойваюць рану, здымаюць боль, праясняюць думкі.

— Я сплю, мама? Ты мне снішся, праўда? Мне ўсё гэта толькі прыснілася?

— Жыццё не можа прысніцца, дачушка, а ты ж жывая, жывеш і ўсё яшчэ не можаш мяне ўбачыць...

— Але ж я бачу, бачу цябе! — прыўздымаючыся, радасна адчувае пад нагамі цвёрдую зямлю Людміла. — Чарната адступіла, знікла, і ў першых промнях святла — ты, мама, і ты ўсміхаешся.

— Я думала: ты мяне не ўспомніш, не пазнаеш з-за сцяны гадоў... І на тым дзякуй, дачушка, і на тым дзякуй.

— Куды ж ты, мама? — імкнецца яна за ёю следам. — Раптам яны вернуцца?

— Хто — яны? — азіраецца.

— Яны... Гэтыя... Я не знаю іх і баюся, — халадзее Людміла ад адной думкі, што ўсё пераж̌ытае зноў вернецца, паўторыцца.

— Не бойся, дачушка, — застаецца з ёю толькі голас, мамін голас. — Жыцця не трэба баяцца: яно не падманвае... Ты забыла тое, што ў глыбіні душы хацела забыць. Страціла тое, што хацела страціць...

— Я не хацела забыць цябе, не хацела!

— Хацела... хацела...

Ці то паддражніў яе прасцяг, ці то зрыкашэцілі, ударыўшыся аб нізкую нябесную цвердзь, словы, а рэха ўжо асыпала яе вострымі аскепкамі,

прабіла, прадзіравіла нябачную ахоўную абалонку. Праз дзіркі і разрывы стала відаць, што там, дзе павінна б агаліцца яе «я», яе цела, зеўраюць пустоты, і яна пужаецца, спалохана абмацвае сябе і ўздыхае з палёгкаю, толькі пераканаўшыся, што ўсё нібыта на месцы: плечы, рукі, грудзі... У грудзях, праўда, штосьці ўсплёсквае, пачынае пакалыхвацца, але ўрэшце гэта можа быць і сэрца, падталае ад неастылага ўнутранага жару сэрца.

— Ага. Там бродзяць жаданні даўно заглушанага гадамі і, як табе, думалася, даўно пахаванага маленства, што не-не ды і выплёскваюцца, прагныя, прагавітыя, на паверхню, у тваё жыццё.

— Што? — не разумее Людміла ні слоў, ні таго, адкуль яны ідуць.

— Там, у глыбіні тваёй істоты, жывуць забытыя, спіхнутыя ў забыццё страх і жуда, зведаныя некалі, там палымнеюць не толькі твае асабістыя пажадлівыя памкненні і страсці, але і страсці ўжо спрахлых у зямлі пакаленняў тваіх продкаў, сярод якіх знайшліся б і сапраўдныя варвары.

— Глупства! — узіраецца яна ў пустату вакол і раптам заўважае, што яна, гэтая пустата, як і яна, замкнёна ў клетцы, якая звужаецца, меншае, абрастае ўсё больш тоўстымі кратамі. — Гэта твае жартачкі, падпалкоўнік?

— Палкоўнік, Людміла Пятроўна, палкоўнік. Мужчын, як бачыш, хутчэй павышаюць па службе, — з'яўляецца, быццам выкліканы гэтым зваротам, Шэршань ці хтосьці падобны да яго па той бок загарадкі.

— Што гэта значыць, чорт вас вазьмі! — нават страх адступае на нейкі час перад гневам і лютай злосцю. — Адкуль узялася гэта клетка, я вас пытаю?

— Гэта твая грудная клетка.

— Што, што?! Грудная клетка? Ты, няйначай, звар'яцеў, начапіўшы новыя пагоны. Так, так, звар'яцеў і хочаш дамагчыся таго ж ад мяне. Але дудкі! Я лепш здохну тут, у гэтай клетцы, чым...

— Чым што?! — склаўшы рукі на грудзях, стаіць ужо той побач з ёю, усміхаючыся на раптоўную знямеласць, скрозь якую, што ўжо зусім відочна, падбіраецца, падкрадваецца да сэрца жах. — Ты, я бачу, нічога не забыла, га?

Яна маўчыць. Ні слова, ні гуку не вырываецца з перасмяглага, здушанага падступіўшай млосцю горла. Адчувае, якімсь дзесятым пачуццём адчувае, што, калі ён наблізіцца, калі паспрабуе завалодаць гэтым растузаным, толькі-толькі загоеным целам, яна кінецца на яго — знойдзе ў сабе сілу і задушыць, сваімі ўласнымі рукамі задушыць яго.

— Што, да смяротнае схваткі рыхтуешся? — яшчэ шырэй, на ўсе зубы, усміхаецца Шэршань. — Не выйдзе, рыбачка. Пакуль я сяджу так глыбока ў табе, нічога ў цябе не выйдзе. І ты гэта ведаеш. Ведаеш, ведаеш, Людміла Пятроўна! — чалавеку ўласціва ведаць пра сябе больш, чым ён свядома прызнае перад сабою самім ці, тым больш, перад іншымі. Адны шукаюць усё жыццё Бога, другія — д'ябла. Мы з табою — пара, і, павер мне, варты адно аднаго.

— Лухта! Гэта ўсё лухта! — прарываецца гнеў.

— Лухта? Ды ты гэтак жа, як і я, трымціш ад жадання, ад няўтоленае жывёльнае прагі асалоды, гэтак жа, як і я, здольна на ўсё, нават на злачынства, калі прыпячэ, каб толькі атрымаць сваё!

Не вытрымліваючы больш гэткага здзеку, ненавідзячы палкоўніка так, як ніколі нікога ў жыцці не ненавідзела, яна кідаецца на яго з кулакамі: цяпер ужо ўсё роўна! цяпер ужо хоць такі, хоць іншы, але канец!

Не адразу разумее, што, асепленая гневам, не бачыць перад сабою ні кратаў, ні палкоўніка з ягонай паганенькай усмешкай, — кінуўшыся

ўперад, натыкаецца не на яго, а на нябачную сцяну, такую крохкую, што ад удару цела тая расколваецца, рассыпаецца на друзкі, і Людміла падае, бясконца падае скрозь іх дождж кудысьці ў пустату, на дно свайго немага крыку...

Крык заглушаецца звонам — звініць працятае ім наскрозь паветра — рвецца, перарываецца ад яго цяжару дыханне... Людміла ўскоквае на ложку, перш чым прачынаецца: тэлефон!

— Даведка?

— Якая яшчэ даведка? — ашалела круціць яна галавою, адыходзячы ад сну, няўцямна зіркае на паднятую тэлефонную трубку і, калі нарэшце пачынае разумець, што хтосьці проста памыліўся нумарам, кідае яе назад, на рычажок. — Няма ад вас спакою!

Гадзіннік паказвае без дзесяці сем. Не так ужо і рана. Заспалася. Галава цяжкая пасля ўчарашняга... І што толькі на яе ўчора найшло?

Грэбліва падціскае вусны, разглядвае чорт ведае ў што ператвораную спальню: перад люстэркам, проста на падлозе — перавернутая пустая пляшка з-пад віна і недапіты келіх, далей, у кутку, валяецца скамечаны халат і не кранутая начная сарочка, скрозь на дыване — рассыпаныя шпількі, на тумбачцы — заліты віном паднос, на якім параскіданыя яблыкі, два надкусаныя, пасцель...

«Вось так мы, Лялечкіна, пачынаем новае жыццё!» — сумна ўсміхаецца ў думках і змушае сябе падняцца, падняцца і падысці да люстэрка, не адвёўшы ўбок разгубленага пагляду. Выгляд, канешне... Замест прычоскі — растузаная капа сена, тры даволі прыкметныя сінякі: адзін — на плечуку, два другіх — сляды задужа прагавітых вуснаў! — на грудзях, якія тыдзень сыходзіць будуць; пацямнелыя кругі пад вачыма, тужлівыя, як у пабітай сучкі, вочы.

Ну, ну! Як заплачана, так і аддзячана. І няма чаго асабліва ўшчуваць сябе: учарашні вечар спісаны ў мінулае, і Людміла — па гэты бок яго, па гэты, а не па той. А той... Калі што-небудзь прыкрыць так, як належыць, яно перастае існаваць. Не ёю прыдумана. І не для яе адной, напэўна.

Не вельмі суцяшальная думка? Што ж, па суцяшальную гэтаксама далёка хадзіць не трэба: яна ў самой маралі, якая настойвае на захаванні знешняй прыстойнаці — і толькі. І толькі! Захоўваеш бачнасць маралі, маральных паводзін, паводзін сябе для ўсіх «быццам бы» — і ўсё ў парадку. Адно не давай злавіць, знянацку захапіць сябе ў хвіліну, падобную да любой з учарашніх, і ніхто ніколі нічога не дакажа. Можа здарыцца ўсякае, і нават шмат чаго можа здарыцца — абы не было асуду-перасуду, абы не ўзніклі зневажальныя плёткі. З гэтым у Людмілы ўсё о'кей. Пеўнік з ніжняга паверха закукарэкаць збаіцца, не кажучы пра яго шаноўнага папярэдніка, а яна і на Страшным судзе скажа: нічога не помніць — нічога не было. Няхай ужо самі паспрабуюць даўмецца, ці то і ўзапраўду нічога не было, ці то зацьменне на яе найшло, пакінуўшы ў душы толькі ціхі цень журботы.

Ціхі цень журботы — штосьці яўна кніжнае, ну ды ўсё роўна прыгожа. А вось валасамі давядзецца займацца доўга, як не ў каўтун, не расчасаныя нанач, збіліся. Хоць што валасы? Яны вымыюцца, расчэшуцца. З думкамі за адну раніцу не ўправіцца. Жыцця не хопіць, каб разгрэбці гэты сметнік: чаго толькі змалку — ад «Будзь гатоў!» — «Заўжды гатоў!» да «Далоў партакратыю!» — туды не напіхана!

Што ж да затузанай, навыварат маралі... О, дзе ўжо дзе, а тут усе падставіць ножку чорту імкнуліся — вучоныя, маралісты, літаратары, святары! Здавалася, чаго прасцей? Толькі адцягнуць увагу людзей ад праблем полу, сексу — і яны пра іх забудуць. Толькі не дражніць размовамі небяспечнымі, не выманьваць цікаўнымі пытаннямі старадаўняга, пасаджанага за жалезныя краты маральнасці звера — і ён стане ручным, хатнім. Толькі, як мага хутчэй і адводзячы вочы, абмінаць своечасова ўсё інтымнае, недатыкальнае, паводзіць сябе так, быццам нічога такога ў сапраўднасці і няма, — і яго не будзе. Чорт аб нашу рашучасць спатыкнецца — і адступіцца...

Чорт... Ды каб жа, каб жа толькі адзін на ўсіх чорт! Хто іх лічыў, чарцей? Хто іх калі злічыць?

Па маладосці, наіўна атаясамліваючы лёс і выпадак, яшчэ верыш, што моцна трымаеш у руках павадкі ўдачы і няўдачы і толькі ад дакладнасці наступнага руху залежыць паварот лёсу. Потым жа пачынаеш разумець, бачыш, што трымаеш пустату, а твой жыццёвы шлях прадвызначаны знутры: якім бы звілістым і бязглузда непадуладным ні здаваўся, а ўрэшце вядзе і выводзіць да нябачнае, усімі пакаленнямі тваіх продкаў вызначанае для цябе мэты. Вялікай, малой, злачыннай, дабрачыннай — не адразу і вызначыш.

Вось яна... «Ты, ты, мокрая, абшчыпаная галубка! — не адводзь вачэй, зірні ўважлівей на тое, што сабою ўяўляеш пасля ночы, пасля душу, без грыму і прычоскі, без ганарлівае ўсмешкі і моднае шаўковае блузкі: незадаволеная сабою і светам цётка, якая да жуды, да непрыстойнасці баіцца старасці і гатова залізваць на сабе любую зморшчыну, любую плямінку, каб толькі выглядаць дагледжанай, усё яшчэ маладой і шчаслівай». Якая маладосць? Якое шчасце? Адзінае, што набыла ў абмен на іх, — упартае нежаданне прадаўжаць гон як ні ў чым не бывала, зноў кідацца бегчы, так, быццам лёс не дагоніць, скрозь і ўсюды не даганяў яе.

Змяя, якая не можа змяніць скуру, гіне... Але ж са старой скурай нельга пакінуць на сцежцы пражытае: душа надзелена ракавою сілаю памяці, прыпаміну — і каго іншага льга падмануць, а сябе? Тое і яно.

— Вас слухаюць, — дацягваецца Людміла да тэлефона, не выпускаючы ўключанага фена.

— Людачка, гэта я. Нічога, што спазаранку?

— Нічога, Вяруня, — пазнае голас сяброўкі. — Толькі ты прабач, фен не выключаю, інакш не паспею высушыць валасы.

— Канешне, канешне! Я разумею, што несвоечасова...

— Ды кінь ты! Што там у цябё? Спадзяюся, нічога горшага, чым сынаў пералом нагі, не здарылася?

— Люда, родненькая, толькі ты можаш дапамагчы! Праз свайго шэфа, ці... Не важна, праз каго! Разумееш?

— Пакуль што не вельмі, — хмурыцца Людміла, хоць хутчэй нават задаволена, што Вяруня пазваніла і яе званок перапыніў, адсунуў убок непрыемныя думкі. — Ігар жа ў бальніцы?

— Разумееш, гнаіцца нага пачынае, а яны... яны... — усхліпвае ў трубку Вяруня і, перасіліўшы сябе, сваю роспач, таропка, заглытваючы канцы слоў, а то і цэлыя словы, расказвае: — Зачысцілі, відаць, кепска. Абы збыць! Ці, таго горш, заразу, якую-небудзь інфекцыю занеслі — ты ж ведаеш нашы бальніцы! А цяпер агледзеліся: косць пачынае гніць, а ні антыбіётыкаў, ні ўколаў — патрэбны імпартныя, разумееш? — канешне ж,

няма. Няма, ты чула? А цераз іх жа ці цераз іх прыяцеляў (адна шайка-лейка!) і даставаць прапаноўваюць: сто рублёў за ампулы, за ўкол, а ўколаў жа трэба не два-тры... Мо ты дапаможаш, Люд? Калі не ты, то ніхто не дапаможа. Няма, няма ў мяне дзвюх — дзвюх з паловаю тысяч на гэтыя ўколы! Я ўжо чысціла, чысціла і іх, і ўрад, і ўвесь белы свет... Дзіця ж! Які-ніякі сын, а адзіны-аднюткі! А яны калекаю зробяць... Божа мой, Люда!

— Ты можаш спакойна растлумачыць, якія ўколы патрэбны?

— Ды антыбіётыкі! Імпартныя. Я табе і паперку прынясу, дзе запісана, га?

— Мо перавесці хлопца ў інстытут траўматалогіі? — дасушвае валасы, успамінаючы, каму пазваніць, каб знайсці патрэбны канал: ад Вяруні так проста не адчэпішся, ды і Ігар... Балбес, канешне. На матацыкл чужы яму ўзбіцца зарупіла, пакатацца закарцела... Пакатаўся! — Мо ў інстытуцкую клініку перавесці, пытаю.

— Дык жа і кажу: куды заўгодна! Абы ўратаваць нагу, Люда, — зноў шморгае носам Вяруня. — Уяві: калі раптам застанецца калекам, кульгаць будзе? Гэта ў свае шаснаццаць?

— Давай так дамовімся, Вяруня, — перапыняе яна сяброўку, зіркнуўшы на гадзіннік — Гадзіны праз дзве зойдзеш у лечкамісію да Званцовай. Урач Званцова, запомніла? Пакажаш сваю паперку ёй, я пазваню, дамоўлюся. Згода?

— Бог мой, як табе і дзякаваць? Ты ж ведаеш, што для мяне мой аболтус!

— Усё, усё, Вяруня! Інакш спазнюся на службу. Пазвоніш вечарам, што і як. Паспрабую дамовіцца наконт інстытуцкай клінікі. Усё!

Людміла перапыняе гаворку, каб не выслухоўваць яе ўзрушаны маналог: часу сапраўды ў абрэз, ды і не любіць ўсю гэту балбатню. Удзячнасць, няўдзячнасць... Лухта сабачая! Для каго іншага і пальцам бы не кіўнула, а Вяруня... Яе па-бабску шкада: і без мужыка не можа, і з мужыком не ўжылася. Сама сына гадавала, крадком, хаваючыся і ад людзей, і ад сына, прыліпала то да аднаго сукінага сына, то да другога і, скарыстаная, пакінутая і адным, і другім, нічым, ні зярняткам макавым не разжывілася, — ад свайго скрозь на гэтых бугаёў адрывала.

Казала, тысячу разоў казала дурніцы: хоць муж, хоць каханак, а сваё хай заплаціць — з любога спагнаць можна... «А як жа любоў?» — кожны раз хлюпала ў адказ набраклымі слязьмі вейкамі, шукаючы ў сумачцы насоўку, а праз хвіліну-другую ўжо смяялася, расказваючы пра заляцанні чарговага саслужыўца ці яго прыяцеля. О, святы Гасподзь, ужо ж ты ведаў, як караць жанчыну! Праклясце над любоўю з іх, а ўжо як сабе не гаспадыня...

Восем? Што я кручуся перад люстэркам? І валасы не ўкладзены, і не апранута... Мо сыграць сёння што-небудзь просценькае? Што-небудзь з класічнага рэпертуару? Гэткую паненку, якая заседзелася ў дзеўках і ні на што больш не спадзяецца? А што! Гладка зачасаныя валасы сабраць на патыліцы ў свабодны вузел, блузку падшукаць... І шукаць не трэба. Апране цёмна-ліловую з бантам пад падбародкам да сваёй прамой спадніцы — і вобраз мадамы, сціплай, прысаромленай сваім не пабляклым і нікому не патрэбным хараством, гатовы. Не для прыёмнай Івана Кузьміча, канешне, але ў тым і эфект, эфект кантрасту. Тым больш, што і так намервалася скідаць старую скуру і пачынаць новае жыццё. Самы раз, як кажуць. Змяніць усмешку. Крыху прыгасіць ззянне ў вачах.

Людміла задаволена ўсміхаецца: яшчэ каб джынсы замест спадніцы! Ну, ды джынсаў той дом не сцярпіць: сакратарка Самога? У джынсах?! Не,

не, штонікі потым... Пасля работы. Для аднае раніцы змен больш чым дастаткова. Далей відаць будзе, ці ўвойдзе ў ролю так, што яе прымуць і ўсе астатнія, ці будзе шукаць нешта іншае.

— Good bye, мадам! — ківае Людміла свайму адбітку ў люстэрку, перш чым прычыніць дзверы.

— Якія на сёння распараджэнні? У дванаццаць — Бюро, матэрыялы выступлення ў вас на стале... Прызначана аўдыенцыя камандуючаму акругаю і ўладыку Іераніму, прасілі аб прыёме...

— Просьбы ўлічваць не будзем, — не падымаючы галавы ад якіхсьці папер, перапыняе Іван Кузьміч.

— І просьбу Ганны Шалевіч? — заганяе Людміла ўсмешку глыбей і пытае амаль абыякава.

Шэф падымае пагляд, у якім на імгненне мільгае насцярога, — насцярога тут жа змяняецца лёгкім, цераз пазнаванне, здзіўленнем: яўна не чакаў такой рэзкай змены ў яе абліччы, хоць і выгляду не падасць (не першы год ведае!)

— Вам штосьці-небудзь незразумела, Людміла Пятроўна? — пазірае, ацэньваючы, хоць нічым не выдае больш ні свайго здзіўлення, ні сваёй няўпэўненасці: здагадваецца, што яна ведае пра яго слабасць (так скажам) да артысткі, народнай, дзякуючы ягонай гэтай слабасці.

— Ганна Васільеўна прасіла прыняць яе: яна ўжо ў прыёмнай.

— У прыёмнай? — апускае ён пагляд, на міг задумваючыся. — Што ж, хвілін праз дзесяць я прыму яе... Але больш нікога! Нікога, Людміла Пятроўна. Прызначаныя сустрэчы з усімі прабачэннямі перанясіце на панядзелак. Праз паўгадзіны правядзеце да мяне палкоўніка Шэршаня. Усё. Дзякуй. Мне трэба прагледзець гэтыя паперы.

— Праз дзесяць хвілін...

— Да, да! Я ж сказаў.

Нервуецца. Не з-за артысткі ж, канешне.

З самай прыязнаю ўсмешкай выходзіць Людміла да Ганны Шалевіч.

— Тысяча прабачэнняў, Ганна Васільеўна, але хвілін дзесяць вам давядзецца пачакаць: тэлефон... важная гаворка з Масквою. Вы ж разумееце!

— О Госпадзі, ну канешне! Я звалілася як снег на галаву... Толькі таму, што дужа трэба, толькі таму, Людміла Пятроўна!

— Не хочаце прысесці? — корпаецца Людміла ў сваіх паперах, зрэдку цікуючы за ранняю госцяю: нешта ж падняло гэту начную пташку сёння, нават прычасацца ў цырульні паспела, не кажучы пра макіяж. — Раніца — не самы лепшы час для незапланаванага прыёму.

(Гэта ў адпомсту за невядома якую перавагу: гэткая котка з вострымі кіпцюрыкамі, а бач яе! правы качаць бяжыць адразу да Першага, ні больш ні менш...)

— А што? У Івана Кузьміча якія-небудзь непрыемнасці? Хто-хто, а вы павінны ведаць, — нахіляецца тая да яе, стараючыся зазірнуць у вочы.

— Ну, чаму ж адразу непрыемнасці? — не адрывае Людміла пагляду ад папер, унутрана насцярожваючыся. — Справы. Важныя справы, Ганна Васільеўна.

— І дзякуй Богу, — уздыхае яна, як здаецца, з палёгкаю, матлянуўшыся да акна, і гэты яе ўздых адгукаецца ў ёй няўцямнаю трывогаю: калі ў Івана Кузьміча сапраўды непрыемнасці (нечага ж другі раз, другі дзень з'яўляецца сюды Шэршань!), то ёй трэба б ведаць пра гэта раней,

чым артыстачцы з тэатра, якая яўна нешта ўнюхала, — яна ж нічога не чула, чаму? — Вы не паверыце, Людміла Пятроўна, а ў мяне такая інтуіцыя, што часам не знаходжу, куды ад кепскіх прадчуванняў схавацца.

«І таму прыбегла хаваць іх у кабінеце Першага!» — пакпіла ў думках, але не так з яе, як з сябе: каб у апошнюю чаргу дазнавацца пра тое, што трэба адчуваць, прадчуваць у зародку! І з Шэршаня ж у свой час магла сёе-тое выцягнуць, і тут, у калідорах, што-якое своечасова ўнюхаць...

— Людміла Пятроўна, у мяне вызвалілася колькі хвілін, каб прыняць наведвальніцу. Папярэдзьце, калі ласка, што ў мяне мала часу.

— Канешне. Зараз жа! — не адключае яна ўнутраную сувязь, а пераключае на прыём. — Ганна Васільеўна, у вас усяго сем-восем хвілін на аўдыенцыю. У Івана Кузьміча на дзевяць трыццаць прызначана сустрэча. Важная сустрэча. І я прашу вас...

— Але, але, — кідаецца тая ў кабінет, а Людміла кладзе перад сабою гадзіннік: да прыходу Шэршаня крыху больш як чвэрць гадзіны, мо хіба зноў раней прыйдзе?

— Ганна... Васільеўна, — чуе не вельмі ўпэўненае шэфава, — я, безумоўна, рад вашаму прыходу, але сёння...

— Вы заняты, мяне папярэдзілі! Мне толькі пераканацца, што вы на месцы, што вас... Прабачце мне, дурніцы, гэты прыход!

Паўза доўжыцца і доўжыцца. У трубцы так ціха, што Людміла пачынае ўжо думаць, ці не адключылася сама сабою сувязь з кабінетам, але лямпачка індыкатара гарыць па-ранейшаму роўна, і ў яе сціскаецца, замірае сэрца: ужо ж не толькі яна слухае гэту паўзу!

— На жаль, Ганна Васільеўна, у мяне ні хвіліны часу, — адазваўся нарэшце Іван Кузьміч .— Хацелася б шмат пра што ў тэатральным жыцці (вы ж ведаеце маю цікавасць да тэатра) пагаманіць з вамі, вядучай нашай артысткай, але давайце перанясём гэту гаворку на наступны тыдзень. Згодны?

— Дзякуй, Іван Кузьміч, — знікла дрыжанне ў голасе актрысы. — Людміла Пятроўна ведае, як мяне знайсці.

«Людміла Пятроўна ўсё ведае», — адключаецца яна ад іх гаворкі і заглыбляецца ў працу: дасюль не разабрала пошту і не адчула незадаволенасці шэфа толькі таму, што яму сягоння, відаць, не да пошты.

— Дзякуй, Людміла Пятроўна. Шчаслівa заставацца, — выпырхвае з прыёмнай ранняя госця, не чакаючы, пакуль ёй адкажуць, і яна не адказвае; адзін з лістоў завалодаў яе ўвагаю.

«Халера вас еш, панове, за вашу камуністычную істэрыю, — пачынаўся ён, і адно з-за такога звароту не павінен быў трапіць на яе стол (тым больш на стол Івана Кузьміча), вось што напачатку зачапіла ўвагу: ашалелі яны там, у агульным аддзеле? — Столькі зла прынесці свайму народу, колькі вы прынеслі, і сам Люцыфер не здолеў бы: дзе ўжо яму! са сваім бязвер'ем! Тут вера патрэбна, фанатычная вера ў сваю правату, у права не аднаго кагосьці, не купку адурманеных вашымі ідэямі людзей, а цэлы народ супраціў яго волі заганяць у «светлую будучыню чалавецтва», ні куляў, ні сырой зямлі на ўсім працягу, ад мяжы да мяжы, не шкадуючы для тых, хто мог бы ўцяміць, расшалопаць што-якое самастойна і пасланц агітатараў і іх наглядчыкаў куды далей. Мог бы — ды не змог. Такія, як вы, у страху за свае крыху цяплейшыя на ўчыненым вамі скразняку месцейкі, не далі. Чаго прасцей! Галоту, гарапашнікаў, якіх самі пладзілі, паддражні, нацкуй — і хадзі ў героях: як жа! з ворагамі народа расквіталіся!

Вы не толькі з тае ж галоты, панове бальшавікі, вы яе, тае галоты, саранча (чулі пра такую?), якая зжырае ўсё, нават тое, што жыццёва неабходна — не вам, дык вашым нашчадкам... Вашым нашчадкам! Ад такой нечысці, пэўна ж, не адхрысціцца, ды — свят, свят, свят, як кажуць! — не яны звядуцца, дык мо іх ахвяры паразумнеюць. Абы не дало злое семя, вамі кінутае ў нашу глебу, усходаў, абы пралілося святло ў душы людскія і сталі яны відушчымі!.

Аб адным шкадую: жыццё пражыў, не ведаючы, што сляпы. Хлусню заўважаў, іржавыя яе пляміны то тут, то там, неразумным, а то і злачынным кадравым перастаноўкам дзівіўся, тут жа вытлумачваючы імі няўдалае гаспадаранне і безадказнасць. Трэба было, значыць, каб ірвануў Чарнобыль, каб тыя, хто павінен быў ратаваць нас, адкрыўшы праўду, адкрыта пагрэў рукі над яго пякельным полымем... Якая жахлівая цана збаўлення ад слепаты!

Каб жа нашы няшчасці вылiліся на вашы галовы, панове! Склінаю, перад смерцю склінаю вас, сытых, укормленых на нашых бедах, на векі вякоў. Калі ёсць праўда на зямлі ці вышэй, няхай абрынуцца на вас усе тыя беды — хоць бы дзеля заўтрашняга дня, дзеля «светлай будучыні», якую вы па сённяшні дзень раскідваеце па магілах...»

— Цікавы дакумент, ці не праўда?

Людміла ўздрыгвае ад голасу, быццам ад грубага дотыку: трэба ж было так зачытацца, каб не пачуць, не заўважыць прыходу гэткага чалавека, як Шэршань! — тым больш, што ён стаіць не ў дзвярах, а побач, праз плячо зазіраючы ў паперы.

— Іван Кузьміч — што, на павышэнне ідзе? — падымае яна на яго пагляд, здолеўшы адразу ўзяць сябе ў рукі.

— На павышэнне? — не чакаў ён такога пытання (і цяпер ужо яна ў душы ўсміхаецца) і рэагуе яўна не так, як хацеў бы: — Не чуў... Пра гэта табе лепш ведаць, га, Людміла Пятроўна? Цяпер, спадзяюся, Іван Кузьміч на месцы?

— Чакае, — суха, як мага спакайней адказвае, адганяючы страх, які цяпер заўсёды з'яўляецца, скоўваючы яе, калі б ні апынулася паблізу ад Шэршаня. — Праходзьце, палкоўнік. Папярэджваць Івана Кузьміча не трэба: ён чакае вас.

— А-а-а, іду, іду, — усміхаецца той, і ўсмешка змяняецца заклапочанасцю далёка не адразу. — Мяне сёння, па ўсім відаць, і гаворка з ягонай сакратаркай чакае, але пазней, пазней. Так што, Людміла Пятроўна, я ні ў якім разе не развітваюся.

Пайшоў. На момант палягчэла. Але ўсяго на момант. Што ён меў на ўвазе пад гаворкаю? Якая каша заварваецца тут, у кабінеце, праз сценку, і чаму, як яна разумее, і ёй нейкім чынам давядзецца яе расхлёбваць? Пры чым тут яна? Сведка? Сведка чаго? Усё, што магло б зацікавіць Шэршаня і яго ведамства, ужо ж адбывалася не тут, не ў сценах кабінета. Тым больш не ў прыёмнай. І наогул, калі параўноўваць шэфа з кімсьці на яго ўзроўні — ды хоць з кім заўгодна! — параўнанне будзе на яго карысць. Так што...

А чаго яна, уласна кажучы, перажывае? Што ён ёй — брат, кум, сват? Тычылася б якое з падазрэнняў яе, ягонай сакратаркі ў званні загадчыцы прыёмнай, адным узмахам брыва аддаў бы на закланне — хоць Шэршаню, хоць любому, абы чысценькім застацца, абы, крый Божа, не запэцкацца, імя сваё высокае не запэцкаць. І-мя! Шыльда,

адглянцаваная рознымі інструктарамі і загадчыкамі, ад якой пагардліва адварочваецца новы час! Адварочваецца, а то і плюе, як гэты вось... як там яго...

Кузьма Балоцін?! Але ж... Бог мой, во будзе штука, калі гэта не проста супадзенне, калі гэты Кузьма раптам... Іван Кузьміч Балоцін, першая асоба, кароль, можна сказаць, на сённяшні дзень у рэспубліцы (усё яшчэ кароль!), і раптам атрымлівае падобны ліст ад Кузьмы Балоціна, напісаны тым перад смерцю? Ці-ка-а-ва! Цікава, нават калі гэты Кузьма будзе насельнікам дома вар'ятаў дзе-небудзь... Не, не. Штосьці тут ёсць. Нездарма ж ліст трапіў сюды, у прыёмную. Ды і Шэршань, па ўсім відаць, ведае адрасата.

Людміла неяк лёгка супакойваецца. Успомніўшы пра свае абавязкі, тэлефануе ў штаб акругі і ў канцылярыю ўладыкі, апярэджваючы іх візіты, старанна раскладвае пошту, звязваецца з аргаддзелам і ўдакладняе імя стэнаграфісткі на сённяшнім пасяджэнні Бюро, аддае распараджэнні загадчыцы буфета... Калі загараецца лямпачка, спакойна адгукаецца на выклік з кабінета.

— Вы прыпазніліся з поштаю, Людміла Пятроўна. Прынясіце ўсё атрыманае на мае імя зараз жа, — загадвае шэф, і як яна ні ўслухоўваецца, а асаблівага хвалявання ў яго голасе не заўважае: ці трымаецца там з такою годнасцю, ці ўсе падазрэнні супраць яго — проста ліпа.

Людміла бярэ папачку з раскладзенымі лістамі і паперамі, заходзіць, і пад цяжкімі позіркамі двух мужчын як мага грацыёзней, злёгку пакалыхваючы клубамі, набліжаецца да стала.

— Яшчэ што-небудзь, Іван Кузьміч? — старанна пазбягае позірку Шэршаня. — Мо па кубачку кавы?

— Як Анатоль Сямёнавіч... — схіліўся ўжо той над прынесенымі паперамі, яўна шукаючы тую, за подпісам Балоціна, якую яна сунула папярэдне ледзь не на самы спод.

— Я, папраўдзе, з прыемнасцю, — суха адгукаецца Шэршань. — Буду шчыра ўдзячны Людміле Пятроўне.

Пакуль яна гатуе моцную каву і рыхтуе патрэбны посуд, гоніць ад сябе ўсе думкі, і прыемныя і непрыемныя. І ледзь толькі з'яўляецца ў кабінеце з падносам, адразу адчувае: нешта змянілася. Што? Цішыня. Цяжкая цішыня, якая стаяла так, як стаяла б у затоцы глыбокая цёмная вада: ні зруху, ні водсвету.

— Прашу, палкоўнік. Вам як госцю...

— Дзякуй, Людміла Пятроўна. Мы як-небудзь самі ўправімся, — тут жа адсылае яе шэф, і адно, што Людміла паспявае заўважыць: позірк, якім праводзіць яе Шэршань, заклапочаны.

Ат, чорт з імі, з абодвума! Разбяруцца! Гэта ёй ў выпадку чаго трэба будзе хвалявацца, калі новы гаспадар кабінета захоча маладзейшую сакратарку займець, а яны... Самае большае паніжэнне — персанальная пенсія, звычайна ж і да гэтага не адразу даходзіць, так што... Так што можна далей ціха ненавідзець палкоўніка, з якім яна ўжо чакае абяцанае сустрэчы і гаворкі!

Людміла ўсміхаецца, звыкла паглядзеўшыся ў люстэрка, прыхаванае ў верхняй шуфлядзе стала: выгляд што трэба, сама ў кропку для сённяшніх падзей. Бог няроўна дзеліць: каму — новыя пагоны, каму — новая прычоска, ну ды чаго ўжо дужа наракаць? На фігушкі ёй пагоны, калі можна ўзяць разам з пагонамі...

— Прыёмная.

— Добры дзень. Магу я...

— Вы, прабачце, — гэта хто? — звыкла ўдакладняе, не чакаючы, пакуль суразмоўнік набярэцца смеласці прадоўжыць. — Перш трэба назвацца.

— Але, але, — радуецца той адно таму, што не кладзе трубку. — Хлышч Сцяпан Сцяпанавіч. Рэжысёр народнага тэатра з Маладзечна. Мне б з таварышам сакратаром пагаварыць.

— Пагаварыць? — не хавае яна іроніі. — Вам... Сцяпан Сцяпанавіч, здаецца, што гэта мажліва?

— Я не так выказаўся. Я член партыі з шэсцьдзесят пятага... У мяне да таварыша сакратара просьба... Дакладней, справа. Я хачу запісацца на прыём.

— Вы хіба не ведаеце, што ў прыёмныя дні (а яны бываюць нячаста) Іван Кузьміч прымае па папярэднім запісе? — ужо надакучыў ёй заікасты член партыі з шэсцьдзесят пятага. — Я запісу такога не вяду.

— Вы, дзевушка, не зразумелі, — спяшаецца той яшчэ штосьці патлумачыць. — Я, член партыі, хачу пагаварыць са сваім сакратаром. Па справе. Па справе тэатра. І лічу, што гэта важна...

— Нічым не магу дапамагчы, — рашуча перапыняе яна яго. — Іван Кузьміч заняты. І нікога не прымае.

Фыркае, паклаўшы трубку: «Член партыі!» Такімі членамі ўсе дарогі сюды загачаны, ажно не! — то аднаму, то другому карціць голас падаць, аб сабе раптам нагадаць:

«Вы, дзевушка, не зразумелі...» Усё «дзевушка» зразумела, і не сённяшнім днём, ды тое, што зразумела, не ўсім ведаць. Узрадаваліся галубочкі аб'яўленым зменам — лісты пішуць, тэлефануюць напрамкі ў прыёмную праз галаву апарата, адказу чакаюць: «Вы, дзевушка, не зразумелі...» Адказаць бы катораму: «Пратры вочы, дурань! Якія змены? Хто што мяняе? Хто сваё карыта на тваё балота памяняе?», ды ніхто і такога адказу не варты — любы тут жа пабяжыць дакладваць, вочы начальству адкрываць, каб бліжэй хоць бы да с... ягонае апынуцца. Цьфу ты, Божа мой, пра што яна думае!

— Прыёмная... Не, нічога не казаў. У дванаццаць — Бюро.

— Прыёмная... Іван Кузьміч заняты. На жаль, Валерый Юр'евіч, і для вас... Не ведаю... Пазваніце праз паўгадзіны.

— Прыёмная... А-а-а, гэта ты, Зінуля. Салют! Ведаеш, што сёння ты на стэнаграме? Ну і добра. Мне спакайней, калі ты сама... Што прывезлі? Боты? Мне не муляе... Яшчэ калі б аўстрыйскія! Прабач, я перазваню.

Цікуе, учуўшы рух за дзвярыма: адзін палкоўнік выйдзе ці разам з гаспадаром кабінета?

— Будзем лічыць, што дамовіліся, — чуе голас Шэршаня, залішне сухаваты для сяброўскае гаворкі, а потым і сам палкоўнік у цёмна-шэрым, строгім па крої касцюме і светлай, пад колер касцюма кашулі, з расшпіленым каўняром з'яўляецца ў дзвярах, і сэрца ёкае ў яе ў грудзях: мо гэта яны наконт яе дамовіліся?

Глупства, канешне. Перш чым дзверы кабінета за ім зачыняюцца, Шэршань, і галавы не павярнуўшы ў яе бок, выходзіць з прыёмнай. Людміла пераводзіць дыханне. Адчувае... Не, не палёгку — лёгкае расчараванне. Чамусьці расчараванне.

Зазірае ў кабінет.

— Я прыбяру посуд, Іван Кузьміч?

— Да, да, — не падымае ён пагляду ад папер, якімі завалены ўвесь стол. — Зварыце яшчэ кубачак кавы, калі ласка. І за пятнаццаць... не, за дзесяць хвілін да пасяджэння нагадайце мне пра час...

Час — катэгорыя адносная. То цягнеш, выцягваеш яго — выцягнуць з балота перастаялых, іржавых ад дакукі хвілін не можаш, то ўтрымліваеш, нагамі і рукамі ўпіраешся, каб не даць уцягнуць сябе ў яго імклівы вір — і вынырваеш недзе напрыканцы тыдня, а мо і месяца, як не пашанцуе. Што было, чаго не было — усё згінула, ніводнага імгнення не вярнуць. А часам і не ўспомніць... Так... Абрыўкі фраз, звароты, павіслыя ў паветры пытанні...

«Людміла? Не пазнаеш? Пасля ўсіх салодкіх мінут, праведзеных разам, прызнаць не хочаш?»

«Гэта вы мне? Я вас не ведаю».

«Як жа так? Мне здаецца...»

«Калі здаецца, хрысціцца трэба», — не азіраецца на колішняга свайго знаёмца: ці мала такіх памятлівых, скарыстаных і адвергнутых ёю, на шляху? Не ўсё ж ім сваёю жорсткасцю выхваляцца!

«Праз паўгадзіны я заеду, Лялёк?»

«Мне шкада, але мяне не будзе дома. Мяне ўжо няма».

«Не зразумеў».

«Вам гэтага не зразумець, Валерый Юр'евіч», — на самае дно цішыні падае трубка, і аднекуль адтуль на міг выплывае думка, што нават замка мяняць не давядзецца: стары больш не сунецца...

А тэлефонныя званкі ўжо не змаўкаюць.

«Прыёмная. Не, яго няма».

«Па такіх пытаннях звоняць не ў прыёмную ЦК...»

«Вы звяртаецеся не па адрасе...»

«Прыёмная. Іван Кузьміч у ад'ездзе. Не, калі вяртаецца, не ведаю».

«Ты, Вяруня? Перавялі сына? Усё ў парадку? Неяк сустрэнемся...» — спрабуе яна зачапіцца за ўласнае абяцанне, а дзень адплывае, знікае ў цемры, як і ўчарашні, і пазаўчарашні...

«Канешне, канешне, Галена Феакцістаўна. Некалі ж абрыдне перакідвацца словамі, і ўсё стане на месца: крышачку правей, крышачку лявей — хіба гэта мае значэнне для нас з вамі?»

«Не скажыце, Люсі! Раптам гэтае новае ўсё-такі пусціць карані?»

«Госпадзі! А то бальшавікам першыня — злое семя з карэннем выдзіраць! Іншая справа...»

«У вас з'яўляюцца сумненні, Люсі?»

«У мяне з'явілася жаданне змяніць скуру, — не ўсміхаецца яна на спалох старой. — Змяніць і вось гэтую, зношаную, прадаць. Прадаць таму, хто купіць».

«Што вы такое кажаце, Люсі?! Я разумею: вас пакінуў...»

«Мяне?! Пакінуў? Ды гэта я пад зад нагою...»

Смех нагадвае тэлефонны званок, і калі яна на міг, толькі на міг зводзіць павекі, адразу чуе: тэлефон. Каму гэта няймецца? Яе няма. Яна яшчэ не вярнулася са службы. Яна прагульваецца пад дажджом. Ці з пудзелем, калі так праўдзівей. Прымае ванну. Урэшце, ляціць на Месяц! З шасці да васьмі яе ні для каго няма. Тым больш у пятніцу.

— Вас слухаюць, — не вытрымлівае, памінаючы ў думках чорта.

— Людміла Пятроўна Лялечкіна?

— Людміла Пятроўна. Лялечкіна. Ну і што?

— Вам тэлефануюць ад палкоўніка Шэршаня.

— Ад палкоўніка? — успыхвае ў ёй злосны агеньчык. —А хто гэта — палкоўнік Шэршань? Дарадца прэзідэнта? Кіраўнік антыўрадавае змовы? Намеснік Ісуса Хрыста? Я толькі што са службы. Я адпачываю, чорт вазьмі!

Кідае трубку, каб не сказаць што якое мацнейшае: тры тыдні адмоўчваўся, правакаваў на самыя розныя думкі (як жа! гаворку паабяцаў!), а тут — на табе, радуйся... Ды яна мо і ведаць не ведае ніякага палкоўніка Шэршаня! Не ведае, і ўсё на тым!

Тэлефон разрываецца? І няхай. Яна ідзе ў душ. І з раніцы намервалася прайсціся па праспекце, пастаяць над Свіслаччу, паназіраць за качкамі. Ёсць у яе права на адпачынак ці не? Палкоўніку, ты ж разумееш, яна спатрэбілася! Пачакае... Яна больш чакала...

Злосць не адыходзіць, хоць пад цёплымі струменямі вады і мякчэе: ужо ж, і Людміла ў свой час чытала пра падвалы НКУС, пра майстроў допыту і загадзя апраўданую іх жорсткасць, ды тут іншае. Сэрцам чуе: іншае. Ад таго і страху вялікага няма, ад таго і верыцца, што хай і не ўсё тое, ранейшае, адышло, але самае страшнае не здарыцца — не можа здарыцца! Па крайняй меры, з ёю. Ёсць, трымціць у гэтым Шэршані струнка сугучная — што ні кажы, а ёсць. Перацягне — можа і лопнуць, абарвацца, не без таго, а крануцца яе пальчыкамі, спадзяецца, дазволена... Не пацягне ж ён яе ў сваю гульню: навошта? З яе яму іншая карысць...

Хоць што значыць, іншая? Ведама ж, другога такога кабяля не знайшла б, калі б схацела! Звані, звані, даражэнькі... Ні для палкоўніка Шэршаня, ні для любога з яго малойцаў Лялечкінай няма. Няма і не будзе. У кожнага свае планы. Яна і-дзе гу-ляць! Джынсы, кашулька з настаўленым каўняром, акуляры, каб прыдбаць крыху больш таямнічасці, самая вясёлая сумка... Калі яшчэ валасы па плячах распусціць... Вось так... Не, лепш звязаць іх, упрыгожыўшы шыкоўным сінім у гарохі бантам! Вось так. О'кей! Цяпер сам чорт ёй не брат.

На праспекце ў гэты час, канешне ж, тлумна. Ну ды яна толькі да ракі ім спусціцца, да набярэжнай...

— Добры вечар, Клаўдзя Захараўна! — віхляе Людміла «хвастом» перад носам самай «ідэйнай» з матрон пад'езда, не чакаючы, пакуль тая зглыне перасэлае ў горле здзіўленне і дапне, як зрэагаваць на яе выгляд і вітанне, збягае ўніз: мымра мымраю, а туды ж — у маралісткі пнецца! Мужава цёплае месца ёй с... грэе, а не мараль, а паслухаць... Ну, яе, Лялечкіну, ёй не праглынуць, задушыцца родненькая. Нягледзячы на сваё калгасна-сялянскае паходжанне.

— Добры вечар.

Гэта яшчэ хто? А-а-а, самы цікаўны з цэкоўскіх пеўнікаў! Матлянуўся, як ад фурыі... Правільна, галубок. Трэба радзей трапляць Лялечкінай на вочы, а то яшчэ ўздумае раптам накапаць на цябе — проста так, ад лёгкасці характару, га? Дзе ты тады апынешся? Ні слабыя крылцы, ні адносна моцны яшчэ карэньчык не дапамогуць...

— Прашу, Людміла Пятроўна.

Дзверцы «Волгі», што тармазнула побач зусім нячутна, так, бы каціла ўвесь час за ёю, паслужліва адчынены, голас палкоўніка ні з чым не зблытаеш — нічога не застаецца, як, перасмыкнуўшы плячыма, сесці ў машыну на прапанаванае сядзенне, побач з хмурым, занадта сур'ёзным для такога моманту Шэршанем.

— Ледзьве пазнаў паненку. Куды паедзем?

— Гэта залежыць ад майго выбару, палкоўнік? — яна паварочваецца да яго, наструньваючыся. — Ці так, пытанне на засыпку?

—У Азярын, Лёша, — спакойна кідае ён шафёру.

Яна ажно прыўздымаецца на сядзенні: які Азярын? Ён што? «Ты што?» — ужо хоча спытаць, крыкнуць, адчуваючы, што зашкробся, вяртаецца ранейшы страх, а крык як прыстывае да раптам дрогкіх вуснаў, рука нямее пад цяжарам яго апушчанай на яе рукі. Глядзіць на Шэршаня, на яго суровы профіль — і ні зварухнуцца не можа, ні вачэй адвесці, быццам сам сатана перад ёю: і вабіць, і адштурхвае адначасова.

Спрабуе супакоіцца. Вярнуць пачуццё годнасці, калі не пачуццё гумару: усё ж прааналізавана даўно і не адзін раз, усё сыходзілася на тым, што тая ноч у Полацку згадвалася палкоўніку, як згадвалася ёй, ва ўсёй сваёй жудаснай прывабнасці, калі сіла і прага, захапленне і нянавісць, жорсткасць і пяшчота зліваліся зноў і зноў, змушалі іх упівацца адно ў аднаго, знясільваючы і наталяючы ненасытныя целы. Усё сыходзілася.

— Што такое Азярын, палкоўнік? — спытала яна, ледзь толькі Шэршань крыху адпускае руку. — Я не памятаю мясціны пад такою назваю дзе-небудзь паблізу. Спадзяюся, гэта...

— Гэта не турма. І не месца высылкі для надта цікаўных дам з апарату, — суха адгукаецца ён, і ў гэты час Людміла бачыць, краем вока заўважае ў люстэрку насупраць ледзь улоўную ўсмешку шафёра, нечым падобнага да свайго шэфа.

— І не бардэль для начальства? — змушае сябе зрэагаваць на гэту ўсмешку, адкідваючыся на спінку сядзення.

— Навошта так спяшацца? — сядае зручней і ён. — Яшчэ добрых паўгадзіны ехаць.

— І што ж, мне гэтыя паўгадзіны маўчаць загадаеце? Мучыцца нечаканаю здагадкаю — куды і навошта мяне вязуць? — і маўчаць?

— Ну, чаму ж, — лагаднее Шэршань, хоць па-ранейшаму на яе не пазірае. — Можаш расказаць, як карыстаешся сувяззю з кабінетам свайго шэфа і што цікавага здолела падслухаць за гэты час.

— Ты... Вы... — заліваецца яна жарам. — Адкуль вы ўзялі?

— Што? Адкуль? Гэта не твае пытанні, Людміла Пятроўна, — рэзка павярнуўшыся, пазірае на яе ва ўпор (з задавальненнем, як ёй здаецца). — Гэта мне б трэба пытацца з усёй строгасцю: нашто? з якою мэтаю? Але ў нас яшчэ будзе час пра гэта пагаманіць. Цяпер мяне цікавіць іншае. Гэта... — ён шчоўкае пальцамі, абводзячы ў паветры над ёю колца, — гэта вось чарговы выбрык моды ці спроба канспірацыі?

— Канс... канспі... рацыі? — нечакана, у адказ на перанапружанне апошняй хвіліны, нападае на яе смех: Людміла стрымліваецца, як можа, заціскае рот абедзвюма рукамі і ўсё-такі пачынае смяяцца, гучна і весела. Дальбог, весела! — іскаркі смеху загараюцца нават у вачах палкоўніка. — Няўжо вы не разумееце, што я ні ў якія — ні ў якія! — гульні не гуляю?

— Людзі дзеляцца на тых, хто сам разыгрывае карту, і тых, кім гуляюць.

Смех перасядае ў яе ў горле, і, каб не закашляцца, Людміла некалькі разоў глыбока ўдыхае колкае, далёка не стэрыльнае паветра ў машыне.

— З твайго дазволу я закуру, — апускае ён аконнае шкло, і разам з шумам колаў урываецца вецер, — едзем з хуткасцю, якая яўна перавышае ўсе дазволеныя.

Яна крадком цікуе за яго нервовымі, усё яшчэ нервовымі, рухамі, паступова супакойваючыся, і думае, што, калі ўжо мяняць гаспадара, то на такога, як ён, Шэршань: не спатрэбяцца ні сумненні, ні большыя радасці. Дзе ўжо дзе, а тут праўда на яго баку: яны і сапраўды варты адно аднаго — хоць і рознай пароды, але і тая і тая парода — драпежная. У яго — памкненнем скарыць любога — падагнуць, падкамячыць пад сябе... У яе.. У яе — памкненнем уліцца, урасці, разарваць карэньчыкамі, толькі на першы погляд слабымі, любыя ковы, нават такія моцныя, як Шэршаневы. Што небяспечней?

Канспірацыя... Прыдумаў жа! Да яго, таўстаскурага, старасць прыйдзе толькі тады, калі кроў перабродзіць і пачне астываць, а яе, Лялечкіну, кожная лішняя зморшчына да яе прывязвае: не адкаснуцца, не адгарадзіцца. Тут на любыя выбрыкі пагодзішся, абы выгляд захаваць!

Маўчыць. Курыць. А шафёр не-не ды і цікуе за Людмілаю цераз люстэрка... Дарога, па ўсім відаць, яму добра знаёмая, хоць ужо адвярнулі ўбок ад трасы і ехалі некуды ў кірунку Пцічы, наколькі яна арыентавалася, вось і прыглядваўся да вылаўленае шэфам пташкі. Малады. Самаўпэўнены. Позірк — часам адкрыта цынічны: не на гэткіх, маўляў, дзівіўся... Ну, ды чорт з ім! Даволі з яе і палкоўніка, які занадта старанна іграе сваю ролю: адсунуўся да акна, хмурыцца, жуе, жвакае ў губах цыгарэту, а сам бы, здаецца, аблапіў яе прама тут, у машыне, — ажно паветра іскрыць ад яго магутных токаў. А яшчэ, дурніца, пужацца ўздумала! Такія, як ён, ведаюць, чаго хочуць, і бяруць сваё, не цікавячыся нават, хто дае. Так што яна для яго...

— Адпусціў страх, ці ўсё яшчэ думаеш, што трапіла ў дэтэктыўную гісторыю? — пагасіўшы цыгарэту, крутануўся да Людмілы Шэршань так рэзка, што калена ўперлася ў яе, і яна хацела адсунуцца, але, затрыманая яго паглядам, толькі сцепанула плячыма, — Лёша ў нас мастак на такія гісторыі, але сёння проста даставіць нас куды трэба.

— Я гэта ўжо зразумела,— не адводзіць яна вачэй, хоць па спіне пабеглі мурашкі. — І гэта, і тое, што мае планы папросту нікім не ўлічаны.

— Гледзячы якія планы.

— Хоць бы планы на адпачынак, — танула яна ў бяздонна-сінім яго позірку.

— Гэта будзе.

Зноў — рыкашэтам — водсвет хуткай усмешкі шафёра.

— І прыемная кампанія таксама? —ківае ўбок шафёра так, каб той заўважыў і (ведала, што адкажа Шэршань) хоць такім чынам атрымаў сваё.

— Гэтага не абяцаю, — выціскае з сябе спакутаваную задоўга да з'яўлення ўсмешку палкоўнік, па-свойму зразумеўшы яе пытанне, а падначалены яго зразумеў усё так, як яна хацела: твар яго знікае з люстэрка надоўга.

— Сто гадоў не была за горадам, — не хавае Людміла незразумелага зруху ў душы за ўздыхам, і палкоўнік удзячна прыкрывае яе руку сваёю. Усяго на міг. Але і гэтага імгнення даволі для таго, каб уся яе істота адгукнулася на гэты, амаль што пяшчотны, дотык. — Вось ужо не думала, што менавіта вам, палкоўнік, буду абавязана...

— Мы, можна сказаць, на месцы, — ставіць ён кропку ў гаворцы, і яна змаўкае, моўчкі ўзіраецца ў лес, што імкліва сплывае назад, прапускаючы, упускаючы ў сваё царства машыну: чырвоныя каснікі неба над ім, раздзьмутыя ветрам, то ўзлятаюць, то ападаюць і заблытваюцца ў вершалінах магутных ялін — хутчэй і хутчэй.

«Волга» дае нырца пад адну з такіх ялін, пачынае падскокваць на выбоінах і павыпіраных з зямлі каранях, але, здаецца, хуткасці не змяншае. Паварот, яшчэ адзін паварот — галіны хвошчуць па вокнах, і Людміла міжволі падаецца бліжэй да палкоўніка. Колы грукочуць па драўляным мастку, і з-за алешніку, які густа абляпіў зарослы раўчук, выблісквае вада — азярына. Зачараваная, глядзіць, як імклівa яна набліжаецца, і калі ў самы апошні момант рэзка затармажаная машына, прыткнуўшыся да пясчанага берага, спыняецца, з захапленнем пазірае на шафёра: ліхі хлапец!

Не чакаючы запрашэння, выбіраецца з машыны. Азіраецца. Амаль не здзіўляецца, усяго метраў за сем ад таго месца, дзе яны спыніліся, угледзеўшы дом з прыгожым спічастым дахам. Пачарнелы ад сырасці ганак, даўно не мытыя вокны без адзінае фіранкі, аблупленая сям-там на шалёўцы фарба... Гады два ўжо, як сюды хто наязджаў.

Мужчыны з павыцягванымі сумкамі ўжо шыбавалі да ганка, яе не гукалі, і, карыстаючыся хвілінаю, Людміла ідзе да вады. Чыстая азярына. Невялікая, але чыстая: жбанкі ў затоцы пакалыхваюць свае залатыя кароны... Выкупацца б, ды, пэўна, не давядзецца: не так таму, што купальніка не мае, як таму, што гаспадар усяго гэтага маецца...

— У нядзелю... Недзе ў гэты ж час, Лёша.

— Будзе зроблена, таварыш палкоўнік. Шчасліва заставацца.

— Ідзі, ідзі, — буркае Шэршань, кіруючыся да яе.

Спінаю чуе яго набліжэнне Людміла, але не паварочваецца. Узвывае матор, угрызаюцца ў пясок колы, раскідваючы яго ва ўсе бакі, — і вось ужо машына грукоча па мастку, аддаляючыся, а яна ўсё стаіць над вадою і слухае, слухае яго крокі.

— Ты не магла не ўспамінаць тую ноч, праўда? — рыўком паварочвае Шэршань яе да сябе, — га?

«Я занадта дорага заплаціла за яе», — хоча сказаць яна, каб што-небудзь сказаць у адказ, але ні волі, ні часу ўжо няма. Бераг абрушваецца ў азярыну, вечар, заблытваючыся ў апратцы, руках і якіхсьці бязладных словах, валіцца, коціцца ў траву — і вось ужо рукі шукаюць рук, вусны вуснаў, адна прага не наталяе другой. Бяры, бяры, усё бяры! — кожным рухам, кожным шалёным звівам просіць, патрабуе цела, а дыханне гасне, гасячы свядомасць, і Людміла знікае ў агні, у барвова-чорных яго сполахах, каб праз міг ці праз вечнасць уваскрэснуць, зноў і зноў адгукацца на яго шэпт, на яго маленне: мая! мая! мая!

У адзін міг ёй здаецца, што яна бачыць непадалёку, зусім побач таго, хто прывёз іх сюды, у другі, аслепленай болем, чуецца чыйсьці (ці не свой уласны?) смех, падобны на плач, потым усё зноў зрушваецца, кружыцца, закружваючы адбіткі неба, абпаленага дзікай, нечалавечаю страсцю твару, у якім яна не пазнае твару Шэршаня, хвалі зялёна-рыжай травы і гарачыя хвалі паветра. Нейкім сёмым пачуццём адчувае, што ёй не перамагчы ў гэтай барацьбе, што не з чалавекам яна змагаецца, а з самім сатаною ў яго аблічы, але зноў і зноў не верыць Людміла гэтай падказцы і чапляецца за Шэршаня, аддаючы яму ўсю перастаялую ў чаканні такіх вось хвілін сілу: ён яшчэ не ведае, з кім мае справу! ён палюбіць яе і ў гэтай шалёнай нянавісці дужай, усёпераможнае плоці!

— Па мне кабылка... па мне...

— Лягчэй, лягчэй, родненькі!

— Яшчэ ўсё наперадзе... Ты яшчэ прасіцца ў мяне будзеш!

— Што ты... Што ты хочаш сказаць?

— Вось гэта, рыбачка! Вось гэта!

Усё плыве перад вачыма: яго ашчэраныя ва ўсмешцы зубы, пахіленыя галоўкі рамонку, пацямнелы край неба, чорнае голле сасны поперак... Час не спыняецца — час перацякае ў яе, у яе растузаную плоць, болем перацякае, гарачаю стомаю, стогнам. Яна чуе яго сутаргавыя штуршкі недзе глыбока ўнутры, у самай сярэдзіне, і ніводным рухам не адгукаецца на іх, каб не збудзіць новы прыліў сілы, новы шал жудаснае, смяротнае барацьбы.

Шэршаня побач няма. Людміла не адразу ўсведамляе, што гэта яго фырканне чуе ў плёскаце вады, а ўсвядоміўшы, з цяжкасцю прыўздымаецца з зямлі: купаецца, плёскаецца ў цёмнай, амаль што чорнай ужо азярыне — то адна, то другая рука выблісквае над вадою (калі толькі паспела так звечарэць?).

— Смялей, Людміла Пятроўна! — заўважае, відаць, ён яе рух. — Вадзянікоў у азярыне няма. Калі не лічыць мяне, канешне...

Смяецца. Ён дае нырца і вынырвае пад самым берагам.

— Дапамагчы? Ці сама? Ты ж у нас храбрая!

Яна змушае сябе падняцца і ступіць да вады: не так лёгка яе выпатрашыць, чорт вазьмі! Яна яшчэ пазмагаецца!

Людміла не зважае больш на палкоўніка, спакойна, ад шыі ўніз, колькі дастае рукамі, агладжвае налітае стомаю цела і робіць як мага глыбейшы ўдых, кідаючыся ў ваду. Вынырвае і, не азіраючыся на бераг, ціха, амаль без адзінага ўсплёску плыве некуды ў суцемкі, насустрач ночы. З кожным рухам вяртаецца сіла, дыханне выроўніваецца, глыбее, вяртаючы думкам падмытую, размытую яснасць: хто б ні быў гэты Шэршань — надзелены амаль нечалавечаю сілаю самец ці сам сатана, тут, каля гэтае азярыны, яна ў ягонай уладзе і, калі не будзе разумна, хітра, вонкава скараючыся, супрацьстаяць ёй, страціць і яго, і сябе...

— Не баішся заблытацца ў водарасцях і ператварыцца ў русалку?

— Наперагонкі, палкоўнік?

Не чакаючы адказу, яна паднырвае (нездарма ж гадоў сем займалася плаваннем!) і імкліва адольвае толькі што праплыты прамежак вады. Першаю, не хаваючы радасці і ўзбуджэння, выскоквае на бераг.

— Ну-у, Людміла! Не чакаў. Прама скажу: не чакаў,— атрасаючыся, выбіраецца ён следам.

— І дарэмна, палкоўнік. Цана мая яўна вышэйшая за тую, якую ты раз і назаўсёды для сябе вызначыў, — расцірае пасвяжэлае, нават крыху азяблае цела.— Ручніка няма?

— Навошта, калі можна іначай сагрэцца? — стаіць ён побач, ужо зноўку наструнены, гатовы паваліць яе ў траву.

— Хоп! — апярэджвае Людміла палкоўніка на гэтым апошнім руху, прыпадае да яго, абхапіўшы за шыю, лашчыцца, змушаючы хоць напачатку прыняць сваю пяшчоту, сваю мяккасць.

Змрок не прымае іх целаў, адцяняючы іх белізну, кожны іх гнуткі звіў ва ўладзе новага ўсплёску страсці — і гэта дае ёй мажлівасць, аддаючыся страсці, не страціць духу, не самлець, як толькі што, у жалезных абдымках палкоўніка, і здолець узяць больш, хоць крышачку больш, чым аддае. Па крайняй меры, першыя імгненні...

Дом усярэдзіне аказваецца не такім закінутым і недагледжаным, як Людміле ўяўлялася па прыездзе: усяго ў доме ставала, абстаноўка выдавала нават раскошнаю, чысціня невядома кім падтрымлівалася, пэўна ж, па-

стаянна, бо нідзе, ні ў адным куточку не агледзела яна пылу. Што ж тычыць прывезеных пляшак і прадуктаў, то ўжо ж іх хапіла б, каб наладзіць застолле на добрую кампанію, а так як усёй кампаніі — палкоўнік ды яна, была б на тое яе воля, ужо ж два адпушчаныя ёй дні расцягнула б на два тыдні. А што? Яшчэ невядома, хто каго выкарыстае!

— Выпіць не хочаш?

— Дык жа і так ад тваёй блізкасці п'яная, — хінецца Людміла да ягонага пляча.

— Ужо не думаеш, што з сатаною лёс звёў, га? — не атрымліваецца ў яго ўсміхнуцца.

— А хоць бы і з сатаною! — смяецца яна. — Усе мы — толькі да пояса людзі, прызнаём гэта ці не прызнаём.

— Да пояса, кажаш? Га-га-га! Дык жа факт! Толькі адны — вышэй пояса, другія — ніжэй...

Шэршань рагоча, а яна глядзіць не на яго расчырванелы ад выпітага каньяку і ад таго, здаецца, падабрэлы твар, а на руку, што, адставіўшы пусты келіх, дрогка, драпежна набліжаецца да яе, да крыса захінутае на грудзях кашулі. Ёй трэба апярэдзіць яе — уткнуцца ў далонь тварам, гарачымі вуснамі, прыўзняўшыся, ссунуцца з крэсла, прыпасці, прытуліцца да палкоўніка, здзіўленага ў гэты першы момант ад такой праявы пачуцця, пяшчоты, жадання, а потым...

— Хто з нас дваіх сатана, га?

— Ты, родненькі. Канешне, ты.

— Дурніца! Ведаеш, чаго я прывёз цябе сюды? — выдыхае Шэршань ёй у твар і незадаволена круціць галавою, калі Людміла, абдымаючы яго за шыю, цалуе, раз і другі раз. — Ведаеш ці не?

— Табе што — кепска са мною вось так? Кепска? — шэпча, цалуючы яго зноў і зноў.

— А-а-а, чорт! — стогне палкоўнік, гэты раз унікаючы ад гаворкі, і яна ўсміхаецца ў душы, амаль што пераможна ўсміхаецца...

Усміхаецца і цяпер, у машыне, аналізуючы зусім неспадзяваны свой уік-энд, праведзены ў муках і радасцях: не перамагла, так, але ж і не зламана. І не так гэта мала, калі ведаць палкоўніка, пабываўшы ў яго ў руках, — да большага Людміла не імкнулася.

Маўчыць. Курыць. Задумаўся... А што тут думаць? Не выйшла двайная гульня. Не атрымалася. Дык жа і не магла атрымацца: не той выпадак, як кажуць. Ні кар'ера не цікавіць, ні вышыня ідэйных прынцыпаў не прываблівае... Грошы? Грошы можна зарабіць і чысцейшыя!

— Не шкадуеш, што падпісала дакумент аб супрацоўніцтве? — ціха, але з металічнымі ноткамі ў голасе, пытае Шэршань, яўна разлічваючы на тое, што яна разгубіцца ад нечаканасці пытання.

— Аб супрацоўніцтве? — усміхаецца Людміла самаю лагоднаю са сваіх усмешак, краем вока заўважыўшы, як наструніўся шафёр. — Усяго толькі аб супрацоўніцтве?

— Ты што, не памятаеш? — нервова пакусвае цыгарэту Шэршань, спадылба назіраючы за ёю, за яе рэакцыяй у вадзіцельскім люстэрку (няйначай для вадзіцеля і пытанне ставілася).

— Ну-у, я не здзівілася б, калі б пачула, што нават абвянчана за гэтыя два дні... Упершыню ў жыцці сваім, заўважце, палкоўнік! Так што...

— Так што?! — хмурнее ён на вачах.

— Так што гуляць краплёнымі картамі не абавязкова... — прыглушае яна голас. — Партыю і КДБ заўсёды ядналі агульныя прынцыпы і імёны тых, хто пад імі падпісваўся...

— З агнём гуляеш, Людміла Пятроўна.

— Гэта трэба разумець так, што я ўсё-такі ні з кім не абвянчана? — пяшчотна кранаецца пальцамі ягонае ўціснутай у сядзенне рукі Людміла. — Шкада. А вы так нервуецеся, палкоўнік, быццам і вам...

— Хопіць! — усё-такі зрываецца ён на крык, і ёй становіцца яго сапраўды шкада: дурань... Толькі ў абдымках жанчыны і становіцца чалавекам, а туды ж!

— Прашу прабачыць, — прыкрывае яна вейкамі вочы, каб не бачыць яго расчырванелага, злоснага твару, і нейкі час у машыне чуваць толькі шоргат колаў і пасвістванне ветру. — Я ўсё памятаю, Анатоль Сямёнавіч. Я ніколі не забуду гэтых двух дзён.

Палкоўнік, да якога, дарэчы, яна ўпершыню звяртаецца па імені, не адказвае: мо злітасціўіўся, мо затаіўся ў сваёй злосці, і, каб не сачыць за люстэркам (нечым яно ўвесь час прыцягвае яе), Людміла сочыць за дарогаю, за першымі гарадскімі краявідамі, што паплылі паўз вокны.

— Можа, высадзіце мяне там, дзе ўзялі: у хаце — ні хлеба, ні малака... — шукае пальцамі руку палкоўніка і, знайшоўшы, мякка, пяшчотна цярэбіць яе, развітваючыся.

— Канешне, канешне, — адгукаецца ён і не адсоўвае рукі, і яна, адчуўшы, як знаёма, напружана тая ўздрыгвае, зноў ціха сама сабе ўсміхаецца.

— Каля прадуктовага спыніць? — падае голас шафёр.

— Ага, дзякуй,— усё яшчэ чапляецца Людміла за руку палкоўніка. — Не памінайце, як кажуць, ліхам.

Ужо выбраўшыся з машыны, не зачыняе дзверцаў. На міг схіляецца да Лёшы-шафёра і, па-змоўніцку падміргнуўшы, ціха, але так, каб чуў і Шэршань, ледзь не ў вуха яму прамаўляе:

— Не ведаю, як палкоўнік, а я шчыра ўзрадуюся, калі вы падорыце мне адзін з вашых эратычных здымкаў. На памяць.

Са стукам прычыняе дзверцы. Ловіць здзіўлены, адразу пацямнелы позірк Шэршаня і сумна ківае яму. Міг, другі — і «Волга» знікае ў імклівай чарадзе машын, а яна міжволі абмацвае сябе: цэлая? нідзе не падсмалілася?

Вакол віруе звычайнае для летняга вечара жыццё: купкамі, пад гучны смех ці пабрынкванне гітары ў чыіхсьці не вельмі ўмелых руках, таўкуцца на пятачку перад скверам падшыванцы, далей, там, дзе паблісквае нядаўна вымытым асфальтам сквер, шчыльна адна да аднае сядзяць на лавачках старыя — і гаворка іх ціха тлее, і позіркі звыкла шукаюць у спляценнях ліпавага голля і правадоў над галавою хоць краёк неба, няхай сабе і гарадскога, цьмянага, але неба. Каля крамы насупраць пахіствaецца, бурна высвятляючы адносіны, тройца аматараў піва, і жанкі, заходзячы ў краму ці выходзячы з яе, міжволі азіраюцца на іх — хто з абурэннем, хто звыкла абыякава. Горда, быццам выхваляючыся, ідзе ўскрай тратуара гаспадар прыгожай чорна-срэбнай нямецкай аўчаркі, хоць пагляды прыцягвае, канешне ж, не ён, а яго пародзістая, рэдкае прыгажосці сука.

Паблізу ад жылога пад'езда пасвяць прыгожыя імпартныя каляскі юныя маці ў спадніцах-штоніках... І ўсё гэта на фоне шумнага і ў гэты час забітага машынамі ўсіх марак і калібраў праспекта!

Людміла ўзіраецца ў кожны твар, у пыльныя галінкі ліп, у вітрыны, што, люструючы, паўтараюць усё ўбачанае і ўлоўленае іх аграмаднымі

шклінамі, і без прычыны, па-дурному радуецца. І няўпэўненым у сабе, а таму агрэсіўным падлеткам радуецца, і старым з выцвілымі, празрыстымі да самага донца вачыма, і дзяўчынкам-маці каля іхніх калясак. Нават на заведамых алкашоў, абмінаючы іх, зіркае без насцярогі. Гэта — жыццё. Усё гэта і ёсць жыццё, якім бы — вабным або непрывабным — яно ў розныя моманты ні здавалася. Людзі, у большасці сваёй, — сволачы, ну і што? У кожнага свая на тое прычына, над кожным свой брудны лахман неба: хоча — укрываецца, хоча — уціраецца...

— Добры вечар! Я заходзіла да вас, Люсі...

— І каго вы там знайшлі, Галена Феакцістаўна? — замест прывітання злёгку, на міг, прыабдымае яна старую за плечы.

— Я... Я не разумею вашага пытання... — мармыча тая, няйначай зляканая такім вольным абыходжаннем, а Людміла ўсміхаецца на ўсе зубы і рашуча кіруецца ў пад'езд. — Вас не было гэтыя дні дома, Люсі?

— Ездзіла да сяброў, Галена Феакцістаўна, — адгукаецца ўжо з дзвярэй. — Прабачце, стомленая і пыльная... З дарогі...

Цяпер, напэўна, будзе цэлы вечар разважаць, гадаючы, што ды дзе, ды як, а раскажы яна ёй, дзе, з кім і як бавіла гэтыя дні, — спруцянела б ад абурэння: як? над вамі чынілі гэткі гвалт і здзек, Люсі, а вы ўсміхаецеся? я не разумею...

Яна і сама, чорт вазьмі, не ўсё разумела, а вось жа ўсміхаецца. Радуецца невядома чаму.

Хоць, напэўна, толькі хітравала Людміла сама з сабою, засланяючыся гэтым «невядома чаму». Адсцябаўшыся моцным струменем душа, абвалілася на ложак амаль непрытомнаю: і час і прастора перасталі існаваць. Надоўга. Цэлая вечнасць, здаецца, мінае... Калі Людміла прачынаецца і расплюшчвае вочы, у спальні ўжо цёмна. Ноч не ноч — ні промніка святла! Цёмная, шэрая маса паветра, яшчэ цямнейшыя, амаль што чорныя хісткія сцены вакол, якія то рассоўваюцца, разрэджваючы яго, то зноў сыходзяцца, сціскаюць змрок, так, што ні ўдыхнуць, ні выдыхнуць — і кудысьці знікае акно, якое заўжды вымалёўвалася, вырывалася з ночы, і рука, шукаючы, намацваючы там, дзе яна звычайна стаяла, лямпу, натыкаецца на пустату, халодную і ліпкую, і думка, разгубленая ад нязвыкласці ўтворанага змрокам вакууму, марна бароніць свядомасць, даводзячы, што гэта не сон, што гэта ноч такая выдалася... Якая — такая? Да дна, да споду размытая шэранню? Раптоўна згаслая да апошняе, самай малой сваёй іскаркі? Аглухлая — аглушаная нечаканым прабуджэннем?

— Жыццю не патрэбны сведкі. І ты, якая так доўга пазбягала апынуцца сярод сапраўдных ігракоў...

— Павучы, павучы, — агрызаецца ў цемру .— Хто ты такая сама?

Цемра маўчыць, быццам пакрыўдзілася на тое, што яна перапыніла яе павучанні, і Людміла, усё яшчэ марна шукаючы тумбачку, лямпу на ёй, пачынае злаваць і на яе, і на сябе. Падумаеш, загадка: святло не ўключаецца! Цьфу ты, Божа мой, ды трэба проста падняцца і прайсці да дзвярэй, да выключальніка.

— Не баішся?

— Яшчэ чаго! — фыркае Людміла, злазячы з ложка. — У сваёй хаце! Ты хто такая, каб непакоіцца?

— Я? Лялечкіна. Людміла Пятроўна.

Наткнуўшыся на прагучалы адказ, яна ледзьве не падае.

— Хто-хто?!

— Лялечкіна Людміла Пятроўна. Хіба не пачула?

— Дык жа...— гнеў (гэта ж трэба — такое самазванства!) надае ёй рашучасці, і Людміла не пераходзіць, перабягае пакой у напрамку дзвярэй, якія не адразу, але ўсё-такі знаходзіць, намацаўшы побач і выключальнік. Пстрыкае ім. Раз. Другі раз. Трэці. Святло не загараецца.— Цьфу ты, Божа мой! Дык што ж гэта такое?

— Не варта так мітусіцца, — супакойвае нябачная госця, і цяпер ужо нават голас нагадвае яе ўласны. — Ці часта табе даводзілася пагаманіць з самой сабою, га? А тут такая нагода...

— Ты хочаш сказаць, што ты — маё адлюстраванне? — спрабуе яна ўзяць сябе ў рукі, сціскаючы скроні, і лёгенька, у такт пульсу, пахітваючыся.

— Я — тваё сумленне.

— Стоп, стоп, стоп! — рашуча кіруецца Людміла ў той бок, адкуль ідзе голас, і не адразу заўважае, што цёмны абрыс сцяны адсоўваецца, адступае. — Сумленне — рэч абстрактная, а ты даволі прыстойна пераймаеш і мой голас, і маю манеру гаварыць.

— Ты лепш пад ногі глядзі. А то падставіць чорт падножку...

— Ага. У цемры, калі нават выпрастанае рукі не ўгледзіш, — бурчыць Людміла, а сама, упэўненая, што ўбачыць гэткую ж шчыльную шэрань, што і вакол, зіркае ўніз і ад нечаканасці ўскрыквае: пад нагамі — бяздонне. Бяздонне зорнага неба, якое павінна быць уверсе, над галавою, дзе змрок і шэрань. Сплю я, ці што?

— Ідзі і глядзі. Глядзі і слухай, — загадвае голас, і ніводнае ноткі сумнення не чуе яна ў ім. — Ты не выканала наканаванае табе. Ты растаптала ў сабе жанчыну, тым самым парушыўшы не толькі зямны, але і касмічны закон.

— Але ж я...

— Не з Богам, а з д'яблам у душы жывеш, брудным нашэптваннем ягоным верачы. Таму ні граху, ні распусты не баішся: яны як кароста на табе... А даўгоў нясплочаных не бывае, Людміла Пятроўна. Чым плаціць збіраешся? Думала? Звыклаю пагардаю? Сведчаннямі супраць самой сябе? Распусным целам? Стогнамі раскаяння?

— Я пастаўлена ў такія ўмовы, — спрабуе яна бараніцца.

— Бог не карае, але можа адвярнуцца, — не чуе яна моўленых слоў. — І тады нішто, нішто не ўратуе нас. Няўжо гэта так цяжка ўразумець?

— Ды які Бог? Адкуль яму, Богу, узяцца на спаскуджанай, атручанай зямлі? — у раздражненні не заўважае Людміла святатацтва сваіх слоў. — Ці мо прапануеш святым духам жыць, да пераходу ў іншы свет рыхтуючыся? Мне не патрэбен іншы свет, чуеш? Я жыць хачу — жыць так, як атрымліваецца! У гэтым паскудным часе! Гэтым грэшным целам! Што ў мяне калі было апроч? Што ў мяне ёсць апроч гэтага?

Цемра не адказвае. Цемра згушчаецца — так, што зацягвае і зорнае бяздонне пад нагамі, — і маўчыць. І раздражненне Людмілы выплёскваецца ў гэта яе маўчанне балючымі, незваротна згубнымі словамі:

— Пра душу яна, бачыце, успомніла! Ды навошта і ўдыхаць было ў мяне гэту несмяротную душу, як у яе кожны плюнуць можа? Можа — і плюе! Змалку плюе, не перад ёю, а перад целам, перад гэтым гнюсным, ненасытным целам, калі не адштурхоўвае яно сваім убоствам, ад жывёльнае страсці млеючы! Чаму ж ён, Бог, падобнае дапускае? Чаму скрозь адварочваецца ад мяне, жанчыны, ледзь толькі некаму з двухногіх спатрэбіцца маё мяккае ўлонне? Ду-ша... Нікому — чуеш? — нікому, ніводна-

му чалавеку не спатрэбілася ніколі мая душа! Нават сатана не ёю, а чым саладзейшым скрозь імкнецца пажывіцца, што да сыноў Божых... Ненавіджу! Зненавідзела ўсё ў гэтым жыцці акаянным. Адно спомсціць яму засталося — і я спомшчу! Няхай захлынуся сваёю нянавісцю, але і сяготаго спапялю ёю, чуеш? Я не хачу, не хачу застацца ў дурнях... Перш мяне падманулі, мяне!

Гасячы крык, успыхвае яркае святло, і Людміла, аслепленая, на колькі доўгіх, бясконцых імгненняў скамянелая ў яго ззянні, сутаргава спрабуе зглынуць пераселыя ў горле злосныя словы і не можа. Адчувае, як расце, працінаючы яе наскрозь, боль, як балюча, раздзіраючы горла, праціскваецца ў сцятыя лёгкія паветра, каб вярнуць, аднавіць дыханне, і не можа ні зварухнуцца, ні ўздыхнуць, вызваляючыся.

Калі боль крыху адпускае і яна разлеплівае набрынялыя каменным цяжарам павекі, — сустракаецца паглядам з пажылою жанчынаю. Не адразу ўцямлівае, што гэта жанчына — яе (яе!) адлюстраванне ў вялізным люстэрку, перад якім стаіць: слёзы цякуць у яе па пацямнелым твары, пакідаючы скрозь баразёнкі зморшчын, спярша ледзьве прыкметных, неглыбокіх, пасля...

— Божа мой, — праводзіць далонню па мокрых шчоках, разумеючы, нарэшце разумеючы, што гэта яна, яна плача, старэючы проста на вачах.— Божа мой!

— Жыццё не проста нагадвае гульню, яно — гульня, — чуе ёю ж сказаныя некалі словы. — Гульня ў падкіднога. Памятаеш? Той, хто прайграе, застаецца ў дурнях... Справядліва.

— Справядліва? — кідаецца яна на люстэрка з кулакамі, разбіваючы ў кроў сцятыя пальцы, малоціць па шкле, ужо не зважаючы на тое, што ці яно, шкло, ці яе заліты слязьмі твар пакрываецца ўсё больш глыбокімі цёмнымі зморшчынамі. — Справядліва?!

## Частка трэцяя

# Кропка

Няўжо так заканчваюцца эпохі — вокамгненным распадам? Няўжо ідэалы каштуюць так мізэрна мала, што і выгоды не ўгледзець ні для каго, апроч тых, хто, шчодра ўжываючы фарбы з баявой расфарбоўкі, здавалася, даўно зжытага нацыяналізму, урэшце занялі месцы ў высокіх кабінетах? Ці надоўга? — іншае пытанне... Але вось жа спраўдзіў сёй-той з агалцелых свае спадзеўкі — і ніводная з адпаведных службаў не спрацавала: зіркаюць на яго спадылба пры стрэчы і, не ведаючы, як сябе паводзіць, хуценька шмыгаюць паўз былога кіроўцу — абы прэч з вачэй. Годнасць, гонар афіцэра, вернасць дадзенай прысязе... Куды ўсё дзелася, ледзь толькі апазіцыйная шантрапа ўскаламуціла Вярхоўны Савет?

Пэўна ж, не ўадначассе страчана камуністамі ўлада на ўсім прасцягу Савецкага Саюза: і прычыны, і памылкі генсекаў апошніх дзесяцігоддзяў Паўлюк заўважаў не сённяшнім днём — дзе мог, спрабаваў уклініцца з перасцярогаю ці прыхаванаю парадай. Ды хто калі надаваў значэнне нечым перасцярогам? Хто з тых, што ўскараскаліся крыху вышэй, прыслухоўваўся да парадаў партыйцаў? Як не пан, то панскі лёкай...

Параўнанне здалося крыўдным: лёкаем сябе Паўлюк ніколі не дазваляў лічыць — ніколі і нікому. І характар не той, і інтэлект... Падпарад-

коўвацца партыйнай дысцыпліне гэтаксама можна па-рознаму. Прыняўшы распараджэнне, распарадзіцца па-свойму, да прыкладу. З большай карысцю для справы. А то і на рашэнне паўплываць яшчэ да таго, як яно выносілася, падключыўшы да распрацоўкі тэксту не толькі лепшыя мазгі ў ідэалагічнай сферы, але і ўласнае разуменне сітуацыі: часта ад аднаго слова шмат што залежала, а Паўлюк цану дакладнага слова ведаў. Была б яго воля...

Працягваць нават у думках не стаў: і позна, і злосць чарговы раз захліснула. «Слімакі! Ідыёты! Сукі прадажныя! Ніводзін пра дзяржаву не падумаў, да ўлады прадзіраючыся, а зграі шакалаў, што даўно ўжо з усіх бакоў уздоўж граніц блукалі, не прамарудзілі — тут жа накінуліся на лёгкую спажыву! І не ад іх жа задніц, а ад народнага цела кус за кусам аддзіраюць...»

— Пайшоў прэч! — лёгка адхінуў рухам пляча кагосьці з новаяўленых гаспадароў будынка ЦК, нават не зірнуўшы на яго, — і той не асмеліўся запярэчыць. Нягучна мацюкнуўся, але і кроку ўслед не зрабіў: хто не ведаў Паўлюка! — і сілы, і рашучасці хопіць, каб каго заўгодна па сцяне расплюшчыць, а тут і без працы застаўся, і без партыі...

У цэкоўскія калідоры, якія і раней пужалі велічнай прамалінейнасцю і пужлівай цішынёю, цяпер, пасля таго, як ва ўсіх памяшканнях пагаспадарылі розныя ахламоны з дэпутацкімі значкамі, дадаліся жудасныя сляды хаосу. То тут, то там. То ў пакоях, дзе проста на падлозе валяліся раскіданыя, нікому не патрэбныя ўжо паперы. То проста па ходу, калі позірк натыкаўся на перакінутае крэсла (як яно туды патрапіла?), на пустую папку, адфутболеную кімсьці да сцяны, ці скамечаную газету. Нібыта і не пераламана, неператрушчана ўсё і часу няшмат мінула, а дух запусцення адчуваўся, і думаў пра гэта Паўлюк не так з горыччу, як з абурэннем: столькі год гэты гмах на цэнтральным узгорку сталіцы быў яму домам (больш, чым домам!), а тут раптам «гаспадары» з'явіліся... і на яго жыццё, і на гістарычны шлях рэспублікі замахнуліся...

«Была б мая воля...» — мільганула шкадаванне, і Паўлюк да болю сцяў пальцы ў кулакі, каб утрымаць рык, які рваўся з грудзей. Здавалася, калі б трапіўся хто на шляху ў гэты міг, не разважаючы, умазаў бы яго ў сцяну. Але калідор на ўсім працягу выглядаў пустым, пакінуты усімі, нават ахоўнікамі, і ён толькі бязгучна вылаяўся: і сілы не давялося прымяняць — аднаго страху напужаліся, збегшы і зашыўшыся хто куды! І чакаць доўга, па ўсім відаць, не давядзецца, каб сёй-той з паплечнікаў з цягам часу сярод здрадцаў не з'явіўся!

Абурэнне паціху саступала тупой злосці, якая і дагэтуль цяжка варочалася ў душы, трушчачы і споміны, і спадзеўкі.Ператрушчыць усё да рэшты — і абернецца абыякавасцю. На пэўны час. Ці да канца жыцця. Ад Паўлюка больш нічога не залежала, і з гэтым давядзецца змірыцца, каб не накласці на сябе рукі, — тут ён не памыляўся. І хоць загадзя нічога не пралічваў, у высновах ад ісціны быў недалёка.

Выплыла з памяці зусім нядаўняя нарада ў Першага. Апошняя. З нагоды абвастрэння палітычнай абстаноўкі, як прагучала ў адказ на маўклівае недаўменне Паўлюка, і пытанне: «Хіба ўжо не ў нашым падпарадкаванні армія, КДБ, міліцыя?» — давялося запіхваць сабе ў глотку нявыказаным. Як, дарэчы, і ўсе астатнія пытанні і меркаванні. Нікога яго меркаванні больш не цікавілі, і гнюснейшай абразы за ўсю сваю кар'еру Паўлюк не перажываў. Так, называлі яго не толькі за гэтымі сценамі «цэ-

коўскім цэрберам», але ж таму і называлі, што ведалі пра яго непадкупнасць і баяліся. Баяліся больш, чым Першага, і той гэта ведаў.

— Не трэба браць на сябе адказнасць за ўсё і ўсіх, — цвёрда прамаўляў Іван Кузьміч, пазіраючы на Паўлюка, які, адзіны з прысутных, увесь час імкнуўся запярэчыць (нават прыўставаў час ад часу і, асаджаны валявым позіркам, зноў ёрзаў на крэсле). — Час не той, каб даваць волю пачуццям: ні прыгожымі жэстамі, ні абуранымі словамі сітуацыю не ўтрымаць. Ды і сілы яшчэ спатрэбяцца...

Ніхто не тое што не зрэагаваў — галавы не падняў, і толькі Паўлюк пераводзіў позірк з аднаго твару на другі, душачыся нявыказаным абурэннем.

— Мажліва, і нельга было далей трымаць дзверы на замку, але і адчыняць іх наросхліст, падпусціўшы ваўкоў да самага парога, неабачліва...

«Якія дзверы? Чые ваўкі? Што ён вярзе?» — тужліва свідраваў яго паглядам Паўлюк, не дужа ўслухоўваючыся — слухаючы сябе, сваю нязгоду з усім, што адбывалася.

— Каго і як асудзіць гісторыя за страту яснасці мэты, — працягваў Першы, адвёўшы позірк і ўглядваючыся ў шэрань за акном. — Не сённяшнім днём прадказваць. А тое, што асудзіць, ясна. Тое, што заплаціць кожны, не выклікае сумнення. Ды не наш гэта клопат. Не наш! — як бы хто з вас ні адплёўваўся ад рэальнасці, яна, гэта рэальнасць, сёння выцясняе нас з авансцэны. На год? на пяць? на пяцьдзесят? — хто скажа!

Паўлюк зноў тузануўся, але, утрыманы штуршком Ковача, які, незаўважна для астатніх, таўхануў яго ў бок, толькі зірнуў на нязвыкла спахмурнелага гаспадара кабінета спадылба і аціх. Быццам нарэшце супакоіўся.

— Не думаю, каб хто з прысутных, — абвёў Першы ўсіх позіркам, на колькі імгненняў затрымліваючы ўвагу на кожным твары, — кінуўся напярэймы новым павевам. І ўсё ж, мяркую, у хуткім часе стану сведкам таго, як сёй-той, уцяміўшы, што небяспекі больш няма, кінецца на амбразуру, з якой ужо не страляюць. Яшчэ і кашулю на грудзях рване: глядзіце, маўляў... Не пра іх гаворка. Іх мізансцэна яшчэ наперадзе, ваша... Вам я скажу: лепшае на сёння — няўдзел. Няўдзел у тым, што адбываецца, — і спакойны выбар пазіцыі. Кожны ў гэтым выбары вольны, і я спадзяюся, што змагу пацiснуць руку любому з вас і заўтра, і праз гады. Мы самі дазволілі ўчыніць гвалт над тым, што лічылі і лічым святым, — самі павінны і выправіць становішча. У хуткім часе ці праз дзесяцігоддзі.

«Самі! Самі! Ды хто — самі?!» — злосна адфутболіў нагой папку з дывановай дарожкі Паўлюк, і калі з яе пасыпаліся паперчыны, міжволі спыніўся. Спыніўшыся ж, нахіліўся і падняў колькі з аркушаў. Гэта аказаліся лісты грамадзян на адрас ЦК з яго, Паўлюковымі, рэзалюцыямі: «Адмовіць...», «Накіраваць у райкам...», «Пацікавіцца аўтарам скаргі...», «Перадаць у КДБ...»

Мінуту-другую ён тупа пазіраў на паперчыны, на свой подпіс, потым неяк няўцямна пачаў скручваць з іх самалёцікі. Скручваць — і пускаць уздоўж пустога калідора. Адзін... другі... трэці... Калі цішыню ўскалыхнуў раптоўны смех, не адразу ўцяміў, што гэта ён і смяецца. Сам... У нязвыкла пустым, аглухлым да ўсяго будынку ЦК.

Смех быццам падштурхнуў яго, змушаючы пакінуць гэты калідор, гэты будынак як мага хутчэй, але калі Паўлюк прыспешыў крокі, а потым подбегам кінуўся прэч, калідор раптам пачаў расцягвацца, доўжыцца хто ведае куды, паступова звужаючыся і змрачнеючы. Не-не пагляд Паўлюка выхопліваў з мігатлівага паўзмроку то адзін, то другі сколак сцяны, якія

тут жа пачыналі падцякаць, сцякаць пад ногі пацёкамі нечыіх твараў ці партрэтаў, — і ў душы ўпершыню азваўся страх. «Што адбываецца?! Куды я патрапіў?!»

Думка гнала далей і далей, і Валерый Юр’евіч марна спрабаваў прытармазіць як не рух сцяны, то хоць свой уласны бег: стваралася ўражанне, што ён увогуле страчваў усякую апору пад нагамі і тузаўся ў паветры як навязаны.

— Куды, халера на яго, я патрапіў?! — зароў, як бык.

— Валера! Валера! — тузала яго жонка за плячо. — Табе нядобра?

Лыпнуў вачыма. Прыўзняў галаву. Вяла, адчуўшы неймаверную палёгку, зноў распластаўся на пасцелі, раскінуўшы рукі.

— І прысніцца ж такое!

Ковач патрапіў у Вярхоўны Савет новага склікання па разнарадцы — пры падтрымцы былых апаратчыкаў Міншчыны, і не сказаць, каб дужа радаваўся: у тым, што пагроза распада Савецкага Саюза ўзрастала, ніхто не сумняваўся, і як ён, Ковач, разумеў, супрацьпаставіць гэтай пагрозе, па сутнасці, не было чаго. Рэферэндум? Думка народа? Ды калі нават прызнаць як факт тое, што народы, даўно адвыклыя самастойна думаць, выкажуцца адназначна — за захаванне краіны, хто стане на гэта зважаць? Хто калі, паставіўшы на мэце звергнуць існуючы парадак, зважаў на народ? Знаходзіліся ўмельцы скарыстаць яго волю — скарыстоўвалі, і пакуль народ карміўся спадзеўкамі і абяцанкамі, ні на што не зважалі і ні за што ўсур’ёз не адказвалі. Хоць яны, партыйцы, раней, хоць новаспечаныя дэпутаты цяпер. І тады і цяпер мэта — не жыццё народа, а ўзвышэнне над народам. А ўжо ў ролі правадыра, лідэра або гаспадара — значэння не мела. Не мела, і не будзе мець. І адна халера — тыя адозвы, гэтыя... хто быў нікім, нікім і заставаўся. Адны пупы надрывалі, другія мазгі прапівалі, трэція...

Ат! — паспрабаваў адмахнуцца ад думак Ковач. Трэція, як ён, няйначай: не выслужваліся, а служылі. Абавязку. Партыі. Радзіме! Калі будуць змушаны служыць за грошы, тут ужо як хто... І, гледзячы, за якія грошы... На душы ўсё роўна было гнусна, і на некаторых дужа заўзятых знаёмцаў вочы не глядзелі б: прапаноўвалі сябе шпане, што раптам выбілася ў акружэнне лідэра, без ценю сораму за прадажнасць і духоўную нікчэмнасць.

«Пакорнае цялятка дзве маткі ссе, а гордае — ніводную...» — сказаў неяк, як папікнуў яго, адзін з заўзятых, і Ковач толькі сплюнуў у адказ. Не нагадваць жа, што і дзве маткі ссе, а пад нож мясніка першым пойдзе. Як зазвычай, з пакорнасці. Ледзь толькі з мяснікам час вызначыцца. Тут. Ці, хутчэй, у Маскве, якая свайго і тут не ўпусціць. Калі ўжо свой народ на глумленне аддае, то што на іншых азірацца? Перабудова! Не нейкі там рамонт, хоць і капітальны, а ўсё — «кідрэні фені!» Усё — на сметнік гісторыі! Усё — дзеля новай Расіі, вольнай і багатай!

— Жыве Беларусь! — раўнуў з-за трыбуны тутэйшы трыбун савецкай закваскі, ускінуўшы руку, і на гучны водгук часткі дэпутатаў: «Жыве!» — Ковач смачна сплюнуў.

— Прадпрыемствы спыняюцца, грашовая сістэма ляснулася, усё — па талонах і ўсё ў дэфіцыце, а гэным хоць бы што! Сцяг рэспублікі кінулі пад ногі натоўпу, чужы герб на бел-чырвона-белым палотнішчы намалявалі — і чакаюць, што ашчаслiўлены народ белага каня для новага гаспа-

дара падвядзе...» — буркнуў сусед па лаўцы, і Ковач, не павярнуўшы галавы, адно кіўнуў у адказ.

Увагу яго прывабіла постаць старшыні, што кіраваўся да трыбуны: невялікі ростам, кругленькі, з вялікай круглай плешынай цераз усю галаву, падкрэсленай рэдкімі шматкамі валасоў за вушамі, у акулярах з круглымі шкельцамі, у няўдала сшытым і добра заношаным ужо касцюме, які выглядаў неахайна і тапырыўся з усіх бакоў, Шутаў выдаваў не кіраўніком і нават не вучоным з сякім-такім багажом, а камедыянтам. Шутом-самавукам! — у якога і парык не адпаведны месцу, і нос кепска прыклеены, і апаратка зусім не належная...

Вызначэнне спадабалася. Ковач нават пасміхнуўся, з дапамогаю ўяўлення насунуўшы на вялікую круглую плешыну таго скамарошую шапку са званочкамі: пустазвон і ёсць пустазвон! Зноў — у чарговы раз — будзе камуністычную ўладу бэсціць, зноў пра волю для паднявольнага народа гугніць, журналістаў пацяшаць байкамі пра батоны, якія хоць і не растуць на таполях, але ўсё роўна там з'явяцца, паначапляныя шчодрымі спонсарамі з Захаду радасці дзеля... Чыёй радасці, пытацца марна. Усё роўна ў адказ прагучала б: галоўнае — незалежнасць, бо калі і запатрабуе хто некалі плату за прывезеныя батоны, то не ў іх, сённяшніх, а ў наступнікаў, так што...

Ні за галоўнага шута Рады, ні за сябе дадумваць Ковач не стаў: злосць (ці млосць?) падступала, правакуючы на гучны пратэст. І нельга было сарвацца. Нельга было дэманстратыўна пакінуць залу. Час яшчэ цярпеў. І ад яго, Ковача, патрабавалася іншае — аналіз абставінаў, паводзінаў людзей, вядомых у палітыцы і новых, каб у выпадку чаго прапанаваць сваё бачанне, і вызначыцца з далейшым курсам. Сваім, і не толькі...

Адкінуўшыся на спінку крэсла, разглядваў тую частку залы, якая адкрывалася пагляду без дадатковых намаганняў і павароту галавы. Хмура, без ценю ўсмешкі ці хоць бы вонкавай зацікаўленасці, пераводзіў пагляд з постаці на постаць, і хоць з ягонага краю бачыліся яны, у лепшым выпадку, у профіль, а часцей — са спіны, пазнаваліся лёгка. Асобна, купкаю сядзелі тыя, што, хоць і без ранейшай гордасці, а то і няўпэўнена называлі сябе камуністамі, не выказваючы нават тут, у дэпутацкім асяродку, ні сябе, ні сваіх перакананняў. За імі, з другога краю авальнае залы, тоўпіліся (інакш не скажаш, бо тыя, хто сядзеў вышэй, раз-пораз нахіляліся да пярэдніх, бліжэй да свайго лідэра) «зянонаўцы», і назіраць за іх броўнаўскім рухам было крыху цікавей: бунтоўны дух іх і пасля перамогі на выбарах не выветрыўся — няйначай, рыхтаваліся да новых, больш значных, перамог.

Думка чамусьці не зачапіла Ковача: прыгледзеўся ўжо, ці што? А пагляд не выпускаў з поля зроку купку «зянонаўцаў» і, відаць, успрымаўся тымі цяжкім і гнятлівым, бо не-не і азіраўся хтосьці ў яго бок. Ці то недаўменна, ці то запытальна. І тады вусны Ковача ледзь заўважна крывіліся, а пагляд станавіўся яшчэ цяжэйшым і як наліпаў да плешыны іх лідэра — пласт за пластом, бязгучны папрок за папрокам. Хто ён такі, каб баламуціць не толькі Вярхоўны Савет, а і сталічны люд? Хто стаяў і стаіць за ім, жывячы бунтоўны дух яго? Ордэн езуітаў, след якога прасочваўся і на Берасцейшчыне? Хтосьці з каталіцкіх святароў, да якога належаў і ягоны род? Хтосьці з палітыкаў?

Пытанні свідравалі шышкаваты вузкі чэрап высокаўзнесенага на новай палітычнай хвалі былога акадэміста (і гэты ж археолаг — з цёмных

акадэмічных калідораў!), і той не мог не адчуць пэўнага свербу. Адчуў — і перш павярнуў галаву, а потым усім тулавам павярнуўся да Ковача. Іх позіркі сустрэліся — сутыкнуліся, выкрасаючы маланкі гневу, і Ковачу давялося сабраць усю волю ў кулак, каб спакойна ўсміхнуцца і з усмешкаю дачакацца, пакуль праціўнік, міжволі заёрзаўшы, адвернецца. Яшчэ падумаў: «Адзіны з іх, нечага варты...», але разглядваць карак і шышкаватую плешыну археолага перастаў, пераводзячы пагляд на прамоўцу. Той усё гугніў нешта пра неабходнасць поўнай беларусізацыі жыцця і ўмацаванне ўлады інтэлігенцыі, і Ковач, нават не ўслухоўваючыся ў словы, моршчыўся: што гэты абдрыпаны інтэлігент ведаў пра жыццё? Што мог зрабіць для людзей, калі саму звяяваную ўладу ўяўляў адно як уласную заслугу перад імі?

— Мы, свядомыя, вернем былую славу Беларусі, вярнуўшы народу яго гісторыю. Гісторыю барацьбы і перамог. Гісторыю вялікіх княстваў і вялікіх сыноў зямлі нашае, — завяршаў Шутаў сваю прамову, уціраючы ўзмоклы лоб і карак скамечанай насоўкаю.

— Жыве Беларусь! — гукнуў нехта з «зянонаўцаў».

— Жыве! — адгукнуўся нястройны хор дзесятка-двух галасоў.

— Жыве, як жыла, і жыць будзе. Без вас, — працадзіў праз зубы Ковач, падымаючыся, і спакойна скіраваўся да выхаду: з яго на сёння хопіць, а заўтра — будзе тое, што будзе.

Заўтра — была субота. І не адно, каб адвесці душу ў парылцы, пад духмяным венічкам, у ахвоту, а і каб перамовіцца з сябрукамі, абгаварыць сёе-тое, не хаваючыся і не шкадуючы салёных слоў, з абеда зазбіраўся Ковач у басейн з саунай і парылкаю, які яны звычайна выкарыстоўвалі, калі хацелі сабрацца. Двое, трое — рэдка больш! — іх прыязджала, нікога, апроч іх, на замоўленыя гадзіны ў замоўлены дзень не прымалі: дагэтуль паслуга шчодра аплачвалася з партыйнай касы, а, здаралася, і ад каго-небудзь з іх гаспадару што-якое перападала, так што... Так што сумнявацца ў поўнай канфідэнцыяльнасці не выпадала.

Канфідэнцыяльнасць, звычайна, не вельмі і патрабавалася: душу адвесці — не рахунак завесці... Ды і з бабамі туды не ездзілі... І ўсё ж, калі вакол бардак і брама дзяржавы — наросхліст, не яму аднаму хацелася зашыцца зрэдку як мага далей ад прапаведнікаў адкрытасці і галоснасці — хоць на тыя некалькі гадзін, якімі мог пакарыстацца ў суботні вечар.

Папярэдне тэлефанаваць нікому не стаў: хто прыедзе — прыедзе. Апроч сваіх, ніхто ў гэты час не з'яўляўся, і пакуль што ніхто не перакінуўся ў ваўкалака-адступніка. Ні-хто. І, азірнуўшыся на Маскву, на тое, што чынілі там стаўленікі мечанага пад рык уральскага бугая, які рваўся да ўлады, ганарыцца было чым. Сярод вышэйшая партыйнай эліты рэспублікі здраднікаў не знайшлося. І — не знойдзецца, тут Ковач не памыляўся. А сярод новаспечаных... «Гэтыя — усе сукіны дзеці. Перад кім трэба — хвастом вільнуць, каму трэба — зубы пакажуць, а прыцісні мацней — адно г... папрэ», — сплюнуў ён думку пад ногі без асаблівае злосці. І прадоўжыў зборы.

Прыемнае прадчуванне прыемнага ва ўсіх адносінах вечара наўрад ці падманвала — і мог жа ён дазволіць сабе раз на тыдзень расслабіцца!

— Марусь, я пайшоў, — гукнуў, весела ўсміхаючыся: жонка не любіла, калі называў яе «па-дзеравенску», і цяпер, напэўна, пакрыўджана зморшчыла носік.

— Не заседжвайся да ночы, — усё ж пачуў у адказ. — Не маладзён ужо.

— Угу, — падхапіў Ковач сумку, ужо забыўшыся і на сваю ўсмешку, і на жончыну рэпліку: наперадзе быў вольны — вольны ад усіх! — вечар, і што магло ў тым перашкодзіць? Машына чакала каля пад'езда, сауна гатова да прыёму гасцей, госці... Урэшце, не важна, хто апынецца сярод гасцей сёння: ужо ж, будзе з кім словам перакінуцца!

Хутка, ужо ў машыне, здзіўлена заўважыў (раней такога з ім не здаралася), што бязгучна паўтарае мелодыю з чутага неяк шлягера, радуючыся раптоўнай пустаце ў сабе — поўнай адсутнасці хоць бы якой захудалай думкі! «Не маладзён жа, як зазначыла жонка, а туды ж...»

Куды — вядома. І не ўшчуваць жа сябе за гэта паслабленне, як за грэх. Невялікі грэх — разняволіць жаданні цела і на пэўны час аддаць ім перавагу над усім астатнім. І думкі, і небеспадстаўныя трывогі за лёс краіны, і ваяўнічасць у непрыманні сучасных тэндэнцый у партыйным жыцці, і дзесяткі будзённых клопатаў і спраў нікуды не дзеліся і вернуцца, але крыху пазней, апасля. Пасля таго, як ён наплаваецца, надыхаецца гарачай параю, нацешыцца распараным бярозавым венікам, падстаўляючы то адзін бок, то другі.

— Чакаць пасля дзесяці? Як звычайна?

— Як звычайна, Пятро, — кіўнуў вадзіцелю, жэстам адмовіўшыся ад прапановы паднесці сумку: яго ўжо страчаў гаспадар сауны, усім сваім выглядам дэманструючы гасціннасць і гатоўнасць дагадзіць па вышэйшым разрадзе. — Добры вечар, Ігнатавіч.

— Добры, добры, Віктар Віктаравіч! — падхапіў той яго паклажу. — Сёння вы першы... Прашу!

— Пакуль хто пад'едзе, паплаваю ў асалоду, — падтрымаў Ковач гаворку.

— Басейн да вашых паслуг, — немітуслівa мітусіўся той вакол. — І пара ўжо ў самы раз. Спатрэблюся — толькі гукніце!

— Вядома ж. Дзякуй, — кіўком галавы адпусціў Ковач праважатага і стаў распранацца, любоўна агладжваючы цела, якое ссумавалася па вольных рухах, па крыху волкім духмяным паветры і ўздыхах вады пад узмахамі рук падчас першага заплыву.

Басейн, хоць і неспартыўнага тыпу, але і Ковач жа — не плывец-разраднік, так што чаша чысцюткага блакіту, прыняўшы яго з шумным усплёскам, тут жа напоўнілася задаволеным пафыркваннем яго на кожны ўзлёт рукі. Нікуды не трэба было спяшацца, ніштo не вымагала напружання — цела паддавалася ласкавым абдымкам у меру падагрэтай вады з асалодаю, то замiраючы на хвілінку на яе паверхні, то апускаючыся ў часе нырца ў празрыстую глыбіню і зноў спружыніста ўзлятаючы наверх.

Калі добра-такі астудзіўся і адчуў пэўнае наталенне, падплыў да борціка, падняўся па прыступках у залу і, прайшоўшы пад душ, нейкі час стаяў пад пругкімі гарачымі струменямі. І вось ужо цела налілося чырванню і быццам «задымілася» жарам, патрабуючы, каб гарачыя струмені змяніліся халоднымі, амаль ледзянымі, і вось ужо атрасаўся ад іх Ковач, каб прайсці ў парылку.

— Фу, халера ясная! Ха-ра-шо-о...

— Вітаю, Віктар Віктаравіч, — гукнуў хтосьці знутры, і ён, толькі скіраваўшы позірк, пазнаў Шэршаня.

— А-а, палкоўнік... Маё шанаванне! Рады, рады суседству. Даўно не бачыліся.

— Ды не дзіва: дзень як год пражываецца, азірнешся — зачапіцца няма за што, — закінуўшы рукі за галаву і адкінуўшыся да сцяны, прыкрыў той вочы: ці то не хацеў працягваць гаворку, ці то даваў Ковачу магчымасць спакойна ўладкавацца на палку.

Ковач не спяшаўся адказваць. Праверыў гатоўнасць бярозавых венікаў, прагна ўдыхаючы гарачы водар распаранага лісця. Акрапіў адным з іх месца на палку. Нетаропка ўсеўся і колькі хвілін дыхаў на поўныя грудзі, паціраючы цела далонямі.

— Як там заклятыя радаўцы з іх новаўвядзеннямі? Так і не атрымліваюць адпору ні ад каго? — ленавата пацягваючыся, пацікавіўся Шэршань.

— Пакуль натоўпы збіраюцца вакол іх, пакуль вераць іх балбатні, нашы намаганні ні да чаго не прывядуць, — працягваў лёгкі масаж Ковач, не паварочваючы галавы. — Не з імі трэба тузацца, а з людзьмі працаваць, перахопліваючы там, дзе выпадае, ініцыятыву.

— Ка-му працаваць? — буркнуў той. — Хто не стаў перабежчыкам, спадзеючыся чым тлусцейшым пажывіцца, зашыўся ў цёмную шчыліну — цягачом не вывалачаш.

— Цягачом не вывалачаш, пернікам — выманіш.

— Ага. Асабліва, калі пернік — памерам з асабняк. Ды яшчэ грашмі набіты.

— Каму — пернік, каму — асабняк... — пагаджаючыся, не пагаджаўся Ковач. — Нездарма ж кажуць: рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек...

— Ты... — запнуўся Шэршань на слове. — Ты, Віктар Віктаравіч, разыграць мяне ўздумаў, ці як цябе разумець?

— Усё б нам уразумець! — пасміхнуўся той, цягнучыся да веніка. — Ілбы моршчылі, мазгі да кіпення даводзілі, каб шэрыя, асцюкаватыя думкі змаразмелых кіроўцаў прычасаць, каб льга было тым на людзі выйсці, а новага лідэра не змаглі ні выхаваць, ні прапанаваць, калі спатрэбілася.

Першыя ж удары венічка па плечах, па грудзіне астудзілі словы, яшчэ не выказаныя, але ўжо даспелыя і гатовыя сарвацца з языка, і Ковач не стаў іх агучваць, лёгка, быццам гуляючыся, хвастаў і хвастаў сябе па спіне.

Змоўчаў на пачутае і палкоўнік, хоць па тым, як участцілася яго дыханне, адчувалася, што абыякавым не застаўся, што нешта муляла і яму: хвіліна-другая — і выплеснецца ў той ці іншай форме.

— Інакш думаеш, Сямёнавіч? — зіркнуў на яго праз плячо Ковач. — Ці слова саланейшае падбіраеш, каб гаворку падагрэць?

— Які толк з солі, калі яе ніводнаму шалудзіваму кабялю на хвост не насыплеш? — узяў той другі венік з тазіка, прымерваючыся да наступных рухаў. — І чуць не чуюць, калі даклад ідзе ў цэнтр, і рабіць нічога не даюць. «Ёсць думка...», «далейшае — не ваш клопат...» Цьфу!

Шэршань з такой сілай апусціў венік на плячо, што на ім адразу загарэліся ярка-чырвоныя пляміны, але ён быццам не заўважыў гэтага. Наадварот. Крыху счакаўшы, лупцануў па другім плячуку, толькі гучна, задаволена фыркнуўшы.

— Сюсюкаюць, цалуюцца пры стрэчах узасос, барацьбой супраць Сталіна — пакойнага ўжо як не паўстагоддзя! — цешачыся, а народ адно і можа супрацьпаставіць — з ягонымі партрэтамі на лабавым шкле аўто раз'язджае. І каб хоць адна сука там, у Крамлі, аскалілася на гаспадара! — на шэльму, Богам мечанага...

— Сука на тое і сука... — нягучна адгукнуўся Ковач. — Ніводнага афіцэра, выходзіць, няма, здатнага на ўчынак. Як некалі...

У два венікі ішла работа. Хвіліну, другую, трэцюю. Пакуль Шэршань не гукнуў:

— Ігнатыч! Паддай пары!

І вось ужо распараныя, чырвоныя ад жару і бярозавага масажу, зможана распласталіся мужчыны на паліцах, аддыхваючыся і супакойваючыся. Хоць, калі б зазірнуў хто, апроч звыклага да ўсяго Ігнатавіча, у парылку цяпер, то жахнуўся б і спякотнага паветра, і чырвоных, як ашпараных, мажных мужчынскіх целаў, і цяжкага гарачкавага дыхання іх, якое добрых дзесяць хвілін не магло аднавіць ранейшага рытму. І не па прымусе ж — па сваёй волі чынілі здзек над сабою!

— Самы час — пад халодныя струмені душа і ў басейн! — выдыхнуў Ковач, і тут жа скаціўся з палка, і тут жа спружыніста ўскочыў на ногі

Выйшлі разам. Гаворка не аднаўлялася. Астывалі ў басейне хто як хацеў: Ковач нейкі час пакалыхваўся на вадзе, раскінуўшы рукі, як паплавок. Шэршань брасам адольваў той дзесятак метраў, які быў у яго распараджэнні, і потым пакручваўся ў вадзе штопарам, ахалоджваючы цела, каб зноў лёгка слізгаць па вадзе, уздымаючы хвалю.

Толькі пасля таго, як выйшлі з басейна і, ахінуўшыся прасцінамі, падселі да невялікага століка, дзе ўжо стаялі падрыхтаваныя Ігнатавічам куфлі з квасам, зірнулі адзін на аднаго. Зірнулі — і засмяяліся.

— Трэба ж з такім імпэтам аддавацца адпачынку ў лазні! — ажно скура задымілася.

— Скура — нічога... Абы дух не збег! — падтрымаў палкоўніка Ковач, пацягваючы квас з такою асалодаю, што нават губы аблізваў.

— Ігнатыч! Яшчэ кваску, калі можна!

— Можна. Чаму ж не? — тут жа з'явіўся той з новымі куфлямі і, памяняўшы поўныя на пустыя, гэтак жа ненавязліва-незаўважна знік.

Тыя ж вольна разваліліся ў крэслах і, здаволіўшы першую смагу, не спяшаліся асушаць другі куфаль.

— Як думаеш, Сямёнавіч, утрымаемся ў гэткую ліхую часіну? Утрымаем сітуацыю?

— Ды калі б сітуацыю! — адгукнуўся той праз зубы. — Вісельнік, што вось-вось адштурхне табурэтку, на якой стаіць, і пачне на вачах сінець, — не прадажны самадур, для якога так і не знайшлося ката з Крамля, а сацыялізм. Са-цы-я-лізм! Наша сацыялістычная краіна, падштурхнутая да самагубства, каб кожная зграя акрыялага з нашай дапамогаю груганне потым падаллю ўсмак пажывілася. Пахадзілі ў пераможцах? До! Пажылі як людзі? Хопіць! Буржуям чорныя рабы збрыдлі — славян падавай!

Шэршань зноў смачна вылаяўся, сплюнуўшы мацюкі ўбок, і доўга цадзіў скрозь зубы квас. Зрэдку зіркаў на Ковача (чаго маўчыць?), і калі той так і не адказаў на ягоную гнеўную тыраду, па-ранейшаму задумліва дзівячыся на куфаль з квасам, чарговы раз сарваўся.

— Як словы ні салі, усё роўна сабе пад ногі сплюнеш, — паморшчыўся Ковач на новую порцыю лаянкі. — Ніхто не супрацьстаіць Крамлю, бо кожны — на кручку, баіцца. Задоўга ўсе баяліся...

— Спадзяюся, Віктар Віктаравіч, ты не пра мне?

— І пра цябе. І пра сябе, — не схацеў нічога змякчаць Ковач, жмурачыся ад асалоды новага глытка. — Усе мы з аднаго цеста, адным пекарам замешаныя, Пятровіч, прызнаёмся ў тым сабе або не. Прапануюць — галасуем, пагарджаюць нашай думкаю — перастаём думаць, перакладваюць

адказнасць за сваю безгаловасць на нас — прымаем і валачом на сабе. Мо не згодзен?

— Згодзен — не згодзен... Справа ж цяпер не ў тым, — буркнуў Шэршань, злосна адсунуўшы апустошаны куфаль.

— Справа цяпер у тым, хто з гэтага бардака выберацца жывым і дзе ў выніку апынецца. Апынуцца ж можна дзе заўгодна. Сярод новаспечаных буржуйчыкаў. Сярод здрадцаў. Сярод апляваных і забытых усімі арыштантаў.

— Ну-у, гэта ўжо хрэна ім! — зноў ускінуўся Шэршань. — Не ўсе і мёртвыя сярод мерцвякоў знаходзяцца, а жывы тым больш жывым не дасца. І каму?! Неданоскам гэтым?

— Я да апошняга спадзяваўся, што да распаду не дойдзе, што адумаюцца... Ажно не! Хапіла сяму-таму некалькіх паездак за мяжу, дзе яго прымалі як будучага лідэра сусветнага ўзроўню, і пацяклі мазгі... На ўсё пагадзіліся. Усё аддаюць. Нават тое, чаго ад іх ніхто ў Еўропе і не чакаў. А народ маўчыць. Прыглядваецца. Чакае.

— Прычакае новае ярмо на шыю!

— Ярмо — не кара, калі душа з ім змірыцца схоча, — пагладжваў то адну, то другую руку Ковач, узіраючыся ў палкоўніка. — Ды ці схоча? Ці апамятаецца, перш чым апынецца ў цяжкіх ковах, якія адно з мясам здзіраць давядзецца?

— Во, трасца на яго, дажылі! Во дазмагаліся! Самую ідэю камунізму трыбушаць на вачах што свае, што чужыя нягоднікі, а за зброю ўзяцца і абараніць хоць бы ўласны гонар, як не гонар краіны, няма каму, Ігнатавіч!

— Чым магу?

— Чаго крапчэйшага не знойдзеш?

— Крапчэйшае — сухі гарачы дух сауны, — жэстам паказаў Ковач Ігнатавічу, што гарэлка не спатрэбіцца, і той знік за дзвярмі. — Пайшлі пагрэемся. І пагамонім на цвярозы розум.

— Дык я ж...

— Ты, як і я, звыкся з тым, што браць — калі ўжо браць! — трэба з нахрапу, каб праціўнік і пікнуць не паспеў. Ды толькі праціўнік цяпер іншы, — уладкоўваўся Ковач на драўлянай лаве, прыкрыўшы галаву спецыяльна пакладзенай шапачкай. — Не хтосьці адзін, не адна нейкая купка людзей ці арганізацыя, а — уся заходняя цывілізацыя, выпетраная распустаю і непамернымі патрабаваннямі ўсё большага камфорту, хворая на малакроўе, не толькі энергетычнае. Дзесяць-дваццаць гадоў — пачало б задыхацца. А тут. Тут акрыялая пасля вайны з немцам краіна — імперыя! — якой стаў кіраваць, як высветлілася, прагны да славы і грошай, іх пасланнік, — сама ў рукі плыве. Адно-два намаганні, адзін-другі хітры ход — і сякера сама пойдзе крамсаць і перакройваць тэрыторыю... Як аслеплі ўсе! Як аглухлі, аглушаныя раптоўнай галоснасцю!

— Усё — па законах змовы... — спахмурнеў Шэршань, незадаволены ўжо тым, што не прапусціў, як зазвычай, колькі чарак гарэлкі, а яшчэ ж адчуваў: і Ковач ад яго нечага чакаў. Чаго? Што ён, просты палкоўнік службы бяспекі, мог змяніць ці зламаць пры сённяшніх умовах?

— Думаеш-гадаеш, няйначай, да чаго хілю, — лёгка прачытаў Ковач яго думкі. — Да таго, што змова вярхоў магчыма тады і там, дзе пануе абыякавасць. Тупая абыякавасць тых, каму ў барацьбе за ўладу на гэтым этапе нічога не свеціць. Тупая абыякавасць народа, сто разоў падманутага ў сваіх чаканнях і спадзеўках: бяры любога, хто трапіць пад руку, і гні, куды гнецца...

— Хочаш сказаць: хана ўсяму?

— Хачу сказаць: нельга бясконца пагарджаць людзьмі, — абхапіў сябе рукамі Ковач і ціхенька пахітваўся з боку на бок. — Звычайна абарочваецца гэта або аскаціньваннем агромністай масы людзей, або сляпым крывавым бунтам, калі на пярэдні план выходзіць гісторыя.

— Пры чым тут гісторыя? — буркнуў Шэршань, так і не ўразумеўшы, куды той хіліў.

— Гісторыя помсціць за пагардлівае стаўленне да яе, і сем дзесяцігоддзяў, якія сталі важкай апорай у пабудове дзяржавы для многіх народаў, ніякаму перабудоўшчыку кату пад хвост не кінуць. Колькі б ні бэсціў мінулае, колькі б ні аплёўваў Сталіна.

— І бэсцяць. І аплёўваюць. Таму што баяцца. І мёртвага — баяцца..!

— Вядома, — пацвердзіў Ковач, узіраючыся ў суразмоўніка. — Апошняму прайдзісвету як не розум, дык інтуітыўнае веданне падказвае: смяротная — толькі плоць, дух нельга ўмярцвіць, як ні шчыруй, колькі ні злуйся. Вось і выходзіць, што мінулае, хоць блізкае, хоць далёкае, — не мерцвячына, што яно не пахавана — і не будзе пахавана! — ніводным пакаленнем далакопаў. Ні раней, ні цяпер.

— І Сталін...

— І ненавіснага ім Сталіна, хоць і вынялі яны яго з маўзалея, закапалі прах пад крамлёўскай сцяною і праклінаюць якое ўжо дзесяцігоддзе ўсім кагалам, у мінулага не адабраць, з гісторыі не выкінуць. Ён — жывы і грозны дух і пасёння, бо ўвасобіўся — у духу гісторыі. І, калі не прызнаць гэта — калі і далей не прызнаваць! — не праклёнам, а неўтаймоўнай стыхіяй уварвецца былое ў наша беспамятнае жыццё, пакінуўшы па сабе адно папялішча. Як было неаднойчы. Як можа стацца яшчэ не раз.

— Ну, ты, Віктар Віктаравіч, і вывернуў! — пацмокаў языком Шэршань. — Вось толькі няясна: мы, грэшныя, пры чым?

— Пры тым, што абвінавацяць — нас. І заўтра. І праз гады. І праз дзесяцігоддзі, калі ўжо забудзецца, што гэта быў час нячыстай сілы, — выціраў узмоклы лоб краем прасціны Ковач.

— Ды хто — хто?! — абвінаваціць?

— Дзеці. Унукі. Праўнукі.

— Ат! — мацюкнуўся Шэршань, адварочваючыся. — Яны мо і абвінавацяць. За тое, што ў штаны наклалі пры першай жа пагрозе ўласнаму спакою.

— А то ты шмат спакою за жыццё зведаў! — лёгенька паляпаў палкоўніка па плячы Ковач, далучаючыся да ягонай трывогі. — Ведаць бы напэўна, што сёння льга зрабіць! Вось рыхтуем зварот на адрас Палітбюро. Падпішамся... Дашлём. А ў тое, што паўплывае гэта хоць на адно рашэнне Крамля, і я не веру. Усё ў меншай ступені веру.

Дадаў, быццам падправіў сказанае раней, і падняўся.

— Пойдзем пабоўтаемся ў басейне, — азірнуўся на Шэршаня і, убачыўшы, што той чамусьці прыгнечаны пачутым, падбадзёрыў: — Потым і пляшку агораем, як не супраць. Закусь якая-ніякая знойдзецца.

Той неяк сцішана пайшоў следам. Цяжка боўтнуўся ў ваду, падняўшы хвалю пырскаў. Вынырнуў, атросся ад буйных кропель, правёў далонёю па твары. Падумаў, што пад чарку выкажа Ковачу ўсё, што муляла ўжо каторы месяц — каторы год! — і ўдзень, і ўначы: рассіропіліся пад шамканне крамлёўскіх старцаў, пільнасць страцілі, разам з іх прахам умуроўваючы ў сцяну на Краснай плошчы і свае спадзеўкі на справядлівасць. На нейкую

высокую справядлівасць эпохі — вечнасці! — у якую залатымі літарамі ўпішуць і імёны будаўнікоў камунізму. І што?! Вокам змігнуць не паспелі, разглядваючы меціну над ілбом чарговага генсека, як стаўператварацца той у нячысціка, у пачвару, крышачы нажытае народам, аплачанае потам і крывёю мільёнаў. І каб хто піскнуў: на чужы каравай рот не разяўляй! Не... Пішуць пісьмы... Прымаюць звароты... Замест таго, каб арыштаваць парачку-другую казлоў!

Думкі гарчылі. Шэршань раз-пораз даваў нырца, потым шумна адфыркваўся, зіркаючы на Ковача, які спакойна плаваў узад-уперад па кароткай воднай дарожцы, і ніяк не мог адагнаць трывогу, трывожнае прадчуванне ўжо блізкіх па часе падзей, што абернуцца нечуванаю сацыяльнай катастрофаю.

Шмат было выпіта за іх сталом, няшмат, Стаса асабліва не цікавіла. Ён амаль што не піў. Прыгубліваў чарку, моршчыўся ад горкага паху спамінаў і адстаўляў убок — так, каб пад рукою, але не на вачах. Прыйшоў жа, каб развеяцца, убачыць каго з сяброў-акцёраў, паслухаць гарачыя спрэчкі пра палітыку Крамля, пра таямніцы Сіона, пра фестывалі трансвесцітаў і няўдалыя рэжысёрскія спробы перамалоць класіку на муку для ўласнага печыва, пра выбрыкі зорак эстрады і дурное самалюбства чыноўнікаў — словам, пра ўсё на свеце!

Гаворка ж з самага пачатку не пайшла. Драматургу муляла абмеркаваць сваю новую п’есу са знакамітай крытыкесаю, якую ён прывёў і частаваў, а тая, цікуючы за прадпрымальным кавалерам, хоць і не падсмейвалася, але і адкрытых выказванняў пазбягала. Пацягвала каньяк, з гатоўнасцю падстаўляла чарку, калі Жлуктаў, не выпускаючы пляшкі з рукі, імкнуўся падліць, спрабавала ўцягнуць у сваю гульню і яго, маладога і малавядомага, а то проста адмоўчвалася на доўгія тырады і цытаты з тэкстам п’есы, спецыяльна, па ўсім відаць, падрыхтаваныя для падобнай стрэчы. Ніколі ні на якім кані не ўдавалася нікому аб’ехаць Эвеліну з таго ці іншага боку, і самаўпэўненасць Жлуктава весяліла кампанію. Пакуль яна заставалася кампаніяй, больш-менш цвярозаю, каб успрымаць сітуацыю адэкватна. Стас жа, які хоць і чуў пра Эвеліну, бачыў яе ледзь не ўпершыню, таму і сачыў за ёю з пэўнай цікавасцю. Што не засталося незаўважаным.

— Вы — яўна не з тых паэтаў, хто чытае свае вершы ў «Мутным воку» публіцы, якой на іх напляваць, — павярнулася да яго ў нейкі момант Эвеліна, падкрэсліўшы гэтым жэстам сваю ўвагу.

— Не з тых, — адгукнуўся Стас, пазіраючы не на даму, а на яе кавалера з перакошаным ад крыўды тварам: столькі шчыраваў, з такім імпэтам разыгрываў сцэну з п’есы, а ў адказ — ні слова, ні кіўка галавы... — Хоць вам, думаецца, не дагадзілі б ні адны, ні другія.

Чаму ён гэта сказаў, і сам не ведаў. Не проста ж з мужчынскай салідарнасці, няхай сабе Жлуктаў (а мо і не толькі Жлуктаў) успрыняў менавіта так. Нават крыва ўсміхнуўся, апускаючы галаву, каб не сапсаваць усё сваёй усмешкаю.

— У хлопчыка, аказваецца, зубкі ёсць, — разглядвала Стаса Эвеліна, не хаваючы раптоўна збуджанай цікавасці. — І не выпалі, і не павыбіваныя...

— Мне ўспрымаць сказанае як камплімент?

— І як камплімент! — умяшаўся Жлуктаў, каб хоць неяк ацаніць абстаноўку.

— Ужо ж, не з асцярогі, — на ўсе зубы заўсміхалася Эвеліна, і галавы ўбок драматурга не павярнуўшы, — так, бы ўжо скарыстала яго напоўніцу і цяпер усю увагу пераключала на наступную ахвяру.

— А як жа я, Эвеліна Міхайлаўна? — тэатральна выказаў ён непадробную крыўду.

— А ты, Жлуктаў, перастань чапляца за прынесеную пляшку і ў думках падлічваць прапіты барыш, а налі каньяку паэту. І мне. Не шкадуючы.

— Ды хто шкадуе? Хто шкадуе? — замітусіўся той і, разліваючы каньяк, такім шырокім жэстам нахіліў бутэльку, што нават выплеснуў колькі кропель на стол. — Для ва-ас... З такой нагоды...

— З якой нагоды? — не стрымаўся Стас, каб не пакпіць.

— Дык як жа? А мая п'еса? А знаёмства... вы...

Думка забуксавала, і язык адразу стаў заплятацца, спатыкаючыся на словах, — Стасу нават стала крыху шкада драматурга: ніштo ж, як яму здавалася, не вымагала такога прыніжэння перад саноўнай дамаю, ды яшчэ пры сведках... Хоць у сведкі ён у гэткім тлуме і сябе не запісаў бы!

— П'еса як п'еса, — не Жлуктаву, а чамусьці Стасу сказала Эвеліна, — з яе можна і «канфетку» зрабіць, як знойдзецца каму, а можна і ў сметніцу спакойна кінуць. Колькі паперы на падобнае дабро пераведзена, а спектакль па сваіх, не залежных ад драматурга, законах скрозь нараджаецца.

— Эвеліна Міхайлаўна! — развёў рукамі Жлуктаў.

— Не рабі выгляд, што сказанае — табе ў навіну. Не паверу.

— Жорстка вы, аднак, — не мог адвесці пагляду ад па-драпежніцку прывабнага твару далёка не маладой крытыкесы Стас.

— Напрасіўся, — спакойна цадзіла тая каньяк, так і не зірнуўшы ніводнага разу на зніякавелага Жлуктава.

Ніхто з траіх не прамовіў больш ні слова. Жлуктаў ёрзаў у крэсле, то намерваючыся ўстаць і пайсці, то зіркаючы на недапітую пляшку дарагога каньяку. Эвеліна па глытку, па кроплі смакавала каньяк, яўна някепскі, і толькі зрэдку, з-пад паўапушчаных вейкаў, пазірала на Стаса — ці то вывучала, ці то прыручала? Стас старанна пазбягаў яе позіркаў, інтуітыўна адчуваючы нейкую небяспеку. Не страх, а менавіта небяспечнае набліжэнне чагосьці невытлумачальнага.

«Гэтак, відаць, паводзіць сябе трус перад удавам, не ведаючы, злітуецца той і адвернецца ці заглыне...» — мільганула нечаканая думка-падказка, і яна Стасу не спадабалася. Што азначала адно: ён ужо быў навязаны. Яшчэ не ўцягнуты ў чужое магнітнае поле па вушы, але ўжо навязаны.

— Не малюй мяне страшнейшай, чым я ёсць на самай справе, — лёгка разгадала яго стан, накірунак яго думак Эвеліна, і Стаса як варам аблілі: счырванеў да самай макаўкі, апусціў пагляд, шукаючы нейкай апоры, і, не знайшоўшы, нервова кульнуў у рот напоўненую да краёў чарку.

Далейшае ўспрымалася як скрозь туман. Дапівалі каньяк Жлуктава, які, незаўважна для абоіх, знік, растварыўся ў цыгарэтным дыме. Гаварылі... Гаварыла, у асноўным, Эвеліна, ахінаючы, ахутваючы шчаўліка, як у хуткім часе пачала называць Стаса, нягледзячы на яго кволы пратэст, мяккімі слізкаватымі словамі і церпкім пахам замежных цыгарэт, якія беспярапынна смаліла. Зрэдку абменьваліся дотыкамі... Дакладней, Эвеліна зрэдку кранадася рукі Стаса пальцамі, абчаплянымі пярсцёнкамі з каштоўнымі камянямі, а то і пагладжвала яго руку.

Вядома, калі б ён быў пры сваёй памяці, то зразумеў бы прыроду і гэтых слоў, і гэтых жэстаў: так ведзьмавалі з даўніх часоў, прычароўва-

ючы душы, падпарадкоўваючы думкі і памкненні абранай ахвяры, прывабнай сваёй маладосцю. Але ўсё бачылася ў цьмяным святле жаночага позірку, і тое, што мажной, прыгожай нейкай д'ябальскай прыгажосцю жанчыне мала чаго не ставала да пяцідзесяці, і яна магла б быць яму маці, чамусьці не тое што не бянтэжыла, а і не насцярожвала. У Стаса і ў думках нічога падобнага на мажлівасць інтымных адносінаў з «мадам» не ўзнікала, а тое, што яна...

«А што — яна?» — адмахваўся Стас нават ад ценю намёку, а праз паўгадзіны, калі Эвеліна, пахітваючыся, паднялася з-за століка, ён ужо быў сама галантнасць.

— Ужо трэба ісці?

— Ісці... ехаць... — умела падыгрывала моманту тая. — Спадзяюся, ты не кінеш мяне пасярод начнога горада?

— Ну, што вы! — горда ўскінуў галаву Стас, хоць перад вачамі ўсё ціхенька пахітвалася, то наплываючы на яго, то адплываючы.

— Мы ўсё яшчэ на «вы»?

— Пэўна ж... Вы такая... — мармытнуў Стас, памкнуўшыся падтрымаць жанчыну і не заўважыўшы, што гэта яна яго падтрымала.

— Пойдзем, шчаўлік, — моцна ўзяла Эвеліна хлопца пад руку. — І «Мутнае вока» зачыняюць, і таксі трэба яшчэ злавіць.

Гаварыла, быццам угаворвала, і вяла да дзвярэй, потым — уніз па прыступках. Абапіраючыся на яе руку, на яе плячо ледзь не ўсім целам, Стас падпарадкоўваўся ахвотна, адчуваў сябе ўтульна і не зважаў ні на спуск па няроўнях каменных сходах, ні на начны горад, ні на гаспадыню становішча, якую ўзяўся праводзіць дадому. Ноч здавалася цудоўнаю, жыццё бачылася вясёлкава перспектыўным, любая (ён некалькі разоў назваў Эвеліну Любашаю, хоць тая зрабіла выгляд, што не заўважыла) ішла побач, поруч, і ў іх наперадзе была цэлая вечнасць.

Якая машына спынілася на жэст Эвеліны, куды яны ехалі праз начны Мінск, як апынуліся перш у шыкоўнай па мерках горада кватэры, а потым і ў ложку, Стасу і з цягам часу, пэўна, не ўзгадаць. Ішоў сваімі нагамі, распранаўся ўласнаручна, на ласку жаночага цела адгукаўся ўсім целам, з усім уласцівым маладосці імпэтам і запалам, пад душам, пад ледзянымі струменямі душа адфыркваўся амаль весела. Пакуль не пачаў цверазець...

«Ды я ж і не піў зусім... — здзівіўся сам сабе. — І параўноўваць нельга з былымі запоямі...»

Думка напалохала. Раптам моцна напалохала менавіта сваёй цвярозасцю: у каго ў доме ён плёскаўся пад душам? Як тут апынуўся? Чаму твар перакошвае балючая крывая ўхмылка?

Вада даўно лілася паўз яго, а роспач усё блукала па крузе — у адным і тым жа крузе, і нешта ж трэба было рабіць!

Выключыў ваду. Уцёрся. Ахінуўся ручніком і выйшаў з ваннага пакоя. У прыхожай, проста на падлозе, было раскідана ягонае аддзенне. Упераменшку з жаночым. Паціраючы лоб, Стас падняў з-пад ног колькі жаночых рэчаў, кінуў на крэсла. Знайшоў свае і, толькі нацягнуўшы штаны, з пэўнай палёгкаю ўздыхнуў: ужо не галяком!

З пакояў не далятала ні гуку, і ён прадаўжаў апранацца, зрэдку азіраючыся на дзверы. Разумеў, што давядзецца зайсці — хоць развітацца, калі ёсць з кім! — і ўсё адцягваў гэты момант. Побач з кім правёў рэшту вечара, памятаў — успомніў! — але адмахваўся ад споміна («Не мог жа я апы-

нуцца ў адным ложку з Эвелінаю!») і шукаў нейкага апраўдання. Апраўдання — хоць так, хоць гэтак зірнуць! — не знаходзілася, і заставалася апошняе: адчыніць дзверы ў пакой і...

— Шчаўлік, ты сыходзіш? — гукнула Эвеліна з пакоя, і Стас, перш чым адчыніў дзверы, глуха, з адчаем застагнаў, памянуўшы сябе і ўвесь белы свет апошнім са слоў. — Не хочаш прылегчы?

— Не, не! — толькі зіркнуў Стас убок ложка, на якім, так нічым і не прыкрыўшыся, ляжала — ды не ляжала, а нахабна выстаўляла ўсю груду свайго цела! — Эвеліна, распусная старая карга, якая толькі што выкарыстала яго, апаіўшы ці ачмурыўшы папярэдне. — Прабач, я быў п'яны...

— Ты быў малайцом! — засмяялася тая ў адказ, хоць Стас ужо матлянуўся назад у дзверы, далей і ад яе смеху, і ад яе самой.

Замок адшчоўкнуўся лёгка, лесвіца аказалася не беспрасветна цёмнай — і ноч сустрэла яго поўным зорак, ужо яўна перадсвітальным небам.

— Божа мой! — выдыхнуў ён на поўныя грудзі, дзівячыся на неба і быццам забыўшыся ў гэты момант на ўсё перажытае і ў апошнія гадзіны, і ў апошні год, калі сэрца разрывалася паміж любоўю і смуткам: неба — ва ўсёй сваёй мізэрнасці і грахоўнасці — прад ёю?

Ішоў, не задумваючыся, куды выведзе яго дваровы завулак, куды скіруе незнаёмая начная вуліца, — неба плыло над ім, прыцягвала пагляд, вабіла, і хоць паэтычныя радкі яшчэ не гучалі ў душы, але прадчуванне іх мацнела. І паціху займаўся золак, і паціху вярталася даўно і, здавалася, назаўсёды зніклая радасць.

Так, жыццё сутыкнула Стаса яшчэ з адным цёмным бокам яго слабой мужчынскай прыроды, і ўсё ж яно дарыла яму гэты золак, гэта прасвятлелае неба, гэта прадчуванне новай — іншай! — радасці, і ўдзячнасць перамагала ўсе астатнія пачуцці. Так, жыццё наўрад ці адпавядала агульнапрынятаму вызначэнню і лепш — дакладней! — параўноўваць яго не з тэатрам, а з гульнёю ў падкіднога, калі кожны імкнецца пакінуць у дурнях каго іншага, але часцяком заставаецца ў пройгрышы сам. Але і выйгрыш, і пройгрыш звычайна падманныя — часовыя! — а жыццё працягваецца, ідзе па сваіх, не залежных ні ад каго законах. І прымаць або не прымаць гэта як факт, паўплываць ні на адзін з законаў не можаш. Ніхто не можа. Колькі б ні пнуўся.

— І той, хто ўзлятаў і лунаў над шляхам, над явай, над лёсам, не скажа, што зжыта віна за зжатае лёсам калоссе... — уголас, даволі гучна прадэкламаваў Стас радкі, што нарадзіліся ў душы толькі што, і сам здзівіўся: здавалася б, пра іншае думаў, іншым быў заклапочаны...

А словы, зноў і зноў паўтораныя, ужо жылі сваім жыццём. І паціху займаўся золак, высвятляючы неба, і паціху вярталася да Стаса спакойная ўпэўненасць: наперадзе яшчэ не адна страта, не адна крыўда, але і не адна радасць стрэчы з паэзіяй і любоўю! І значыць, трэба жыць, рабіць тое, што належыць у кожным выпадку, і няхай будзе тое, што будзе.

У Міністэрстве культуры ўмелі трымаць нос па ветры, і ўсё ж час быў такі няпэўны, што змены — любыя змены! — маглі адбыцца калі заўгодна і тычыцца любога, ад простага клерка да міністра. Таму рашэнні калі і прымаліся, то з такімі адцяжкамі і зацяжкамі, што не ва ўсіх ставала цярпення дачакацца хоць якога выніку пасля свайго запыту. А дзе ўжо пра грошы заходзіла гаворка — пра фінансаванне таго ці іншага спектакля, канцэрта ці выстаўкі, і ўвогуле не мела сэнсу на штосьці спадзявацца: нават

як мелася якая-ніякая капейчына, ніхто не браў на сябе смеласць распарадзіцца ёю. Без высокага на тое дазволу, зразумела.

А тут яшчэ міністру ўздумалася сваю прынцыповасць выказаць — не дома на кухні, а ў адным з кабінетаў Дома ўрада... Пекар, дазнаўшыся, нават не адразу паверыў: цяпер? калі ўсё на валаску? калі над кожным — дамоклаў меч? «Звар'яцеў стары, — адно і падумаў. — Самому збрыдла ў Саўміне аціраца, каму іншаму не падгаджваў бы!»

«Каму іншаму» — гэта, вядома, яму, Пекару: столькі год штаны праціраў, мяняючы кабінеты і пасады ў Міністэрстве, што ўжо ж заслужыў і самую высокую з іх. І не сённяшнім днём.

Сёння, калі вакол віравала мноства плётак, заяў і агучваемых спрэс і ўсімі змрочных прадказанняў, спадзявацца не выпадала. Пекар і не спадзяваўся. З аднаго боку, яго задавальняла тое становішча, у якім знаходзіўся, — не было б горш! З другога боку, не тое што пэўных гарантый, але і больш-менш рэальнай перспектывы ніхто не прапаноўваў — не ведаеш, з кім набудзеш, з кім страціш... Асцярожнасць ніколі не перашкаджала, падчас палітычнай нестабільнасці і барацьбы ўсіх супраць усіх без яе, не настроіўшыся на яе, і з дому выходзіць не варта было: не ў адну, дык у другую кучу г... трапіш...

Не, не! Зорак з неба Пекар і раней не хапаў, а цяпер, калі неба спрэс шэранню зацягнутае і калі праясніцца, невядома, ён і ўвогуле пра іх не ўзгадваў. Ведама ж, шчасце: ухапіцца за бліскучую прапанову і пад рогат натоўпу бразнуцца вобзем!

Ад чаго ён адгароджваўся падобнымі думкамі, за што і перад кім спрабаваў апраўдацца? Параіцца, перакінуцца словам пасля нечаканага выкліку да Шутава, у Вярхоўны Савет, не было з кім, вось і думаў, так і гэтак абмазгоўваючы сітуацыю. Праўда, не вельмі каб атрымлівалася: чаго хацеў ад яго Шутаў, якога ведаць не ведаў да яго абрання старшынёю? Што з яго, Пекара, хоць тут, хоць там возьмеш?

— Давядзецца з боку Савецкай пад'язджаць.

— Што? — не пачуў ён і перапытаў, нахіляючыся да вадзіцеля.

— Давядзецца круг рабіць, Іван Георгіевіч, — адгукнуўся той, робячы разварот. — Праспект перакрылі зноўку... Чарговае шэсце, відаць па ўсім...

— Шэсце? З якой такой нагоды? — здзівіўся ён. — Сёння ж...

— Чарнобыльскі шлях. Як зазвычай у гэты дзень. Я і сам не адразу ўзгадаў.

— А-а-а!

Легкавік аб'язджаў цэнтральны квартал ніжэй Дома ўрада, і Пекар дзівіўся таму глыбокаму задуменню, з якога не адразу выцерабіўся: нібыта і не падобна на яго... З каваю прыпазніўся ці ўсур'ёз устрывожыўся?

Машына спынілася, не павярнуўшы на Мяснікова, і Пекар, не ведаючы, як доўга давядзецца затрымацца ў начальства, адпусціў вадзіцеля. Пайшоў угору ўздоўж старой брукаванай вулачкі, не-не і затрымліваў позірк то на адной, то на другой купцы маладых расхрыстаных людзей, якія не дужа ўслухоўваліся ў голас, узмоцнены мікрафонам і зменены да непазнавальнасці (Пекар не пазнаваў), і таксама ўнікаў і гучання, і зместу слоў, наколькі гэта было магчыма. Даводзілася ісці практычна праз усю запоўненую людам плошчу — іншага шляху не было. Вось і ішоў. Адно стараўся своечасова абмінуць любы залішне ўважлівы пагляд і хоць знешне заставацца спакойным і ў меру зацікаўленым падзеяй, што мела месца тут і цяпер.

Некалькі разоў, калі давялося перад выхадам на самую плошчу літаральна працісквацца праз натоўп, памянуў Шутава нядобрым словам, але неяк абышлося. Прапусцілі. Ніхто са знаёмцаў не трапіў на вочы. Ніхто не спытаў, куды ён шчэміцца, абмінаючы купкі людзей. Ужо недзе за помнікам Леніну, калі здалося, што льга вынырнуць з людской гушчы і ўздыхнуць з палёгкаю, раптам убачыў на прыступках Шутава. На чале апазіцыйных лідэраў той стаяў перад самым мікрафонам: ці то толькі што звяртаўся да натоўпу, ці то збіраўся сказаць слова... Знямелы, застыў Пекар у чаканні, з недаўменнем варочаючы ў галаве адну і тую ж думку: «Мяне выклікалі ў Вярхоўны Савет, а не на плошчу...»

Калі Шутаў пачаў гаварыць, пэўна, завяршаючы прамову (гэта ягоны голас чуў Пекар здалёк), разбіраць словы праз мегафонны шум па-ранейшаму было цяжка. Тым больш, што стаяў Пекар не проста воддаль, а ззаду. Але калі прамоўца раўнуў: «Не аддамо нашых заваёў дзеля незалежнай будучыні Беларусі!», плошча, здавалася, на адным дыханні выгукнула ў адказ: «Жыве Беларусь!» так дружна і так палка, што, сарваўшыся аднекуль са страхі, над тысячным натоўпам закружляла вялікая чарада галубоў.

«Каб і схацеў, лепш не прыдумаў бы!» — міжволі стаў дзівіцца на неба над узвівамі бел-чырвона-белых сцягоў Пекар, не тоячы захаплення. Пачуццяў рэвалюцыйна настроенага натоўпу ён не падзяляў (наўрад ці новае акажацца лепшым за старое!), але належнае і арганізацыі, і імпэту нязгоды аддаваў. Інсцэніроўка ўдалася, нічога не скажаш! — заставалася толькі рукамі развесці...

Рукамі развесці ён не паспеў: у накірунку да яго — і не заўважаючы яго! — ішоў у суправаджэнні сваёй світы Шутаў. Калі іх падзялялі крокі два-тры і ўся група павярнула да ганка Дома ўрада, Пекар матлянуўся за ёю і, перастрэты адным з целаахоўнікаў, пачаў блытана тлумачыць, хто ён і чаму наблізіўся так нечакана і так рашуча.

— Вас выклікалі? Прызначылі час прыёму? — з усмешкай удакладніў той, утрымліваючы яго. — Вось і прыходзьце ў прыёмную. Пасля таго, як аформіце пропуск.

«Дурань! Ёлупень! Хлышч безгаловы! — апошнімі словамі лаяў сябе Пекар, позіркам праводзячы размаітую світу Шутава. — Узрадаваўся! Кінуўся напярэймы! Быццам толькі ўчора з калгаснага двара...»

Ззаду гула, шумела плошча, незнаёмая і неўтаймоўная, і гэты гул быццам падштурхоўваў Пекара: не стой! ідзі куды ішоў! не зважай на пакольванне ў скронях і сапсаваны настрой! Мільганула неўзабаве думка: «Мо не ісці? Плюнуць на ўсё і не ісці?», але яна яшчэ толькі больш збянтэжыла: так разважаць мог які маладзён у кароткіх штанцах, а не дзяржаўны чалавек яго ўзросту і ў падобным становішчы.

Заазіраўся, адчуўшы, што хтосьці назірае за ім, але рухі былі чыста нервовымі: плошча жыла сваім жыццём, ніхто на яго не зважаў, і Пекар зглынуў уздых, які злёгку гарчыў, і рушыў праз забрукаваны пляц да ўвахода ў Дом урада. Пятнаццаць хвілін у запасе ў яго яшчэ мелася — якраз, каб не спазніцца.

Шутаву прысніўся сон. Дзіўны сон, як здалося ў першы момант, — нават прарочы, і ён усё доўжыў, расцягваў гэты момант, каб зноў і зноў перажываць перажытае, каб ніводнае кропелькі асалоды не ўпусціць, не страціць. Трэба ж было ўбачыць усё так выразна, так ясна! Хоць бяры і занатоўвай, малюй — дэталь за дэталлю, краявід за краявідам...

Ён і маляваў, аднаўляючы ва ўяўленні падзеі, убачаныя ў сне, упэўнены, што гэта — сон-падказка, і ўсё ў хуткім часе адбудзецца, як і ўбачылася, менавіта ў Беларусі, менавіта з ім, Шутавым, каб пасля... Пра «пасля» нават думаць было страшнавата: занадта недасяжная вышыня адкрывалася!

Калі ўзгадваць па парадку, то перш перад паглядам узнікла ніколі не назіраемая (ды наўрад ці льга такое назіраць у жыцці!) карціна зверху, з вышыні... Вышыню дакладна вызначыць было немагчыма, бо ўслед за пагоркам, на якім узвышаўся Крэмль ва ўсёй сваёй велічы і красе, з усімі сваімі вежамі і купаламі, паўставала панарама агромністага мегаполіса — Масквы, адкрываючы далягляды ўсё шырэй і далей, ва ўсе бакі. Відовішча мянялася штохвіліну. Прычым нічога не знікала ў смузе адлегласці, нават не драбнела — пагляд (што пярэчыла ўсім законам фізікі) ахопліваў усё разам: гарады і паселішчы, магістралі і манастырскія збудаванні, лясы і рэкі... Не заўсёды Шутаў пазнаваў мясціны, часцей — проста дзівіўся, знямелы ад захаплення, але падсвядома ўсё ж чакаў, што вось-вось убачыць і Беларусь.

Перш чым зразумеў, што пагляд лунае ўжо над беларускім краем, нейкі час назіраў за двума гострымі лёзамі рапіраў, за прамымі, якія імкнулі з усходу і з поўдня, каб сысціся і выкрасаваць яшчэ адну. Якраз над лясным масівам за Дняпром. Тры зіхоткія прамыя — тры вастрыі у адной кропцы — бліск, які патушыў бязмежжа, адкрытае ў розныя бакі, — тры постаці, узніклыя тут жа, здавалася, з самога ззяння, — белая арка (ці то арка храма, ці то арка самога небасхілу) над імі. Над ім, Шутавым! — бо гэта ён быў у цэнтры трыумвірату славянскіх лідэраў, бо гэта да яго звярталіся двое іншых — адзін русы, другі цёмнавалосы, прапануючы каштоўныя дары. Так, так, шматлікія дары, і самы каштоўны з іх — уладу. Поўную ўладу над людзьмі ў незалежнай краіне, якой стане Беларусь! І ўсё вышэйшаю, усё больш зіхоткаю станавілася арка над імі. І ўсё мацней сціскаліся тры рукі ў сяброўскім поціску.

Шутаў, здавалася, рос не толькі ў сваіх вачах: малы і круглапузы, ён выглядаў у гэту хвіліну дужым, у меру мажным і ўпэўненым у сабе, у сваёй значнасці, і астатнія прымалі яго менавіта такім. І разам (аднамомантна) рассаджваліся яны па машынах, адзін за адным (і першым ехаў ён, гаспадар!) кіраваліся ў вядомую ўрадавую рэзідэнцыю ў Белавежскай пушчы: забрукаваная сонечнымі промнямі дарога, кавалькады легкавікоў, міліцэйскае суправаджэнне, мігалкі, сірэны... А навокал святлела, святлела! І лес выглядаў казачным, і неба цвіло вясёлкавым россыпам лёгкіх аблачынак, і не нейкія там пабудовы траляліся зрэдку па адзін бок дарогі або па другі, а палацы, і не сірэны ўзвывалі час ад часу, а птушыны грай страчаў і праводзіў...

Не трэба было ні пра што турбавацца, трывожыцца: ляцеў Шутаў як на крылах, на сваім легкавіку ў нейкае іншае жыццё — насустрач цуду, які даўно заслужыў, пра які не асмельваўся і марыць.

Настрой падаграваў выпіты каньяк. Колькі чарак цудоўнага напою кульнуў з гасцямі, не падлічваў: чаго-чаго, а гэтага дабра ставала, каб палюдску прыняць высокіх асоб! І пры стрэчы выпілі, і ў Віскулях нарыхтоўкі загадзя зрабілі на ўсякі выпадак — без пачастунку ніхто не застанецца. А настрой... На хвалі такога настрою ўсё ўспрымаецца чароўным!

Ехалі ў пушчу, у Віскулі, а куды прыехалі? Палац з белага каменю, фантаны між векавых соснаў, мармуровыя прыступкі, якія вядуць угору, у неба, грудастыя красуні ўздоўж лесвіцы ва ўборах, да якіх і ўсходнім па

сваёй адкрытасці далёка, залатыя чары з залацістым напоем... Шутаў азіраўся на гасцей — тыя ўсміхаліся: «Смялей! Рашэнне за намі!» — «Якое рашэнне?» — хацеў спытаць, але не спытаў, бо ў тую хвіліну гэта было зусім не важна. Яны падымаліся... Яны падымаліся на Алімп! — і што б гэта ні азначала ў далёкія часы, цяпер успрымалася як шчасце. Нечаканае, невымернае шчасце прызнання на такім узроўні, пра існаванне якога Шутаў і не здагадваўся.

«Шчасце! Што гэта, як не шчасце — нечакана ўстаць нароўні з лідэрамі самых вялікіх славянскіх народаў, быць ушанаваным іх даверам, прымаць іх у сабе?» — пульсавала ў ім адна і тая ж думка, адна і тая ж радасць. Шутаў то верыў, то не верыў ёй, але адольваў прыступкі як на крылах: там, наверсе, пад самай зіхоткай аркаю, павінна адбыцца штосьці гістарычна неабходнае, і ён — ён, Шутаў! — павінен быў прыняць у гэтым удзел.

Толькі крокі за два ад мармурова-белай пляцоўкі прыцішыў бег і, трымаючыся адно за свой цень, азірнуўся. Перш нават вачам сваім не паверыў: высокапастаўленыя госці спакойна, няспешна падымаліся па лесвіцы яшчэ даволі далёка ўнізе, а, зразумеўшы, што занадта паспяшаўся і да непрыстойнасці таропка апярэдзіў іх, заліўся чырванню— яшчэ падумаюць, што паперадзе бацькі...

Ніхто нічога не падумаў — па крайняй меры, і лёгкага папроку не прагучала. Ледзь толькі ўсе трое ступілі на пляц, трохпрамневая арка выбухнула, уздымаючыся над імі салютам, святло крыху сшэрхла, мяняючы іх апраткі на цямнейшыя, а ў цэнтры з'явілася круглае ўзвышэнне. Стол, не стол... Але калі прэтэндэнт на крамлёўскі прастол ступіў да яго, стол у прамым сэнсе слова ажыў: на паверхні з'явіліся келіхі з залатым напоем, стосы папер, ручкі з залатымі пёрамі, талеркі з дзічынаю і фрукты — усё ўперамешку! Тут жа наблізіліся нейкія людзі са світы, распачаўся хаатычны, на першы погляд, рух, у якім патаналі гукі, воклічы, звон келіхаў і водгулле крокаў, бо ўсе тапталіся ўкруг — і хвіліны не заставаліся на адным месцы, быццам прытанцоўвалі. Хутка Шутаў перастаў разумець, што на самой справе адбывалася, хоць гэтаксама рабіў патрэбныя крокі, перасоўваў ледзь прагледжаныя паперы, адпіваў то з аднаго, то з другога келіха, адгукаўся на чыйсьці рух ці зварот. Залатыя кроплі «Зуброўкі», залатыя промні святла, мітусня апаратчыкаў — і ніводнага гуку. Як у нямым кіно.

Мо таму, калі раптам, грымнуўшы кулаком па стале, гучна прарыкаў крамлёўскі пасланец: «Падпісваем — і хана Савецкаму Саюзу!», Шутаў не проста ўздрыгнуў, а падскочыў ад нечаканасці, тут жа згубіўшы ўсякую апору і як падвісшы ў паветры. Нязручнасці не адчуў, што ў іншы момант і ў іншых абставінах здзівіла б, а ўвагу прыцягнула ўжо наступнае дзеянне, уласнае ў тым ліку: ручкі з залатымі пёрамі самі ўплывалі ў рукі, подпісы ўзнікалі з простага руху пальцаў — перш у паветры, потым на паперчынах, пячаткі... З пячаткамі было найцікавей, бо зноў над галовамі (над сталом) з'явіліся тры лёзы-промні, каб тут жа пачаць ламацца, выгінацца, расцягвацца, трыма лініямі абмалёўваючы контуры Расіі, Украіны і Беларусі. І ледзь толькі контуры вымалязаліся, яны ўспыхнулі трыма слупкамі святла, сцяліся, зменшыўшыся да прымальных памераў і ператварыўшыся ў пячаткі. Заставалася выпрастаць руку, узяць (кожнаму — сваю) і апусціць на падпісаныя толькі што паперы.

Адусюль гучалі апладысменты, праз дружны звон келіхаў адусюль далятала: «Канец!», «Імперыі больш няма!», «Свабода!», «Адкрыўся шлях

у цывілізаваны свет!», «Салют незалежнасці!» Хтосьці цалаваўся з усімі, хто побач, хтосьці піў проста з гарла бутэлькі, хтосьці шукаў паглядам якую грудастую дзеўку, а перад ім, Шутавым, прасціралася чырвоная дывановая дарожка (адна з трох, якраз пасярэдзіне) і вяла яна далей на захад, паўз радасныя натоўпы незнаёмых, але шчаслівых людзей...

Больш, папраўдзе, нічога, апроч гэтай дывановай дарожкі, не ўзгадвалася. І марна Шутаў прыкрываў вочы, узіраўся ў споміны пра незвычайны сон: ні таго, куды вяла і ўрэшце прыводзіла яго тая дарожка, ні таго, дзе і чым завяршалася яго шчаслівае ўзыходжанне на вяршыню ўлады, угледзець не мог. Бязмежная далячынь, бясконцы натоўп уздоўж шляху, бяздоннае мора пушчы ўнізе... «Пушчы? Была яшчэ і пушча? — спрабаваў зачапіцца за падказку. — Але ж я не пазіраў уніз!»

Думка перш устрывожыла, змушаючы адмахнуцца ад сну, ад бясконцых сваіх узгадак пра яго, але не мінула і гадзіны пасля добрага сняданка і кубка гарбаты, а радасны настрой вярнуўся. Вярнуўся, вяртаючы ўпэўненасць: ён — невыпадкова прыйшоў у палітыку, ён — не выпадковы лідэр. І гэта галоўнае.

Галоўным рэжысёрам нацыянальнага тэатра пасля змены міністра культуры Глінскі застаўся. І хоць вялікіх сумненняў наконт такога менавіта рашэння ў сувязі з пертурбацыямі ў міністэрстве і не ўзнікала (хто такі Пекар у параўнанні з ім, Глінскім?), пэўныя думкі мулялі, змушаючы корпацца ў вядомых фактах і ўласных здагадках. Мяняць шыла на мыла ў любой сітуацыі непрадуктыўна, а ўжо што тычыцца сферы культуры ў такі няпэўны час... Часы, праўда, заўсёды няпэўныя, калі зірнуць уважлівей: пасля таго, як улада перастае быць спадчыннаю і больш не перадаецца ад бацькі сыну, прэтэндэнты на прастол скрозь толькі множацца. Кожны — хоць раз за жыццё — у думках прымярае карону на сябе (чым я горшы за каранаванага?!), кожны, асабліва тады, калі, здаецца, улада валяецца пад нагамі, імкнецца падняць яе. Тым больш, што на дурніцу. Вынікі... А такія і вынікі! На дурніцу толькі дурні раскашуюць дзень-другі... Покуль смэркамі не ўмыюцца, няздатныя несці цяжар адказнасці.

Глінскі мераў шырокімі крокамі паркавыя алеі, находжваючы прадпісаныя ўрачом кіламетры штодзённага мацыёну, і не зважаў ні на раку за каменным парапетам, ні на рэдкіх у гэту ранішнюю гадзіну наведвальнікаў парка на лаўках, сям-там раскіданых уздоўж набярэжнай. Дыхалася вольна (рытм хады даўно падстроіўся пад няспешнае дыханне), думалася з натугаю, без асаблівае ахвоты. І калі б ён мог, то ўвогуле ацарабіўся б ад людскіх думак: якая карысць сушыць мазгі, калі самую мудрую з выказаных думак можа сплюнуць табе ж пад ногі любы ёлупень пры ўладзе? Не тое, што не парупіцца прыняць да ведама, каб у выпадку чаго скарыстаць на справу, а нават не даслухае да канца, сплюнуўшы: «Ды кінь ты, стары!»

Кінуць — няцяжка: не інтуіцыя, дык вопыт падкажа, дзе прытармазіць, а дзе і ўвогуле рух не распачынаць, пакуль пыл не асядзе. Некалі ж асядзе!

— Добрага ранку! — гукнуў хтосьці з бакавой алеі.

Азірнуўся, машынальна адказаўшы на прывітанне, але сівенькага старога крыху воддаль не пазнаў. «Здэцца, з пісьменнікаў...» — мільганула здагадка, і ён яшчэ раз азірнуўся. Напружваць памяць не стаў (не для таго з дому выйшаў), а ў хуткім часе ўвогуле забыў пра выпадковую стрэчу. Мо хіба слова «пісьменнік» зачапіла ўвагу, бо, павярнуўшы ад ракі на дарожку, што вяла ўглыб невялікага ліповага гаю, раптам узгадаў ня-

даўнюю гаворку з адным з высокаўшанаваных Савецкай уладаю за ўменне балансаваць паміж пратэстам і згодніцтвам пісакаў.

«Недаацэнены, браце, — тут жа, у першую ж хвіліну, пажаліўся той. — Мяне даўно прыспела народным паэтам прызнаць, ажно не... То якому зайздросніку сонца засціў усё жыццё, то якому партбосу не так нізка, як ён чакаў, кланяўся... Бардак, адным словам!»

«Дык жа шмат чаго далі, — схаваў ухмылку Глінскі, разглядваючы мажную, мужыкаватую постаць незадаволенага мэтра.

«Ага. А чаго гэта мне каштавала, браце? З якімі мярзотнікамі справу мець даводзілася! Ажно, бач ты на іх, у класіку запісваць, на іх думку, рана, — гундзеў той сваё. — А я перарос, перарос ужо класікаў! Хоць сёння магу тамінаў дваццаць выдаць».

«Паэзіі?!» — жахнуўся ў душы Глінскі такой перспектыве.

«А ты думаў! — радасна ўсміхаўся мэтр. — З маладзецтва, лічы, пішу. І ўсё ў рыфму, усё ў рыфму!»

— І ўсё ў рыфму, усё ў рыфму! — міжволі паўтарыў Глінскі ўголас і гучна засмяяўся, нават не пацікавіўся, быў сведка гэтага смеху дзе паблізу ці не было.

Смяяўся, хоць і цішэй, доўга: што ўжо там нашкрабе ў свае дваццаць тамінаў сівагаловы паэт, не так і важна, а вось тое, што ўсё ў рыфму...

Прыму свайго тэатра заўважыў здалёк. Здзівіўся: так рана? Здзівіўся яшчэ больш, калі тая паспрабавала адвярнуць з дарожкі ўбок, яўна пазбягаючы стрэчы з ім: куды ці адкуль яна прастуе, як да ранішняй рэпетыцыі яшчэ добрых дзве гадзіны? Знарок памахаў рукой: бачу, маўляў... Знарок крыху запаволіў хаду: няхай звыкнецца з думкаю, што хавацца недарэчы. І позна. Сышліся — і разыдуцца, але прычына нечаканай для абоіх сустрэчы высветліцца. Каб ці забыцца, ці застацца ў памяці.

— Прыемна, прыемна! — цмокнуў Ганну ў абедзве шчакі. — Каб так неспадзявана сустрэць сваю народную артыстку! — Дзень наперадзе — яўна дабро прынясе.

— Дабро? Якое дабро? — не зразумела тая. — Усё рушыцца...

Апошняе вырвалася міжволі — проста падумала ўголас, хоць у гаворцы з рэжысёрам трэба было быць больш асцярожнаю і пільнаю: а то яна яго не ведала! Востры, як лязо, з'едлівы розум перамагаў у ім усё — ні грана спачування, ні грана літасці да каго б там ні было, калі пачыналася гульня ў «хто каго». Гульня ў падкіднога, як сам Глінскі вызначаў пад настрой, і ў гэтай гульні ён не тое што толк ведаў — роўных яму не было! Вось і цяпер...

— Усё парушыцца і пасыплецца ў пыл толькі ў дзень Страшнага Суда, — абняў яе за плечы. — Мяркую, ты — пра іншае? Пра тое, што рушыцца кар'ера...

— Пра гэта ўжо ўсе гавораць?, — павярнулася яна да рэжысёра, не ўмеючы схаваць трывогу. — Усім усё вядома?

— Ды што — усё? Адкуль такі песімізм, радасць мая? Адзін начальнік аддасць кабінет і службовую машыну другому, гэтаксама часоваму гаспадару — дзе, у чым ты бачыш трагедыю?

— Бог мой, — крыху тэатральна (па звычцы) заламала рукі тая. — Ды зірні, зірні, хто ідзе на змену! Дзікуны! Гарлапаны з перакошанымі ад злосці тварамі, якія растопчуць, раструшчаць усё, што было да іх!

— Было — performance рознае, — падкінуў ён паленца ў агонь жаночага гневу, каб яшчэ больш распаліць яго. — І дрэнь вадзілася, і кроў пралівалася не мерана...

— Ты не разумееш, — выкруцілася Ганна з-пад ягонай рукі. — Калі г э н ы я возьмуць верх, мы, людзі культуры, станем нікому не патрэбнымі. Нават дзеля галачкі ў справаздачы. Ім — з іх лозунгамі пра адраджэнне мовы і патрабаваннямі незалежнасці — патрэбна толькі ўлада, а потым... Потым не адраджаць, а бэсціць усё пачнуць, у чужых грахах корпаючыся.

— Ганя! Радасць мая! — цішком пасміхаўся Глінскі, назіраючы за залішне ўсхваляванаю артысткаю: у чым, у чым, а ў цікавасці да палітыкі яе ніхто ніколі не папікнуў бы. — Ну, якія ў такой прыгожай бабы, як ты, грахі перад сваёй краінаю? Каго любіла, таго любіла. Каму дарыла любоўныя ўцехі, той быў удзячны. У той ці іншай ступені... Вось і ўвесь расклад!

— Ды не пра сябе я... — неяк раптам згасла Ганна, упершыню зірнуўшы на спадарожніка і, вядома ж, заўважыўшы яго гнюсную ўхмылку: знайшла перад кім спавядацца ў такую хвіліну!

— А трэба — пра сябе. Толькі пра сябе! — пасур'ёзнеў той. — Ніхто не адбярэ ў цябе ні таленту, ні характва, ні права карыстацца ім ці нават гандляваць ім — на выбар! на той выбар! Каму гэта падабаецца, каму не падабаецца — іх праблема. Табе дадзена тое, што не купіш ні за якія грошы, ні за якія званні.

— Пры чым тут званні, калі гаворка пра лёс? — паспрабавала яна запярэчыць, хоць і не вельмі ўпэўнена. — Пра лёс культуры.

— Кінь, радасць мая! — не паварочваўся да яе, ішоў, скрыжаваўшы рукі на грудзях, Глінскі. — Не ад кагосьці аднаго, нават калі гэты адзін — кіраўнік самага высокага рангу, залежыць лёс культуры, ды і не за культуру ў цябе душа баліць... Так, так, не падманвайся! — не за культуру. І гэта нармальна! Не твая бабская справа — нечые крэсла аголеным плечыкам падпіраць.

— Цынік ты, Глінскі. Быў цынікам, і застаешся ім.

— А што, быць палітычным кастратам, які ў цяжкую хвіліну чапляецца за ачмурэлую ад любві да яго актрысу, — лепш? Прыгажэй? Інтэлігентней? — зазлаваў раптам Глінскі — не на яе, на сябе: знайшоў перад кім пёркі чысціць!

— Я люблю яго. Заўсёды любіла. І толькі цяпер зразумела гэта, — ціха азвалася Ганна.

— Ты яшчэ заплач! — павярнуўся ён да не падобнай на сябе ў гэту хвіліну прымы. — Мо я і самы мярзотны на гэтым свеце цынік, але павер: ніводзін мужык не варты слёз жанчыны. Нават такой, як ты, з курынымі мазгамі. Любі, мучайся, куражся, прыкідвайся шчасліваю і — пасылай усіх час ад часу куды-небудзь. Усіх! І мяне.

— Нешта ты сёння задужа лагодны, — змахнула набеглыя слёзы краем далоні Ганна. — Ужо і не памятаю цябе такім...

— Надта ты на мяне калі зважала! — буркнуў Глінскі. — Прайдзіся так... Агуч фразу гэтак...

Ганна маўчала. Як мага мякчэй адхінулася ад ягонай рукі, міжволі падшукваючы зручны момант, каб адысціся, збегчы, і не абзывалася. На сэрцы было цяжка і ад таго, што доўгачаканая стрэча з Іванам Кузьмічом доўжылася ўсяго некалькі хвілінак (нічога з таго, што хацела сказаць, не здолела вымавіць), і ад таго, што стрэча гэта, па ўсім было відаць, апошняя. З'язджаў... Дакладней, змушаны з'ехаць... Аднаго і пажадаў на развітанне — новых, вартых яе таленту роляў. Быццам ёсць на свеце боль-

шая — лепшая! — роля, чым роля той, каго любяць. Каго любіць адзіна патрэбны чалавек.

— А-у-у! Ты мяне чуеш, радасць мая! — крануўся яе пляча Глінскі, і Ганна ўздрыгнула. Не ад пытання, ад дотыку. І той адчуў. — І для кгао я шчыраваў, самыя пяшчотныя словы падбіраючы?

— Ты пра сябе?

— Ага.

— Не дужа, каб верылася, але ўсё роўна дзякуй.

— Што не дужа верыцца — правільна. Нічога такога дужа пяшчотнага я і не казаў, — узіраўся ў яе Глінскі з нейкім глыбока прыхаваным смуткам. — Месца мо і адпавядае, а час... Ад часу смярдзіць, як ад мерцвяка, вынятага з магілы. Адно крыжы і памінальнікі замучаных і забітых хто ведае калі — паўсюль, ад мяжы да мяжы нашай шматкроць згвалтаванае мярзотнікамі ўсіх эпох Айчыны. Толькі і засталося, што на кавалкі разадраць.

— І раздзяруць, — ледзь чутна адгукнулася Ганна, думаючы пра сваё.

— Ну, і хрэн з ёй! — рэзка ўзмахнуў ён рукой. — Вечна то пад аднаго, то пад другога прайдзісвета клалася, яшчэ і прыплачваючы таму за дзек, — нічым іншым і цяперашняе прыцмокванне не закончыцца.

— Прыцмокванне? — перасмыкнула Ганна плячамі, міжволі паскараючы крокі. — Ты маеш на ўвазе...

— Я маю на ўвазе дарагіх твайму сэрцу камуністаў, вечна цяжарных пазаўчарашняй для ўсяго свету ідэяй, — не хацеў, а ўсё ж паскорыў хаду і Глінскі. — Абвясцілі несусветнае — роўнасць, сем дзесяцігоддзяў потым прыдумляючы, як і на якой крывой кабыле гэтую роўнасць аб'ехаць хоць з аднаго боку, каб самім не апынуцца сярод п'яненькіх пралетарыяў, а ўсё няймецца, усё за ўладу чапляюцца.

— А табе чаго няймецца?

— Мне?! — здзівіўся не так пытанню, як Ганнінай сур'ёзнасці Глінскі, нават прыпыніўся на некалькі імгненняў. — А тое, што мне геніяльнаму рэжысёру, плацяць роўна столькі, колькі завешанаму п'янымі смэркамі качагару ці асенізатару, па-твойму, як? Ці ўсё на выдаткі палітыкі і палітыкаў потым смерць спіша? Ды я не тое што грудзіну не падстаўлю, а і пальцам не варухну, каб перапыніць працэсы, якія сёння адбываюцца! Мерцвячына вакол. Ад смуроду дыхаць даўно няма чым. Усё мастацтва да двух прытопаў, двух прыхлопаў звялі, а мяне яшчэ і захапляцца гэтым змушаюць! Чаго няймецца, пытаеш? Ды будзь мая воля, я расквасіў бы морду любому рэжыму, які адпрэчвае творчасць і прагрэс, які мазгамі геніяў угнойвае клумбу ўлады. Так, так, клумбу! — усе параўнанні з пірамідаю, прастолам ці п'едэсталам кульгаюць на абедзве нагі. Хоць бы таму, што ад іх патыхае не толькі ладанам, але і крывёю. Гнілой крывёю даўно прамінулых часоў, якой, як парфумаю, апрыскаюць і сённяшнія бойкі. Калі не асвячаючы, то апраўдваючы. І што ў гэтым месіве загубленых жыццяў, амбіцый і бясконцых злачынстваў супраць чалавека, супраць душы ягонае — боль мастака, крык яго душы? А? Пытанне не да цябе, разумею. Ды дзе яго яшчэ агучыш, як не ў бязлюдным парку, пад шатамі старых ліп?

Маналог доўжыўся, і Глінскі даўно ўжо звяртаўся да самога сябе, не азіраўся на спадарожніцу, заглыбленую ў думкі, часам забываючыся на яе. Спакойны рытм няспешных крокаў, спакойныя, размераныя ўзмахі рук і словы... У словах гэтаксама асаблівага хвалявання не чулася. Быццам гучаў, агучваўся завучаны тэкст. Між тым, калі б побач знаходзіўся хто з дасведчаных знаёмцаў Глінскага, то несумненна здзівіўся б. Не тэк-

сту, не словам, адназначна пратэстным (Глінскі, безумоўна, так і думаў, з такімі пераканаеннямі жыў), а нечаканай адкрытасці: хто-хто, а ён ад асцярогі нідзе і ніколі не адмахваўся — памятаў, што паўсюль і за ўсімі прыглядвалі. Тут жа...

— Тут выбар адзін: выбірай дужага! Моцна трымалі ўладу камуністы — пад іх маршы маршыравалі, упусцяць — іншая музыка загучыць. І галоўнае, каб гэта была н а ш а музыка! Наш марш! Левую нагу адтапталі, час праваю пашчыраваць: захад! захад! захад! Горбі правільна зарыентаваўся на захад, вось толькі кішка тонкая, каб за пададзеную адтуль руку ўхапіцца, мо-о-оцна ўхапіцца!

— Што? — наткнулася на яго, прыспешыўшы крокі, Ганна і крыху спалохана перапытала. — Ты штосьці спытаў?

— Ды не... — не адразу знайшоўся Глінскі: уздыбленая ягонымі воклічамі прастрань мякка гэпнулася побач, вярнуўшы ў рэальнасць канкрэтнага часу, і да яе яшчэ трэба было прыстасавацца.

— А-а! Тады я пабягу, — узрадавалася Ганна. — Яшчэ ў краму зазірнуць паспею.

Яна не пабегла, але, шырокімі крокамі абмінуўшы Глінскага, так на яго і не азірнулася. А той таптаўся на месцы, пазіраючы ёй услед, хвіліну, другую, і ўсё не мог вырашыць, аб чым у гэтыя хвіліны шкадаваў: аб тым, што сарваўся і нагаварыў абы-чаго, ці аб тым, што адзіная слухачка імправізаванага гнеўнага маналога нічога, ніводнае фразы з яго не чула.

Калі ж нарэшце павярнуўся і пайшоў у адваротны бок, ні пра ўсхваляваную гаворкаю з высокапастаўленым і звергнутым апошнімі падзеямі Ганніным палюбоўнікам, ні пра гэтыя падзеі больш не ўзгадваў: адзін партыйны прышч зменіцца другім, адны ўлюбёнцы ўлады саступяць месца ў табелі аб рангах другім — і што? Жыццё перапыніцца? Зямля з арбіты саскочыць?

«Прайшоўшы праз усё, нічым не спакусіцца...» — працытаваў у думках хто ведае калі чутыя словы аднаго з забітых прарокаў і ўсміхнуўся. Гэта гульня, іншая... На тое ён, Глінскі, і рэжысёр, каб любую гульню зрэжысіраваць! Нават гульню ў падкіднога дурня, якую не пачынаў і ў якую ўцягнуты па волі часу і дурной камуністычнай спадчыннасці. Калі сямтам прасачыць, сяму-таму своечасова краплёную карту падкінуць, то і магчымы пройгрыш льга будзе скарыстаць потым як выйгрыш. Не свой, дык каго са сваіх... Гэта ўжо як водзіцца!

Перш чым скіравацца ў канферэнцзалу, дзе яго чакалі дэпутаты Вярхоўнага Савета з нешматлікай, але ўплывовай групы інтэлігенцыі, спецыяльна запрошаныя на гаворку аб будучыні краю (каму-каму, а ім муляла гэта будучыня — і ў сілу палажэння, і ў сілу моўнай арыетацыі), Шутаў нейкі час стаяў перад люстэркам. Ні асаблівае патрэбы, ні асаблівай задумы ў тым не было: штосьці ва ўласным адбітку прывабіла позірк, а што, не ўлавіў. Вось і прыстыў да яго, спрабуючы ўбачыць больш таго, што бачыў, — глыбіню роздуму, прыхаваную трывогу за не падуладную яму ходу падзей, не пераможаную дагэтуль унутраную няўпэўненасць... Ды любы акрэслены пробліск, урэшце! А то — на пульхным твары круглыя вочкі... Ды яшчэ чырвань няроўнымі хвалямі зрэдчас са шчакі на шчаку перакочвалася!

Ацэнка не спадабалася. Быццам не сам прыйшоў да несуцяшальнай высновы, а хто збоку падказаў. Падказаць знайшлося б каму: адно

даў бы падставу... Знешні выгляд — не падстава. З прыродаю не спрачаюцца, на яе не наракаюць — і ён, Шутаў, ніколі не наракаў. Прыгладжваў, як цяпер, рэшту валасоў ўкруг лысіны, і не ўзгадваў ні пра яе, ні пра чырванню падсвечаны знутры твар, ні пра няпэўны ў сваёй мітуслівасці позірк. Ні здароўем, ні розумам Бог не пакрыўдзіў — на астатняе можна было не зважаць.

Іншыя — зважалі? А што яму іншыя? Не яны, а ён, Шутаў, кіраваў Вярхоўным Саветам, а значыць — рэспублікай! Не з ім, кіраўніком, раіліся ўсе лідэры суседніх рэспублік, рыхтуючы... Урэшце, не важна, што — дамова! змова! пераварот! — рыхтавалася ў закуліссі, галоўнае — з яго ўдзелам, з ягонае згоды. Згоду астатніх — усіх, хто спатрэбіцца, — з дапамогаю шчодра аплачаных гарлапанаў з ліку дзеячаў навукі і культуры — ён, Шутаў, атрымае. І сёння ж!

Падміргнуў свайму адбітку, звыклым рухам прыгладзіў лысіну і скіраваўся да дзвярэй. Зашпіліў, потым зноў расшпіліў пінжак (той даўно стаў цеснаваты і скоўваў дыханне), па ходу аддаў распараджэнне сакратарцы:

— Не думаю, што гаворка з дэпутатамі зацягнецца, але гарбату з малаком няхай прынясуць. Хвілін праз трыццаць.

— Зробім, Барыс Пятровіч, — пазначыла час тая і пасля таго, як за старшынёю зачыніліся дзверы, уздыхнула: ці то з палёгкаю, ці то са шкадаваннем: надта ж неахайным, недагледжаным выглядаў той сярод раскошы начальніцкіх апартаментаў! Але ж ні на позірк, ні на думкі яе Шутаў не азірнуўся.

Канферэнцзала выглядала паўпустою, але, азіраючы запрошаных, ён тут жа пераканаўся, што амаль усе, на каго спадзяваўся, прысутнічаюць. Прывітаўся, за руку — толькі з памочнікамі, зірнуў на падрыхтаваныя для яго паперы і, не чытаючы, адсунуў.

— Усе мы — аднадумцы, — звярнуўся да сабраных дэпутатаў, — і абралі служэнне свайму народу не сённяшнім днём. Не сённяшнім, і не ўчарашнім. На працягу ўсіх пражытых пад гнётам бальшавізму дзесяцігоддзяў мы, хто — адкрыта, прайшоўшы праз Гулаг, як мой бацька, хто — у меру магчымасцей, дадзеных абранаю кожным з прысутных прафесіяй, змагаліся за выжыванне нашае мовы, культуры, нацыянальнай самабытнасці. Вядома, даводзілася весці двайное жыццё, двурушнічаць, падтакваць, калі патрабавалася, а то і пасаду, як выпадала, пры ранейшым рэжыме сяму-таму займаць. Але ніхто — ніводзін з нас! — не стаў прыстасаванцам і там, дзе толькі можна было, выказваўся, даводзіў сваю думку, прапаноўваў рашэнне. І няхай яно рэдка прымалася, ніводнае слова пратэсту, нязгоды з палітыкаю, што праводзяць улады, не згінула, не патанула ў багне абыякавасці ці страху. Тое, што народ абраў нас, пагукаў да ўлады нас, — яркае сведчанне гэтаму. Прыйшоў наш час. Ён дае нам шанец дамагчыся роўнай незалежнасці для нашай рэспублікі, для нашай краіны.

Нехта з прысутных заапладзіраваў, але яго мала хто падтрымаў: сядзелі, вальяжна разваліўшыся ў зручных крэслах, зіркалі зрэдчас на прамоўцу, пакручвалі ў пальцах хто ручку, хто паперчыну, на якой і радка не з'явілася за ўсю раніцу роздуму і размоў, і ні выразам твару, ні рухам, больш-менш акрэсленым і выразным, не праяўлялі асаблівай цікавасці. Калі б Шутаў быў здольны ў гэтыя мінуты да глыбейшага назірання і аналізу, то лёгка зразумеў бы, што ўсе яны ў сапраўднасці і ў грош яго не ставілі: кожны лічыў сябе і разумнейшым, і больш адданым справе адра-

джэння, чым абараны старшынёю большасцю дэпутатаў Шутаў, — і палажэння больш высокага дамагліся, і званнямі ўшанаваныя, і медалькамі маглі, калі што, пазвінець... Таму і засталіся як не зусім ужо ўбаку, то і не наверсе. Не на самым версе.

— Гісторыя дае нам шанец, — не зважаў на крыху насцярожаную цішыню вакол Шутаў. — Ці зможам мы яго скарыстаць сабе і людзям на карысць — вось пытанне. Галоўнае — не распачаць барацьбу, а завяршыць яе перамогаю. Памяняць абрэвіятуру БНФ на БНР.

Зноў пачуліся рэдкія апладысменты, і ўсе заазіраліся на «зянонаўцаў», што сядзелі крыху асобна, убаку: няўжо і ўзапраўду адмовіліся б яны ад свайго спехам скалочанага «фронту»? Хоць, не маючы лепшага...

— Не толькі балты, але і інтэлігенцыя ў Кіеве і Расіі падтрымала б наша памкненне да незалежнасці, да ўласнай дзяржаўнасці. Падтрымала б на палітычным плане, як вы разумееце, — пераводзіў Шутаў пагляд з аднаго дэпутата на другога, яўна задаволены і сваёй прамоваю, і сабой. — Усё ў рэальным вымярэнні павінна адбывацца тут, у Мінску, на яго праспектах, каб потым, ледзь толькі ўзнікне неабходнасць, перакінуцца і ў правінцыю, на выбарчыя ўчасткі ўсіх гарадоў і рэгіёнаў. А такая неабходнасць узнікне. І ў хуткім часе, мяркую. Перамовы, якія вядуцца з кіраўнікамі суседніх рэспулік, паказваюць: палітычныя змены не прамарудзяць. Сур'ёзныя палітычныя змены!

Ён гаварыў і гаварыў, чуйна ўлоўліваючы кожны зрух цішыні. Быццам угаворваў усіх, хто быў пагуканы і прыйшоў, — і сябе самога! — у неабходнасці падобнай сустрэчы і поўнага, няхай пакуль што абумоўленага толькі агульнасцю мэты, яднання нацыяналпатрыятычных сіл, відочнага, няхай чыста знешняга, паразумення. Здавалася, слухалі ўважліва. Ніхто не пазяхаў, дэманструючы злёгку найграную пагарду. Ніхто не замаўляў штосьці сваё, звяртаючыся да суседа. Ніхто не пасміхаўся ні адкрыта, ні ў кулак...

— Ці будзе ставіцца перад Расеяй пытанне аб прыналежнасці да беларускіх земляў Смаленшчыны?

Выпад прагучаў так неўпапад і так гучна, што Шутаў, папярхнуўшыся на незавершанай фразе, змоўк. Дакладней, знямеў, марна спрабуючы вызначыць, хто яго перапыніў, і як-небудзь прыстойна зрэагаваць. Зрэагаваць не здолеў. Як заняло раптам... Разумеў, што пытанне — правакацыйнае, што правакацыя — падрыхтаваная, і не мог вымавіць ні слова, ні паўслова.

Зала ж ажывілася. Усе пачалі рухацца, прыўставаць, перамаўляцца, на нейкі час як забыўшыся на старшыню, твар якога залівала густая чырвань. І не дзіва: новаспечаныя палітыкі, без года тыдзень як дэпутаты... Адкуль бы ў каго з іх узялася ў гэту хвіліну неабходная сапраўднаму прадстаўніку ўлады дыпламатычная вытрымка?

— Ці... Цішэй! — памкнуўся ўлагодзіць залу памочнік Шутава. — Якія б пытанні ў каго ні ўзнікалі, іх можна і трэба абмяркоўваць.

— Безумоўна, — справіўся з сабою Шутаў, удзячна крануўшыся рукі памочніка. — Што ж да пытання, прагучалага толькі што, то яно заўчаснае. Заўчаснае! — і таму прапаную: сёння яго не абмяркоўваць.

— А чаму?

— Ды хоць бы таму, што для таго, каб падымаць пытанне аб далучэнні іншых земляў, перш трэба займець сваю, — не павярнуўшыся да маладзейшых і больш заўзятых калег, кінуў сівы як лунь мэтр ад літаратуры.

— З такімі, як вы, вечнымі рэнегатамі, не тое што не займееш...

— Прашу старшыню весці пасяджэнне ў адпаведнасці з парадкам дня і рэгламентам, — не даў той «зянонаўцу» завяршыць фразу.

— Таварышы! Таварышы!

— Спадар старшыня, мы не на партсходзе!

— Але і не на базарнай плошчы, — спрабаваў узяць сітуацыю пад кантроль Шутаў, але выкрыкі, рэплікі пасыпаліся адусюль, з усіх бакоў.

— Пратэстныя выступленні народа для вас — базар?

— У кожнага з нас адзін і той жа дэпутацкі мандат!

— Мандат той жа, а заслугі розныя.

— Мо вы ставіце сабе ў заслугу ўменне працаваць з гэб'ём?

— У нас былі заслугі перад народам, калі вы, малады чалавек, пешкі пад стол хадзілі! Так што прашу не зневажаць. Ні майго статуса. Ні майго ўзросту, — агрызнуўся грамчэй за іншых літаратурны мэтр. — Два словы па-беларуску звязаць не можаце, а туды ж!

— Мо нагадаць словы па-беларуску, якімі вы бальшавікоў і Сталіна яшчэ зусім нядаўна ўслаўлялі?

— Таварышы! Таварышы! — пастукваў па стале Шутаў, хоць і не надта шчыруючы: звычка да падобнага вэрхалу на пасяджэннях Вярхоўнага Савета сказвалася. — Прашу вярнуцца да вынесенага на парадак дня пытання і браць слова па чарзе.

— Патрабую слова!

— Мы не на мітынгу, і без лішніх слоў павінны разумець адзін аднаго.

— Павінны? А чаму ж не разумеем? Чаму соты раз перагаласоўваем рашэнне аб змене дзяржаўнай сімволікі?

— І яшчэ сто разоў будзем перагаласоўваць. Пакуль не прымем.

— А я прапаную на бліжэйшай сесіі вырашыць нарэшце пытанне аб павышэнні статуса дэпутата і яго заробку.

— Правільна! За такую працу...

— Мушу далучыцца, шаноўны Барыс Пятровіч. Абраннікі народа маюць права і на годны заробак, і на адпаведны статус, і на высокае званне, — зноў умяшаўся стары паэт. — Пісьменнікі Беларусі пацвердзілі сваю рашучую зацікаўленасць у змене пануючага рэжыму, і з іх рэкамендацыямі прысвоіць ганаровае званне Народнага паэта вашаму пакорнаму слузе трэба лічыцца. Думаю, трэба лічыцца.

— Хто пра Амелю, хто пра Амелеву цётку... Сцяг, герб, гімн — вось азнакі дзяржаўнасці!

— Не ўсе гатовы да такіх рашучых зменаў, — далучыўся да гаворкі яшчэ адзін з літаратараў. — У авальнай зале гучаць і іншыя заклікі. Супрацьлеглыя.

— Калі вы — пра калгасніка з Магілёўшчыны, то яму, як спатрэбіцца, лёгка рот заткнуць.

— Ну, ну!

— Настойваю на пазачарговасці пытання аб дзяржаўнай сімволіцы!

Гаварылі ўсе разам, перапыняючы адзін аднаго, і ў нейкі момант Шутаў перастаў слухаць, зрэдку варочаў галавою, адсочваючы чарговага незадаволенага, не прыслухоўваючыся ні да прапаноў, ні да пярэчанняў: хто што скажа, і так вядома, а патрэбнае памочнік для яго занатуе. Палітыка (ён ужо гэта паспеў зразумець) вяршылася і не ў гэтай зале, і не ў авальнай, і калі не ўмяшаюцца вайскоўцы...

Думка не не жарт напалохала: мажлівасці бунту ці нават простага непадпарадкавання арміі новым кіраўнікам дагэтуль жа і блізка не падпус-

каў. І не толькі ён, Шутаў, а і астатнія — што тут, што ў суседніх сталіцах. Гэта азначала б канец. Канец усяму: кар'еры, спадзяванням на новы ўзлёт, самой свабодзе, урэшце! У параўнанні з такой мажлівасцю павароту падзей, тое, што адбывалася цяпер, у Шутава на вачах, выдавала (ды і было!) кепска разыграным спектаклем, у якім ігралі дылетанты. У большасці сваёй — дылетанты: хто ад навукі, хто ад адукацыі, хто ад літаратуры.

Пагляд Шутава слізгаў з постаці на постаць, з твару на твар, і недаўменне расло. Сэнс слоў, выкрыкаў патанаў у агульным гудзе, даўно ўспрымаемым толькі краем вуха, жэсты выглядалі недарэчнымі, усмешкі час ад часу змяняліся злосцю, злоснымі грымасамі, якія перакошвалі твары, робячы іх непазнавальнымі. І ўсё гэта плыло за паглядам, чапляла яго, прарываючыся ў свядомасць, парушаючы ўнутраную раўнавагу. Шутаў міжволі ўціскаўся ў крэсла, моцна трымаючыся за край стала абедзвюма рукамі. Так, бы баяўся раптоўна страціць прытомнасць ці — таго горш! — цалкам страціць кантроль над сабой і закрычаць што ёсць моцы: «Прэч! Пайшлі ўсе прэч!»

— Глыніце, — падсунуў яму шклянку з газіроўкаю памочнік, і Шутаў адно ўдзячна кіўнуў.

Пасля таго, як зрабіў некалькі глыткоў, палягчэла. Каб не пачынаць усё спачатку (зала па-ранейшаму гула), падняўся, грымнуў па стале адразу двума кулакамі, змушаючы ўсіх хоць на хвіліну аціхнуць, і некалькімі рэзкімі фразамі завяршыў пасяджэнне:

— Дзякуй за гаворку, як зазвычай,ператвораную ў дэпутацкую перапалку. Абмяркоўваць унесеныя прапановы будзем у авальнай зале, аднак зазначу, што ідэі незалежнасці патрэбна падтрымка. Рашучая падтрымка кожнага з нас. І не на словах, а на справе.

Калі рушыў да выхаду ў суправаджэнні памочнікаў, спінаю адчуў ледзяную хвалю цішыні, якая папаўзла следам.

Надвор'е да канца дня сапсавалася канчаткова. Халодны вецер перш крыху аціх, але неўзабаве, калі дыханне прызвычаілася да акрэплага марозцу, зноў задзьмуў з ранейшай сілай. Хутка ў паветры з'явіліся і снежныя мухі, якія з кожным імгненнем не толькі множыліся, а і раслі, наліпаючы адна на адну. Даводзілася прыгінаць галаву ці адварочвацца ад ветру, каб змахнуць іх з павекаў.

Усё — адпаведна настрою, вызначаць які Ковач у гэтыя хвіліны не ўзяўся б. З тугою зіркаў то на размытую плынню ветра будыніну вакзала, то на чыгуначнае палатно пад коламі маскоўскага цягніка: ад'язджаў — па ўсім відаць, назаўсёды пакідаў Беларусь нядаўні партыйны кіраўнік рэспублікі. Не проста непасрэдны яго кіраўнік, але і аднадумца, паплечнік па жыцці і барацьбе, няхай сабе да апошняга часу і вышэйшы па рангу. Праводзіў яго Ковач, раз-пораз стараючыся хоць неяк прыхаваць разгубленасць: не ў апошні ж шлях, урэшце...

— Мо не час яшчэ ад'язджаць? — вырвалася зноў, перш чым злавіў думку за хвост.

— І самому моташна, Віктар, — адгукнуўся Першы, лёгенька, па-сяброўску таўхануўшы яго плячуком. — Ды трэба, трэба ехаць. Пакуль запрашаюць...

— Няўжо ніхто ў Палітбюро не разумее ўсёй небяспекі становішча?

— Разумець разумеюць, зрабіць нічога не могуць. Ці не асмельваюцца... — дадаў пасля невялікай паўзы. — Іржа з часам нават метал раз'ядае,

а чалавек... Андропаву раней трэба было ўмяшацца. Значна раней! А і ён, мусібыць, не раз, не два перасцярогся.

— Калі ўжо ўсёмагутны КДБ...

— Усёмагутны — адно Гасподзь Бог, ды і то са згоды царкоўнікаў і іхняй паствы. Людзі — усюды толькі людзі, — прыпыніўся насупраць свайго вагона і зірнуў на гадзіннік той.

— Хвілін сем яшчэ ёсць, — заўважыў Ковач.

— Далёка адыходзіць не будзем, але сказаць табе на развітанне сёе-тое хачу, Віктар, — адвярнуўся ад ветру Іван Кузьміч. — І, як верыш мне па-ранейшаму, то прыслухаешся да сказанага.

— Не сумнявайцеся, — таптаўся ўкруг яго Ковач, як заведзены, не заўважаючы ні гэтага свайго нервовага кружэння, ні задужа ранняй сёлета снежнай завірухі, у якой патанала ўжо ўсё вакол, набываючы размытыя і таму нібыта фантасмагарычныя рысы. — Выпрацаваная ў апошнія месяцы праграма дзеянняў...

— Ды плюнь ты на ўсе праграмы! — занерваваўся і той, фізічна адчуваючы няўмольны бег часу, апошніх хвілін перад расстаннем — і з верным таварышам, і са сваім краем . — Час супраць нас, Іван. І гэта зусім не азначае, што яго можна праігнараваць. Задоўга чакалі пэўных змен у партыі, а чаго дачакаемся, і думаць не думалася. Вось і трэба разумнець. Прыстасоўвацца.

— Прыстасоўвацца?!

— Прыстасоўвацца. Да новых умоў. Да новых павеваў, — бы і не заўважыў ён воклічу Ковача, спяшаючыся сказаць тое, што адкладваў на гэту апошнюю хвіліну. — Прыглядвацца да новых людзей, вызначаць іх моцныя і слабыя бакі, іх вартасці і хібы... Патрэбны новыя людзі, новыя лідэры, Віктар! Не для таго, каб вярнуць і нікому не даць у дальнейшым парушыць вернутую ўладу, а каб не даць поўнасцю змяніць арбіту руху да вызначанае некалі мэты. Сёння рух дае збой, шлях спатыкаецца на кожнай купіне і шчэрбіне, а ўсё таму, што няма прытоку — спыніўся! — новае крыві. Маладой крыві. І калі тутэйшыя ці маскоўскія рэнегаты здолеюць прывабіць на свой бок моладзь, шлях абрынецца ў добра і загадзя падрыхтаваную бжэзінскімі ўсіх масцей бездань.

— Адзін з імі купленых — усё яшчэ ў Крамлі сядзіць, — буркнуў Ковач. — Не знайшлося нікога, хто прыдушыў бы гада!

— За яго пентагонаўскія ястрабы ўсю моц сваіх армій абрушылі б на Савецкі Саюз... — церабіў падбародак, узіраючыся ў Ковача той. Разумна трэба дзейнічаць, спакваля завалодваючы і страчанымі па яго віне пазіцыямі, і людскімі душамі. Новую тактыку выпрацоўваць, адбіраць з людскога матэрыялу лепшае. Ты там, у Вярхоўным Савеце, звярні ўвагу на настырнага змагара супраць карупцыі ў вышэйшых эшалонах улады і на месцах.

— Старшыню саўгаса з Магілёўшчыны?

— Яго. Раманава, — пацвердзіў той. — Калі ён са сваімі прэтэнзіямі ўжо да генсека, які назваўся прэзідэнтам, дапяў, то можа далёка пайсці. Калі збоку — і своечасова! — дапамагчы. Вось і прыгледзься да яго. Дапамажы, як спатрэбіцца, калі палічыш магчымым. Толькі як мага незаўважней, цішком, ні сябе, ні яго без дай прычыны не падстаўляючы.

— Ёсць! — па-вайсковаму коратка адказаў Ковач.

— Цягнік адпраўляецца! — гукнула з-за снежнай мітусні праваднiца. — Прашу ўсіх зайсці ў вагон!

— Ну, не памінай ліхам, Віктар, — падаў руку, а потым і моцна абняў злёгку разгубленага Ковача, паляпаўшы яго па спіне. — Будзе магчымасць, выклічу...

— Удачы!

— На ветэранаў ва ўсіх справах абапірайся, — ужо з вагоннай прыступкі гукнуў той. — Яны і раней не падводзілі нас, і сёння не падвядуць. Нашы людзі!

Цягнік натужна, з грукатам крануўся з месца, з рэпрадуктара на рагу вакзала, як зазвычай падчас адпраўкі маскоўскага, грымнуў марш, і мажорныя акорды яго, перамешваючыся з ветрам і снегам, здаецца, засыпалі Ковача, прыстылага да ўласнага ўзмаху рукі, завіслай у паветры. Толькі калі хтосьці, спяшаючыся ў будынак, далей ад завірухі, злёгку таўхануў яго («Прабачце!»), апусціў руку, крыху атросся ад наліплага на паліто снегу і няспешна рушыў уздоўж платформы, крокі за тры ад краю, да пляцоўкі, дзе была прыпаркаваная машына.

«Занадта ранняя завіруха... Яшчэ і каляндарная зіма не наступіла...» — няўцямна вярнуў мульганулую колькі хвілін таму думку і здзівіўся і думцы, і таму, што толькі цяпер заўважыў густы снегапад, моцныя павевы па-зімоваму халоднага ветру і неяк вельмі хутка апусцелы перон. Выходзіла, аднаму яму не трэба было нікуды спяшацца, і Ковач міжволі азірнуўся, зноў і зноў азіраўся на даўно зніклы ў снежнай замеці цягнік, быццам штосьці — штосьці важнае, што прапусціў! — усё яшчэ хацеў там угледзець. Хацеў — і не мог. І марна запавольваў крокі, марна ўзіраўся, напружваючы і зрок, і памяць: перад вачамі стаяў адно мокры ад расталых сняжынак твар Івана Кузьміча, і яму па-ранейшаму здавалася, што на маршчыністых шчоках таго паблісквалі не кропелькі вады, а слёзы. Скупыя мужчынскія слёзы.

Зазірнуўшы ў паштовую скрынку і не знайшоўшы там, як звычайна ў гэты час, газет, Шэршань, перш чым зноў насунуў скураную пальчатку, незадаволена пстрыкнуў пальцамі: а восьмай гадзіне падобнае раней не здаралася... Прымкнуў скрынку і, пацепваючы плячамі, пайшоў з пад'езда да машыны. Ужо ад машыны, прытрымліваючы дзверку, чамусьці азірнуўся на дом, на вокны сваёй кватэры на трэцім паверсе. Злавіў сябе на гэтым руху і, здзіўлены і сваёй нязвыклай сентыментальнасцю (з чаго б раптам?) і мільганулай трывогаю (за каго, як жонку адправіў на курорт, а сын тэлефанаваў толькі ўчора?), хмура павітаўся з вадзіцелем.

— Чаго ўстаў? Паехалі!

Той хацеў штосьці сказаць, у апошні міг літаральна злавіў сябе, што называецца, за язык, ледзь прыкметна перасмыкнуў плячамі і рвануў з месца, усім сваім выглядам дэманструючы: «А я — пры чым?»

— Газет не прыхапіў?

— Дык вы ж...

— Спынішся каля кіёска на рагу перад паваротам, — загадным тонам, што здаралася з ім нячаста, дадаў Шэршань, не даслухаўшы фразы, не звярнуўшы ўвагі на сухое «Ёсць!» у адказ: штосьці муляла, штосьці ён сваім сабачым нюхам адчуваў, а што? Не з апахмелу ж! — не піў учора, не напіўся... з сынам нармальна пагаманіў...

Калі машына тармазнула, сам выйшаў, каб купіць газеты, хоць ля акенца ў кіёск тапталася некалькі чалавек. Шэршань прыстроіўся да чаргі,

гэтак жа, як і астатнія, моўчкі пераступаў з нагі на нагу, пакуль не наблізіўся да шчыліны ў акенцы.

— «Советскую Белоруссию» — сунуў грошы старой кіяскёрцы, потым чамусьці, паспешліва корпаючыся ў кашальку, дадаў: — Усе сённяшнія цэнтральныя газеты — нашы і маскоўскія!

Згроб газеты. Не зірнуўшы, сунуў у кішэню пададзеную кіяскёркаю рэшту. Вярнуўся да машыны. Садзіцца ў машыну не стаў: прайсці заставалася якіх паўквартала, махнуў лейтэнанту («Едзь!») і пайшоў па заснежаным тратуары ўніз. За паварот і ўніз, да паста. Яшчэ не ведаючы — і ўжо разумеючы! — што здарылася штосьці надзвычайнае. Менавіта надзывчайнае, тлумачэння якому ён не знойдзе ні ў газетах, ні ў сценах КДБ... Здавалася, ад тоўстых каменных сценаў будынка патыхала холадам і трывогаю.

Паставы звыкла казырнуў, прапускаючы ў вестыбюль. Калідоры звыкла пуставалі, праз шчыльна зачыненыя дзверы ўздоўж калідора не даляатала ні гуку. Ніхто не трапіўся па дарозе ў кабінет. Усё — як зазвычай, як у любы дзень раніцою, калі справы, прызначаныя стрэчы, тэлефонныя званкі яшчэ не паланілі цяжкую, звыкла гнятлівую тут з даўніх часоў цішыню. Шэршаню яшчэ ўчора і ў галаву не прыйшло б услухоўвацца ў яе, азіраючыся на кожныя дзверы, а цяпер...

«У псіхушку, няйначай, душа рвецца...» — пачуў уласную думку як бы збоку, ад каго іншага, і нават спалохаўся: самы час паддражніваць нячысціка! — і так, напэўна, радуецца...

Кінуўшы газеты на стол, распрануўся тут жа, каля стала, кінуў паліто і пальчаткі на крэсла збоку і разгарнуў «Правду». Нічога, што насцярожвала б... Стаў шаматаць старонку за старонкаю, газету за газетай (для нечага ж накупляў іх цэлую кіпу!) і, калі наткнуўся ў адной са сваіх на загаловак: «Савецкі Саюз загадаў доўга жыць», гучна вылаяўся. Не чытаючы, набраў нумар экстранай сувязі.

— Палкоўнік Шэршань. Звяжыце мяне з генералам.

— Ёсць.

— Ёсць сувязь? — нецярпліва перапытаў праз некалькі секунд.

— Ніяк не, таварыш палкоўнік, — прагучала ў адказ. — Генерал ад'ехаў.

— Куды? — вырвалася ў Шэршаня, хоць гэта пярэчыла статутнаму палажэнню, і каму, як не яму, пра гэта ведаць.

— Не ўпаўнаважаны, таварыш палкоўнік, — спакойна адказаў абанент і адключыўся.

Шэршань цяжка гэпнуўся ў крэсла, пацёр пальцамі скроні. Потым пакасіўся на газету, без асаблівае ахвоты, з цяжкім сэрцам падсунуў яе бліжэй, каб урэшце азнаёміцца з інфармацыяй. І так ясна было: змова! змоўшчыкі ажыццявілі задуманае!

Словы скакалі перад паглядам, і, не дачытаўшы, Шэршань ускочыў, адпіхнуў крэсла ад стала, потым зноў абваліўся на яго, не проста абураны — раз'юшаны. Як? Ён, палкоўнік КДБ, дазнаецца пра развал краіны з друку?! Ды што яны ўсе ў гэтым ведамстве рабілі, як падобнае стала не проста магчымым, а нечаканым?

Мільганула думка, што ён успрымаў факт, і факт не правераны, залішне эмацыянальна, і не тое што вылаяцца, выкаўтнуць пераселае ў глотцы паветра нейкі час не мог. Задыхаўся, нагадваючы рыбіну з выпучанымі вачамі, чырванеў, наліваючыся выбуховай сілаю, якая магла разадраць яго на кавалкі і кавалачкі.

Прыкрыў вочы. Напружыў волю, канцэнтруючыся на адной адзінай загаднай думцы: «Спакойна! Спакойна, палкоўнік!», і калі дыханне вырвалася з грудзей, з палёгкаю вылаяўся. Раз. Другі раз. Пакуль, як кажуць, не прарвала. Самыя брудныя мацерныя словы, якія толькі ўзгадваліся ў гэту хвіліну, пасыпаліся градам. Шэршань, падняўшыся, кідаўся ўзад-уперад па пакоі і крыў усіх як ёсць за тупасць і фанабэрыю, за прадажнасць, баязлівасць і бесхрыбетнасць, за фанатычны аптымізм, даўно нічым не падмацаваны, і вечныя спадзяванні на авось — за ўсё! Лягчэй не станавілася, але дыханне аднавілася і здольнасць разважаць паціху вярталася.

«Кіраўнікі трох савецкіх рэспублік, якія, здавалася, толькі ўчора вылучаліся на высокія пасады сваімі партэлітамі і прысягалі на вернасць першаму прэзідэнту Савецкага Саюза, некалькімі росчыркамі пяра перакрэслілі васьмідзесяцігадовы шлях народаў — агульны і неймаверна цяжкі шлях!», «Канец камуністычнай імперыі...», «народы заслужылі незалежнасць...» — пішуць. А хто спытаўся ў народаў? Пасля таго, як усе народы на рэферэндуме сказалі: Савецкаму Саюзу — быць, і паўгода не прамінула... У гісторыю шчэмяцца! Царкамі захацелася пабыць! А грэбаны прэзідэнт за крамлёўскімі сценамі адседжваецца!»

Апошняя думка зноў выклікала выбух бруднай лаянкі, і зноў Шэршань кідаўся ад сцяны да сцяны, як загнаны ў клетку звер, не ведаючы, не знаходзячы выйсця для ўскіпелай энергіі. Трэба ж было нейк (як?) вытлумачыць хоць самому сабе, чаму не былі своечасова прыняты — і дагэтуль не прымаюцца! — меры супраць змовы, супраць змоўшчыкаў, чаму ўсёмагутны КДБ бяздзейнічае, а ён, палкоўнік спецслужбы, не можа звязацца нават з непасрэдным сваім начальствам.

Вытлумачэння не было. Выплеснутая злосць цёмнымі хвалямі перакочвалася па кабінеце. Шэршаня нават злёгку пахітвала з боку на бок, і ён, спустошаны, знямоглы, апусціўся на сваё крэсла і нейкі час тупа пазіраў на тэлефоны, якія ўсе, як адзін, маўчалі. «Мо ўжо і сувязь адключылі?» — мільганула трывога, і, каб праверыць думку, зняў трубку. Слухаючы доўгія гудкі з так і не паднесенай да вуха трубкі, доўга разважаў, каму пазваніць, і не адразу даўмеўся. Калі рука машынальна падалася да дыска, стаў набіраць нумар памочніка генерала.

— Іван Данілавіч? Палкоўнік Шэршань.

— Добры дзень, палкоўнік. Калі вы з пытаннем...

— Я чакаю распараджэння.

— Распараджэнняў пакуль што няма. Загадана чакаць. Усім загадана чакаць.

— Дачакаліся ўжо, ё... — кінуў Шэршань трубку, на міг апярэдзіўшы новы прыліў гневу, гнеўнага абурэння, але чарговыя мацюкі толькі злёгку ўскалыхнулі цішыню і згаслі, вярнуўшы змогу. Змогу, якая расцякалася па ўсім целе і ў нейкі момант абярнулася раптоўнай абыякавасцю. Так, быццам штосьці замкнула ў ім і гэта кароткая тэлефонная перакідка словамі канчаткова пазбавіла не толькі ўпэўненасці, а і звыкла ўласцівай яму волі да руху, да супраціўлення любым абставінам і перашкодам.

Сабраў у стос газеты. Уключыў невялікі тэлевізар у кутку кабінета, каб адсачыць, што перадаецца, што трапіла ў выпускі навінаў, але на ўсіх каналах ішлі звычайныя для гэтага часу перадачы для дома, для сям'і. Прыглушыў да мінімальнага гук, дастаў з шуфляды радыёпрыёмнічак, кінуты туды хто ведае за якім часам, паспрабаваў прамацаць эфір, але батарэйкі селі, а шнура, каб падключыцца да электрасеткі, побач не аказа-

лася. Пачаў высоўваць шуфляду за шуфлядаю — знайшоў. Стаў падключаць — не атрымалася: нешта недзе заядала... Кінуў і шнур, і прыёмнік назад, адкінуўся на спінку крэсла, выпрастаўшы ногі і прыкрыўшы вочы. Чаго, запытацца, мітусіўся? Загадана чакаць распараджэння, загады трэба выконваць...

Паступова знікала адчуванне часу. Шэршань то нерухома, уставіўшыся ў адну кропку, сядзеў у крэсле, то праходжваўся па пакоі. Праслухаў некалькі выпускаў навінаў, у якіх коратка паўтаралася ўжо вядомая інфармацыя. Некаму званіў. Адказваў на нечыя тэлефонныя званкі. Як зазвычай. Як у любы руцінны дзень. Быццам нічога не здарылася. Быццам з лесу, з пушчы не прагучала на ўвесь свет: Савецкага Саюза больш няма. Быццам Савецкі Саюз — не яго Радзіма.

Пазваніўшы ў гараж і загадаўшы падаць машыну, Шэршань яшчэ не ведаў, куды скіруецца. Дадому? Там пуста і няўтульна. Да каго з чыноўных сябрукоў? Што ён ім скажа, калі якраз яму трэба б ведаць больш, і не сённяшнім днём? У якую-небудзь карчму? Не той выпадак, каб набрацца як свіння ў прысутнасці звыклай да чаго заўгодна абслугі.

— У Азярын, Анатоль, — спакойна сказаў вадзіцелю, апусціўшыся побач. — У лясны домік.

— Ёсць, — пакасіўся той на палкоўніка, але ніяк не зрэагаваў.

— Самы час падумаць, — дадаў Шэршань, не чакаючы адказу, і ні слова ў адказ не прагучала: што на такое скажаш?

Ужо на выездзе з горада вадзіцель спытаў, ці трэба заязджаць у гастраном за сякім-такім харчам, але пачуўшы кароткае «Не!», больш у гаворку не ўступаў: мала нагадвала хмурае маўчанне Шэршаня звыклы настрой яго перад загарадняй паездкай? — дык жа і дзень, як ні стаўся да абнародаванага рашэння, гнюсненькі, і паездка не пры канцы тыдня: ні бабы, ні гарэлкі...

— Мо адскочу і прывязу што з прыпасаў? — усё ж пацікавіўся яшчэ раз, тармазнуўшы за мастком, каля самай дарожкі да дома, прыцярушанай сцяжком.

— Патрэбнае знайду і тут, — пацягваўся Шэршань. — Вяртайся, лейтэнант.

— Прыехаць, як зазвычай...

— Не трэба! — кінуў ён, павярнуўшыся да вадзіцеля, і толькі калі заўважыў, як прыўзняліся ў лейтэнанта бровы над застылым у позірку недаўменнем, крыху мякчэй дадаў: — Сёння — не трэба. Заўтра. Адно каб паспець своечасова на службу.

— Ёсць! — таптаўся той каля машыны.

— Штосьці незразумела?

— Загад зразумелы, таварыш палкоўнік, — казырнуў лейтэнант. — Дазвольце ехаць?

— Каціся, — буркнуў Шэршань, кіруючыся да ганка, і не павярнуўся ні на стук дзверцы, ні на рэзкі старт з месца, калі пасля таго, як натужна ўзвыў матор, стаў аддаляцца яго гул, што прыглушаўся нейкі час ледзь чутным шоргатам колаў. — Унюхаў-такі сёе-тое, сукін сын!

Ішоў не спяшаючыся. Дзівіўся, хоць і без асаблівае радасці, на сосны ўздоўж берага сажалкі, на чысціню не першага сёлета снега, на каляровыя водсветы сонечных промняў перад заходам сонцам на прыцярушаным сасновымі голкамі і снегам даху. Думаў, што, калі і любіў што ў жыцці па-сапраўднаму, то гэту мясціну, гэту сажалку і дом пад соснамі, які яму ніколі

не належаў. Не належаў... Дык і нішто іншае не належала! Прыйшоў у гэты свет без анічога свайго — і адыдзе, нічога з сабою не прыхапіўшы. Мо хіба гэты адвячорак...

Шэршань дастаў з кішэні ключы, але ў дом заходзіць не стаў — не хацелася. Ды і рана яшчэ. Захінуўшы паліто, апусціўся на драўляную прыступку ганка, на самы парожак. Так, абхапіўшы сябе рукамі, і сядзеў. Хвілін, якія няспешна наліпалі адна на адну, не лічыў. Ні пра што канкрэтнае не думаў. Думкі, як і позірк, пералятал і з аднаго на другое лёгка, нязмушана. Сінічка трапляла на вока — і ён сачыў за ёю з ціхім смуткам. З боку сажалкі далятаў нейкі згук — і ўзгадваў, як плаваў у яе халаднаватай вадзе ўлетку... і не адзін...

Адзін, не адзін — урэшце, значэння не мела, бо заўжды апасля заставаўся адзін. Хоць на службе, хоць дома, хоць тут. Перш нячаста, потым усё часцей, апошні год — пастаянна. І што гэта мяняла? Што падмяняла ці адмяняла? Любыя повязі паміж людзьмі — слабыя і няпэўныя. У адным выпадку на матэрыяльным інтарэсе трымаліся, у другім — на палітычным. Прайгравалі ў свой час і тыя, хто ўвесь час свае выгоды падлічваў, і тыя, хто без страху і сумненняў абараняў абраную ідэйную пазіцыю — абраную ідэю. Прайгравалі — адны спакойна, другія з трагічным для душы неразуменнем: чаму? за што?!

Вечны ідыятызм усё тых жа на ўсім працягу гісторыі пытанняў! Чаму? Таму, што жыццё, адпушчаныя ім дні ў скарбонку, як даляры, не сунеш. За што? А хоць бы за тое, што аднойчы стаў думаць: ад цябе штосьці ў гэтым жыцці залежыць...

Да падобных высноў у сваіх разважаннях Шэршань рэдка калі прыходзіў. Ды і рэдка — не тое слова! Не часу, веры не ставала, каб усур'ёз разважаць над сэнсам свайго ці чужога існавання: штодня ж назіраў (а то і даводзіў сяму-таму): жыццё чалавечае капейкі ломанае не каштавала, не тое што розныя там «сю-сю — ма-сю». Сюсюкай ці выкабеньвайся над тым, што падносіла на кожным сваім прамежку жыццё, — вынік адзін: лёс так або іначай пасмяецца з цябе, з тваіх чаканняў і спадзяванняў. Так або іначай. Раней ці пазней. Калі сам — і тады, калі схочаш! — не паставіш кропку. Кропку, няхай не вельмі зграбную, але дакладную, як паказаная разамлелай ад чакання публіцы фіга.

Не сонца (яно ўжо даўно схавалася за хмаркаю), а само адвячоркавае святло, здавалася, садзілася за лес: там ужо шырылася цёмная, цёмна-ліловая паласа, якая падымалася і зацяняла далягляд. Над палянаю, над домам неба яшчэ сінела, а ў сажалцы, дальні край якой бачыўся з ганка, ужо збіралася цемра, нідзе, ніводным водсветам не адгукаючыся пагляду.

«Самы час, каб памінаць...» — мільганула неакрэсленая і таму вокамгненная думка, і Шэршань толькі ў гэты момант адчуў, што холад прабіраў да касцей. Падняўся. Крыху патаптаўшыся на ганку, намацаў сунутыя ў адну з кішэняў ключы. Не з першага заходу, але адамкнуў дзверы і шырока адчыніў іх, каб упусціць у дом промні апошняга святла. Міг-другі прамарудзіў, спрабуючы зарыентавацца ў згадках, і прайшоў напрасткі ў пакой, да пісьмовага стала, дзе ў адной з шуфлядак трымаў — у адпаведнасці з няпісаным правілам, якога звычайна прытрымліваўся ў любым стане, прыхоўваў ад самога сябе пляшку малдаўскага каньяку, а ў другой (ніжняй) — баявы пісталет, прывезены некалі з Афгана. Перш дастаў пісталет і, праверыўшы, паклаў на стол, потым узяў з верхняй скрынкі каньяк і з пляшкаю ў руцэ вярнуўся на ганак. Адкаркоўваючы яе,

прасачыў за цёмнай паласою неба над лесам, потым цяжка апусціўся на ранейшае месца. Паёрзаў крыху і для большай зручнасці прываліўся спіною да шулы. Выпрастаў ногі і ўздыхнуў: пляшка сагравала руку, а трэба б, каб душу...

Позірк усё яшчэ спрабаваў утрымаць цямрэчу ад распаўзання і няўмольнага набліжэння, а ў душы Шэршань даўно зміpыўся і з гэтай шараю гадзінай, і з выспелым рашэннем тут, у адзіноце, сам-насам з бязмежжам, якое згасала на вачах, памянуць «вялікі і магутны»: яму ён аддана служыў, у росквіце яго, як сёння стала ясна, бачыў адзіны сэнс усяго таго, што рабілася і чынілася. Абвешчана смерць краіны — і хрэн з ёю! А вось сэнс... Вялікая ідэя, якую так бяздарна прапілі-пражралі (і ён, Шэршань, у тым ліку), была сапраўды вялікаю. Як ні круці, а не супраць краіны, якую называлі Савецкі Саюз, а супраць ідэі, якая зрабіла яе Савецкім Саюзам, змагаліся прайдзісветы ўсяго свету!

Шэршань піў каньяк проста з гарла, адганяў збрыдлыя за дзень думкі — і запіваў іх, не пражытае жыццё памінаючы, а ўсё яшчэ жывую веру ў жыццё, у яго працяг глушачы. Які працяг? У чым? Агонія распаду, хутчэй за ўсё, не адно дзесяцігоддзе будзе доўжыцца — і што? Смяяцца? Плакаць? Піць да чорцікаў у вачах, спрабуючы да новых гаспадароў прызвычаіцца?

Сплюнуўшы думку пад ногі, Шэршань падняўся. Трасянуў пляшку — штосьці яшчэ боўталася... Салютнуў ёю ўжо амаль да канца зацягнутаму шэранню небу, дапіў рэшту і пайшоў у дом. З парога кінуў пустую бутэльку назад, у снег. Адвячорак саступаў вечару, ён, палкоўнік КДБ Шэршань, саступаць новаму дню, нейкаму новаму жыццю не збіраўся. Даволі таго, што ў мінулым прайграна ім самім. Засталося годна прызнаць, што прайграў усё, і паставіць кропку.

Святло згасала. Чорнае вока сажалкі ў абрамленні прыцярушаных ранішнім снегападам соснаў яшчэ не злілося са змрокам, хоць ужо не люстравала ніводнага водсвету неба, і ўсё ж невялічкі прагал сінечы на захадзе сведчыў: дзень не дагарэў, а дагараў... Ні ўскрыку птушкі, ні павеву ветру. Так, бы паўсюль, ад краю да краю леса, ад краю да краю света ўсталявалася на некалькі хвілін цішыня.

Калі з дома, з так і не прычыненых дзвярэй пачуўся кароткі, здавалася, прыглушаны самой гэтай цішынёю стрэл, хмарны покрыў ледзь прыкметна ўздрыгнуў, і шэрань тут жа зацягнула апошні светлы прагал. Змрок пачаў гусцець, і ў хуткім часе ўжо цяжка было б правесці мяжу між цёмным, адразу пачарнелым небам і ахутанай шчыльнаю цямрэчаю зямлёй.





## Віктар ЯРАЦ

* * *

На выдых траў, на рытм дыхання ў гнёздах
настроены вясны бяссонны слых —
і самых ранніх зор, і зорак позніх,
агеньчыкаў на ўсіх шляхах зямных.

Вада цячэ — і зноў адкуль вяртаецца?
А дням — закон вяртання ці вядомы?
Сівее вецер, а жыццё вітаецца
лістком зялёным пад дажджом і громам.

Пытаннямі — у высях бліскавіцы.
Ці лёгка несці воблакам вякі?
Як вузялкі маўчання-таямніцы —
каменьчыкі на беразе ракі…

### АЗЫ

Жыць на зямлі, дзе ў соснах час нязводны
свой занатуе год — пакіне круг:
то генны код цярплівіцы Прыроды,
а несмяротны дух — жывіцы рух.

Жыць на зямлі, дзе магіяй замовы
то ловіш нечы ўздых, то шэпт між траў,
нібы ў часы язычніцтва — там словы
вадзе і зёлкам знахар давяраў.

---

*__Ярац Віктар Уладзіміравіч__ нарадзіўся 23 кастрычніка 1948 года ў пасёлку Красны Мост Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага універсітэта (1970). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў на абласным тэлебачанні. Скончыў аспірантуру пры кафедры беларускай літаратуры ГДУ (1975). Працуе выкладчыкам у Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Францыска Скарыны. Кандыдат філалагічных навук.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Уваходзіны», «Добрыца», «Дняпроўскі бакен». Выступае ў перыядычным друку па праблемах развіцця сучаснай беларускай паэзіі. Перакладае з рускай, украінскай, балгарскай, літоўскай моў.*

Жыць на зямлі, дзе цвет на завязь дрэвы
мяняюць — то працяг адных турбот.
Жыць на зямлі — той вечнай зорцы верыць,
якой ніхто не скажа — колькі год.

## СТАРАЖЫЛ

Дуб-нязломак — прадзедаў равеснік —
стой, як воін, над сівой ракой
і лаві далёкіх даляў весці —
іх прыносяць ветры талакой.

Зоры, сыпце птушкам на вяселле
свой на вершаліну звон густы,
дзе спраўляе лісце наваселле
пад маланкі
росчырк
залаты.

## ЛЯСНЫ ПАЎСТАНАК

Ранняе сонца над соннымі соснамі.
Ціхі паўстанак лясны.
Студня пад голлем, пад Гомелем,
росная,
студзіць глыбокія сны.

Хуткі цягнік прагрукоча дасвеццем —
рэху старая сасна
ў шрамах (і як ацалела на свеце?)
скажа пра нешта адна.

## ТАЛІСМАН

*...Абсмалены колас*
*Схіліўся да каскі.*

Мікола Сурначоў

Прапахлыя дымам дарог франтавых,
паходнай махоркай, туманам і пылам,
і жвірам маўчання над свежай магілай,
і сонцам, што грэе пілоткі жывых,

і духам акопным вышынь без імён,
і сёння агнём у пісьмёнах бяссоння —
і кроў на бінтах, і ў разгойданым звоне
ўсіх зор над жалезнай зямлёй пераразвон.

Ляжаць нерухома і коннік, і конь.
Ледзь чуецца шэпат: — Вадзіцы, сястрыца...
У полі асмяглым, знявечаным жыце
анёлам зямным — санітаркі далонь.

На скрып на абозны, на слых бальшакоў
нябёсы абпаленай хіляцца грывай.
А позірк расстайны ў грымотах-разрывах,
нібы талісман, у вачах васількоў.

## ГЛЫБІНКА

Па сцежках праз паляны верасныя,
што да людзей заўсёды прывядуць,
ішоў па словы ў вёсачкі лясныя
і гукі піў, нібы з крыніц ваду.

За вокнамі гудзелі сосны позна —
іх вецер аніяк не абміне.
— Загінуў муж за польскі горад Познань.
(Глядзіць са здымка ў рамцы на сцяне).

А знічкі, як гарачыя асколкі,
прапальвалі апратку вышыні
над брацкімі магіламі, дзе зоркі
азорваюць і грэюць ночы й дні.

І сеяў месяц зерне зіхаткое
і на курган лясны, і на грудок.
...У сны вярталіся
з цяжкога бою
сыны да пасівелых мацярок.

## ПЛОЎДЗІЎСКІ ДОЖДЖ

Спёкаю дыхаюць кветкі і камень —
рымскіх часоў відавочца, які
помніць, як зграі чужынцаў скакалі —
пылам гарачым сляпіла вякі.

Слухае горад салдат-вызваліцель —
родны братушка ў вянках на гары.
Рэчка Марыца, рэчка Марыца,
даўняй пары галасы паўтары.

Смажыцца лісце, моліць у промнях:
— Воблакі, воблачкі, дайце хутчэй
кропель жывых, каб карэнню прыпомніць
свята бяссонных вясёлых начэй.

З далечы, з высяў — спачатку нясмела,
потым — гусцей на антэны, двары
дождж сыпануў!
І стамлёнае цела
мые Алёша — салдат на гары.

* * *

Той свет, дзе перапёлкі б'ецца сэрца,
той свет, што помніць гуслярovы след,
ці адгукнецца зноў, ці адзавецца —
спытай калоссяў спелы перашэпт.

Той свет, дзе з рэчкі піў спатольна ў спёку,
той свет, дзе бор — у россыпах суніц,
не адпускае. Зблізку і здалёку
святліста-грайна соснамі звініць.

Таму і мішуру бліскучых фраз
аддам за камень шэры, мох зялёны,
за ствол шурпаты (хвоя, дуб і вяз),
што зберагае прадзедаў імёны.

## ЖВІР

Жвір — маўчанне таямніц-сакрэтаў.
Мокры ці ў каменьчыках сухіх —
не жадае ні зімой, ні летам
расказаць, што чуў ягоны слых.

І якім багам якога чыну
ён калі маўчання даў зарок?
Ловіць хмару, сонца, аблачыну
вечнасці дазорцам пільны зрок.

Пыльным днём, сцюдзёнаю часінай
знахарам страчае часу сказ,
параднёны і з глыбіннай глінай,
і з трывогамі касмічных трас.

## НА ЗОЛКУ

Ноч праляцела імклівa, і дзверы —
лёгкім, таропкім пытаннем на ростань.
Зноў заінелыя ў далечы вёрсты
сэрцам да сцюжы, да снегу памерацъ.

Позірк праводзіць, нібы дараванне.
Свет — прывітаннем прысад белакорых.
Недзе запознена золкія зоры
ў небе так блізка зацепляцца раннім…

## АЗБУКА СМАГІ

Чаму, калі цябе цалую прагна —
п'ю прахалоду губ, як подых летні
сунічнае паляны баравой,
ныраю ў косы, нібы ў вір, што кружыць,
з якога выбірацца не хачу,
радзімку кожную,
як знакі смуглай ночы,
на шыі, на плячах тваіх чытаю
і аддаю тваім грудзям салодкім,
напоеным садоў нябесных водарам,
гарачы шэпт, губляючы зямлю, —
то нехта гэта называе —
«грэх»?
І што ж такое — наталенне смагі?

* * *

...І разгадвае кожны, прыходзячы ў госці
і да гулкіх стваловў, і да плыткай вады,
таямніцы жыцця, хоць з адказамі штосьці
не спяшаюць імгненні, не спяшаюць гады.







Янка СІПАКОЎ

# ПОПЛЕЧ З ЦАРАМІ

*Апавяданне*

На гэты груд аленевых рагоў ён выйшаў зусім выпадкова — абыходзіў вялізную, затванелую пасля дажджоў лужыну на лясной дарозе і, расхінаючы, каб прайсці, хмызняк, убачыў за кустом нібыта лоўж з высахлага і ўжо абшалушанага ад кары ламачча.

Груд быў вялікі, амаль упоравень з кустом, і таму яму нават падалося спачатку, што менавіта сюды хутчэй за ўсё прыходзіла шмат аленяў, каб якраз тут напрадвесні скінуць рогі.

Потым падумалася, што гэты лоўж застаўся пасля нейкага палявання: паляўнічыя наскідалі ў груд аленевых рагоў ды чамусьці забыліся іх забраць.

Калі падышоў бліжэй, убачыў, што тых рагоў у кучы не так ужо і многа — усяго толькі дзве пары. Яны такія галінастыя, на іх так многа сукоў, што выдаюць і сапраўды на цэлы лоўж.

Паспрабаваў адзін падняць і нейкім чынам разняць галіны, але ў яго гэта не атрымалася: рогі былі моцна сашчэплены — нібы ўбіты адны ў другія. Галіны так перапляліся, меншыя сучкі прайшлі ці знізу, ці зверху большых, ссунуўшы касцяную паверхню рагоў, што не тое, каб падняць, а нават паварушыць іх не ўдавалася — такі суцэльны атрымаўся лоўж.

Паклікаў на дапамогу Варвару, якая ішла крыху наперадзе, тая вярнулася, аднак і з ёю, колькі ні торгалі, не змаглі расцягнуць рогі ўбакі: яны ўсё адно як зрасліся.

Варвара першая кінула край лаўжа на зямлю, а затым і ён асцярожна апусціў свой. Доўга глядзеў на косці, якіх было шмат пад рагамі, у траве, і маўчаў.

— Мусіць, тут палявалі, — таксама гледзячы на косці, задумалася жанчына.

---

***Сіпакоў Янка (Іван Данілавіч)*** *нарадзіўся 15 студзеня 1936 года ў вёсцы Зубрэвічы Аршанскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Працаваў у часопісах «Вожык», «Маладосць»,«Беларусь».*

*Аўтар кніг паэзіі «Сонечны дождж», «Лірычны вырай», «Дзень», «Веча славянскіх балад» і інш. Выдаў кнігі прозы «Крыло цішыні», «Жанчына сярод мужчын», «Усе мы з хат», «Тыя, што ідуць», «Вецер на даху вагона» і інш.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).*

— Не, Варвара, — запярэчыў ёй Ходар, — ніякіх ловаў тут не было. Тут адбылася найвялікшая бяда з-за кахання. І страшная бойка. Ведаеш, алені ўвосень шукаюць сабе самку і б'юцца за яе. Перамагае мацнейшы, слабейшы саступае. Гэтыя ж таксама любілі адну самку, але ніхто з іх не хацеў саступаць. Яны так любілі адну аленіху і так ненавідзелі адзін аднаго, што, сустрэўшыся рагамі, ужо не змаглі расчапіцца...

— Ага, — заўважыла Варвара, — я іх асенні гон ведаю. Равуць тады ўвечары і ўранку, хоць ты ў хаце не сядзі.

Яму гэта не спадабалася: бач ты, ён ёй нешта тлумачыць, а яна, аказваецца, тое ўжо даўно ведае. Але свайго незадавальнення ёй не паказаў, змаўчаў, зрабіў выгляд, што не пачуў.

На гэтай дарозе, між гэтага лесу Ходар Зямля апынуўся пасля крывавай ютрані ў Маскве, калі раз'юшаны натоўп маскоўцаў уварваўся ў царскія палаты Самазванца. Шмат тады палегла палякаў ды беларусінаў — хоць русічы і лічылі самазванства чыста польскаю задумаю, усё ж яны разумелі, што руіну ў іхняй зямлі ажыццяўляюць беларусіны, ліцвіны, людзі з Белай.

Пасля вялікай рэзы ў Крамлі, маскоўскія баяры пачалі думаць, што рабіць з тымі іншаземцамі, якія асталіся жывымі. Самых багатых і знакамітых палоннікаў разаслалі па розных гарадах Расіі — да прыкладу, Марына Мнішак, нядаўняя царыца, з бацькам і чатырма сотнямі царскіх прыдворных апынулася ў Яраслаўлі — іх там ахоўвалі каля трохсот стральцоў, — а астатніх, больш простых, ды тых, хто не вельмі нашкодзіў у Масковіі, адпусцілі дадому.

Вось з гэтымі людзьмі, якіх адпусцілі, і ішоў ён цяпер, жадаючы толькі аднаго — хутчэй дабрацца да сваёй мяжы, да Оршы, памежнага горада, да роднай Барані.

З ім паслухмяна ішла — без прысілу, самохаць, сама напрасілася! — жонка маскоўскага стральца Варвара.

Жанчын ім, ляхам і беларусінам з атачэння цара Дзмітрыя Іванавіча, хапала. Усе яны жылі ў Маскве весела і бесклапотна — прыгожа апраналіся, шмат танцавалі, яшчэ болей пілі. Грошы ў іх пакуль былі, хоць многія і крыўдавалі на цара, што падвёў іх — заплаціў не ўсё з таго, што абяцаў, просячы падсобіць яму сесці на маскоўскі трон.

А прычын для святаў і весялосці было ў Крамлі аж завельмі — то царскае вянчанне, то вяселле цара з Марынаю Мнішак, то проста свята без прычыны, а ўсяго толькі таму, што ўсім весела і хочацца гуляць.

Лепшым сябрам цара зрабіўся баярын Пётр Басманаў, калісьці, зусім нядаўна яшчэ, блізкі чалавек Барысу Гадунову, а ён, франт, танцор і распуснік, сэнс ва ўсім гэтым добра ведаў.

І, вядома ж, калі нехта з царскага акружэння хацеў мець для забавы ці проста для пары сабе рускую жанчыну ці дзяўчыну, ён яе меў.

Атрады фуражыраў, якія нарыхтоўвалі па наваколлі харчы ды віно і піва, забіралі з сабою і самых прыгожых дзяўчат, і маладых жанчын. Яны адбіралі іх не толькі ў мужоў-прасталюдзінаў, а нават і ў начальнікаў, якія не сталі на бок Самазванца.

Некаторыя з іх потым усё ж выкуплялі ў ляхаў сваіх жонак за вялікія грошы, аднак іншаземцы, часам забраўшы выкуп, жонак ім не вярталі, а калі і вярталі, то па дарозе ўсё роўна ладзілі засаду і кралі ўжо вызваленых жанчын.

Да некаторых мужчын выкупленыя мужамі жонкі вярталіся самі — ім падабалася гэтае маскоўскае свята разгулу і весялосці.

Яму фуражыры прывезлі з-пад Масквы Варвару — невысокую, але крэпенькую, як стронга, жонку стральца з пульхнымі вуснамі і вялікаю касою, укладзенай на галаве.

Яна здавалася яму нейкаю незямною — уражлівая, ласкавая Варвара захаплялася ўсім, ва ўсё верыла і ўважліва слухала яго, калі ён расказваў пра цара і царыцу, поплеч з якімі быў амаль штодня. Настрой яе мяняўся часта ад смеху да слёз і наадварот, і гэта чамусьці падабалася Ходару. Яму часам нават думалася, што менавіта яны і народжаны адно для аднаго.

І ўсё ж, калі стралец знайшоў сваю жонку і прыйшоў да яго з выкупам, Ходар, хоць і вельмі шкадуючы, аддаў яе без усялякіх грошай. Але ж ён і не здзівіўся, калі праз некалькі дзён Варвара вярнулася сама.

— Я ўжо не магу без цябе, — апусціўшы вочы, ціха сказала Стронга. — Не аддавай больш мяне нікому.

Стралец спрабаваў яе выкупіць яшчэ раз, але яна адмовілася нават паказацца яму, свайму мужу.

Варвара вельмі ўважліва, з раскрытым ротам слухала ягоныя згадкі пра цара і царыцу і шчыра верыла, што цар Дзмітрый Іванавіч — сапраўдны царэвіч, дзіцятка Дзмітрый, якога хацелі загубіць ва Угліччы і які ўсё ж вывратаваўся з рук забойцаў і застаўся жывы.

І таму Ходараў расказ пра ўрачыстае ўступленне царэвіча Дзмітрыя ў Маскву, якога Стронга не бачыла, яна ўспрымала вельмі ўзрушана.

Ён жа не толькі бачыў той уезд, але і сам удзельнічаў у ім.

Быў пагодны чэрвеньскі дзень. Масква купалася ў летніх сонечных промнях. Сонца адбівалася ў старанна начышчаных да свята латах ратнікаў, ясвы, адбітыя панцырамі, мітусіліся па тварах узбуджаных людзей, мільгацелі на зброі харугваў, якія адкрывалі гэтае шэсце.

У другой харугве — першы справа — ішоў і ён, ратнік Ходар Зямля.

За польскімі харугвамі парамі ішлі рускія стральцы. Ехалі ўбраныя царскія карэты, запрэжаныя шасцёркамі коней. Лепшых царскіх скакуноў вёў конны атрад баярскіх дзяцей у святочных каптанах. Усё духавенства было ў светлых рызах.

Сам цар Дзмітрый Іванавіч ехаў на статным кані ў залатым жупане і, абкружаны баярамі ды акольнічымі, нібы песцячыся ў радасных ускрыках труб і барабанаў, задаволена ўсміхаўся ўсім.

Маскоўскія і навакольныя людзі шчырымі воклічамі віталі таго, каго па прастаце сардэчнай лічылі сапраўдным сынам Івана Грознага, якому ўсё ж удалося ўратавацца ад забойцаў. Масквічы называлі яго красным сонейкам, а жанчыны, асабліва ў гадах, перасохлымі ад замілавання вуснамі шапталі:

— Дзіцятка, няшчаснае дзіцятка... То ж трэба — уратавалася, жывое...

Цяпер, калі ён расказваў Варвары пра той урачысты дзень, яна таксама радавалася, што царэвіч жывы, амаль тымі ж самымі словамі:

— Яны хацелі забіць яго, а ён, бачыш, выжыў і царуе.

А пра тое, як ён уратаваўся, яна чула раней і сама расказвала Ходару:

— Яго ж падмянілі. На пасцельку ў Угліччы паклалі побач з Дзмітрыем іншага хлопчыка, Сямёнку, падобнага на яго. Царэвіч памяняўся з Сямёнкам сарочкаю, а калі той заснуў, схаваўся за камін, а ноччу прыйшлі забойцы і зарэзалі Сямёнку. І сама маці не пазнала, што гэта не яе сын.

Сямёнка ж быў увесь у крыві, і Марфа аплакала яго як роднага. А царэвіч аж у Белую ўцёк.

— Ага, аж у Брагіне ён аб'явіўся, — у тон ёй загаварыў Зямля. — І амаль па-беларусінску загаварыў, масковец. Дзіўна, што ён вельмі хутка на сваю мову забыўся, пачаў на чужой зюкаць.

— А старыца Марфа, маці Дзмітрыя, сама ж прызнала, што царык — яе родны сын, — не заўважыўшы іроніі ў Ходаравых словах, верачы толькі ў сваю праўду, стаяла на сваім Варвара.

— Прызнаеш, калі цябе тысяча стральцоў ахоўвае, калі ты сядзіш у залатой клетцы. Яе ж прымусілі прызнаць несапраўднага Дзмітрыя за сына. А ведаеш, што яна адказала пасля крывавай ютрані, калі ў яе спыталіся, ці яе гэта быў сын? Манахіня раззлавалася: «Чаго вы толькі цяпер пытаецеся пра гэта? Цяпер, калі ўжо ён другі раз памёр, я вам скажу: не, не мой. А тады мяне так застрашылі, што я, збаяўшыся пакут, а то і смерці, саграшыла — назвала валацугу сынам».

І калі пасля крывавай ютрані і рэзі ў Крамлі труну з мошчамі пакутніка Дзмітрыя перанеслі з Угліча ў Маскву, яе сустрэлі перазвонам званоў, а старыца Марфа, былая царыца, павінавацілася перад духоўнікамі і баярамі, якія сустракалі царэвіча, у тым, што доўга цярпела падман Дзмітрыя Ілжывага, і прасіла прабачыць ёй гэты панявольны грэх. І ёй даравалі — яна ж, калі Самазванец хацеў выкінуць мошчы царэвіча з манастыра як несапраўдныя, не дала яму гэта зрабіць.

Ён бачыў забітага царэвіча ў Маскве, у Архангельскім саборы, куды яго паклалі ў адкрытай рацы: ляжыць дзіцятка, царэвіч Дзмітрый як жывы. На ім жамчужныя каралі, каптан, шытая золатам і срэбрам сарочка, хусцінка з тафты, таксама вышываная золатам, — у левай руцэ, а ў правай — жменька арэхаў, якімі ён цешыўся перад забойствам.

Ходар расказваў ёй тое, што бачыў на свае вочы, але Варвара ўсё роўна не верыла яму.

— Не, яго не забілі, — на ўсе довады адказвала яна. — Яго толькі падмянілі. Сямёнку, іншага хлопчыка, зарэзалі. А царэвіч застаўся жывы.

Дзіўна, але і яму, нягледзячы ні на што, хацелася верыць, што Дзмітрый ніякі не Самазванец, што ён сапраўдны царэвіч, які цудам выратаваўся.

Новы цар шмат каму падабаўся. Не мог і Ходар сказаць, што ён яму не даспадобы.

Невысокі, хударлявы, але добра складзены, ён вылучаўся сваёю фізічнаю сілаю ды спрытам у ваенных практыкаваннях. Рыжаватыя валасы, шэрыя вочы, смуглявы твар. Гучны голас, уменне гаварыць, адукаванасць дапамагалі яму зачароўваць і пераконваць кожнага.

Царык — так яго звалі многія — быў дасціпны, любіў коней, выдзяляўся смеласцю і храбрасцю.

Любіў будаваць снежныя крэпасці. Рускіх змушаў абараняць іх, а палякаў — асаджаць. Зброя — снежкі. Рускія наракалі на палякаў, казалі, што тыя хітруюць: заціскаюць у снежкі невялікія жалезныя ядры.

Нібы хваліўся сваім маладзецтвам: скакаў на шалёных конях, хадзіў з рагацінай на мядзведзя, з сабакамі — на ваўкоў. Рускім, якія прывыклі да паважнасці цароў, гэта вельмі не падабалася — яны лічылі такія забавы прыніжэннем царскай велічы.

Не падабалася людзям і празмерная марнатраўнасць новага цара: раздае каштоўнасці з царскай казны розным гульцам ды глуматворцам, жанчынам гугнявым.

А як ён танцаваў! Нават яго сябра Пётр Басманаў, выглянцаваны маскоўскі фарсун і танцор, зайздросціў яму і ў той жа час захапляўся ім. Яны так зблізіліся — цар і маскоўскі франт, — што ўжо нідзе не з'яўляліся паасобку: дзе адзін, там і другі. Басманаў зрабіўся яго правай рукою, быў галоўным саўдзельнікам ва ўсіх царскіх пагулянках і ганебна дагаджаў таму, каго сам лічыў ілжывым царом.

А піры і оргіі Самазванца!

Беларусіны, якія паднялі земляка на маскоўскі трон, не спяшаючыся дадому, прамотвалі разам з ім свае грошы, заплочаныя царом за дапамогу. Абезграшоўваліся ў папойках і зноў прасіліся на службу да царыка.

Самазванец жыў шырока і весела. У палацы часта ігралі музыкі, наладжваліся піры, папойкі, хуткія, жвавыя танцы.

Цар сыпаў вакол сябе ўзнагародамі і падарункамі. Любіў сам багата і прыгожа апранацца і прысільваў да гэтага не толькі баяр і дваран, але і простых людзей. Замежнікі часам дзівіліся: ніякага свята няма, звычайны будзённы дзень, а на вуліцах невядома з якой прычыны поўна святочна апранутых людзей — мужчыны, прыбраныя, як жаніхі, у золаце ды срэбры, жанчыны ў чужаземнай баграніцы, упрыгожанай каштоўнымі камянямі і дарагім бісерам.

Варвара любіла слухаць Ходаравы ўспаміны пра вяселле цара з Марынаю Мнішак і часта прасіла яго расказваць — у каторы раз! — як тое было.

Вяселле Ходару запомнілася такім маляўнічым, што згадваць пра яго і яму самому было цікава і ненадакучліва. Кожны раз пра тое агульнае свята ён расказваў па-іншаму, успамінаючы ўсё новыя і новыя дробязі, а яна слухала, затаіўшы дыханне, часам перабіваючы, калі ён забываўся на нешта важнае, што яна памятала з ранейшых ягоных расказаў.

Другога мая нарачоная царыца ўрачыста ўязджала ў Маскву. Царык зрабіў усё, каб гэта выглядала сапраўдным шыкоўным святам.

Марына Мнішак ехала ў вялікай карэце, аздобленай серабром, упрыгожанай царскімі гербамі. У карэту былі запрэжаны дванаццаць белых коней у яблыках — яны выглядалі ці то нейкімі тыграмі, ці то леапардамі. Кожнага каня вёў асобны конюх.

На ўсім яе шляху былі расстаўлены найлепшыя атрады з польскіх рот, стаялі нямецкія алебардшчыкі, маскоўскія дваране, стральцы і казакі. Цар расстаўляў войска, аднак сам за ўездам царыцы назіраў крадком, хаваючыся ў натоўпе.

Ходар Зямля стаяў побач з беларусінамі, і яму чамусьці было непрыемна бачыць прастадушную радасць маскоўцаў, якія наіўна паверылі ў сапраўднасць усяго, што адбывалася, паверылі ў цудадзейнае ўратаванне царэвіча і ў шчырасць ягонага вяселля.

Нечакана, калі царыца ехала між Нікіцкімі і Крамлёўскімі варотамі, падняўся віхор, які заглушыў гукі труб і літаўраў. Віхор быў амаль такі ж, як і тады, калі ўязджаў у Маскву сам Дзмітрый.

Некаторыя з тых, што замілавана глядзелі на гэтую падзею, раптам міжволі затрывожыліся — прадчуванне нейкай бяды нібыта пранеслася над імі. Ды і сам цар перасмыкнуўся нібы ад холаду і кудысьці знік — можа, і праўда, пайшоў куды наперад, а можа, Ходар проста згубіў яго з вачэй.

Урачыстасці з нагоды вянчання і вяселля цара і царыцы доўжыліся шмат дзён. Маладыя часта пераапраналіся і з'яўляліся на піры ўсё ў новых

і новых строях: то ў рускіх народных уборах, то нечакана цар — у гусарскім убранні, яна — у польскім гарнітуры.

Пасля вянчання шчодрыя гаспадары вяселля кідалі ў натоўп грошы. Рускія баяры хапалі іх, біліся за іх, а палякі ды беларусіны знарок грэбліва страсалі золата са сваіх капелюшоў. Ходар і сам абыякавым кіўком скінуў з галавы два залатыя чырвонцы, якія тут жа, кінуўшыся яму пад ногі, падабралі іншыя.

На раззалочаным посудзе пілі і елі ўсе — вартыя і не вартыя царскай увагі людзі.

Ролю тысяцкага на вяселлі выконваў князь Васіль Іванавіч Шуйскі, які неўзабаве зразумее ўсё, падыме русічаў, скіне Самазванца і сам стане царом.

А пакуль што цар і царыца цешыліся пышным, багатым вяселлем, ні ад кога не хавалі сваёй закаханасці, сваёй нецярплівай жарсці і жадання хутчэй застацца без гасцей. Дзмітрый і Марына, маладыя і захопленыя адно адным, здаецца, елі сябе вачамі, поглядамі, узбуджаныя поспехамі і насалодаю, былі нібыта ў чадзе.

Варвара, якая не толькі не паспела ўтачыцца ў акружэнне царыцы, але нават не змагла як след яе разгледзець, распытвала пра Марыну ў Ходара:

— А як ты лічыш — яна прыгожая?

— Не ведаю, — адказваў ёй Ходар. — Мяркуй сама. Царыца невысокага росту, худзенькая, чарнявая, з няправільнымі рысамі твару. Затое вочы... Яе вочы — яе ўсё! Яна вабіла і спакушала мужчын менавіта сваімі вачамі, жвавасцю, гуллівасцю.

— Гэтым яна і цара захапіла?

— Не толькі. Дзмітрый — легкадумны, летуценнік. Ён, што захоча, тое і ўбачыць у жанчыне. Да таго ж ён вельмі схільны да розных прыгод. Яго каханне ўзнікла з рамантычных адносін да Марыны. Шаснаццацігадовая баламутка закруціла галаву дваццаціпяцігадоваму шляхціцу.

— Затое, якое каханне, якія пачуцці...

— Варвара, мне здаецца, што і ты б не была супраць прымераць карону царыцы...

— Ну скажаш... — нібы пакрыўдзілася яна і адвярнулася. Не паварочваючыся да яго, спытала:

— Скажы, а Ксеня Гадунова прыгажэйшая за яе?

Ксеню, дачку Барыса Гадунова, пісаную прыгажуню, рахманую, пакорлівую дзяўчыну, баяры, усё яшчэ злуючыся на цара Барыса і ненавідзячы яго, перад Марынаю аддалі Самазванцу на пацеху — падаравалі, як ляльку, як нейкую забаўку. І Самазванец цешыўся дзяўчынаю, зневажаючы яе і пагарджаючы ёю.

А тады ўжо ўсе гаварылі пра Марыну, пра іхняе вяселле. Марынін бацька, Юрай Мнішак, змушаны быў запатрабаваць ад цара, каб ён аддаліў ад сябе Ксеню — Ксенія Барысаўна была сілком пастрыжана ў манахіні і цяпер бадзялася недзе па манастырах.

— Ну і што? — апраўдвала ілжывага цара Варвара. — Значыць, ён кахаў і Ксеню таксама.

— Яно, вядома, кахаў, — усміхнуўся Ходар. — Аднак каханне каханнем, а пасля крывавай ютрані каля паўсотні жанчын прыйшлі і прызналіся, што ўсе яны неўзабаве народзяць царэвічаў...

— Ім не веру, — стаяла на сваім Варвара. — Я веру толькі ў вялікае каханне Дзмітрыя і Марыны. І яшчэ ў тое, што Дзмітрый Іванавіч — сапраўдны царэвіч, які ўратаваўся.

Ён жа ў гэта не верыў. Ён ведаў, што новы цар — ніякі не ўратаваны сын Івана Грознага, а ўсяго толькі Ілжывы Цар.

У ратнікі Самазванца Ходар Зямля трапіў зусім выпадкова.

Калі князь Мікалай Радзівіл стварыў у сваім сяле Барань кульны двор, майстэрню па вырабе ядраў і куль для гармат ды гакаўніц, яго людзі шукалі сярод навакольных сялян будучых кульнікаў. У Зубрэвічах на вочы ім трапіўся памяркоўны, спакойны, моцны хлопец, і яны ўзялі яго ў Бараньскую майстэрню кульнікам. Далі яму, як і ўсім набраным, валоку зямлі, за што ён павінен быў здабываць руду, выпальваць драўляны вугаль, варыць жалеза, адліваць ядры і кулі. Гатовыя кулі яны пасылалі ў Копысь ды Біржай, у замкі, якімі валодалі Радзівілы. Кожны кульнік павінен быў даваць замкам у год па пятнаццаць куль вялікіх, паўсотні меншых, а для копыскіх гакаўніц — па капе ядраў.

Ходар ужо зрабіўся сапраўдным гаспадаром — сам даваў грошы на навабранцаў, жыта — на пушкароў і нават стацыю, палюддзе — курэй, яйкі, авёс, мёд — на выпадак прыезду ў Копысь каго-небудзь з Радзівілаў.

Кульнік жыў ужо добра і нават прыглядаўся да дзяўчат, выбіраючы сабе жонку.

Толькі бараньскім кульнікам дазвалялася тут капаць руду і варыць жалеза. Аднак іх строга папярэдзілі — яны павінны абавязкова закопваць пасля сябе тыя ямкі, якія засталіся пасля раскопак, бо і так ужо ад самаправўнай дзейнасці сялян усе навакольныя лясы былі раскапаныя і спустошаныя. Калі кульнікі не слухаліся і не закопвалі ямак, іх штрафавалі і адбіралі на карысць Копыскага замка назапашаныя руду, вугаль, жалеза.

Папаўся на гэтым і ён, Ходар. У яго забралі ўсё, і ён ужо не мог даць ні жыта на пушкароў, ні стацыю на прыезд Радзівіла.

І тады ён збег з Барані ў Оршу.

Орша на той час была памежным з Маскоўскаю дзяржаваю горадам.

Ходар і раней чуў, што нібыта ўратаваўся, застаўся жывы царэвіч Дзмітрый, якога хацелі зарэзаць ва Угліччы, што ён цяпер на Белай, збірае войска, ратнікаў, каб пайсці ў Масковію і адваяваць свой законны трон.

На памежжы збіраліся не толькі чуткі, але і розныя людзі, якія спадзяваліся менавіта тут і якраз у гэты час злавіць сваю ўдачу — зладзеі, рабаўнікі, казакі, вольныя, чымсьці незадаволеныя людзі.

У Масковіі перад гэтым годам быў неўраджай, і хлеб туды завозілі цяпер з Вялікага княства Літоўскага. У Оршы і ў іншых памежных гарадах у мяшкі з жытам нярэдка клалі адозвы і пісьмы новага цара, яго заклікі і распараджэнні, у якіх ён, як уратаваны царэвіч, звяртаўся да сваіх людзей.

Маскоўцы крыўдзіліся на гэта і ў сваіх афіцыйных лістах у Вялікае княства прасілі стрымаць нядобразычлівіцаў і не патураць іхнім дамаганням, аднак ім толькі адказвалі: маўляў, на нашай зямлі Самазванца і яго ратнікаў няма, так што лавіце сваіх мяцежнікаў на сваёй зямлі.

Андрэй Сапега, малодшы брат канцлера ВКЛ Льва Сапегі, які быў аршанскім старастаю і кіраваў памежнай крэпасцю Орша, знарок не перашкаджаў пераходу паноў за маскоўскую мяжу. А каралю Польшчы і Вялікага княства Сігізмунду пісаў, што нічога не можа зрабіць з непаседлівымі польскімі і літоўскімі князямі ды магнатамі, якія рвуцца за мяжу, каб дапамагчы царэвічу.

Ходар чуў, што і яго старэйшы брат, канцлер Сапега, удзельнічаў у стварэнні Ілжэдзмітрыя, дапамагаў рыхтаваць яго на маскоўскі трон, а таму і аршанскі староста чым мог дапамагаў свайму брату.

I ўсё ж ён паведаміў маскоўскім памежным ваяводам, што Лісоўскі, Вішнявецкі, Тышкевіч ды іншыя польска-ліцвінскія паны пайшлі ў іхнюю зямлю з ратнікамі самавольна, насуперак строгай каралеўскай забароне.

З імі ў Масковію пайшоў і ён, Ходар Зямля.

I вось цяпер ён вяртаўся адтуль. Пасля крывавай маскоўскай ютрані.

На світанні 17 мая вялікая гурма ўзброеных людзей на конях уехала ў Крэмль — іх было шмат, ім было цесна на крамлёўскіх вуліцах і плошчах. Раптам пачалі трывожна званіць усе званы як у Крамлі, так і ва ўсіх гарадскіх цэрквах.

Ад гэтага папрачыналіся людзі з акружэння цара. Яны хапаліся за зброю, садзіліся на коней. Але ўжо было позна: ні выйсці з Крамля, ні тым больш выехаць адсюль нікому не ўдавалася — так было цесна.

Тых, хто начаваў у горадзе, не пусцілі ў Крэмль: паўстанцы ставілі на вуліцах рагаткі, разбіралі брук, маставую, з бёрнаў рабілі загарадзі — праз якія не праедзеш коньмі.

Баяр вёў Васіль Шуйскі — той самы Шуйскі, які нядаўна быў тысяцкім на вяселлі Самазванца.

Сам Зямля ўсяго гэтага не бачыў, бо ў Крэмль так і не змог патрапіць, але маскалі казалі, што цара засеклі. Нават самі рускія прымалі гэтую навіну па-рознаму: адны радаваліся — Самазванец, нарэшце, атрымаў тое, па што ішоў у Масковію, іншыя божкалі, перажывалі — то ж трэба, нявіннае дзіця і ў другі раз забілі...

Ходар не хацеў болей заставацца ў Маскве — увесь гэты падман не падабаўся яму, прыніжаў яго годнасць. Скарыстаўшы тое, што рускія не трымалі іх у палоне, ён разам з адпушчанымі на волю пайшоў да сваё Оршы, да сваё мяжы. Яму надакучылі ўся гэта замутня, мана, няпраўда, ён шчыра спачуваў русічам, якіх бессаромна дурылі палякі і яго землякі з Белай зямлі.

Разам з ім ішла ў Белую і Варвара. Яна, вельмі ўражлівая, экзальтаваная асоба, ніяк не магла даць веры, што цара Дзмітрыя Іванавіча ўжо няма, без якога, як ёй здавалася, загіне ўсё, загіне Масковія, загінуць русічы.

Таму яна цярпліва ішла з Ходарам у яго княства, у яго Беларусь.

Да мяжы іх павінен быў суправаджаць рускі канвой, якім кіраваў князь Уладзімір Даўгарукі. Яны знарок не пайшлі адразу на Смаленск, які асаджаў кароль Польшчы Сігізмунд, іх павялі кругавым шляхам, праз Угліч і Цвер, абыходзячы тыя гарады, што засталіся вернымі Самазванцу.

Яны доўга былі ў дарозе, але за імі, наўздагон ім ішлі з Масковіі ўсё новыя і новыя чуткі. Праз нейкі час дагнала іх і зусім неверагодная навіна: цар Дзмітрый Іванавіч усё ж уратаваўся, застаўся жывы і зараз ён знаходзіцца ў Тушыне, у Тушынскім лагеры пад Масквою — збірае новае войска, каб вызваліць Маскву і вярнуць сабе страчаны трон.

Таму канвой вёў палякаў і беларусінаў вельмі абачліва, у абход гарадоў — асцерагаліся, каб палоннікі не сутыкнуліся з тушынцамі і не вярнуліся назад пад Маскву. Ды і сярод палонных былі розныя настроі: адны, тыя, што хацелі хутчэй вярнуцца дадому, баяліся, каб выпадкам не трапіць у рукі тушынцам, а іншыя наадварот жадалі сустрэчы з імі, каб зноў разам ісці на пошукі новых прыгод.

Канвойцы імкнуліся весці палонных па бязлюдных мясцінах, па топкіх, забалочаных ці настолькі лясістых, што прайсці праз іх удавалася толькі з дапамогаю сякеры ці загаціўшы вельмі гразкія балоты.

Гэтая імшарына была дрыгвяная — зыбалася пад нагамі не толькі ў коней, але і ў людзей. Грузлі людзі, грузлі коні, грузлі павозкі.

Ходар, падстаўляючы плячо пад драбіны, памагаў ім выбрацца на больш сушэйшае, тупкае месца. Калі яны пярэднімі коламі ўжо ўз'ехалі на шырокую купіну, ён нечакана заўважыў, што каля іншых калёс грузне ў балота Варвара. Ходар, кінуўшы сваю калымагу, ірвануўся памагаць Варвары, але спазніўся — яго апярэдзіў маскоўскі злодзей Федка Умыйся Гразёю, які быў у Крамлі поплеч з Самазванцам у тую крывавую раніцу. Ён, сам грузнучы ў твань, падхапіў Варвару, ашчаперыў, прыгарнуў, нібы абняў, яе да сябе, пасадзіў на калёсы і, упёршыся ў штосьці на дне балота нагамі, выпхнуў з твані павозку разам з Варвараю і канём.

Зямлю непрыемна ўразіла, што яна, удзячная, паспела пагладзіць руку выратавальніка, і той грубавата, здалося нават, пажадліва сціснуў яе запясце, а потым правёў бруднай рукою па яе вуснах.

Ходар перасмыкнуўся, падышоў да жанчыны бліжэй, усёй галавою паказаў на яе рот, незадаволена сказаў:

— Вытрыся.

— Навошта? — усміхнулася Варвара, і па гэтай усмешцы ён зразумеў, што яна шчаслівая. — Я ж і так уся ў брудзе, — і ледзь не пад самыя вочы яму паднесла заляпаны гразёю падол спадніцы.

Федка Умыйся Гразёю з'явіўся ў свіце новага Ілжэдзмітрыя пасля таго, як у затопленым вадою Тульску здаўся Шуйскаму, паверыўшы ў абяцаную літасць, Іван Балотнікаў, які называў сябе ваяводаю добрага цара Дзмітрыя, а на самай справе быў толькі халопам, мужыком. Федка лічыўся яго паплечнікам, ледзь не правай рукою кіраўніка паўстання, шматтысячнае войска якога з сялян, халопаў, казакоў ды вольніцы — і з Белай таксама — асаджала нават Маскву.

Успамінаючы пра свайго сябра, Федка Умыйся Гразёю ледзь не плакаў:

— Эх, няма Ванькі Балотнікава. Ён да іх як чалавек прыйшоў, галаву схіліў, меч сабе на шыю паклаў, кажа Ваську Шуйскаму: «Твая воля, хочаш — галаву мне адсячы, а не хочаш — табе буду шчыра служыць, як іншым служыў». А яны яму вочы выкалалі, а потым, сляпога, утапілі. І яшчэ рагаталі, злыдні: каб вады не спалохаўся. Эх, няма, майго сябра дарагога.

Назіраючы, як Варвара, шырока адкрыўшы рот і без таго вялікія вочы, захоплена слухае яго, Федка яшчэ больш разыходзіўся:

— А мы ж з Ванькам Балотнікавым на турэцкіх галерах плавалі. Рабамі, прыкутыя. Дзяліліся апошнім: што ў мяне ёсць — яго, а ўсё яго-нае — і маё таксама. Уцяклі мы і з тых галер, і з той Турцыі. У Венецыі жылі. А потым зноў дадому вярнуліся... І то ж трэба — вярнуліся, каб Ваньку тут вочы выкалалі...

Бачачы, што Варвара ўжо ўсхліпвае, нават рыдае, Федка і сам выціраў вочы:

— Эх, няма Ванькі, друга майго сардэчнага. Колькі мы пратайкавалі з ім! Эх, Ванька, Ванька! Як цябе не хапае твайму Федку Умыйся Гразёю! Ды мы б з табой сёння...

Што б яны сёння рабілі, ён і сам не ведаў, а таму адвярнуўся, адвёў вочы ўбок.

Перад крываваю раніцаю Федку ўжо добра ведалі ў царскай свіце, у яго почаце. Ды і цар паважаў — праўда, не так, як Басманава, але ўсё ж... Верыў яму і давяраў.

— Кажуць, што Дзмітрый Іванавіч загінуў, — дапытвалася, шукаючы яго вочы і ўзіраючыся ў іх, Варвара. — Ці бачыў ты, як гэта было?

— Бачыў, Варвара, бачыў, — адказаў Федка і на нейкі час замоўк, задумаўся, ці расказваць ёй, каму царэвіч — як бог, пра ўсё тое, што адбывалася ў тую раніцу.

— Ведаеш, тады я быў у царскіх пакоях. Разам з Басманавым, — нарэшце зноў загаварыў ён. — Калі Басманаў заўважыў, што ўвесь Крэмль запоўнены ўзброенымі людзьмі і выйшаў да іх, каб спытацца, што ім трэба, на цара раптам з мячом кінуўся нехта з чэрні, што прарваўся праз алебардшчыкаў...

— І ты не абараніў Дзмітрыя Іванавіча? — не даслухаўшы Федку, абурана спыталася Варвара.

— На гэты раз абараніў. Той, з мячом, так і не дабег да цара. Але тут пад націскам натоўпу пахіснуліся стральцы... Разумееш, Дзмітрый папрасіў іх абараніць яго. Паабяцаў ім баярскіх жонак і іхнія дамы аддаць. І тыя пачалі страляць. Людзі абурыліся: «Ах, дык яны страляюць у нас, забіваюць нас?! Пойдзем усе на Стралецкую вуліцу, перарэжам іхніх жонак, падпалім дамы!» І стральцы спалохаліся, адышліся ад цара. Натоўп адціснуў убок і мяне. Я сам не бачыў, але мне расказвалі, што, злавіўшы Дзмітрыя, людзі клікнулі маці царэвіча інакіню Марфу, а тая на пытанне, ці яе гэта сын, незадаволена буркнула: «Мой сын забіты ляжыць ва Угліччы». Тады да цара падскочылі баярскія сыны Ванька Ваейкаў ды Грышка Валуеў са стрэльбамі і са злоснымі крыкамі: «Дык скажы нам, польскі свістун, чый ты ўсё-ткі сын?!» выстралілі яму ў твар. Я гэтага не бачыў — натоўп ужо знёс мяне на ганак. Там мёртвы, увесь у крыві, ляжаў Басманаў. Праз нейкі час зверху, з акна, на яго скінулі і цара. З крыкам: «Ты любіў яго жывога, не расставайся з ім і мёртвым». Цела цара было вельмі знявечана — мусіць, і пасля забойства азлаваныя людзі калолі цара нажамі, seклі шаблямі. Вось гэта, Варвара, я ўжо бачыў...

Ходару не падабаліся такія аповеды Федкі, да таго ж ён, раўнівы, не мог спакойна глядзець, як Стронга захоплена слухае іх, таму Зямля, са злосцю сцебануўшы сябе па ботах кнутом, які быў у руцэ, нібы падганяючы якога каня, незадаволена адышоўся ад іх. Яны, захопленыя адно адным, нават не заўважылі, што ён знік. Ужо крыху зводдаль пачуў, як Варвара прасіла:

— А раскажы, Федка, пра Марыну. Дзе яна была ў тую раніцу?

— У сваіх пакоях. Дзмітрый усё хацеў яе папярэдзіць пра небяспеку. Усё рваўся на яе палавіну. Але потым яна сама выскачыла — напаўапранутая, непрычасаная, недагледжаная, растрапаная. Разумееш, дзверы ў пакой ламаюць, каб яе знайсці, а яна поплеч з імі з гэтага боку стаіць. Маленькая, несамавітая, дык на яе ніхто і ўвагі не звярнуў.

— А як яна ўратавалася? — нецярплівілася хутчэй даведацца Варвары.

— Пад спадніцаю, Варвара, пад спадніцаю ўратавалася. Худзенькая, невысокага расточку, Марына схавалася пад спадніцу сваёй старой, тоўстай гофмайстрыні. Калі пачалі пытацца, дзе царыца, гофмайстрыня сказала, што яна паспела ўцячы ў дом свайго бацькі, і тады баяры пакінулі старую ў спакоі.

Пасля таго, як Федка Умыйся Гразёю невядома калі і як далучыўся да палонных, што ішлі па Русі да граніцы Вялікага княства, яму, Ходару Зямлі, зрабілася зусім няўтульна: ён часта перахопліваў позіркі Варвары

на Федку, здзіўляўся яе апантанай веры ва ўсё, што гаварыў маскоўскі злодзей — ён жа, бачыце, прыкуты туркамі, плаваў на галерах! Яна захаплялася ўсім, што гаварыў і рабіў Федка, і глядзела яму ў рот.

Гэта, вядома ж, цвяліла Ходараву рэўнасць — сапраўды рэўнасць была і, чаго хавацца, яна выводзіла з сябе і рабіла яго раздражнёным, — аднак была яшчэ адна ў яго незадаволенасць міжвольным паплечнікам.

Ходар шчыра хацеў трапіць дадому і рабіў усё, каб гэта адбылося хутчэй.

У Федкі ж быў свой клопат: ён, наадварот, шукаў сустрэчы з тушынцамі, каб зноў трапіць у світу Самазванца Другога. Разумееце, ён на свае вочы бачыў мёртвага Самазванца Першага, аднак зноў, не задумваючыся, прагне садзіць на маскоўскі трон невядома каго!

На раздарожжы апынулася і Варвара. Ёй, канечне, бліжэй было жаданне Федкі шукаць тушынцаў, каб разам з імі памагчы няшчаснаму царэвічу вярнуць Маскву і ўладу, чым ісці ў невядомую ёй беларусінскую зямлю, у якой яна нікога і нічога не ведае і не разумее.

Ходар выбіраў заўсёды тую дарогу, якая адводзіла ўбок ад Тушына, а Федка прыкладаў усе намаганні, каб не вельмі аддаляцца ад тушынскіх мясцін.

І, нарэшце, яны сустрэліся з нейкім войскам, якое ішло ў адваротным накірунку, — пад Маскву.

Гэта было войска гетмана Яна Пятра Сапегі, якое са згоды канцлера ВКЛ Льва Сапегі, яго стрыечнага брата, перайшло маскоўскую мяжу. Звыш сямі тысяч жаўнераў-сапежынцаў ішлі на дапамогу Ілжэдзмітрыю Другому.

Мажліва нават дзякуючы нейкім захадам Федкі, ды і іншых прыхільнікаў вяртання пад Маскву, яны выйшлі акурат на тое месца, дзе якраз стаяў станам Сапега.

— О, землякі! — узрадаваўся ім гетман. — Я ўсіх вас запрашаю крыху адкласці сустрэчу з радзімаю і ўступіць у маё войска. Дапаможам Міцьку зноў сесці на маскоўскі трон, а тады і дадому вернемся.

Ён правёў па тварах уважлівым, вывучаючым позіркам, ці то імкнучыся запомніць, ці то шукаючы, ці няма каго са знаёмых сярод палонных. На ім, Ходару, ягоныя вочы крыху затрымаліся, і Зямля падумаў ужо, што гетман пазнаў яго — ён жа са сваім братам Андрэем, аршанскім старастам, неяк наведваўся да іх, бараньскіх кульнікаў, вывучаў іхнія ядры і кулі, калупаў нават сцізорыкам, раіў, як рабіць іх мацнейшымі. Парады яго, героя шматлікіх бітваў, былі слушныя.

Але гэта яму, мусіць, здалося, бо Сапега яшчэ некалькі разоў затрымліваў свой позірк на іншых палонных, нават на Федку Умыйся Гразёю — пэўна, толькі на тых тварах, якія яго чымсьці ўразілі.

Аднак і потым пры выпадковай сустрэчы Сапега спыніўся ля Ходара, спытаўся:

— Кульнік? З-пад Оршы? Можа, паклон мне ад аршанскага старосты маеш?

— Я даўно не быў у сваёй Барані, — адказаў яму Зямля.

Але Сапега, не слухаючы, сам адказаў на свае пытанні:

— Я памятаю твае ядры. Яны былі сапраўдныя сценаломы. А што цябе ў Масковію закінула? Ну, нічога, вось завязём Марынку, царыцу, да мужа, да Міцькі-царыка, уладкуем яго на маскоўскім троне, а самі з песнямі дадому вернемся.

Аказваецца, Марына Мнішак ужо была ў яго табары. Калі яны яшчэ стаялі асобнымі станамі непадалёку адзін ад аднаго, — сапежынцы, што

ішлі ў Маскву, і палонныя, якія шукалі мяжу, — Сапега прапанаваў царыцы сваю апеку і падрадзіўся жывую і здаровую завезці ў Тушына.

Марына, хоць і сама перажыла тую страшную маскоўскую раніцу і бачыла, як секлі баяры самазванцаў, усё ж, слухаючы розныя чуткі пра Дзмітрыя, цепліла надзею на тое, што яму ўдалося ўратавацца. Што цяпер ён у Тушыне. І збірае новае войска. І чакае яе... Не, ні ў якую Польшчу! Толькі назад, пад Маскву! Дзе той, каго яна і напраўду паспела палюбіць!

Аднак, убачыўшы, што каханы, ведаючы, што яна ў сапежынцаў і ідзе разам з імі да яго табара, не спяшаецца насустрач ёй, Марына пачала сумнявацца ў сапраўднасці ўсяго, што адбываецца вакол яе. Помнячы, які ўзрыўны, нецярплівы, закаханы, страсны, захоплены ёю быў Міцька, яна не магла зразумець, чаму ён зрабіўся такім абыякавым да яе. Не сам едзе напярэймы жонцы і каханай, а пасылае нейкіх паслоў, якія ледзь не прысілам змушаюць яе не гледзячы прызнаць новага Самазванца мужам. Навошта такое! Бо калі гэта і напраўду Міцька, яна без усялякага прымусу кінецца яму на шыю перад усім светам.

Нейкі час Ян Сапега стаяў пад Тушынам асобным лагерам. Адбываліся штодзённыя перамовы, ілжэмуж слаў да Марыны ўсё новых і новых ганцоў. Але яна была непрыступная — не, гэта не цар!

Угаворваў яе змірыцца з лёсам Сапега — маўляў, так трэба, Марына.

Нават не ўгаворваў, а змушаў прызнаць Самазванца мужам бацька — не адмаўляйся, дачка: ён жа нам за гэта абяцае Северскую зямлю і шмат грошай. Марына, хоць была яшчэ і замаладая вельмі, зразумела: бацька прадае яе!

Пераконваў і сямейны святар — езуіт казаў, што гэтая мана патрэбна Рымскай царкве, што Марына павінна ахвяраваць сабою дзеля яе дабрабыту.

І Марына здалася.

У Тушынскі лагер яна ўехала як царыца. Гэта было ўрачыста, захапляльна, велічна. Ёй і напраўду здалося, што ўсё тое, ранейшае, вярнулася зноў: вось яна ўязджае быццам бы ў Маскву, яе вітае шчаслівы, стомлены ад нягод народ, а на прыступках ганка чакае, як тады, Міцька, цар Дзмітрый Іванавіч.

Недзе на адну хвілінку яна сцепанулася ад усёй гэтай фальшы, але адразу ж адагнала ад сябе невясёлыя думкі, пераадолеўшы сваю агіду, са змушанай радасцю кінулася ў шчырыя абдымкі да тушынскага злодзея і не ціха, як гэта і павінна было быць, а знарок весела ды гучна, каб пачулі ўсе, загаварыла да зусім незнаёмага чалавека:

— Нарэшце мы зноў разам, мой каханы!

Закрычала перад усім войскам. Перад усім народам. Пад яго шчаслівыя воклічы.

Людзі, і праўда, шчыра віталі сустрэчу цара і царыцы, яднанне мужа і жонкі.

Асабліва была ўражана сустрэчаю Варвара. Яна радавалася болей за ўсіх. Варвара, якая шмат чаго не ведала, шчыра верыла, што вось тут, у яе на вачах, царэвіч Дзмітрый, двойчы забіты, зноў уваскрос і сустракаецца з царыцаю...

— Дык ён жа, маладзенец, зірні, жывы, дык яго ж і на гэты раз не забілі, паглядзі, як яны абое — і цар, і царыца — радыя гэтай сустрэчы. Можа, хоць цяпер у Рускай зямлі спакой ды мір будзе, — усхвалявана лапатала Стронга, пяшчотна схіляючы на плячо Федкі Умыйся Гразёю сваю галоўку з растрапанаю касою.

Федка ў Тушыне ажыў — у яго з'явілася новае, цікавае жыццё, упе-радзе замаячыла мэта.

Вядома, ён і цяпер памятаў, што на свае вочы бачыў, як мяцежнікі скінулі з акна на мёртвае цела Басманава труп цара.

Але ж цар — вось ён, у Тушыне, пад Масквою ўрачыста сустракае царыцу, і царыца прызнае яго і з радасным крыкам кідаецца яму на шыю.

Мала што ты бачыў, як яго труп скінулі з акна. Царыца прызнала цара, а ёй жа відней — цар гэта ці не цар: яна ж жонка. А чаму б і табе, паплечніку, не паверыць у гэта?

Гэтая вера ў тое, чаго не было, вельмі зблізіла іх — злодзея і царыцу. Цяпер Федка Умыйся Гразёю называў яе толькі Марынкаю. І ўсё ж, нягледзячы на зразумелую напружанасць у іхніх цяперашніх адносінах — яны ж абое разумныя людзі і ведаюць: усё, што гаворыцца і робіцца цяпер, — лухта, мана, злодзей і царыца імкнуліся выглядаць шчырымі і прыстойнымі.

Урэшце, а што, хіба той першы Самазванец лепшы за гэтага? Ён жа таксама мана!

Той быў шчодры, вясёлы, кампанейскі, як кажуць, свой усім.

Гэты — крыху грубаваты, брыдкаслоў і абгаворшчык, п'яніца і распуснік.

Але ж і той, і гэты — цары. Калі царыцы абодва падабаюцца, то і яму, маскоўскаму злодзею Федку Умыйся Гразёю, тым больш.

Ён адразу ж увайшоў у царскую світу. І ўсюды браў з сабою і Варвару, імкнуўся і яе ўладзіць у шаноўны почат. Варвара неўзабаве стала фрэйлінаю царыцы, і Марынка цяпер часта заўважала гэтую рускую жанчыну каля сябе.

Ходар Зямля бачыў і не прымаў увесь гэты падман і імкнуўся стараніцца царскай ласкі.

Яму казалі, што новы царэвіч — усяго толькі ліцвін з Беларусі. Завуць яго Багданкам. Жыў быццам бы ён у Магілёве. Святары-беларусіны трымалі тады пры сваіх прыходах невялікія школы для навучання дзяцей. Такую школу ў Магілёве меў пратапоп царквы Святога Мікалая. Ён і наняў Багданку. Абыходзіўся з ім вельмі па-свойску, нават па-сяброўску. Аднак памаўзлівы настаўнік пачаў настойліва і ўсур'ёз спакушаць ягоную жонку, дамагацца яе. За што яго адлупцавалі і прагналі з Магілёва.

Іншыя ж сцвярджаюць, што ўсё гэта з Багданкам адбылося ў Шклове. Быццам бы ён паповіч і служыў там дзячком у царкве, а таму добра ведае ўсе царкоўныя абрады і звычаі, увесь царкоўны круг.

А Федка Умыйся Гразёю кажа, што новы цар — былы спадручны Ілжэдзмітрыя Першага. Быццам бы ён добра разумее рускую грамаць, чаго бракавала Першаму Самазванцу, а таму Багданка складаў усе рускія пісьмы цара. Федка яшчэ кажа, што Багданка ведае шматлікія таямніцы Ілжэцара Першага.

І вось Багданка — сам цар. Ілжэцар Другі. Ходар так сцвярджаць не можа, аднак пасля Федкавых упэўненых слоў і яму самому пачынала здавацца, што гэтага чалавека і ён часам бачыў у шматлікай світе Дзмітрыя Першага.

Цяпер у новай світе новага цара бяздумна круціліся Федка Умыйся Гразёю і Варвара — Федка быў шчаслівы, што вярнулася зноў тое жыццё, што было пры Першым Самазванцы, а Варвара ніяк не магла нацешыцца з таго, што мае магчымасць кожны дзень бачыць зблізку цара і царыцу. Самога цара і самую царыцу!

Ходар жа не спяшаўся ў царскую світу, а то і свядома ўнікаў яе. Ён не пераносіў падману, цынічнасці і глупства, якія чыніліся навакол. І ўжо збіраўся ўадзіночку выбірацца з Тушына, з лагера, каб ісці на захад, да памежжа.

Усё тут, у Масковіі, было даведзена да абсурду.

Патрыярха Гермагена, які сцяной стаяў за Рускую зямлю, зняволілі ў падзямеллі Чудава манастыра, скідаюць яму толькі куль аўса ў дзень ды апускаюць вядро вады.

А паляку Блінскаму, які, напіўшыся, страляў у абраз Божай Маці каля Нікольскіх варот, адсеклі абедзве рукі і прыбілі іх пад гэтым абразом.

Палякі рабавалі ў Масковіі храмы, пілі з царкоўных сасудаў, мылі нагавіцы ў залочаных чашах для прычасця, змушалі святароў сячы і калоць для іх дровы, прысільвалі спяваць сараматныя песні, насільнічалі манахінь, і тыя, зганьбаваныя, кідаліся з вежаў ды з высокіх берагоў у раку.

За столькі гадоў тлумнага, поўнага нягод і небяспекі жыцця ў Масковіі Ходар вельмі стаміўся.

Ну, зразумела, маскалі і ляхі б'юцца за ўладу, за землі. А што табе, беларусіну, ад таго, хто будзе сядзець на маскоўскім троне — Васіль Шуйскі ці Багданка са Шклова? Яны ж усё роўна, калі становяцца царамі, мяняюцца. Вунь Ілжэдзмітрый Першы паабяцаў Юраю Мнішку аддаць, як толькі стане царом, Смаленск, а як стаў цараваць, — нават і слухаць пра тое не схацеў.

Сумна, адзінока зрабілася Ходару Зямлі ў Масковіі, і ён усё часцей і часцей зноў пачаў задумвацца пра вяртанне дадому, у Барань.

Тым больш, што Федка, які мітусіўся пры царскім двары ў Тушыне, усё больш і больш зацягваў у гэтую мітусню і Варвару, што ёй вельмі падабалася.

Ходар у Масковіі застаўся адзін, і яго ўжо тут нічога не трымала.

Тым часам Ян Пётр Сапега пакінуў Тушынскі лагер і з вялікім войскам — трыццаць тысяч чалавек! — накіраваўся на асаду Троіцкай лаўры.

Шмат якія рускія гарады як перайшлі, адклаўшыся, на бок Ілжэдзмітрыя Першага, так засталіся вернымі і Самазванцу Другому.

І толькі Троіцкая лаўра, адна з нямногіх, ні да каго не пераходзіла, ні ад каго не адкладалася — яна была адданая толькі законнаму ўраду. З войскам Сапегі да лаўры пайшоў і Ходар. Ён вельмі паважаў свайго земляка, можна сказаць, захапляўся ім: з кім толькі Сапега ні ваяваў, каго ні перамагаў! Ён браў Дэрпт, быў героем Кірхгольмскай сечы, у якой кіраваў правым крылом войска. Падчас рокашу Зэбжыдоўскага прывёў да караля гусарскую і казацкую харугвы. А само войска гатова было абвясціць царом Масковіі яго, свайго гетмана...

Словам, было кім захапляцца і было з кім ісці пад лаўру!

Лаўра Ходара ўразіла сваёй непрыступнасцю. Сцены — тоўстыя, высокія, аж да чатырох сажняў разам з зубцамі — цягнуліся па беразе рэчкі Канчуры больш чым на мілю.

Пра тое, што яны ўжо з'явіліся, сапежынцы паведамілі абаронцам лаўры, якія зачыніліся на ўсе застаўкі, некалькімі гарматнымі стрэламі. Затым пад музыку абышлі вакол манастыра, выбіраючы лепшае месца для разбіцця лагераў доўгай аблогі — а што яна будзе доўгай, ніхто ў гэтым не сумняваўся.

І адразу ж пачалі абжывацца, умацоўваць лагеры астрогамі, равамі і валамі з частаколам ды гарматамі, а ў астрогах будаваць цёплыя хаты: на двары ўжо стаяў канец верасня, і трэба было думаць пра зімні час.

Сапега паслаў абложаным грамату: скарыцеся прыроджанаму гасудару Дзмітрыю Іванавічу. Архімандрыт, ваяводы ды баяры адказалі: не скарымся ілжываму цару і іншавернай латыні.

Тады Сапега пачаў аблогу. Падрыхтавалі перасоўныя вежы, прыкацілі іх на раней выбраныя месцы, узброілі марцірамі ды гарматамі. Дзевяць батарэй паставілі. Пачалі страляць, кідаць бомбы ды каменныя ядры. Аднак, хоць стралялі шмат і часта, сценам лаўры гэтая стральба нічога не зрабіла: ядры альбо не далятаЛі да сцен, падалі ў стаўкі ды ямы, а калі і далятаЛі, траплялі ў сцены, з тых толькі пыл ды друз сыпаўся, а праломаў — ніводнага.

Каля адной з вежаў Ходар твар у твар сустрэўся з Сапегам.

— Дзе ты іх праломіш гэтымі камянямі, — нібы апраўдваючыся, засмуціўся гетман. — Сцены ж у манастыры трохсажнёвыя, — і са скрухаю дадаў: — Эх, зямляча, твае б сюды жалезныя ядры. Яны б прабілі, раскалупалі б і тры сажні...

Дзесяць дзён яны палілі па лаўры з усіх гармат. А пасля, думаючы, што перамога ўжо ў іхніх руках, сапежынцы пайшлі на захоп. З усіх бакоў да манастырскіх сцен, прыкрываючыся драўлянымі шчытамі, коцячы перад сабою на колах тарасы, несучы лесвіцы, каб прыставіць іх да так і не праламаных сцен, пабеглі ратнікі.

Бег са сваёю лесвіцаю і Ходар.

Стоячы за зубцамі сцяны, абаронцы шчыльна стралялі з гармат ды пішчалей. Са сцен на ратнікаў кідалі збаны з падпаленым порахам, бярвенне, камяні, лілі звычайны вар, а то і з размяшаным у ім калам. Таму пад сценамі лаўры стаяў такі смурод, што не было чым дыхаць. І ўсё ж ён паспеў прыставіць сваю лесвіцу да сцяны, нават узлез па ёй да палавіны, але скочанае бервяно скінула яго на зямлю. Ходар не вытрымаў і, затыкаючы нос, пабег ад сцяны. Убачыў, што і іншыя ратнікі, пакідаўшы ля сцен лесвіцы, шчыты ды тарасы, ратуюцца не столькі ад куль, як ад гэтага смуроду.

Калі сапежынцы адступілі, абложаныя выйшлі з манастыра, сабралі пакінутыя лесвіцы ды шчыты, зноў схаваліся за сцены і пасеклі, мусіць, там іх на дровы — час стаяў ужо халодны, і ім якраз не хапала дроў. А для таго, каб прынесці з суседняга хмызняку бярэмя галля, даводзілася рызыкаваць жыццём. Сапежынцы пільнавалі смельчакоў, схаваўшыся ў кустах.

І ўсё ж такія вылазкі абложаныя зімою рабілі ўсё часцей — яны расчысцілі патаемны ход пад Сушыльнай вежай, які выходзіў у роў за сцяною, і праз яго выбіраліся не толькі па дровы, а нават і нападалі на сапежынскія пазіцыі.

І ў тую раніцу яны да світання выйшлі па гэтым ходзе ў роў, а як развіднела, з крыкамі: «Святы Сергій!» наляцелі на абложнікаў, якія яшчэ спалі. Ён, напаўсонны, абараняючыся, пракалоў дзідаю высокага русіча, але той сваім мячом адсек драўлянае дзяржанне дзіды і, не зважаючы на рану, з якой тырчаў кавалак кап'я, усё ж кінуўся на Ходара — ужо нават і замахнуўся, але секануць не паспеў: зваліўся на зямлю мёртвы.

На Ходара тут жа навалілся некалькі ратнікаў, скруцілі яго і праз той жа самы патаемны ход пад Сушыльнай вежай зацягнулі ў манастыр.

Сапега рабіў падкопы пад сцены і вежы, і абложаныя хацелі даведацца ад яго, у якім месцы гэта робіцца.

Ходара дапытвалі доўга і зацікаўлена, аднак, зразумеўшы, што ён і напраўду нічога не ведае, паставілі да жорнаў — малоць зерне.

Тады, пад сценамі манастыра, калі на абложнікаў лілі вар з калам, здавалася, што большага смуроду і не можа быць. Але ў самім манастыры смурод здаўся Ходару яшчэ больш невыносным. Спёртае паветра нават на двары, пад адкрытым небам, душыла яго, і ён, пакуль прывык, увесь час задыхаўся.

У манастыры было вельмі цесна. Апрача баяраў, ваяводаў, ратнікаў, манахаў і манахінь за сценамі лаўры схаваліся шматлікія сяляне з навакольных вёсак, якія прывезлі ў манастыр усё сваё дабро, а таксама прыгналі скаціну — кароў, коней, авечак, свіней. Калі прыйшла зіма, усе, хто быў на свежым паветры, змушаны былі перабрацца ў цёплыя памяшканні, і ад гэтага скучанасць зрабілася яшчэ болей невыноснаю.

Усюды было цесна, спёртае, напоўненае міязмамі паветра, недахоп вады, бруд і нечыстоты пладзілі хваробы, і людзі, па сутнасці, паміралі здаровымі.

Тут, у лаўры, жыла, хаваючыся ад помсты Ілжывых Дзмітрыяў, старыца Марфа, а таксама пляменніца Івана Грознага — лівонская каралева Мар'я Уладзіміраўна. Аднойчы, калі Ходар задыхаўся над жорнамі, яго ўзялася лячыць нейкімі зёлкамі вельмі лагодная, рахманая, пакорлівая жанчына. Па тым, што яна ў гэтым брудзе заўсёды заставалася чыстаю і дагледжанаю, што за ёю нават хадзілі служанкі, ён зразумеў, што маладзіца — не з прасталюдзінак.

Калі жанчына, крыху адхаяўшы яго, пайшла, Ходар спытаўся ў суседняга млынара — манаха Міхайла, сталага жыхара лаўры:

— А што гэта за жанчына была?

І той паважліва, з хваляваннем у голасе адказаў:

— Гэта царэўна Ксеня Барысаўна. Дачка Барыса Гадунова, з якой паздзекаваўся Ілжэдзмітрый Першы. А цяпер яна хаваецца ў нас ад другога Самазванца.

Пасля Ходар выпадкова бачыў, як царэўна памагала нейкай сялянцы нарадзіць дзіця — тут з-за цеснаты нават парадзіхам не было куды схавацца, і яны раджалі проста на вуліцы, на двары, на вачах ва ўсіх.

Спагада і замілаванне да царэўны Ксені нечакана абудзілі шчымлівы ўспамін пра Варвару. Хаця не, гэты ўспамін быў з ім заўсёды і мучыў яго нават тут, у палоне. Ходар разумеў, што з насільнікаў, якія адбіраюць жонак у русічаў, ён ператварыўся ў нешта іншае і ўжо так прыкіпеў да жанчыны, што ўсюды сумаваў без яе. Пакутаваў ад рэўнасці. Злаваўся на Федку, але ж і разумеў: а яна, Стронга, сама якая? Кінула яго, забылася пра яго і нават не ўспамінае Ходара... Ды і калі ёй успамінаць яго? Царская світа, увага, Федкава рука.

Ён жа пакрысе прывыкаў да палону.

Дзіўная гэта рэч, жыццё!

Там, за тоўстымі сценамі манастыра, ён змагаўся з гэтымі людзьмі, лез на сцены, хацеў, каб гарматы ды марціры прабівалі сцены, а ядры — як найкучней пераляталі ў манастыр.

Цяпер жа ён зрабіўся іншы. Цяпер Ходару хацелася, каб ядры не даляталі сюды, каб яны не забівалі гэтых спакутаваных, змучаных аблогаю людзей.

Навошта забіваць Ксеню? Навошта забіваць старыцу Марфу, маці даўно забітага царэвіча? Навошта забіваць тых парадзіх, што раджаюць на дварэ манастыра? Навошта выганяць манаха Міхаіла, які ў гэтым смуродзе цярпліва меле побач з ім зерне? А ў чым вінаваты сяляне са сваёю жывёлаю, якіх выгналі з хат і хлявоў самазванцы?

Цяпер ужо, калі сапежынцы стралялі па лаўры, яны стралялі і па ім. І ён, каб абараніцца ад аблложнікаў, кіпяціў ваду і, схаваўшыся за зубцы сцяны, ліў на тых, што лезлі, вар і скочваў бярвенне.

Не хапала вады, і ён, Ходар, разам з усімі капае ў самім манастыры сажалку, ставок, каб пераліць у яго ўсю ваду з вонкавага возера, якое знаходзіцца за сценамі, і якое сапежынцы хочуць спусціць уніз, у раку Канчуру.

Не хапае дроў. Стрэхі папалілі, сенцы папалілі, каморы паламалі і спалілі. Цяпер узяліся за жытніцы — яны апусцелі і таму быццам бы сталіся непатрэбнымі.

Ваколіцы лаўры пакрыты лясамі, а ў манастыры няма ні палена дроў... Але гэта, мусіць, і заспакоіла аблажаных яшчэ да аблогі — пра якія дровы ім гаварыць, калі навокал такія лясы!

Абложнікі рабілі начныя вылазкі па дровы, у якія хадзіў і ён, палонны. Гэта каштавала некаторым жыцця. За кожную ахапку дроў ці хмызняку часцей за ўсё даводзілася аддаваць чыёсьці жыццё — сапежынцы, Ходар добра гэта ведаў, сачылі за такімі выхадамі аблажаных за сцены манастыра.

Таму ў людзей, што прыносілі дровы, звычайна пыталіся, хто з братоў заплаціў за іх жыццём. А зварыўшы на тых дровах ежу, уздыхалі: «Сёння мы паелі, дзякуючы ім, а заўтра іншыя пад'ядуць за кошт нашых жыццяў».

Цяпер Ходар жыў нейкім іншым, не сваім жыццём. Лёс аблажанай лаўры ўжо зрабіўся і ягоным лёсам.

Не ведаў, што б было далей, каб не той выпадак, не той жахлівы дзень.

У лаўру прасачыўшыся праз сапежынскія табары, прыйшоў атрад казакаў Сухава-Астанкава — аж шэсцьдзесят чалавек! — які прынёс з сабою дваццаць пудоў пораху. Схоплена было ўсяго чатыры чалавекі. Гетман Лісоўскі загадаў пакараць іх смерцю. Тады князь Далгарукаў у аблажанай лаўры аддае свой загад: адсячы галовы сарака двум беларусінам, захопленым у палон раней.

Ходар стаяў на манастырскай сцяне і, глытаючы тое, што не глыталася, што запёрла горла і душыла яго, змушана глядзеў, як каралі землякоў — іх вывелі за вароты і адсякалі галовы на вачах усяго сапежынскага войска.

Шмат каго з пакараных ён ужо ведаў, а з некаторымі нават паспеў пасябраваць.

І тады Ходар, расхваляваны, вырашыў: хопіць, больш ён тут, у Масковіі, і не хоча, і не зможа заставацца. Ён уцячэ і адсюль, з лаўры, але і да Сапегі ўжо не вернецца таксама.

Аднойчы ўначы, калі яны з манахам Міхаілам выйшлі за сцены і, крадучыся, увайшлі ў лес, Ходар паціху адышоўся ад манаха і пайшоў па снезе ў іншы ад манастыра бок. Ён яшчэ доўга чуў, як манах ціхенька, таячыся, каб не пачулі сапежынскія старожныя, клікаў яго: «Ходар! Ходар!», але не адгукнуўся.

Калі Ходар Зямля выйшаў з лесу і натрапіў на нейкую дарогу, была ўжо глыбокая ноч. Хоць снег крыху падсвечваў цемру, аднак для таго, каб зарыентавацца, яму патрэбна была раніца.

Ды зімою ж не будзеш сядзець пад елкаю і чакаць тае раніцы, таму ён проста так пайшоў па дарозе — каб сагрэцца, каб не захаладаць.

Дарога была замеценая, на палазню ў некаторых месцах намяло нават сумёты снегу, але ён, знайшоўшы між воблакаў Палярную зорку і арыентуючыся па ёй, настойліва ішоў, як яму здавалася, на захад.

Нечакана ззаду пачуўся нейкі рух — як усё роўна беглі, фыркаючы, коні, — рыпелі палазы, і даносіліся нейчыя гучныя, узбуджаныя галасы.

Калі сані наблізіліся да яго, ён збочыў з дарогі ў гурбу снегу, каб даць незнаёмцам праехаць, але тыя спыніліся побач і з саней прапанавалі:

— Сядай да кучы — падвязём.

— А куды вы кучаю едзеце? — спытаўся ён.

— У Калугу, — адказалі яму.

І ён, нічога болей не распытваючы, сеў у сані — думаў, крыху пад'едзе, выберацца у нейкае люднае месца, каб адтуль скіравацца да вялікакняскай мяжы.

У санях сядзела трое мужчын: адзін, з лейцамі, кіраваў канём, другі, абапёршыся на поручні саней, драмаў, а трэці, відаць было па ўсім, меўся тут за галоўнага. Усе яны былі апранутыя ў нейкае падранае сялянскае рыззё, а іхнія сані, збольшага засланыя саломаю, пахлі гноем.

Той, што драмаў, раптам ажывіўся, загаварыў:

— Зручней садзіся ў нашых санях з-пад гною. І ўсе мы тут — як кучы гною. І вось ён — таксама куча. А думае, што ён — цар.

Ходар пакуль што нічога не разумеў і адно моўчкі слухаў, што гавораць. А той, каго назвалі кучай гною, выцягнуў з-пад саломы шаблю, замахнуўся ёю, а потым прыставіў тыльным бокам да шыі таго, хто так смела пажартаваў:

— Глядзі мне, Кошаль, ты сабе гавары, але дужа не загаворвайся. А то я не пагляджу, што ты мой блазан, што табе ўсё дазволена, — і правёў шабляю па шыі спадарожніка. — А калі галавы не будзе, тады, разумееш, навошта мне і блазан без галавы.

Галоўны ў санях павярнуўся да Ходара:

— А ты адкуль узяўся? Адкуль ідзеш?

— З-пад Троіцкай лаўры, — коратка адказаў Ходар, не спяшаючыся вельмі раскрывацца перад гэтымі незнаёмымі людзьмі: невядома, хто яны і за каго яны — за Ілжэдзмітрыя ці за Шуйскага.

— О, дык ты, мусіць, сапежынскі ратнік, — зацікавіўся галоўны спадарожнік. — Як там мой Сапега? Хутка ён возьме маю лаўру?

— Пакуль ён толькі закідвае яе ядрамі, — няпэўна адказаў Ходар.

— Мы ж з Сапегам землякі. З Белай. З Вялікага княства. А ты выпадкам не беларусін?

— Беларусін.

— Адкуль?

— З Барані, з-пад Оршы, — праўдзіва прызнаўся, ужо не тоячыся, Ходар.

— О, дык мы з табою суседзі. Я ж у Шклове ў царкоўна-прыходскай школе настаўнікам быў, — і, крыху памаўчаўшы, памаўзліва дадаў: — Каб ты ведаў, якая ў папа жонка была! Цуд! Прыгожая, мякенькая такая кабета. А як яна мяне любіла!

Але той жа час, зразумеўшы, што расказвае лішняе, спахапіўся:

— А маскалі ў лаўры яшчэ не думаюць здавацца?

Аднак адказаць Ходару не даў трэці спадарожнік, якога зямляк абазваў блазнам. Ён, прыўзняўшыся ў санях, наблізіўшы свае вочы да яго твару, доўга ўглядаўся, а тады сказаў:

— Слухай, Багданка, а ці не Варварынага і Федкава сябра мы падвозім?

Цяпер ужо нахіліўся да ягонага твару і той, каго блазан назваў Багданкам.

— А і праўда, гэта ён, — згадзіўся з Кошалем і Багданка, а ў Ходара спытаўся: — Сумуеш без Федкі і Варвары? Нічога, пацярпі — хутка яны да мяне ў Калугу прыедуць. Разам з Марынкай.

Ходар, хоць ужо і здагадаўся, з кім сустрэўся на гэтай бязлюднай дарозе, усё ж рабіў выгляд, што нічога не разумее. Тады блазан Кошаль, падміргнуўшы яму, урачыстым голасам патлумачыў:

— А ты хоць ведаеш, з кім едзеш у санях з-пад гною? Ты едзеш з самім вялікім царом Маскоўскім Дзмітрыем Іванавічам!

Ходару хацелася ў тон царскаму блазну дадаць: «Не з Дзмітрыем, а з Ілжэдзмітрыем», аднак, помнячы пра шаблю, якая ўжо зноў ляжала пад саломаю, ён змаўчаў.

Цяпер ужо, не звяртаючы на Ходара амаль ніякай увагі, яны, цар іягоны блазан, яшчэ ўзбуджаныя і ўсхваляваныя, абмяркоўвалі падзеі, якія адбыліся перад іх ад'ездам з Тушына.

Багданка нібыта гаварыў сам з сабою, нібыта звяртаўся да Кошаля, але ж Зямлі здавалася, што ўсё тое ён расказвае толькі яму, Ходару.

— Прыехала, значыць, вялікае пасольства каралеўскае ў Тушына з Польшчы. Знатныя паны, тры сотні адборных гусар. Мы з Марынкай іх з акна бачылі. Мяне, цара Маскоўскага, не клічуць, сустракае паслоў гетман Рожынскі. Пір ім ладзіць. Нейкія перамовы вядуць, пра нешта дамаўляюцца. А мяне, цара, зноў жа нібыта і няма. Тады я і спытаўся ў Рожынскага, як гэта ўсё разумець. А ён, п'яны, і панёс: «Ах ты, бязродны валацуга, якая твая сабачая справа, пра што мы з вялікімі пасламі гаворым?! Калі яшчэ будзеш умешвацца ва ўсё, я цябе прыб'ю! Ці задушу!» Бачыце, ён мяне, цара, прыб'е ці задушыць...

— Вось таму, Ходар, — сумна растлумачыў блазан, — мы і апынуліся ў гэтых санях для гною. У гэтых сялянскіх лахманах. Тую ж ноч мы вось так і з'ехалі з Тушына — незаўважна і патаемна.

Прыдарожныя елкі раптам зашумелі вяршынямі, і стала чуваць, як, пераvaльваючыся з лапкі на лапку, падае долу заляжалы снег.

Памаўчалі. Толькі было чуваць, як фыркаюць коні.

— Нічога, — нібы прачнуўся Багданка. — Мы яшчэ пацаруем з табою, Кошаль! Нас яшчэ гучнай музыкай і шчыраю ласкаю будуць сустракаць рускія гарады!

І праўда, неўзабаве Калуга вітала Багданку вельмі ўрачыста — як сапраўднага цара.

Па дарозе ў Калугу да іх далучыліся атрады маскоўскіх злодзеяў і казакоў, сані для гною змяніліся на шыкоўны царскі вазок, засланы воўчымі футрамі, а замест рыззя, палапленай сялянскай вопраткі з'явілася царскае адзенне.

У добра ўмацаваны горад, які застаўся верны цару Дзмітрыю Іванавічу, Самазванец уязджаў годна. З усіх бакоў да яго спяшаліся і рускія войскі, што не здрадзілі царэвічу, а жыхары і ўлады Калугі апантана радаваліся: ён выратаваўся, ён вярнуўся, ён выбраў наш горад сабе за сталіцу...

А ў Тушынскім лагеры раніцою падняўся перапалох: дзе цар, куды ён знік?

Марынка, якая пакуль што засталася ў Тушыне, са слязамі на вачах, з распушчанымі валасамі, сустракалася з ратнікамі, прасіла іх вярнуць ёй мужа, а Маскоўскаму княству — цара, аднак бачыла, што яе ніхто не слухае, бо ва ўсіх былі свае прэтэнзіі да Багданкі.

Неўзабаве і яна знікла з Тушына. Таксама таямніча...

У Калугу Марына прыехала вярхом на кані, апранутая ў чырвоны аксамітны жупан, абутая ў боты са шпорамі, з шабляю і пісталетамі за поясам, у суправаджэнні канвою з пяцідзесяці казакаў, якіх даў царыцы Сапега.

Яе прыезд узрадаваў Самазванца і зрабіў добрае ўражанне на гараджан.

Марына надала бляск і ўпэўненасць калужскаму двару Самазванца. Усё цяпер рабілася так, нібыта яны царуюць не ў Калузе, а ў самой Маскве.

Здавалася б, за той час, які Ходар не бачыў Варвару, яго пачуцці прыцьмеюць, і ён зробіцца абыякавы да яе. Аднак, як толькі ўбачыў Стронгу ў царскай свіце — усе крыўды забыліся, усё навокал знікла, а ва ўсім свеце, здаецца, засталася толькі яна, яе вочы, яе рухі, яе шчаслівая ўсмешка.

Але ж калі ён падышоў да яе, павітаўся, Варвара не ўзрадавалася, што яны, нарэшце, сустрэліся, не кінулася яму на шыю... Больш таго, яму здалося, што ёй гэта не спадабалася — ён жа яе, ці бачыце, адрывае ад такой цікавай і прыемнай звычкі быць каля царыцы, памагаць ёй ва ўсім, любавацца ёю.

Яна нехаця выйшла са світы, падышла да яго і як чужая стаяла зводдаль. Здаецца, Стронга, як сляпая, не бачыла вакол сябе нічога. Гаварыла, узбуджаная, толькі пра царыцу:

— Ведаеш, што яна кажа пра сваю царскую наканаванасць? «Той, каго Бог хоць здалёку азарыў бляскам царскай велічы, той не страціць гэтага бляску ніколі, як сонца не губляе яго ад воблака, што выпадкова засланіла свяціла».

Варвара, хоць і стаяла побач, аднак не глядзела на яго — усё азіралася на світу. Ад яе ён толькі і чуў: цар, царыца, якія яны добрыя, прыгожыя, разумныя...

І раптам нехта ззаду схапіў Стронгу за абедзве рукі, моцна тузануў на сябе. Ды так, што галава жанчыны баўтанулася неяк дужа ненатуральна, нават страшнавата — як нежывая!

— Пайшлі хутчэй! Там царыца цябе шукае. А ты траціш час на гэтага...

На каго «на гэтага», той, хто злаваўся, недагаварыў.

Ходар Зямля павярнуўся на голас.

Ага, вядома ж, гэта быў ён, Федка Умыйся Гразёю. Злодзей і раб-галернік. Яго сапернік.

Ён глядзеў з-пад ілба, нагнуўшы галаву, — нібыта выставіўшы наперад гатовыя для бойкі моцныя аленевыя рогі.

Два алені, рашучыя і дужыя, стаялі адзін насупраць аднаго. Яны напружыліся, апусцілі галовы, наставілі галінастыя рогі, якія ад нецярпення, здавалася, аж трымцелі. Рогі, пагрозліва скіраваныя ўбок саперніка, гатовыя былі той жа час сустрэцца ў непрымірымым паядынку.

Каб набраць руху і моцы, алені задам яшчэ адышліся адзін ад аднаго, а потым з усяе сілы кінуліся насустрач.

І той жа час ляснулі адны аб адны рогі — гэты стук, здаецца, пачула ўся Калуга.

Галіны перапляталіся, чапляліся адна за адну, слізгалі адна па адной, настойліва шукаючы лбоў. Аднак алені зноў адыходзіліся, зноў разганяліся, зноў стукаліся рагамі...

Аленіха, якая была паміж імі, паспела адскочыць, адбегчыся ўбок і цяпер стаяла зводдаль, але ў бойку не ўмешвалася.

Дадому! Дадому! Дадому!

І праўда, яму надакучыла Маскоўская зямля і бадзянне па ёй. І сапраўды, што ён тут шукае і за што ваюе? І ўвогуле навошта яму ўсе гэтыя ілжывыя цары, Ілжэдзмітрыі?!

«Ідзі, Ходар, дамоўкі! — загадваў ён сам сабе. — Перажывеш. Ды і ў Барані ж гожыя дзяўчаты ёсць».

Смаленск, які быў на самым блізкім шляху да мяжы, ён вырашыў абысці — яго ўзяў у аблогу кароль Польшчы Сігізмунд і дамагаецца здачы, бо гэты горад паабяцаў каралеўству польскаму яшчэ Ілжэдзмітрый Першы.

Ходар Зямля не хацеў зноў увязвацца ў нейкія бітвы ці аблогі. Ён хацеў толькі на Аршаншчыну, у Барань, у свае Зубрэвічы.

І хутчэй! Хутчэй! Хутчэй!

Ён не ведаў, ці выжыў пасля той бойкі ў Калузе Федка Умыйся Гразёю: здаецца, Ходар зусім выкруціў яму руку. Але ж ён добра ведае, што Варвары ў яго больш няма, убачыўшы, як кінулася яна ратаваць злодзея, як ласкава выцірала яму кроў і гразь з твару, Ходар зразумеў: не, ён, трэці, тут лішні.

Але праз колькі дзён Варвара дагнала яго.

— Забяры мяне з сабою, Ходар! — істэрычна крычала яна. — Я хачу ў тваю Белую! З табою хачу ісці!

— Што здарылася, Варвара? — знарок спакойным голасам, каб суняць жанчыну, загаварыў да яе ён.

— Толькі ты, Ходар, чалавек! А яны ўсе прытворнікі, крыўлякі, манюкі. Усюды мана! Чуеш, Ходар, мана! Цары, царыцы, царэвічы... Мана! А мы, дурнічкі, верылі: Дзмітрыі, Ілжэдзмітрыі, Самазванцы, ілжывыя царыцы... А прыкідваюцца! А ганарацца! А задаюцца! Царыцы! Цьфу! Мана, Ходар! Усё — мана! А я, дзівачка, захаплялася: ах, цар! ах, царыца!

Трошкі супакоіўшыся, Варвара абняла яго за шыю:

— Я пайду з табою, Ходар, у тваю Белую. Бо толькі адзін ты — не мана.

Стронга расказала, што пасля той калужскай бойкі яна ледзь адхаяла Федку.

— Але ж ты яму руку вывернуў. Назусім, — і ўсміхнулася сама сабе. — Ну і моцны ж ты, Ходар. То ж трэба маскоўскага злодзея і турэцкага галерніка так скруціць...

З Варварай Ходар дайшоў ледзь не да Краснага. Можа б, у згодзе ды лагодзе яны прыйшлі і ў Оршу, калі б іх не перастрэлі шышы — мясцовыя партызаны. Прычапіліся да іх вельмі сур'ёзна: куды ды куды ідзяце?

Шышы і расказалі ім, што цар Дзмітрый Іванавіч на гэты раз з'явіўся ў Пскове.

— Не можа быць, — запярэчыла Варвара. — Цара ж забілі на паляванні. Татары, якія ахоўвалі яго, забілі.

— Не, кажуць, не забілі, а толькі паранілі, — стаялі на сваім шышы. — Толькі плячо рассеклі. Руку на падвязцы трымае.

— А ведаеш, як завуць новага цара? — хітравата зірнуў на Варвару адзін з шышоў. — Ці то Федка Умыйся Гразёю, ці то Івашка Выкручаная Рука.

Калі шышы паехалі, Варвара зусім змянілася — зрабілася ціхаю, задумліваю, часам без усялякай прычыны, нічога не гаворачы, сама сабе чамусьці ўсміхалася.

Ужо амаль мінаючы Красны, яна раптам рашуча спынілася, узяла яго за руку:

— Ходар, даруй мне, але я павінна ісці ў Пскоў.

Памаўчала, апусціла вочы долу.

— Разумееш, калі ёсць цар, то трэба, каб у яго была і царыца...

— Але ж да Пскова вельмі далёка, — асмеліўся запярэчыць Ходар. — Не дойдзеш...

— Дайду, Ходар, дайду. Бо калі ёсць цар, трэба, каб у яго была і царыца, — слова ў слова паўтарыла яна толькі што сказанае.

Вызваліла з ягонай далоні сваю руку і шпарка пайшла назад.

— Там жа Смаленск, — папярэдзіў яе Ходар.

— А з-пад Смаленска я хутчэй траплю ў Пскоў, — адказала Варвара.

Разы са тры яна азіралася, махала яму рукою, але не спынялася — ішла і ішла наперад.

Ён жа, развітваючыся са Стронгаю назаўсёды, не падымаў рукі, не махаў ёй — стаяў, як аслупянелы, як нежывы, і не мог нават паварушыцца.

І толькі калі Варвара схавалася за хмызняком, за які заварочвала дарога, Ходар, не чакаючы, калі яна выйдзе з-за яго, рашуча, крута павярнуўся і таропка пайшоў зусім у іншы бок — Красны ўжо быў амаль на памежжы, і адсюль родная Орша была зусім блізка.

У Барань, на кульню ён прыйшоў у канцы вясны, амаль што летам. Думаў, што яго будуць папікаць старымі грахамі, караць за іх, аднак пра тое, даўняе, ніхто нават і не ўспомніў: Ходара Зямлю ўсе памяталі тут як харошага кульніка і былі рады, што ён вярнуўся. Старыя кульнікі ўспаміналі, як яго ядры хваліў сам Ян Сапега, а ён змаўчаў, не расказаў, што яму з тым жа Сапегам давялося трымаць у аблозе Троіцкую лаўру.

З цягам часу ён пабудаваў сваю хату, ажаніўся. Пра Варвару, здаецца, забыўся. Калі і думаў пра яе, то, відаць, патаемна. Шукаць яе не шукаў, аднак вельмі прыгожае рускае імя Варвара ён гатовы быў даваць усім сваім дочкам, якія, не прапускаючы перад сабою хлопчыкаў, раджаліся як не кожны год. Словам, Ходар Зямля змушаў называць так не толькі дачок, але і ўнучак ды праўнучак.

Кажуць, што дзякуючы яму ці не кожная трэцяя жанчына ў Барані праз нейкі час ужо называлася Варвараю.

Кажуць, што ў адну з бараньскіх Варвар закахаўся мой далёкі родзіч і, ажаніўшыся, прывёз яе ў Зубрэвічы. Быццам бы і яна дала сваё імя дачцэ, а потым і ўнучцы, аднак далей на гэтае імя ў Зубрэвічах пачалі забывацца.

Звялося яно і ў самой Барані.

І сёння пра гэтую гісторыю, якую я вам расказаў, ужо ніхто не памятае ні ў Барані, ні ў маіх Зубрэвічах.







**Алена БАГАМОЛАВА**

# «НА МЯЖЫ СВЯТЛА І ЦЕМРАДЗІ...»

* * *

Не жыць як набяжыць!
А жыць, як плыць
Наперакор
Сустрэчным —
Недарэчным плыням!
А жыць, як узлятаць
Удзень — да сонца,
Уначы — да зор.
І лёс не здрадзіць!
Бог не пакіне!..

* * *

У бязгуччы —
Таксама сугучча...
Пакаранне табой —
Невыносная ноша...
І гняце цішыня,
Што сяброўкай была,
І дажджы,
Што сябрамі маімі былі,
Зноў зашклёныя далі мае
Палошчуць...

* * *

Будзе маўчаць лес!..
Будзе свяціць снег!..
І папараць-кветка
Гарэць будзе,
Калі ў гэтым
Бязгрэшным цудзе
Ад жыцця зямнога ўзбоч,
Бы ў купальскую ноч,
Аціхнуць нашы галасы...

* * *

Немагчыма жыць без цябе.
Не жыву я — нязвыкла існу́ю.
За табой праз чужыя сусветы лячу.
Ля цябе я ў хвіліну любую.
Азірніся...

* * *

Ад сонца,
Што прабіваецца праз галіны,
Не трэба хавацца ў цень...

---

***Багамолава Алена Міхайлаўна*** *нарадзілася 20 сакавіка 1966 года ў вёсцы Лучазарная Сенненскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1988), аспірантуру пры Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка (1994). Кандыдат філалагічных навук. Працавала ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П. М. Машэрава. Цяпер — дацэнт кафедры беларускай філалогіі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў.*

*Друкавалася ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у часопісах «Першацвет», «Маладосць», «Полымя».*

Ад сонца,
Што прабіваецца праз галіны,
Не трэба засланяцца рукой...
Яно не апякае цела...
Яно не слепіць вочы...
Яно — не...

* * *

Заручаныя выпадкам,
Абвенчаныя жарсцю
І ёю спапялёныя,
Мы развіталіся
На скрыжаванні
Шляхоў, вятроў і сноў,
Дзе для прызнання
Не хапіла слоў...
І мудрасці...

## ДАЗВОЛЬ!

Дазволь!
Я яшчэ за цябе памалюся
Ў цішы сваёй светлай радасці.
І ў выспелай скрушнай скрусе
Я яшчэ за цябе памалюся...
Хай шчыміць маё сэрца ў мальбе!..
Хай баліць яно за цябе!..
Усё роўна —
Дазволь!
Можа, стане гаючым боль?..

* * *

Кароткі жыццяпіс ліста,
Як чалавека, —
Замнога
Не бывае веку...

* * *

Акрыленае небам,
Узнесенае ветрам,
На вастрыі ветаха —
На мяжы святла і цемрадзі,
На мяжы яснасці і бясконцасці,
На мяжы агню і ночы
Жыве маё натхненне,
Паланёнае імем тваім...

## ТОЛЬКІ

Можа, так і лепш,
Што прымроілася толькі,
Што не расцвіло...
Толькі спапялілася душа
Ды склаўся верш...
Толькі захісталася
Маё жытло...

* * *

За адным даляглядам
Тоіцца мінулае...
За другім даляглядам
Тоіцца будучыня...
Як вызначыць,
Куды ісці?!
Куды? — каб жыццякола
Не кацілася назад...
Яно прывядзе сюды потым.
Я не заблукаю,
Але магу згубіць сяброў,
Але магу згубіць час,
Але магу забыцца,
Куды ішла...

* * *

Даволі
Лісты таполі
Звінелі малахітам, срэбрам
На веснім золку
І ў летні поўдзень...
Ці ім за гэта восень
Жоўта-чорным зрэб'ем
Помсціць?

## СОН У СНЕ

Учора зноў
Мне сніўся дзіўны сон:
Я чула чароўны голас саксафона...
Я — каралеўна... І мая карона
З пяшчотных кветак сон-травы...
А мантыя — паляна курасляпу...
Той сон са мной глядзелі Вы, —
Ад прамяністасці чыёй душы
І сонца нават слепне...

* * *

Па сінім аксаміце
Начных нябёсаў
Спелым белым налівам
Весела каціўся месяц,
Смела спелячы
Белыя зоркі
На сінім аксаміце
Начных нябёсаў.

* * *

Раніца-заступніца
Тупае ля акна...
Промнем белым, сонечным
Выцерта заспаная,
Уначы забытая,
Чорная мана...

* * *

Адораная лёсам,
Ля неруша душы тваёй адпачываю.
Я пакланюся сто разоў нябёсам:
Каханы мой,
Я зноў з табой уваскрасаю...
Спакуслівая маладосць
Адпусціць неўзабаве сталасць,
Натхнёную сваёй усмешкай, —
Дарогі звузяцца у сцежкі,
Раптоўна расквітнее луг...

* * *

Калі я застаюся адна,
Я не застаюся сам-насам, —
Я застаюся з табой...
І гэта непаўторна радасна,
І гэта небяспечна роспачна —
Быць з табою...
І без цябе...

* * *

Не сумуй без мяне.
Можа, заўтра ці трохі пазней...
Можа, у гэтым ці іншым сусвеце
Адвячоркам, ноччу ці на дасвецці
Я вярнуся... І вернуцца сны,
Летуценныя мары і белыя мроі,
Дзе пункт першы —
Пачатак вясны
І сустрэчы маёй з табою...

* * *

Ад шыпшыны да веснічак — крок...
І ад вечнасці — толькі хвіліна...
Затрымаеш мяне, мой Адзіны,
Ці зноўку адпусціш?..
Каб адчуць імклівага часу папрок —
Зноў убачыць няўклюдную цемень
І пачуць гнятлівую вусціш...

* * *

Прабівацца з бездані,
Разбіваючы сэрца,
Раздзіраючы цела,
Каб уваскрэснуць...
Хаця б у званочку лугавым,
Хаця б у ягадцы лясной,
Хаця б у коласе жытнім...
А лепш ластаўкай у небе —
Гэта будзе вяртаннем да сябе...

* * *

Дзівасілам прыбавіш сілы...
Чыстацелам ачысціш цела...
Падкажы мне, мой мудры:
Як зрабіць, каб душа
Без цябе не счарсцвела?!.

* * *

Кожнай ягадзе свой час —
Час цвісці, расці і спець.
Як даведацца, хто я?
Як свой час уразумець?
Можа, мне — пара сунічная?
Можа, я — ажына?
Можа, позняй журавінкаю
Восенню не згіну?
...Покуль думала-гадала,
Шчасце ўсё пракукавала...
І зязюляй шэраю
Назіраю я:
Зацвітае ягадка
Не мая...

* * *

Адолеўшы млосць,
Выйду ў дарогу
Ў гарачы поўдзень —
І вернецца маладосць,
І натхненне душу перапоўніць...

* * *

Не выспаўся травень у травах,
Не нагуляўся чэрвень у кветках,
Але ўспыхнуў ліпамі ліпень —
Напоўніўся жоўтым цветам,
Руплівым пчаліным гудам.
...Ці будзе мой жнівень зорным?
Ці будзе шчодрым на цуды?

* * *

Калісьці, калісьці
Шаптала засмяглае лісце,
Што будзе і светлы дождж,
І белы святы снегапад,
І град
Апячэ далонь, як агонь,
Што будзе раніца,
Дзень
І вечар,
Будуць ростані і сустрэчы,
Будуць будні і святы,
І сябры, і вораг закляты —
Ўсё было і ўсё будзе калісьці, —
Так шаптала мне
Мудрае жоўтае лісце.

* * *

Востраў майго жыцця.
Вакол абступае вада.
Вакол наступае вада.
Я б паплыла адсюль,
Каб умела...
Я б паляцела адсюль,
Як птушка з чужога гнязда,
Каб магла...
Але гэта —
Востраў майго жыцця...

* * *

Азіраюся назад —
І бачу дарогу.
На ёй сляды — мае і чужыя...

Услухоўваюся
Ў мінулае —
І чую галасы — свой і чужыя...

Гляджу наперад...
Услухоўваюся ў будучыню...
Не бачу дарогі туды,
І не чутно галасоў адтуль...
Можа, пакуль?!

## ЛІСТЫ

Лістуюся з небам
Ветрам белым...
Лістуюся з морам
Ветрам сінім...
Лістуюся з лесам
Ветрам зялёным...
Лістуюся з полем
Ветрам жоўтым...
І лятуць скрозь час і прастору —
Белыя і сінія,
Зялёныя і жоўтыя —
Лісты...
А з табой лістуюся словам,
А з табой лістуюся паглядам,
А з табой лістуюся дотыкам —
І лятуць скрозь час і прастору —
Нябёсныя і зямныя — вершы...







Ніна РЫБІК

# «Я БУДУ ТАБОЙ ГАНАРЫЦЦА»

***Апавяданне***

Аднойчы — Люба на той час ужо закончыла школу і працавала — яна сустрэла на вуліцы ў іх гарадку мужчыну. Ён стаяў каля ганка магазіна і спрабаваў прыкурыць. У яго не атрымлівалася: рукі трэсліся, запалка, пакуль ён падносіў яе да цыгарэты, тухла... Мужчына лаяўся і зноў цёр аб пачак...

Нешта ў яго азызлым, пасінелым твары, крыху прыгорбленай постаці з уцягнутай у плечы, бы ў натапыранага вераб'я, галавой, манеры трымаць папяросу падалося Любе знаёмым. Яна падышла да мужчыны:

— Прабачце, ваша прозвішча Пашкевіч?

Дзядзька паглядзеў на Любу незадаволена, насцярожана-зацікаўлена — хто такая, чаго хоча, адкуль ведае? Хвіліну падумаў, потым, мусіць, вырашыў, што небяспекі ад гэтага дзеўчаняці чакаць не варта, кіўнуў галавой:

— Так, Пашкевіч. А ты хто такая, навошта табе маё прозвішча?

— Я — таксама Пашкевіч...

Завісла маўчанне. Ён глядзеў на яе перш недаўменна-падазрона, затым у позірку нешта прамільгнула — здагадка, пазнаванне...

— Ты — Люба? — не то спытаў, не то пацвердзіў ён.

— Так, я — Люба.

Мужчына хвіліну памаўчаў. А потым прамовіў зусім іншым, вінаватым дрыжачым, голасам:

— Дык вось якая ў мяне дачка вырасла... Прыгажуня...

І адвёў позірк — схаваць той боль і сорам, што раптам выцеснілі з вачэй мутную абыякавасць.

А яна, крута павярнуўшыся, подбегам кінулася па вуліцы — каб не расплакацца перад гэтым азызлым п'янтосам, якога яна калісьці звала таткам, які гушкаў яе на арэлях і падкідваў маленькую сваімі дужымі рукамі высока-высока, аж пад столь — так, што ў яе ад страху і шчасця замірала сэрца...

Яна ўсё жыццё чакала гэтай сустрэчы. Тады, як ён пакінуў іх і некуды паехаў, маці лаялася, гаварыла на яго ўсялякія брыдкія словы, а Люба верыла, была ўпэўнена: тата вернецца. Абавязкова вернецца! Не можа не вярнуцца, бо ён жа любіць іх: малодшую сятрычку Анечку, брацікa Косціка. А найбольш, вядома ж, яе, Любу — нездарма заўсёды паўтараў, што яна ў яго, бацьку, удалася — і вочы ў яе такія ж зялёныя, і вяснушачкі па носе рассыпаны... Падумаеш, пасварыліся яны з мамкай! Яны ўвесь час, як напіваліся, сварыліся, а часам нават і біліся. А потым зноў мірыліся. І татка, калі быў

цвярозы, расказваў ім казкі, доўгія прыгожыя вершы, смешныя гісторыі са свайго студэнцкага жыцця. І пры гэтым заўсёды паўтараў: «Вось вырасцеце, закончыце школу — і абавязкова паступіце ў інстытуты. Вы ж у мяне разумныя — у татку пайшлі. Ты, Люба, у педагагічны, Анька — у медыцынскі, а Косцік, як мужык, сабе што-небудзь тэхнічнае выбера. І закончыце іх — не тое, што ваш бацька-разгільдзяй, які паспяшаўся ажаніцца і ўсю вучобу закінуў, — я сам за гэтым прасачу. А потым станеце паважанымі людзьмі, і ўсе будуць вамі ганарыцца. А я — найбольш!»

Яна заўсёды чакала бацьку. Нікому пра гэта не казала — баялася сурочыць. І што будуць смяяцца. Але заўсёды верыла: ён прыйдзе. Асабліва, калі было невыносна цяжка...

Маці пасля таго, як бацька іх пакінуў, зусім распілася, і ўся работа легла на плечы яе, дзесяцігадовай дзяўчынкі. Яна замешвала свінням, цягала ў хлеў цяжэнныя вёдры. Вечарам даіла карову і варыла меншым і сабе якую-кольвечы яду. Потым мыла посуд і, прыбраўшы стол, засцілала яго газетай і рабіла ўрокі, стараючыся вывучыць усё, што задавалі. Гэта калі маці не было дома. Калі яна прымала «гасцей», было не да ўрокаў: п'яны вэрхал цягнуўся да раніцы. Тады Люба старалася хоць пагартаць падручнік перад урокамі, на перапынках. Памяць мела вострую, чэпкую, гэта і выратоўвала — Анечцы вучоба давалася цяжэй.

Потым у маці з'явіўся новы муж. Іх ён узненавідзеў адразу. А мо і не ён быў вінаваты, а той п'яны чад, што не выходзіў з галавы ні ў яго, ні ў маці амаль ніколі. Калі маці з сужыцелем былі дома, дзяўчаты стараліся сядзець на печы за паркалёвай зашмальцаванай шырмачкай, як мышы пад венікам, — каб айчым нават не пачуў, што яны ёсць у хаце. А трохгадоваму Косціку — яму што патлумачыш? Захоча есці і разнюніцца: «Дай хлебца, дай бульбачкі». Дзядзька раз'юшана адкідваў шырму, крычаў: «Ах вы, бахуры праклятыя, калі вы ўжо панаядаецеся!», хапаў Косціка за шыварат, як бадзяжнае кацяня, і, не зважаючы на Любін енк, выкідваў за дзверы. Маці пры гэтым звычайна п'яна ўсміхалася і казала: «Ну сапраўды, дзеці, схадзіце пагуляйце якую гадзінку, што вы ўсё ў хаце сядзіце». Люба бегла следам, падымала брацікa, суцяшала яго, як магла, і вяла спаць у хлеў, дзе пад бокам у каровы было цёпла, а галоўнае — ціха. У такія хвіліны яна больш за ўсё хацела, каб з'явіўся іх татка, адлупцаваў гэтага матчынага хахаля і прагнаў яго з хаты, а сам застаўся, і яны б сталі жыць, як некалі...

І тады, як іх прыехалі забіраць у дзіцячы дом, яна яшчэ ўсё марыла, каб з-за павароту насустрач іх машыне выйшаў бацька — прыгожа апрануты, у доўгім чорным паліто, з чамаданам, і крыкнуў гэтым таўсматым міліцыянерам і цётцы, што трымала на руках Косціка: «Вы куды гэта забіраеце маіх дзяцей? Я — іх бацька, вязіце іх зараз жа назад, мы цяпер будзем жыць разам!» І міліцыянеры б спалохаліся і вярнулі іх дахаты. Але машына мінала паварот за паваротам, а ніхто не выходзіў насустрач — аж пакуль іх не прывезлі ў школу-інтэрнат. Іх з Анькай пакінулі тут, а Косціка павезлі далей — сказалі, што ён яшчэ маленькі, і яму трэба ў дзіцячы дом.

І ў інтэрнаце яна часта ўспаміналa бацьку — калі білі большыя, калі падсцілалі ёй абмочаную прасціну — каб выхавальніцы каралі, і дзеці смяяліся з яе, новенькай, а не з тых, хто сапраўды гэта зрабіў. Яна хутка навучылася даваць здачы і абараняць — сябе і Анечку, бо зразумела, што інакш тут не выжыць, інакш — задзяўбуць. Але заўсёды марыла, што некалі прыедзе татка і забярэ іх, а потым яны знойдуць Косціка — і зноў будуць усе разам. Яна часам думала, чаму ён не едзе так доўга, і заўсёды зна-

ходзіла гэтаму тлумачэнне: можа, ён захварэў, ці яго паслалі ў далёкую камандзіроўку, ці ў яго нейкая вельмі важная і адказная работа, і ён не можа прыехаць. А можа, ён проста не ведае, як ім дрэнна без яго? Вось даведаецца выпадкова ад каго-небудзь — і тут жа прымчыць...

Маці час ад часу наведвала іх у інтэрнаце, прывозіла скамянелыя пернікі і заплеснявелае варэнне — пэўна, выпрашанае ў каторай з жаласлівых суседак. На канікулы часам забірала іх дахаты. З-за гэтага Люба не любіла канікул. Праўда, толькі ў гэтыя каротнія тыдні яны маглі сабрацца ўсе разам, бо тады яна прывозіла і Косціка. Першыя дні выцалоўвала іх, атвадзіла па вёсцы, паказвала ўсім пахвальныя лісты, якія яе дзеці атрымлівалі ў школе, — вучыліся яны добра, асабліва Люба, якая, апроч выдатных здольнасцей, помніла бацькавы словы пра інстытут і імкнулася да яго, як да самога бацькі, які так і не з'яўляўся. А потым зноў пачыналіся бясконцыя п'янкі, скандалы, начлегі ў хляве.

Кожны іх прыезд у хаце быў новы «муж», і чым больш падрастала і харашэла Люба, тым больш падазрона пагляднала на яе маці. Пасля таго, як яна пусціла па вёсцы плётку, што 15-гадовая дачка спіць з яе чарговым хахалем, Люба, праплакаўшы ўсю ноч у лесе, вярнулася да часу ў інтэрнат і больш дамоў не з'яўлялася.

Школу Люба закончыла з медалём — нечуванае дзіва для іх інтэрната. Ёй далі накіраванне ў інстытут — у той самы, які ёй некалі напрарочыў бацька — педагагічны. Яна паехала, здала ўсе экзамены на «выдатна». Калі ўбачыла сваё прозвішча ў спісе залічаных, пайшла і забрала дакуметы. «Чаму? Што вы робіце? У вас цудоўныя дадзеныя!» — спрабавалі яе адгаварыць. «Сямейныя абставіны», — схавалася Люба за туманнае тлумачэнне. І ўсю дарогу дамоў праплакала. Сорам і гонар не дазвалялі ёй прызнацца, што тыя спадніца, кофтачка і басаножкі, што на ёй, — адзіная яе адзежа, і іншай няма адкуль узяць, як і лішняга рубля на абед. А на адну студэнцкую стыпендыю, яна разумела, у вялікім горадзе не пражывеш.

Яна вярнулася дахаты. Пайшла працаваць у калгас. Цялятніцай — нічога лепшага прапанаваць не маглі. «Ну і не трэба, — раззлавалася Люба. — Цялятніцы таксама добра зарабляюць і нядрэнна жывуць. Калі захочуць». Яна вельмі хацела — і працавала як апантаная. Іншыя стараліся як мага хутчэй раздаць корм і пабегчы дахаты. А Любе спяшацца не было куды, яна гатова была дняваць і начаваць на ферме, каб не бачыць п'яную маці, не слухаць яе бязглуздай балбатні. За нейкі год яна выбілася ў лік перадавых жывёлаводаў не толькі ў раёне, але і ў вобласці, яе пасылалі на розныя злёты і нарады, узнагароджвалі граматамі і адзначалі прэміямі. Апошняе Люба асабліва цаніла ў сваіх працоўных поспехах, як і самую высокую на ферме зарплату, якая выклікала зайздрасць нават у дыпламаваных спецыялістаў. Яна купіла сабе новыя туфлі, прыгожы касцюм, куртку, паліто, зімовыя боты і нават джынсы — як у старшынёўскай дачкі. Часта ездзіла ў інтэрнат да Ані і Косціка — ведала, як ім там тужліва і адзінока. Кожны раз вярталася расстроеная: Косцік рос хуліганам, а Аню цікавілі толькі ўборы і хлопцы. Але праз месяц, атрымаўшы зарплату, яна зноў спяшался на аўтобус: у іх нікога, акрамя яе, не было, і яна адчувала сябе адказнай за малодшых...

Старшыня калгаса даваў ёй накіраванне ў сельскагаспадарчы інстытут. Але Люба марыла пра педагагічны... Праз год яна звольнілася, чым выклікала прыступ гіпертаніі ў загадчыцы фермы, і паехала падаваць дакументы.

Вось тады і сустрэла на вуліцы райцэнтра бацьку, ледзь пазнаўшы яго ў прапітым неахайным дзядзьку. А апошнім цвіком у труну яе мары стала

тое, што ён — яе любімы, яе доўгачаканы татка — зусім не пазнаў яе, сваю дачку. І адкрыццё — раптоўнае, як удар маланкі: тады, як яна клікала яго скрозь слёзы, як расказвала яму ў думках свае дзіцячыя, самыя балючыя крыўды і чакала ад яго паратунку, — ён не ляжаў непрытомны ў бальніцы і не быў загружаны работай. Ён, як і маці, піў гарэлку. І нічога не ведаў пра іх пакуты толькі таму, што не хацеў ведаць, што выкрасліў іх — яе, Анечку, Косціка — са свайго жыцця, Маці — тая хоць чэрствыя пернікі прывозіла, хоць раз у год туліла і цалавала! А ён проста забыўся пра іх існаванне...

...Вецер, шкадуючы, налятаў цёплымі моцнымі хвалямі, гладзіў дзяўчыну па галаве, злізваў-высушваў на яе шчоках дарожкі слёз. Люба прыспешвала крок, нібы спрабуючы ўцячы, — ад бацькі, што не пазнаў яе, ад сваёй дзіцячай мары пра добрага татку. «Не дарую! Ніколі не дарую!» — ёй здавался, што яна толькі думае, а на самай справе яна гучна гаварыла:

— Я так цябе любіла, я так цябе чакала. А ты... І ўсё роўна — я буду шчаслівай! Назло ўсім! Я паступлю ў гэты інстытут! І закончу яго! І мной будуць ганарыцца! Усе! Толькі не ты, татачка... У мяне будзе сям’я. І дзеці. І ніколі-ніколі яны не зведаюць таго, што зведалі мы... Яны не будуць насіць кляйма дзетдомаўцаў. У іх будзе чыстая пасцель і прыгожыя цацкі, у іх будзе на новы год ёлка, якой ніколі не было ў нас, і да іх будзе прыходзіць Дзед Мароз і прыносіць падарункі. А галоўнае — у іх будуць мама і тата, якія будуць іх любіць...»

І раптам нечакана для самой сябе Люба павярнулася, каб кінуцца бегчы да бацькі, свайго роднага бацькі. Яе перапаўнялі супрацьлеглыя, пярэчлівыя пачуцці: які б ён ні быў, — п’яніца, алкаш, бяздомнік, — але ж гэта быў яе бацька!

Люба ўбачыла, што каля магазіна спынілася міліцэйская машына. Бацькі нідзе не было. Калі машына паехала, Люба зразумела — бацьку забрала міліцыя. Каб пераканацца, што гэта так, Люба зайшла ў магазін. Няма. Ісці шукаць бацьку ў міліцыі? А што яна там скажа?

Яе зноў ахапіла хваля сораму і болю. Якая недарэчная і непатрэбная сустрэча. Няхай бы яна лепш не ўведала, не ўбачыла свайго такога тату, няхай бы жыла з марай пра добрага, ласкавага, разумнага, найважнейшага ў яе жыцці чалавека, які абяцаў ганарыцца ёю. Люба апусціла галаву і панура падалася куды вочы глядзяць.

Прайшлі гады. Люба вывучылася, выйшла замуж, нарадзіла сваіх дзяцей. Час не спрыяў ёй. Даводзілася працаваць і вучыцца, жыць у інтэрнаце, нават, кінуўшы дзяцей на мужа, працаваць за мяжой на самых цяжкіх і брудных работах, каб зарабіць хоць якія грошы на сваю кватэру. Муж кінуць работу не мог — тады б іх папрасілі з інтэрната.

Цяпер яны разам. Будуюць кватэру. Летам ездзяць адпачываць па мора. Ганарацца поспехамі дачкі — гімнасткі, думаюць пра будучыню сына. Зрэдчас праведваюць маці, якая кінула піць, бо моцна хварэла. Шкада яе, старую гаротніцу, якая па сваёй волі загубіла ўласнае жыццё, ды і дзяцей у багну піхала. Старая ганарыцца цяпер імі, усім расказвае, якія ў яе дзеці — і разумныя, усе з вышэйшай адукацыяй, і багатыя — з машынамі ды кватэрамі. І сем’і ва ўсіх харошыя — не такія, у якой раслі яны самі...

Любай ганарацца ўсе. Акрамя яе харошага, яе любімага таткі, які аднойчы заснуў п’яны з цыгарэтай у ложку і не прачнуўся...







## Фелікс МЫСЛІЦКІ

### МЕЛОДЫЯ ІМГНЕННЯ

Сінія казкі піша зямля вадзяная,
Сінія казкі.
Зорныя краскі ў космасе Бог зачынае,
Зоркія краскі.

Воля імкнецца тварыць зоркапады,
Воля імкнецца.
Знічка смяецца, свет белы радуе,
Знічка смяецца.

Толькі світанне кнігу нябёс прачытала,
Толькі світанне.
Песня расстання з вечнасцю нас аб'яднала,
Песня расстання.

* * *

Навучыла запусценне
Мару размаўляць.
Пышным ліпавым цвіценнем
Цішыню здзіўляць.

Вадзяной зямлі усцешна,
Дзе ляжыць пустэча, —
Пудзіла трасецца смешна,
Недарэчна крэкча.

Неабдымная бясконцасць
Край удалеч кліча...
У рацэ схавала сонца
Соннае аблічча.

---

*__Мысліцкі Фелікс Эдуардавіч__ нарадзіўся ў 1950 годзе ў Гомелі. Скончыў Мінскі дзяржаўны інстытут культуры.*

*Аўтар кніг паэзіі «Азбука звёзд», «Библейская полынь», «Апокалипсическая звезда» і інш.*

*Жыве ў Гомелі.*

Занялося над дарогай
Неба дыядэмай...
Не судзі нас, Божа, строга —
Грэшныя усе мы.

## БЕЛАЯ РУСЬ

*Алесю Каждубу*

1

Хмараў надыхалі ніцыя воды,
Лес тумановай хапіў прахалоды,
Птах, як і я, ледзь не плача ад болю,
Сосны ўздыханнем закат пакалолі,
Неба разбудзяць касмічныя крыкі,
Чуецца шлях мне у крыках вялікі.

2

Храм упрыгожвае даль купаламі.
Хто ў ім так моліцца свята начамі?
Раны яго загаіліся даўна,
Складам ён быў, а глядзіцца так слаўна!
Каля іконы маўчання нястомнасць,
Слухай яго і ачысціш свядомасць.

3

Космас начуе на замкавым даху,
Замак сягоння вышэйшы за гмахі,
Нечыя крыкі чуваць там, дарэчы,
З імі сустрэцца душа не пярэчыць,
Жахі ў густой павуціне ў пашане,
Цені ваююць, жыццё у загане.

4

Зноўку германцы бадліва рагамі
Секчы паветра ўзяліся мячамі,
Раны крычаць, прамільгнулі палякі,
Зверу ў нары пазайздросціць усякі.
Спрэс пустазелле, бяздомныя птушкі,
Звілін пажару бясконцыя стужкі.

5

Скончыўся дождж, разлілася раўніна,
Як акварэльна за хатай карціна,
Вецер стаіўся і рэха не гушкае,
Мерае неба і падае птушкаю,
Вокны зямлі адлюстроўваюць вечнасць,
Кліча мяне за сабою Шлях Млечны.

## ЧАРНОБЫЛЬСКІ КАТАКЛІЗМ

*М. М.*

1

Памерці раз і — нарадзіцца зноў!
Вярнулі неяк і мяне дамоў,
Я месца не знаходзіў на зямлі...
Жывіцай словы мне тады былі.
Іх назбіраў я цэлы абярэмак,
Шукаў вачамі на аблоках тэму.

2

Я памяць адсякаў, блукаў падчас
У зморшчынах вякоў, згасаў не раз.
Я шораху баяўся, з усіх ног
Дадому бег хутчэй, як толькі мог.
Схаваўшыся ад вока, летуценіў,
Вучыўся супакоенасці ў ценяў.

3

Калі агні патрэсквалі ў кустах
І раздаваўся свіст на берагах,
Ляцела зорка весткай у акно.
Пупышкай красавік набух даўно,
Калі мой грэх мне апякаў язык,
Каб я ад ісціны навек адвык.

4

Раптоўна крыж узнік у цемнаце,
І нехта выпусціў у свет чарцей.
І выбіў вокны ў небе на вачах,
Да Прыпяці прасунуў лапы. Страх
Уджаліў ноч, і коннік агнявы
Пранёсся пад выццё праз паплавы.

5

Шкілеты выйшлі са сваіх магіл,
І вецер іх, як лебяду, касіў,
І кроў цякла паўсюдна без клапот
З адсечаных галоў прасторы ў рот.
Ссівела ўсё, зжаўцеў навокал лес,
І палын-зорка ўпала на АЭС.

6

Успыхнуў выбух, здрыгануўшы дні,
Накрылі ноч аскепкі цішыні.
І з полымем зліліся галасы,
Наскрозь працялі рэкі і лясы,

Абрынуліся ў Прыпяць і сплылі.
Пачулася, як тут вякі прайшлі.

7

Быў людзям іхны белы свет не міл,
Вісеў над імі прорвай небасхіл.
Шумеў і галасіў навокал жах,
Шугала полымя ў людскіх вачах.
На бруку плакаў скручаны хлапчук
І на вачах лысеў, як гэты брук.

8

І прарасталі, як палын, крыжы,
Згарнуўся дух, як у цяньку вужы.
Як раньш, хваіна падышла да хат,
Узгорак з ёю прыкалоў пагляд.
Чарнее зрэнкамі вада на дне,
Змыкае вейкі іншы раз у сне.

9

Забудзь, што пахне любаю трава,
Як ты на вышках з ёю начаваў.
Забудзь на месяц ясны, нібы шкло,
Вясёлку — каляровае крыло,
Калі зялёным рэхам рунь цвіла.
Ад росаў чыстай, як дзіця, была.

10

Тут Зосю, субяседніцу бяроз,
Я падымаў да зор і ў шолах нёс.
Тут начавалі з намі поўні дзве
Пад спеў вады і коніка ў траве.
Імя яе я адпушчу ў палёт,
Як птушку ў неба над ракой чарот.

11

Было нам мала для абдымкаў рук,
Кружыўся свет і корчыўся ад мук,
Хапаўся за паветра я, лісцё.
Увачавідкі бачыў — гіне ўсё.
І толькі згуба па слядах ішла
І ўсё спаліла на хаду датла.

12

У хмарах, бы ў руінах, райскі сад,
Апёкі змроку на абліччы хат.

На голас прылятаюць галасы,
Каб смагу наталіць слязой расы.
Пячэ і джаліць памяць, не суняць,
І ценяў касмылі — не разагнаць.

**13**

Яшчэ жывуць каханае сляды,
Што так баяцца ветру і вады.
Жывая ўсмешка пад навалай дзён,
Што некалі мяне ўзяла ў палон.
Хай сон яе, аплаканы ліствой,
Аберагаюць зоры і спакой.

**14**

Затым у раненай царкве ля ног
Крычаў і хлопаў крыламі спалох.
Я дыхаў стронцыем і жыў табой.
Маліў і каяўся у цішыні святой.
Між тым як голуб, ахінуўшы храм,
Струменіў свет і адгукаўся нам.

**15**

У хаце кінутай прыжыўся змрок,
І чорт храпе, уткнуўшыся ў парог.
Аж павукі ў бакі кутка бягуць,
Ім аканіцы бачыць не даюць,
А сцены, помнячы гаспадароў сваіх,
Распавядаюць іншы раз пра іх.

## КНІГА

У кніжным скопішчы хлусні і тлуму,
Напісаная верай у Хрысце,
Адрынута людзьмі яна бяздумна —
Усюды апакаліпсіс расце.

Яе нашчадак знойдзе выпадкова
І чалавецтву кнігу паднясе.
І прасвятлее розум з кожным словам,
Біблейскім свет наш стане пакрысе.

***Пераклад з рускай Ніны Шкляравай.***





Іван ШАМЯКІН

# З ДЗЁННІКАЎ*

**11 сакавіка 1998 года**

Учора прэзідыум СП прымаў новых членаў, зноў пачак — ажно дванаццаць чалавек. Праўда, два не з'явіліся. Прынялі дзесяць. Учора была дзіўная катэгорыя: маладыя майго ўзросту. Алесю Бабіцкаму 70 ці больш. Настаўнік. Пенсіянер. Жыве на Піншчыне ў вёсцы. Нават каня трымае. Піша для дзяцей. Можна пазайздросціць: жыве ў сваім доме, займаецца гаспадаркай і... піша вершы. Як там у паэта? «Землю попашет, стихи попишет...» Гэтак, здаецца?

Яўген Крамко з 1920 года. Мы з ім разам вучыліся ў партшколе. Партызан. Сябра Янкі Брыля. У Янкі мы не аднойчы сустракаліся. Пасля партшколы — ваеннае вучылішча, армія. Падпалкоўнік. Жыве ў вёсцы над Нёманам, у Карэліцкім раёне, за кіламетр ад дома Брыля. У маі пахаваў жонку. Жыве адзін у 78 гадоў.

«Не баішся?» — «А чаго баяцца?»

Сапраўды, чаго баяцца ў нашы гады? Смерці? Дык ад яе нідзе не схаваешся. Гэта я баюся. Баязлівец. А Яўген Крамко аптыміст. Узрадаваны прыёмам у СП. Чарку выпіў. Праніклівы Толя Вярцінскі спытаў: «А што вас цягне ў СП? Чаму вам хочацца сюды?»

Крамко разгубіўся. А я сказаў: «А каму не хочацца ў Саюз пісьменнікаў?» Засмяяліся. А сапраўды, каму не хочацца? І старым і маладым. І мне радасна, што людзі цягнуцца ў СП. Баюся, што на з'ездзе экстрэмісты могуць раскалоць СП. Ніхто ж не займаецца намі. Нікому з уладных структур няма справы да нас. Крыўдна. Хачу напісаць пісьмо Лукашэнку — прыцягнуць яго ўвагу да СП. Дзіўна, што і ў Расіі пісьменнікі адышлі далёка на задні план. На пярэднім — акцёры, прытворцы, імітатары. Час імітацый! Перадачы на расійскім тэлебачанні хіба пра Высоцкага, Акуджаву, Бродскага — рускіх пісьменнікаў няма! Дзе вы, інжынеры чалавечых душ? Як вы аддалі першынство прытворшчыкам, якія ставяць п'есы заходніх аўтараў? Знікае тэатр Гогаля, Астроўскага, Чэхава, Горкага. А ў нас знік беларускі. Раеўскі, Луцэнка і не ўспамінаюць, што былі Купала, Колас, Крапіва, Макаёнак, Караткевіч, Матукоўскі. Нават Матукоўскага яго былыя сябры выкінулі ў яму гісторыі.

Сёння Мікола Мятліцкі павёз мяне на прэзентацыю «Бабчына» ў бібліятэку. Сустрэча была немасавая, але цёплая, прыемная. Мілыя жанчы-

* Працяг. Пачатак у № 11, 2005 г.

ны-бібліятэкаркі. Я люблю іх, прапагандыстаў кнігі. Паказалі ажно дзве паліцы маіх кніг. «Радуйцеся, што такія зачытаныя». Радуюся. Але набываць новыя кнігі для бібліятэк стала праблемай — фінансаванне мізэрнае, а кнігі даражаюць. Рускі «Энциклопедический справочник» — 3 мільёны рублёў. Мая месячная пенсія. Якая кніга каштавала ў савецкі час 20 рублёў? У мяне такой няма. Сяргей купіў тры тамы «Российской еврейской энциклопедии». Кажа, том — 500 тысяч. Нашто купляў? Я пачытаў персаналіі. Многа адкрыццяў.

**15 сакавіка1998 года**

Маша сказала мне яшчэ ў панядзелак, што выпішацца як найхутчэй; ёй хочацца дадому: лячэнне таблеткамі.

Дамовіўся пра машыну на чацвер — не выпісалі. І ў пятніцу не выпісалі. Паехаў да яе ўдзень. Настрой зусім іншы: лячыцца ў бальніцы. «Я ім сказала (урачам): рабіце, як лепей мне». — «Лепей — паляжаць». Можа, упершыню адчуў, як ёй хочацца прадоўжыць сваё жыццё, ведаючы, што засталося яго не гады: паслязаўтра ёй 77. Ударыла мне ў сэрца. Гаротніца мая! Радасць мая і боль! Не ставілі катэтэр, ставілі кропельніцу ў вены, і рукі страшна сінія, жудасна сінія. Цалаваць хацелася гэтыя рукі, якія столькі папрацавалі: і ў агародзе, і ў доме, і за машынкай.

Сёння паехала да бабулі Маша — унучка. А там каранцін. Не пусцяць. Толькі перадачу занясуць.

Быў сват Уладзімір Мікалаевіч Махонь. Не першы раз за час, калі з'явіўся Ваня. І свацця Лілія Сцяпанаўна прыязджала ўжо разоў пяць. Сёння паехаў. Развітваючыся, раптам праслязіўся, раней развітваўся весела. Гэта мяне бадай спалохала. Я зрабіўся прымхлівы і недаверлівы. На шчасце, страшнае не сню.

Абясцэніўся рубель, наш, беларускі. Рэзка падскочыў долар (о долар!) — да 54000 рублёў. Падскочылі цэны на рынку. Падскочаць і ў магазінах. Учора «Звязда» пісала так, што абвяржэнне гучала сцвярджэннем. Не сумняваюся, што гэта правакацыя чубайсаў і заходніх валютных акул. Час выбралі зручны для «чорнага аўторка» — калі Лукашэнка рабіў ваяжы.

Чубайс зрабіў жорсткую заяву: маўляў, краіны СНД вінны Расіі 140 мільярдаў (?!) долараў, павялічваць доўг Расія не можа. Па маскоўскім ТВ прагучала інфармацыя (я не чуў), што ў Гомелі абмежавалі продаж прадуктаў у адны рукі: бохан хлеба, булку, кілаграм цукру, дзве пляшкі гарэлкі (нават гарэлкі!)... Гомель, Магілёў, Віцебск вывозяць многа ў «багатую» Расію, «чалнакі» нажываюцца на розніцы цэн.

Здаецца, мая кампенсацыя ветэранская лясне, як ляснулі савецкія сто пяцьдзесят тысяч. Лапух! А ў 1996 г., калі далі кампенсацыю, можна было яшчэ «перагнаць» рублі ў долары; па-мойму, курс быў тысяч семнаццаць. І вось ужо ў тры разы большы. А многія разумнікі прадбачылі, што долар не будзе зніжацца, а будзе расці. Купілі нас за долар! Закабаляць доларам, зробяць рабамі. А чым ён забяспечаны, гэты пракляты долар?! Нічым. А запаланіў увесь свет. Маеш долары — ты грамадзянін свету, не маеш — ты жабрак, нават калі маеш і свае нацыянальныя «капейкі».

Напісаў пісьмо Прэзідэнту наконт Саюза пісьменнікаў: выказаў сваю трывогу аб магчымым расколе СП на чарговым з'ездзе, які назначаны на 23 красавіка. Хачу прыцягнуць яго ўвагу да нас, творцаў. Не



*Іван Шамякін і Мікола Мятліцкі.*

ў першым пісьме даказваю значэнне пісьменнікаў як летапісцаў часу. Пакуль што больш увагі журналістам — фіксатарам плынных падзей, акцёрам — прытворшчыкам. Мода? Так у Расіі: галасоў пісьменнікаў не чуваць, экран запоўнены шоу з акцёрамі, хахмачамі. Рэкамендую на старшыню СП Генрыха Далідовіча. Разлічваю на яго нейтральнасць. Кажуць, рвецца Някляеў. <...>

СП, як і ДЛ, — мой боль. Многія са старых пісьменнікаў маўчаць. Выгадная пазіцыя. А я, дурань, сачыняю пісьмы, публікую дзённікі. Але ж не магу маўчаць!

Выпаў глыбокі снег. Студзень—люты былі бясснежныя. Зіма. Няўтульна. Слізка.

**18 сакавіка 1998 года**

Учора прывёз з бальніцы Машу. Нечакана выпісалі. У пятніцу не выпісалі, у панядзелак, праз выхадныя, калі не было ні ўрачэбных аглядаў, ні працэдур, раптам выпісалі.

Маша дома адразу ўключылася ў работу, зараз перадрукоўвае маё пісьмо Лукашэнку.

Хадзіў на вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Ізі Харыка. Спадзяваўся, што зала будзе перапоўненая. Не, спачатку — сотня людзей, пасля набралася больш. Вечар вялі Зуёнак і Леанід Левін, лаўрэат Ленінскай прэміі за Хатынь. А выступалі нашы. Анатоль Клышка зрабіў кароткі, але змястоўны даклад. Сяргей Грахоўскі з пафасам гнеўна кляў савецкую ўладу. Раздражняла гэта мяне, не першы раз. Так, ты пацярпеў. Але ж можна размежаваць. Тая ж улада рэабілітавала цябе. Прынялі ў СП. І да развала ты, Сяргей Іванавіч, нядрэнна жыў. Гэта закрэсліваецца? Да таго ж

расказвалі Захар Бірала, Ян Скрыган, як Грахоўскі паводзіў сябе ў лагерах: усюды быў брыгадзірам, старэйшым. А цяпер расказамі пра вялікую трагедыю зрывае апладысменты. Ды бог з ім! Чалавеку 85 год. Няхай пацешыць сябе. З пісьменнікаў-франтавікоў ніхто столькі не пражыў.

Мікола Аўрамчык, Артур Вольскі чыталі пераклады вершаў Ізі Харыка. Паэт значнай велічыні.

У канцэрце ўдзельнічаў тэатр песні «Сімха» («Радасць»). Дзяўчаты адна ў адну — прыгажуні. І што дзіўна: палавіна славянскія фізіяноміі, бялявыя. А Левін сказаў, што ўсе яны з яўрэйскай школы. Я гэта вытлумачыў, па-мойму, правільна. У 20-х гадах усе славяне, хто прыбіўся да ўлады, лічылі сваім абавязкам ажаніцца з яўрэйкамі. У нас можна назваць Клімава, Золава і многіх іншых. Пасля вайны, пасля кампаніі барацьбы з касмапалітызмам і далейшай неразумнай, па сутнасці антысеміцкай, палітыкі адбыўся іншы працэс: яўрэі стараліся ажаніцца з рускімі, грузінкамі, казашкамі. У нас — з беларускамі. І дзяўчаты «Сімха» — скрыжаванкі, «палавінкі», таму і прыгажуні такія. А пасля выступіў ансамбль Белтэлерадыё. Вось там ужо жанчыны-яўрэйкі намнога старэйшыя за дзяўчат «Радасці».

Быў нават багаты фуршэт. Добрага спонсара знайшлі ўдава і камітэт яўрэйскай абшчыны. Выклікае захапленне — Дзіна Харык. Колькі ёй гадоў — ніхто не ведае. Нямала, калі мужу 100! Больш як на пятнаццаць гадоў яна не магла быць маладзейшая за Ізю. І ў такім узросце арганізавала яўрэйскую бібліятэку і кіруе ёй. Запрашала: «У нас вы можаце прачытаць кнігі на любой мове». Хочацца зайсці.

Во так правёў учарашні вечар. Трохі забыўся на свае цяжкія праблемы.

Здзівіў Мікола Аўрамчык. На фуршэце я прызнаўся, што часам хочацца выпіць. А Мікола: «А я ўжо гадоў пятнаццаць штодня бяру па сто грамаў!» На год старэйшы за мяне. Усё жыццё скардзіўся на хворыя лёгкія. У тыя залатыя часы па паўгода жыў у Ялцінскім доме творчасці, часта з Палінай. Яго вернай Паліны няма ўжо гадоў сем. Жыве адзін: тры яго дачкі са сваімі сем'ямі жывуць асобна.

Хто цяпер можа паўгода пражыць у доме творчасці?! «Іслач» наш гарыць: баюся, што на яго наложыць лапу Ціцянкоў. Жалязоўскі і іншыя носяцца з ідэяй прадаць « Іслач» і грошы падзяліць паміж пісьменнікамі. Во якіх маем кіраўнікоў! Прапілі ДЛ, прап'юць і Дом творчасці. І застанемся мы голенькія. Між іншым, многіх гэта не хвалюе. Сумна.

Вяртаюся да вечара. Здзівіла, што не было Барадуліна і Быкава. Ходзяць чуткі, якім не хочацца верыць, што на з'ездзе пэнклубаўцы маюць намер аддзяліцца ад «сталінскага калгаса» (так яны называюць СП), павёўшы за сабой частку моладзі, — той, што яшчэ жыве ў завіхрэнні, ва ўяўным свеце, з упэўненасцю, што поўную незалежнасць дасць ім «амерыканскі рай». Наіўныя! Пэн-клуб мог падтрымліваць дзесяць пісьменнікаў, вядомых. Сто маладых вершаплётаў ніхто карміць не будзе. Спадзявайцеся, хлопцы, на свае часопісы, газеты, выдавецтвы, а для гэтага мацуйце адзіны саюз пісьменнікаў, куды кожны з вас так імкнуўся! Калі-небудзь вы ўспомніце гэтыя мае словы!

**24 сакавіка 1998 года**

20-га хадзіў у часопіс «Крыніца» за ганарарам. Някляеў праявіў да дзеда ўвагу: нават чарку паставіў. Прыйшлі Леанід Дранько-Майсюк, Алесь Жук, сядзеў «сухі» (не п'е) Леанід Галубовіч. Прыемная размова была. Ка-

го будзем выбіраць старшынёй Саюза? «Чаму не Някляеў?» — спытаў я. Адмовіўся і, здаецца, шчыра. Сказаў, што і Дудараў не пойдзе. Такой непрэстыжнай стала пасада старшыні СП? Згаджаюцца на Генрыха Далідовіча, калі той згодзіцца. Баюся, што і Генрых адвядзе сваю кандыдатуру.

Учора Генадзю Пашкову споўнілася 50. Ушанаванне было ў яго кабінеце ў БелЭН. Прыехалі Русакевіч, Данілаў, Марчанка, Падгайны. Прывітанне ад Прэзідэнта. Генадзь на вышыні. Дай Бог яму ўдачы. Галава не павінна закружыцца, ён чалавек разважлівы, і жонка яго Ала Уладзіміраўна разумная. Я люблю рэалістаў.

**28 сакавіка 1998 года**

У сераду ў Машы ўзялі кантрольны аналіз крыві. Л. Н. Каткова перадала яго ў гематалогію 9-й бальніцы, дзе Маша ўжо тройчы ляжала. У чацвер пазваніў загадчык аддзялення Аўчыннікаў і сказаў, што трэба лажыцца. О Божа! Праз два тыдні! Думаў, што пабудзе дома хоць месяц-паўтара. Зусім іншая атмасфера, калі яна дома. Ды і ёй лягчэй у сям'і. Яна не ляжыць, не сядзіць без працы: варыць кашу сабе і мне, прасуе пялюшкі, любуецца ўнукам, нават спрабуе друкаваць, скончыла «Губернатара», пачала дзённікі. Такі ў Машы характар! Такая жыццядзейнасць. І паводзіць сябе спакойна. А я панікую. Малю Бога і дакараю: за якія грахі ты так бязлітасна караеш нас; мы не кралі, не ашуквалі, любілі адно аднаго і бліжніх сваіх; у мяне, праўда, быў грэх — любіў выпіць і смачна паесці. Але працаваў, не разгінаючыся, за рабочым сталом. А Маша выдатна вяла гаспадарку.

Зрабіўся прымхлівы: часам мяне палохае самае натуральнае яе жаданне. Надумала заўтра зрабіць абед для дзяцей і ўнукаў, сабраць іх разам, даўно не збіраліся з-за яе хваробы. А ў мяне страх: ці не хоча яна развітацца з усімі? А ўрэшце, чаму палохацца, калі ўзнікла жаданне — пабачыць усіх, не для таго, каб развітацца, проста пабачыць. У мяне, здаровага, узнікала такая патрэба не аднойчы, я любіў, калі збіралася ўся сям'я, асабліва любіў прысутнасць гаварунні Машы (унучкі), па-філасофску маўклівай Славяны, разважлівай Таццяны з яе вечнымі размовамі пра сусветную палітыку, праўнучкі Вольгі.

Сёння прыехала з Нясвіжа пляменніца Машы Тамара Курганская. Сядзяць, размаўляюць. Алеся і Сяргей ставяцца да Тамары і яе дарослых дзяцей скептычна з-за іх захаплення ёгай. А мне падабаецца — не філасофія ёгаў, а сістэма фізічнай загартоўкі: Курганскія зімой купаюцца.

Лічу недахопам свайго жыцця, што, акрамя творчасці, я нічым не захапляюся, не маю ніякага хобі. Праўда, да людзей мяне цягне.

Учора пазваніў Алесь Савіцкі: у Ленінцы выстаўка кніг 1997 года, у дзень выдавецтва «Юнацтва». Пайшоў. Прэзентавалі кнігу Леаніда Левановіча «Вяртанне ў радыяцыю». Я выступіў, расказаў і пра свой вопыт працы над гэтай трагічнай тэмай — пра «Злую зорку» і «Зону павышанай радыяцыі».

«Мастацкая літаратура» прэзентавала кнігу Алеся Пісьмянкова. З цікавасцю чытаў і раней яго вершы. Учора пачытаў, паслухаў — зацвердзіўся ў думцы: выдатнейшы паэт! Звонкі, напеўны, роўны маладому Блоку ў дасканаласці верша.

<...> Па маім пісьме на імя Прэзідэнта наконт Дома літаратараў пазваніў А. М. Данілаў: «Збяромся ў Пашкевіча — мы, вы». Я адзін? Чаму

адзін? Чаму не паклікаць групу? Так і сказаў яму. Папрасіў паклікаць Навуменку, Савіцкага, Лукшу, Пашкова, Зуёнка (абавязкова!), Някляева, Марчука і, можа, каго з апазіцыі.

<...> З'езду баюся. Успамінаю: Машэраў прысутнічаў на нашых з'ездах, і гэта дысцыплінавала людзей: ніякіх выкрыкаў, ніхто і не падумаў зайсці ў залу «пад мухай», і выступленні былі выверанымя. Прамоўцы не казалі глупства. Баяліся? Ды не! Вася Быкаў выдумаў, што кожны другі творца быў сексотам. Якое глупства! Па-першае, навошта органам такія асведамляльнікі! А баяцца таксама не было падстаў. З 1948 года (пасля барацьбы з касмапалітызмам) ніводзін пісьменнік, мастак не быў рэпрэсіраваны, не ведаю, каб кагосьці выклікалі на прафілактычную гутарку ў органы; у ЦК маглі выклікаць, паўшчуваць. І вярнуліся ўсе рэпрэсіраваныя ў 1937—38 гг. жывыя. Мёртвых аднаўлялі ў СП. І з'яўляліся добрыя і смелыя творы, пра што ўчора хораша сказаў Алесь Савіцкі. Зараз, пры разгуле дэмакратыі, такія творы не пішуцца, бо хто герой — «новыя»? Я пішу іх адмоўнымі персанажамі. На станоўчага героя ніводзін не цягне. Як не цягнуць дзяржаўныя чыноўнікі-хабарнікі.

Пасярод ночы не магу заснуць. Каўтаю лекі, снатворнае. А раніцою не магу прачнуцца, сёння спаў да 12. Маша двойчы будзіла. Калі-небудзь не прачнуся.

**31 сакавіка1998 года**

І зноў бальніца. Чацвёрты раз за пяць месяцаў. Учора перад ад'ездам Маша сказала: «Мне ўжо ўсё роўна: у бальніцу дык у бальніцу...» А дагэтуль ёй у бальніцу не хацелася. І яна яўна не даказала, куды яшчэ. А я злавіў сябе на кашчунных думках, якія раней не прыходзілі. Сваё пахаванне мадэляваў, Машына — ніколі. А тут раптам спахапіўся, спалохаўся, бо падумаў: здарыцца трагедыя — каму званіць, у каго якой дапамогі прасіць. Грэх гэта? Але ж набожныя сяляне загадзя майстравалі труну, каралі і дваране будавалі склепы. Відаць, у нашым узросце не думаць пра гэта немагчыма. Страшныя гэтыя думкі. Яны гасяць усе жыццёвыя стымулы, да творчасці — пэўна. Маша пачала друкаваць дзённік — я вычытваў, каб не множыць тое, што публікаваць нельга. Але ў сшытку канца 1995 — пачатку 1996 гадоў — майго 75-годдзя — не зняў ніводнага запісу. Думаю, мне было б лягчэй, каб я пачаў хоць якую аповесць ці апавяданне — пра жыццё. Але ў галаву лезуць трагічныя сюжэты. А іх я баюся.

Запаўняю дні чытаннем і сустрэчамі — іду на любое мерапрыемства, на якое ў творчым стане пашкадаваў бы часу. З людзьмі на нейкі час забываешся на боль свой.

Учора паклікалі ў Адміністрацыю па маім лісце аб з'ездзе СП. Наіўны я ўсё ж: лічыў, што пісьмы мае кладуцца на стол Прэзідэнту. Кладуцца тыя, якія выгадны чыноўнікам. А гэтае (не адразу сцяміў) дае пстрычку па носе тым, хто па службе абавязаны хоць як займацца творчымі саюзамі. Вышэй Пашкевіча пісьмо маё не хадзіла, цвёрда пераканаўся.

Запрасілі на 10. Сустрэла добрая Ніна Марчанка, якую ведаю гадоў дваццаць пяць, калі не больш: памочніца Сняжковай, Мазай, харошая памочніца, дзелавая.

Зайшлі да Валерыя Хараўца, таксама даўняга знаёмага. І ў яго сядзелі роўна паўтары гадзіны: Пашкевіч праводзіў нараду з рэдактарамі газет.

І хоць бы потым папрасіў прабачэння. Ніна і Валерый адчувалі сябе няёмка, паілі мяне чаем. Але я не сумаваў з імі: расказаў і пра свае беды, і пра невясёлыя справы ў СП. Гісторыя з шыльдай і іх абурыла. І Пашкевіча. Ціцянкоў і яго каманда, каб даць ім волю, знішчылі б не толькі шыльды, а спалілі б усе беларускія кнігі і закрылі б літаратуру ўвогуле. Навошта яна ім? Лішнія клопаты і ім і іх дзецям — школьнікам, студэнтам. Мая шматпакутная літаратура! Плакаць хочацца, гледзячы на тых, хто па абавязку службы, а не па закліку сэрца мусіць займацца ёю. Дзякуй Богу, што яна, усечаная, знясіленая, яшчэ жыве.

Зразумеў, што сваю працу па падрыхтоўцы з'езда Пашкевіч хацеў абмежаваць гутаркай са мной адным, адстаўным барабаншчыкам. О не, хлопча! Цвёрда параіў прыняць групу чалавек 10—15, розных па поглядах — левых, правых, цэнтрыстаў. Прасіў абавязкова запрасіць Бураўкіна, спадзяючыся, што Генадзь выказаў бы тыя ісціны, якія не скажу ні я, ні Алесь Савіцкі, ні Далідовіч, ні Някляеў... Круціў Ваня носам, але паабяцаў запрасіць.

Аб кандыдаце на старшыню СП. Генрых, якога я прапанаваў, энтузіязму не выклікаў. Прапанаваў кандыдатуру Савіцкага — Марчук. Абмеркавалі. Выказалі думку, што можа не прайсці. Ведаюць, выходзіць, Марчука. Не выклікаў сумненняў Някляеў. Што ж, гэны можа. Але куды павядзе СП? Я слаба ведаю яго пазіцыю.

Сёння запрасілі ў Дом ветэранаў, і начальнік Галоўнага штаба ўручыў групе ветэранаў медалі «80 год узброеным сілам Беларусі». Дзякуй Богу, хоць гэтую гісторыю не забываем. Былі Палякоў, Аксёнаў, Сакалоў, Кузьмін, Мікуліч — кіраўнікі, з якімі я кантактаваў (з Паляковым асабліва) і меў узаемаразуменне. Івану 84. Баляць ногі. Выпілі па шклянцы шампанскага. Хораша пагутарыў з Міхаілам Дзяльцом. Люблю гэтага чалавека. Ён быў на рэдкасць дзелавым (Дзялец!) старшынёй камітэта па друку. З ім прыемна было працаваць. Міхал сагітаваў мяне купіць «Глорыю», самы тонкі каньяк, бабруйскі, але з французскага сырцу. Без яго пашкадаваў бы 102 тысячы. З сябрам ажно сорамна стала за сваю ашчаднасць. Але што зробіш. Яшчэ бацька мой казаў: «Бедность не порок, но большое свинство». Трапна — не да беднякоў, да тых, хто зрабіў нас беднякамі.

**3 красавіка 1998 года**

Наведаў Машу, учора ўвечары. Яна засталася адна ў палаце. Нават вынесены трэці ложак. Ціхенька ляжала, слухала радыё. Узрадавалася, убачыўшы мяне.

Стамілася яна, пакутніца.

«Можа, мне ўжо кінуць лячыцца?»

«Я табе дам! Лячыцца трэба бесперапынна, ты ж бачыш па суседках: лечацца і жывуць па два-тры гады».

«Яны маладзейшыя...»

Яны маладзейшыя — гэта так. Але павінна быць нейкая надзея і ў нас, старых. Без веры і надзеі немагчыма жыць. О, як бывае цяжка, калі яны адступаюць! Але я вяртаю іх.

Машу заўсёды трымалі і трымаюць зараз яе аптымізм і простая мудрая філасофія — сялянская. Машы я не сказаў пра Таццяну — другі раз трапляе ў бальніцу: за дачку Маша б перажывала больш, чым за сябе.

Атрымліваў ганарар у «Полымі» за «Завіхрэнне». Па старой традыцыі ў ганарарны дзень узялі па сто грамаў — грэшнікі! Сядзелі Законнікаў, Пісьмянкоў, Дудараў. Апошні здзівіў. Разумны чалавек, добры драматург, і такая зацыкленасць на антырусізме. Я думаў, хвароба гэтая мінула, як грып. Не, выходзіць, працягваецца, хоць не эпідэміяй ужо.

Старшынёй СП выбірацца адмаўляецца. «Калі я хацеў, вы не выбіралі. А цяпер — навошта мне, калі саюз развалены».

Шчыра? Можа, і шчыра. Кажуць, у старшыні хацеў бы Генадзь Бураўкін. А што — фігура! Я выбраў бы яго. Не дурны чалавек. Дыпламат.

Не магу зразумець фартэля Ельцына з адстаўкай урада Чарнамырдзіна. Чытаю аналітыкаў розных напрамкаў. Як ні дзіўна, бліжэй да ісціны наш Паша Якубовіч: Чарнамырдзін не ўзнімаецца, Чарнамырдзін апускаецца. Гэтак Ельцын расчышчае сабе дарогу на трэці тэрмін. Во сіла ўлады! Стары, з хворым сэрцам... Аднак вялікі камбінатар! Пераіграў Гарбачова. Пераіграе Чарнамырдзіна. І нават рыжага Чубайса — хітранькага зладзюгана. Наколькі маральна чысцейшы за іх усіх, маскоўскіх князёў, наш Прэзідэнт... І ў гэтым яго перавага. Ён, калі і «гуляе», то адкрыта.

**5 красавіка 1998 года**

Прачытаў у «Полымі» № 2 Янку Брыля — «Пішу, чытаю, жыву. З лірычных запісаў». Цікава. Хораша назваў: так, мы жывём, пакуль пішам і чытаем. Разумна, глыбока. Недахоп дзённікаў Максіма Танка, што ў іх зашмат падзей і малавата роздуму, хоць у паэзіі Танк — філосаф. Падзейныя дзённікі — так бы я назваў. У Янкі яны — кніжныя: галоўны роздум аб прачытаным. Людзі — толькі ва ўспамінах дзяцінства, маленства, актыўнай дзейнасці, калі пісьменнік многа ездзіў.

З'явілася жаданне выпісаць адзін запіс, не таму, што там Брыль згадвае мяне, а таму, што сугучныя нашы думкі пра маладых.

«Прачнуўся ў тры, пабыў у цемры (як знаёма мне!) і ўспомніў, што можна пачытаць у «Полымі» Жука. І прачытаў яго «Сны пра маму». Свежы боль. І думаецца, якая ўсё гэта лухта, марнота з супермоднымі акрэсленнямі жанраў, плыняў, выбрыкаў, чым займаюцца некаторыя з маладых, ад бездапаможнасці, у пошуках нахапаўшыся «вучоных» тэрмінаў. Жыццё і душа (падкрэслена Янкам Брылём). Гэта і відаць у Алеся.



*Сустрэча ў Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы г. Мінска.*

Такое ўспомнілася з «Атлантаў і карыятыдаў», дзе і Шамякін, у раздзелах пра смерць маці, узышоў быў на сапраўднае».

Дзякуй, Янка.

Брыль выдатны пісьменнік. Але некалькі тамоў лірычных запісаў, абразкоў — ці не замнога? Гэта мог дазволіць сабе хіба што Леў, на якога Янка так часта спасылаецца.

Пачуў па «Свабодзе», што ў Амерыцы выйшла кніга аб эратычных і сексуальных прыгодах Чэхава. Чэхава?!! О Божа! Для мяне ён быў самы цнатлівы, *непорочный* чалавек. Выходзіць, Бердпікаў і сотні былых даследчыкаў стварылі ілжывы вобраз. Закон сацрэалізму? А можа, гэта і добра? Ніякай раздвоенасці паміж жыццём і творчасцю.

Зноў перажыў начны страх — за Машу. Страшныя думкі пра пахаванне. А яны лезлі неадчэпна. І гэта здавалася кашчунствам. Святатацтвам. Калі, здаралася, прыходзілі дурныя фантазіі аб уласным пахаванні, я адганяў іх гумарам, няхай і змрочным. А тут не да гумару. Не выходзіць з галавы шэпт прафесара Іванова: «Это неизлечимо». Ды і сам я ведаў, што гэта не вылечваецца. Аднак верыў у цуд.

Толькі што пазваніла Наташа. Яна наведала Машу. І я званіў Ігару Багданавічу. І ўрач, і Наташа гавораць, што адчувае яна сябе лепш: нармальная тэмпература, а ў чацвер была 38,4. І ўсё ж роспач душыць мяне. Але не маю я права паміраць раней. Не! Ні ў якім разе. Гэта звышэгаізм — жадаць памерці раней, каб пазбавіцца душэўных пакут.

У свае 80 Брыль не запісвае думкі пра смерць. У гэтым яго мудрасць — пішу, чытаю, жыву. І я пішу, чытаю і... жыву. Цяжка, але жыву. Божа, прадоўжы дні нашы — усіх блізкіх і мае!

**7 красавіка 1998 года**

Учора прыехаў да Машы, а яна... з паламанай левай рукой — у гіпсе. Падымалася ўночы, абаперлася на столік, а ён на калёсіках, і ўпала. Загадчык аддзялення Аляксандр Міхайлавіч супакойваў мяне, што пералом не страшны — маленькая трэшчынка. Я хадзіў у 1981 з паламанай рукой і ведаю, што гэта такое. Дык я быў здаровы. А тут цяжкахворы чалавек. Абслуга ж у аддзяленні рэанімацыі — нават сігналізацыі няма. Як яна сярод ночы дакрычалася ўрача і сясцёр?!

Але гэта Маша. Сёння пазваніла з бальніцы Таня: яе рыхтуюць да аперацыі — паласной. Паеду да Машы, падтрымаю маральна. Пра Таню, канечне, не скажу. Маша загадвала, каб пра яе руку нікому не казаў. Разумею яе клопат пра ўсіх. Сказаў толькі Алесі і Сяргею. Маці Сяргеева Лілія Сцяпанаўна гасціць, цешыцца ўнукам. Але каму так баліць, як мне? Толькі Вольга магла б так перажываць, а таму і трымаем у сакрэце ад яе — 84-ты год!

Не мог заснуць, глытаў нітрасан і праспаў да... гадзіны дня. Ажно сорамна стала. А заўтра трэба ўстаць у 8: сесія аддзялення Акадэміі. «Пішу, чытаю, жыву». Я чытаю, засядаю, жыву. Хіба можна ў такім стане пісаць? Хіба што дзённік. Паплачу над гэтым сшыткам у клетачку... Лягчэй не робіцца, але ўзнікае адчуванне, што не марна страціў час. Хто калі давядзе да ладу, да публікацыі гэтыя мае 12 тоўстых сшыткаў? Спадзяюся на Таццяну, на Алесю, на Машу, на Славяну. Дзеці і ўнукі! Ушануйце гэтак бацькаву і дзедаву памяць. Няхай публікацыя стане помнікам працаўніку.

**15 красавіка 1998 года**

Учора забраў Машу з бальніцы. Выпісалі ў больш цяжкім стане, чым раней. Рука ў гіпсе. Кашаль, які там не лячылі. Слухалі лёгкія — хрыпаў няма. А кашаль мог быць сардэчны.

Дома ажыла, узбадзёрылася. І я паехаў на прэзідыум СП. Пасля пасяджэння па традыцыі «замочвалі» новых членаў. Вярнуўся ў 8 вечара. Маша сядзела на кухні з пляменнікам сваім Алёшам Кротавым, які прыехаў з Гомеля. Ніякіх сімптомаў пагаршэння не было. А гадзіны праз дзве — як прыступ астмы: пачала задыхацца. Выклікалі неадкладную дапамогу з лечкамісіі. Прыехалі тры мужчыны. Паставілі дыягназ: ацёк лёгкага. Ухуталі ў коўдры і павезлі ў бальніцу, у рэанімацыю. Паўгода жыцця са страхам за яе жыццё станчылі мае нервы. Я падумаў, што гэта агонія, і разрыдаўся. З «хуткай» паехаў Сяргей, прынёс коўдру і падушкі.

Змучаны, я ўсё ж гадзіны ў дзве заснуў. У сем прачнуўся. Званілі з рэанімацыі. Цяжкая хворая. Зрэдку трызніць (па расказе ўрача): «Прыйдзе зяць, і я аддам яму грошы».

Я караю сябе за думкі пра пахаванне. Але ці святатацтва гэта? Суровая і жорсткая рэальнасць, ад якой не схаваешся... Калі Бог дасць перажыць роднага чалавека. Пяцьдзесят восем ішлі ў жыцці як адзіны арганізм, адзіная душа. Нават у ваеннай разлуцы мы жылі думкамі адно пра аднаго. Як жа пакутліва цяжка застацца аднаму! Але трэба жыць! Трэба!

**18 красавіка 1998 года**

Наведваў Машу ўсе тры дні, што прайшлі ад страшнага вечара 14-га. 15-га яна была ў вельмі цяжкім стане, у несвядомасці, 16 і 17 значна лепш. Учора нават сядзела, гутарыла, распытвала пра Таццяну і ўсіх родных. Не помніць, як забіралі яе з дому, і маё наведванне 15-га не помніць. Званіў сёння прафесару Яўгену Пятровічу Іванову дадому. Ён лічыць, што яе паспяшаліся выпісаць з гематалогіі. Ухваліў, што хутка выклікалі «хуткую дапамогу», забралі ў рэанімацыю. «Пры такіх з'явах (ацёк) чалавека можа не стаць за дзесяць хвілін нават пры больш лёгкіх хваробах». А як жа жыць далей?! Думкі ў мяне страшныя. Я баюся іх. Баюся нават набліжэння свята. Даруй мне, Госпадзі. Але як не баяцца? У такія дні машыны не знойдзеш — усе святкуюць. Калі рабіў першым сакратаром СП і здаралася трагедыя — смерць пісьменніка перад святамі, — о, колькі гэта прыносіла душэўных пакут не толькі сям'і, але і нам, кіраўнікам, у абавязак якіх уваходзіла з належнымі ўшанаваннямі пахаваць чалавека. Дык тады былі ў СП свае машыны. І быў аўтарытэт. І быў магутны памочнік і арганізатар — ЦК. Цяпер нічога гэтага няма. Што будзе на з'ездзе 23-га? Ніхто не займаецца нават падборам кандыдатуры на пасаду старшыні СП. На прэзідыўме 14-га прысутнічаў І. І. Пашкевіч. І дзіўна — нашы мудрацы нічога канкрэтнага не сказалі, я адзін больш сказаў, чым усе члены прэзідыума. Гэтак жа будуць маўчаць і на з'ездзе? Наўрад. Там будуць паказваць, якія яны «праведныя дэмакраты». Учора ў «Народнай газеце» Іван Капыловіч, інвалід, бязногі, хораша сказаў пра гэтых нашых «дэмакратаў». Артыкул назваў «Цягнік адышоў і рэйкі разабралі?» Цягнік (які?), магчыма, адышоў, але рэйкі яшчэ цэлыя.

Прыходзіла Вольга Філатаўна. Тры гадзіны прастаяла ў чарзе ў царкву, каб пасвяціць яйкі, пасху, соль. А ёй 84-ты год! Занесла свянцоныя нам і для Машы, Таццяны, яе дзяўчат.

І за Вольгу баюся, што яна робіць такія маршы, такія нагрузкі. Я на сваіх нагах тры гадзіны не прастаяў бы. Мітрапаліт Філарэт запрашае заўтра на богаслужэнне. Баюся — не выстаю. Аднак на банкеты хадзіў, грэшнік. На гэты раз запрашэння на прыём няма. Відаць, правільна. Няхай кожны святкуе дома.

**25 красавіка 1998 года**

22-га Маша мяне спалохала вельмі: поўнае нерэагаванне на акаляючыя рэчы. Ні гаварыць, ні есці, ні піць не магла. Расказваючы блізкім пра яе стан, я плакаў. На з'ездзе прасіў Ліпскага, Лукшу, Пятра Бабло, дырэктара Літфонда Міхноўскага Міколу ў выпадку трагедыі памагчы. Палохала, што наперадзе многа нерабочых дзён: 26, 27, 28 красавіка, 1, 2, 3 мая. Учора пайшоў на тое, што паехаў на могілкі, каб дамовіцца, дзе пахаваць. Маша вельмі прасіла: калі нельга побач з Сашам, то блізка ад яго. Дырэктар К. Л. Каменка і яго намеснік А. У. Кажар вырашылі, што можна побач з Сашам. Не святатацтва гэта — пры жывым чалавеку дамаўляцца аб яго магіле?

Страшна не тое, што я раблю — правільна ці бяздарна, страшна, што я амаль змірыўся з думкай аб непазбежнасці яе блізкага сыходу. Божа, працягні дні яе жыцця! Без Машы я нішто, і жыццё маё без яе стане існаваннем, хоць жыць, калі Бог дазволіць, я мушу — не для сябе, для блізкіх, усё ж такі я хоць трухлявая, але апора, маральная і матэрыяльная.

А ўчора Маша парадавала: адчувала сябе лепш. Нармальна гаварыла ў поўнай свядомасці, успамінала такія дэталі, якія я не помніў. Дай Бог!

Аб з'ездзе нашым. Правялі за адзін дзень — 23. Прамоўцаў, як раней, на два-тры дні, не было. Прамовы амаль усе з прэтэнзіяй да ўлады за ДЛ. Але ўвогуле карэктныя, антыпрэзідэнцкіх выпадаў амаль не было. Гучнагалосы трыбун Гілевіч сарваў бурныя апладысменты нашай балючай тэмай — аб лёсе мовы. Лёс трагічны, гэта так, дзіўна, што ўлады не разумеюць гэтага. Але ад прамовы Нілавай патыхнула 1991 годам — ніякага ўліку рэалій дня сённяшняга. Гэта праяўлялася і ў іншых прамовах. І гэта ў літаратуры — адставанне ад падзей імклівага часу. Даўняя хвароба нашай літаратуры — інерцыйнае мысленне. Быкава і Барадуліна на з'ездзе не было: паехалі на з'езд пэн-клуба. Вось так.

Расчаравала мяне і моцна здзівіла галасаванне. Не думаў, што ў СП столькі не вельмі разумных людзей. Няўжо думаюць, што, выявіўшы вось так антыпрэзідэнцкі настрой, яны стануць жыць лепш і іх пачнуць выдаваць, павялічаць ганарары, вернуць ДЛ?! Галасавалі, каб праваліць тых, хто выяўляе сваю прыхільнасць, лаяльнасць да Прэзідэнта. Скобелеву ўкінулі 150 чорных шароў, Пашкову, Савіцкаму — за сотню, па 80 з гакам Лукшы, Навуменку, Марчуку. Мне 49. Хоць ніхто з іх не выяваў так многа і канкрэтна за ДЛ, за мову, за ганарары. Усё гэта не ўлічваецца, палітычны падыход перамагае здаровую логіку. Дзівакі! Быкава і Алексіевіч (яна атрымала прэмію ў 60 000 доляраў) пракорміць пэн-клуб, Сорас і іншыя антыбеларускія сілы. Хто нас пракорміць, сябры мае? Я не за пакланенне Лукашэнку і любому іншаму чыну. Але ўлада ёсць улада! Яе можна і трэба крытыкаваць, літаратура заўсёды была ў апазіцыі да ўлады. Але як гэта рабілі Пушкін, Гогаль, Талстой! Яны і сёння сучасныя! А ў нашых майстроў толькі і хапае духу паказаць дулю ў кішэні, выявіць сваю апазіцыйнасць праз бюлетэнь для тайнага галасавання. Чым вінаваты ака-

дэмік Навуменка? Падпісаў пісьмо ў абарону «Славянскага набата»? Што дрэннае зрабіў Пашкоў? Выдае ў цяжкі час энцыклапедыю! Каго не выдаў Лукша ў «Юнацтве» за дваццаць гадоў? Усе выходзілі. Каму наступіў на мазоль Алесь Савіцкі?..

Старшынёй выбралі Ул. Някляева. Вылучылі чалавек сем, усе адвялі свае кандыдатуры, акрамя яго. У маім спісе ён быў другі: Далідовіч, Някляеў, Марчук. Яго перавага ў тым, што ён мае кантакты з Адміністрацыяй Прэзідэнта; Вася Зуёнак, на жаль, не меў іх.

Вось так прайшоў апошні тыдзень. З балючымі перажываннямі за Машу. З цяжкім роздумам аб лёсе літаратуры, СП. Баяўся, што разломяць Саюз. Не, на шчасце, не пайшлі на гэтую акцыю. СП будзе жыць! І не сумняваюся, што шмат хто з гэтых, хто паказаў фігу ў кішэні, паразумнеюць.

Лічу памылкай Лукашэнкі, што не прыслаў прывітанне з'езду. Са спартсменамі сустракаецца ледзьве не кожны тыдзень. Не разумее, што летапіс яго часу напішуць не спартсмены, а пісьменнікі? І варта было б паклапаціцца, якім ён будзе, гэты летапіс.

**1 мая 1998 года**

Свята? Якое свята! Усё рухнула. Няма і свята вясны і працы. Для мяне асабліва. Пазваніў Навуменку і Аўрамчыку, павіншаваў. Мікола сказаў: «Пішу вершы». Шчаслівы. Ён перажыў трагедыю даўно — смерць Паліны. А я паўгода жыву пад страхам такой трагедыі. Любая іншая хвароба давала б надзею, што, дасць Бог, Маша ачуняе. Але рак!.. Лейкоз, рак крыві.

У апошнія дні Машы лепш, тыдзень назад я гатовы быў да трагедыі, і што па-новаму страшыць — я зміры́ўся з гэтай думкай. Пазаўчора мы былі ў яе ўтраіх: я, Алёша (унук), Таццяна (наша былая нявестка). Маша цэлую гадзіну сядзела, паела. Учора быў адзін. У яе ўвесь час хваробы была ясная памяць. А ўчора пытае:

— А чаго ты ўчора не прыйшоў?

— Як не прыйшоў! Мы ж былі ў цябе — Алёша, Таццяна.

— Хіба гэта было ўчора? Пазаўчора.

Здзівілася. Страціла пачуццё часу. Ляжыць у палаце адна. Правалы ў памяці — сімптом нядобры. Папрасіў А. У. Максімава:

— Не адсылайце ў дзевятую. Яна не хоча туды.

— Не, не, будзем лячыць тут і лейкоз.

Пятроўскі сказаў:

— Мы са сваёй задачай справіліся: з сардэчнай недастатковасцю, з ацёкам лёгкага.

Відаць, справіліся. Але ці надоўга? Як рэагуе сэрца на хворую кроў? Хоць кажуць, аналіз крыві не пагрозлівы, пакуль што. Трымаюць жа на кропельніцах.

**2 мая 1998 года**

Учора ў маці ўпершыню пасля аперацыі была Таня са Славянай. Пасля, калі Таня і Славяна пайшлі, Маша доўга сядзела ў каталцы, і мы гутарылі. І ўсё, здавалася, было нармальна: помніла ўсе хатнія, дачныя справы, прасіла, каб даў Ліне і Вользе грошы. А потым азірнулася і таямнічым шэптам:

— А сёння нападалі на бальніцу.

— Хто?

— Чорныя.
— Якія чорныя? Негры?
— Не. Гэтыя...
— Каўказцы?
— Так. Я ляжала ў двары на лаўцы. Усюды стаялі кропельніцы. Я ледзь не застагнаў. Галюцынацыі.
— Гэта сон, Маша.
— Не сон.
— Як ты магла апынуцца там? Ты ж не можаш хадзіць.
— Не знаю — як. Але я ўсё бачыла. І іх не было шэсць гадзін...
— Каго?
— Урачоў, сясцёр.

Няма ў яе гадзінніка. Страціла яна пачуццё часу: дні, гадзіны. А тут — шэсць гадзін.

— Ты толькі нікому не кажы.
— Я не скажу.

І далей — нармальная размова. А потым зноў пра напад чорных. Чачэнскі сіндром, ці што? А я халадзееў ад страху. Парушэнне псіхікі... Хоць чаго баяцца? Праз колькі хвілін я сам праявіў яўны склероз. Выйшаў з аддзялення — на тапчанчыку, што стаіць збоку ад дзвярэй, няма майго капелюша. Здзівіўся: хто мог забраць стары капялюш? Сёстры, няні выйшлі. Шукалі ў аддзяленні, спачувалі. Сястра ці ўрач з суседняга пакоя сказала, што бачыла ўчора карычневы капялюш. Учора! І ў гэты міг адчыняецца ліфт, і гардэробшчыца прывозіць мой капялюш: у яе канец работы, а я не іду. Было і сорамна, і страшна з-за такой забыўлівасці: у памяці засталося, што палажыў учора, і абсалютна выпала, што сёння пакінуў свой галаўны ўбор у гардэробе. Нядобры сімптом. Не дай Божа дажыць да склерозу, які я назіраў у Піліпа Пестрака: ён не знаходзіў сваёй дачы.

Увогуле я аглушаны і ашаломлены. Збіўся з жыццёвага рэжыму. Начамі не сплю, потым глытаю снатворнае і да адзінаццаці гадзін сплю. У 12 паснедаў. А зараз ужо дзве. Хутка ісці да Машы. Павінна прыехаць Славяна накарміць яе. Я з-за кашлю не хачу блізка падыходзіць.

Для творчасці трэба спакой, а калі і неспакой, то не такі, калі мозг цалкам заняты думкай пра смерць блізкага чалавека. Ды і пра сваю ўласную. Хоць яшчэ жыву палітыкай. Спрабую чытаць Буніна і Луіджы Пірандэла. Наколькі італьянец, лаўрэат Нобелеўскай, слабейшы за рускіх — Чэхава, Буніна, хоць увесь — ад Чэхава. Учора дзесь прачытаў анекдот пра Бялінскага. Спадабаўся. Запісваю.

Бялінскі сеў на рамізніка. Той агледзеў яго: пан, а паліто задрыпанае. Пытае: «Пан, а вы хто?» — «Я — крытык». — «А хто гэта?» — «Ну, як табе растлумачыць?.. Пісьменнік напісаў кнігу, а я яе вылаяў». Рамізнік: «Тпру! Злазь!»

Вось так народ ставіцца да крытыкаў. А калі сур'ёзна, то Бялінскі — пачынальнік канструктыўнай, канцэптуальнай крытыкі. Яна падтрымлівала літаратуру другой паловы XIX ст., пачатку XX, савецкую літаратуру. У гады «дэмакратычнага развалу» без славы памірае. У нас памерла. Ні адна газета не дае артыкулы пра літаратуру, а часопісы заняты ўваскрашэннем рэпрэсіраваных і эмігрантаў. А творы ж іх, за рэдкім выключэннем, слабенькія, прымітыўныя.

Зноў вяртаюся да нашага з'езду. Крычалі: «Жыве Беларусь!» Жыве, безумоўна, і будзе жыць. Але што будзе з мовай? Нацыянальная інтэлігенцыя здрадзіла нацыянальнай ідэі. А беларускае сялянства вымірае — мае равеснікі. Дзеці іх і тым больш унукі — нават тыя, хто застаўся ў вёсцы, — па-беларуску не гавораць. Во ў чым наша бяда. Баюся, што і праз пяцьдзесят гадоў дзеці нашы — пісьменнікі — будуць выступаць з такімі ж прамовамі, што на апошнім з'ездзе. Такі наш лёс. Мы — на скрыжаванні вялікіх дарог. Нас нішчаць, асімілююць. Гора нам. Але жыць трэба. Нам наканавана несці гэты крыж.

**5 мая 1998 года**

Учора ўрач А. І. Пятроўскі сказаў, што хоча перавесці Машу з рэанімацыі ў агульную палату. Прасіў яго пакуль што не рабіць гэтага. Пабяцаў. А сёння па тэлефоне сказалі катэгарычна: пераводзім у 306 палату. Такую цяжкую хворую! Не стаў спрачацца, каб не перавялі ў 9-ю. Не хоча Маша туды. Ды і я не бачу карысці. Я пачаў сумнявацца, што яна стане на ногі. Каб магла хоць трохі хадзіць, забраў бы дадому. Хоць што дома? Смерць ад лейкозу. У бальніцы ўліваюць здаровую кроў і гэтым трымаюць.

У мяне прытупіліся пачуцці, нават страх набыў нейкі новы сэнс.

Учора Маша сказала мне і Вользе: «Каб я памерла, вырашыла б усе вашы праблемы».

«Не кажы глупства. Смерць не вырашае праблемы, а стварае іх». І я сказаў гэта не для заспакаення. Не сумняваюся, без такой апоры, як жонка мая, у мяне, прынамсі, праблем толькі прыбавіцца. О, як мне будзе цяжка. Жыццё страціць сэнс. А жыць прыйдзецца, добраахвотна на той свет не пойдзеш.

Учора Лукша сказаў, што Някляеў паехаў у Сочы адпачываць. Не сабраўшы раду, не выбраўшы намеснікаў-сакратароў. Можна толькі пазайздросціць яго абыякавасці. Кажуць, што ў інтэрв'ю газеце «Імя» ён выказаўся пра СП як пра таварыства філатэлістаў і выказаў намер па-ранейшаму рэдагаваць «ЛіМ» і «Крыніцу». Магутны дзеяч! Сядзець у трох крэслах — трэба ўмець. Ніхто з нашых не сядзеў.

Толькі што пазваніла З. І. Браварская: Машу перавялі ў 306 палату, дзе ляжыць Зінаіда Іванаўна. Добра, што знаёмы чалавек каля жонкі.

**6 мая 1998 года**

Наведаў учора Машу. Там была ўжо ўнучка Маша. Накарміла. Прычасала. Пагутарылі з Браварскай. Маша прыняла ў размове жывы ўдзел. Сядзела гадзіны паўтары. Каб яна магла стаць на ногі! Няўжо не стане?

Звязаўся з палатным урачом Вольгай Казіміраўнай. Шчыра пагутарылі па-беларуску.

Галава цяжкая. Сплю ненармальна. Учора, калі ішоў у бальніцу, трапіў пад дождж, прамачыў ногі. Прыняў гарачы душ, выпіў гарэлкі, аспірын. Мне нельга хварэць! Трэба штодня наведваць Машу. Іду кожны раз з цяжкім хваляваннем, хоць на працягу дня даведваюся пра яе стан па тэлефоне. Ды сёстры адказваюць шаблонна, аднаслоўна. Праўда, у рэанімацыі ўрачы давалі грунтоўныя адказы.



*Іван Шамякін і Валянцін Лукша на прэзентацыі кнігі Народнага пісьменніка.*

**7 мая 1998 года**

Дзень сядзеў на тэлефоне. Лавіў прафесара Іванова. Я спытаў: «Скажыце па шчырасці, колькі яна яшчэ можа працягнуць?» — «Яна павінна была памерці яшчэ тры месяцы таму».

О Божа! Супакоіў! Але тут жа сказаў, што бываюць нечаканасці.

Вось так і жыву — у чаканні трагедыі. Звыкаюся з гэтай страшнай думкай. Што зробіш: з думкай, што і сам памрэш, таксама звыкаешся. Ілюзій няма. Якія ілюзіі могуць быць на 78-ым годзе жыцця! Хоць сустракаў надзіва аптымістычных старых. А можа, нехта і мяне лічыць аптымістам? Сам я не лічу. Праўда, жыць хачу. І не проста жыць — актыўна. Пазванілі, што ёсць запрашэнне на ўрачыстае пасяджэнне з нагоды Дня Перамогі. Паслаць няма каго. Пайду па запрашэнне сам. І на вечар пайду. Жывы думае пра жывое. Я па прыродзе жыццялюб. А хто з творчых людзей не жыццялюб?! Хоць і творцы нярэдка канчаюць жыццё самагубствам. Ах, жыццё! Ты і прыгожае, ты і жорсткае, бязлітаснае. Да смерці Сашы ты было спагадлівае да мяне, да сям'і. Там — мяжа.

**11 мая 1998 года**

Адзначылі 53-ю гадавіну Перамогі. Пяцьдзесят тры гады! 8-га быў на ўрачыстым сходзе, у прэзідыуме. На канцэрце плакаў, як бабёр, — так расчулілі дакументальныя кадры вайны, франтавыя песні. Я па прыродзе сентыментальны. Але не да такой ступені: раней ад песень не плакаў. 9-га глядзеў «А зоры тут ціхія» — зноў наплакаўся. Сам сачыняў падобныя сюжэты. Яны, тыя з фільма, мае равесніцы, але мне ўяўляліся ўнучкамі. Божа мой! Які гэта страх — вайна!

Э. Паляноўскі ў «Известиях» у перадавіцы «Их, фронтовиков, осталось меньше двух миллионов» (у Расіі ці ў былым СССР?) піша: «Не знаю, откуда Виктор Астафьев взял эту цифру, но недавно он сказал: «Было постреляно наших нашими — миллион». Сапраўды, цікава, адкуль ведае? Сво-

лач! Як ты выявіў?! Што пісаў раней? І што пішаш цяпер? Перавёртыш! Не маглі заградатрады застрэліць мільён! Уяўляе ён, што такое мільён? Кожны камандзір бярог сваіх людзей, на папаўненне не спадзяваўся, а задачу трэба было выконваць. Па-рознаму паднімалі ў атаку. Часам і агнём заградатрада. Але рэдка і кадэбісты стралялі ў спіну сваім, вельмі рэдка. Яны знали: не будзе людзей у падраздзяленнях — падымуць іх. А як інакш стрымаць ворага? Фронт ёсць фронт. І астаф'евы могуць гарадзіць любую лухту — капаць на мазгі моладзі, якая не ўяўляе, што такое фронт. Цяпер стала модным усю савецкую гісторыю даваць у самых змрочных танах, пісаць толькі чорнымі фарбамі. Белагвардзейцы былі анёламі, чырвонаармейцы — дэманамі. Ніводзін кулак не стрэліў у камуніста. Ад чаго ж яны гінулі? А нашы дапісаліся да таго, што робяць героямі паліцэйскіх, лясных бандытаў пасляваенных гадоў, якія па-зверску забілі сотні савецкіх работнікаў, а ў Заходняй Украіне чынілі татальны тэрор. Любога галаварэза, які выявіў супраць савецкай улады, робяць героем. Тэму гэту падхопліваюць маладыя творцы; ніхто не дае ім адлуп. Маўчаць франтавікі, партызаны — пастарэлі, знясіліліся.

Толькі што пазваніў з Рагачова Капытаў Рыгор Максімавіч, былы ляснічы. Паведаміў з нядобрым смяшком, што ў яго рак печані. Так проста гаворыць? Не веру я ў яго смяшкі. Хоча сустрэцца (у яго сын у Мінску), расказаць пра сваю ваенную эпапею, можа, я што напішу. Гэтым выдаў сябе, свой страх — жаданнем застацца хоць згаданым у кнізе.

Маша кажа: «Навошта мяне лячыць?» Але праз пяць мінут марыць, што на дачы ёй стане лепш. Хочацца на дачу, верыць у цудадзейную сілу ляснога паветра. Учора яна была больш бадзёрая. Калі адыходзіў, сказала: «Мне памогуць — суседкі». Браварская і сялянка з Краснаполля Марыя Іванаўна. Жанчына гэтая жыве адна ў сваёй хаце, у зоне радыяцыі, вядзе гаспадарку і пасля інсульту, не першага, збіраецца вярнуцца туды. Вось такія яны, нашы жанчыны!

Пасля прыёму мяне падвёз А. А. Малафееў. Заехалі ў двор да ганка. Ён павёў мяне да ліфта. І тут жа ў пад'езд ускочыў ахоўнік. І смешна, і сумна. Але разумею: ахова патрэбна людзям такога рангу. Тэрор стаў страшнай «модай» часу.

А я цвёрда намерыўся здаць пісталет, які ў мяне з 1981 года. Я ні разу не стрэліў, акрамя стрэлаў на балістычнай экспертызе. Але я пачаў баяцца яго. Баюся сваёй роспачы.

Вясна — як ніколі — паўмесяца летняя тэмпература. Да Дня Перамогі зацвілі каштаны, яны перад маім акном. Каб быў душэўны спакой, мог бы нешта сачыніць, лірычнае. Але не да сачыніцельства! Жыццё схіляе да трагедыі, а не да лірыкі.

**14 мая 1998 года**

Сёння Ваню, унуку майму, 7 месяцаў. І столькі ж хварэе яго бабуля. Яе пакуты — мае пакуты. Але самае жудаснае, што я пачынаю прывыкаць да такога душэўнага стану і да такога рэжыму — без працы. З дапамогай снатворнага многа сплю. Дзякуй Богу, кашмары яшчэ не сню. Машу сню маладую, на шматлюдным прыёме.

**19 мая 1998 года**

Божа, якая пакутніца Маша! За што ёй такія пакуты? У яе светлы розум, і яна ўсведамляе, што памірае, што хвароба невылечная. Часам адмаўляецца ад прыёму працэдур, асабліва ад кропельніц, бо ўсе рукі, жывот сколатыя. Але тут жа паддаецца ўгаворам маім, суседак. Яна пакутуе, але ёй, як чалавеку са светлай галавой, хочацца прадоўжыць свае дні. Хочацца ўсіх пабачыць, просіць, каб прыйшоў той ці іншы з блізкіх. Папрасіла, каб наведала яе Маша Рабцава, яе стрыечная сястра і равесніца. Першае пытанне: «Як там Ванечка?» «Як Таня?» Пазаўчора папракнула: «Па-мойму, пра Таню вы мне не ўсё кажаце?» Не ўсё. Таня пасля аперацыі яшчэ адчувае сябе кепска. Яшчэ адзін боль мой.

Жыву паходамі ў бальніцу. Добра, што блізка. Учора адкрыў Тыдзень міру — семінар на тэму: «Еўропа на шляхах да міру». Прыехала ажно 30 немцаў, евангелістаў, і пастар зрабіў добры даклад аб палітычным і сацыяльным становішчы Германіі. Я сказаў, што не так ужо спакойна ў Еўропе: прасоўваецца НАТА на ўсход, стварае небяспеку ў першую чаргу нам, беларусам. На перапынку адзін з нашых прафесараў пытае ў мяне: «Чаму вы так баіцеся НАТА?» Не было часу на дыскусію. Але, па-мойму, чалавек апупеў, аслеп і аглух, следам за заходнімі палітыкамі прадстаўляе НАТА міратворцам. А гэта ўзброены да зубоў жандарм ЗША ў Еўропе. Боснія — НАТА, Косава — НАТА, Ірак — таксама НАТА. Наводзіць парадак. Але які? На чыю карысць? Амерыка ставіць мэту кіраваць светам. Ды і кіруе ўжо з дапамогай сваіх авіяносцаў, ракет, долараў. І такія непакорныя, як Ірак, Іран, — костка ў горле не толькі ў Клінтана, — у большасці амерыканцаў; іх пераканалі, што яны самыя-самыя і ім наканавана кіраваць светам. Баюся, што калі-небудзь гэтая нахабная прэтэнзія скончыцца грандыёзнай катастрофай і для народаў свету, і для саміх амерыканцаў.

З’ездзіў у «Нёман», атрымаў ганарар за «Мадонну». Дзесяць мільёнаў! Гучыць! А кошт ім, гэтым мільёнам?

***Падрыхтавала да друку Таццяна Шамякіна.***
***Працяг будзе.***







# ПЯТРУСЬ БРОЎКА
## (1905—1980)

Творчы лёс Петруся Усцінавіча Броўкі ўжо на самым пачатку складваўся шчасліва. Нават першы надрукаваны верш «Ой, не шапчы, мая бярозка» сведчыў пра тое, што малады паэт адчуў сябе запатрабаваным у самім часе. А час, які выпаў на лёс П. Броўкі, быў не толькі росквітным, як пісалася ў вершы, але імклівым, бурнапатокавым і непрадказальным. Не ўсім удавалася суразмерыць з ім свой малады крок. Не ўдавалася часта нават тым, хто меў на тое дастаткова таленту. Многія не па сваёй волі «сышлі з дыстанцыі» і болей ужо не вярнуліся ў літаратуру, хоць маглі зрабіць у ёй і надта многа.

Здавалася б, у сваёй творчай хадзе і пошуках Пятрусь Броўка нічым асаблівым не вылучаўся сярод калег і аднагодкаў, а вось адчуванне жыцця, падзей і зрухаў часу ў паэта было абвостранае. Ён жыў і працаваў у рытме ўсяго стваральнага, што дзеялася ў роднай краіне, нават імкнуўся быць у эпіцэнтры ўсіх падзей сваёй эпохі. Ці не пра гэта сведчаць многія ягоныя вершы і той жа раман «Калі зліваюцца рэкі». Але для нас Пятрусь Броўка перш за ўсё застаецца паэтам з выразна акрэсленай лірычнай інтанацыяй і накіраванасцю. Нават у сваіх публіцыстычных і філасофскіх разважаннях над жыццём ён вельмі нязмушана пераходзіць на плынь рамантычна-лірычнага, песенна-народнага ладу і там адчувае сябе вельмі арганічна, па-свойску звычна. І гэтага не схаваеш, бо яно ідзе ад сэрца. І не трэба здзіўляцца таму, што многія вершы П. Броўкі пакладзены на музыку і сталіся папулярнымі песнямі.

Сёння многія з маладзейшых творцаў гатовы сцвярджаць, што ў творчасці П. Броўкі шмат прахаднога, аднадзёнкавага, нават выпадковага, а характэрнае паэтава «Я» выявілася хіба толькі ў паасобных вершах кшталту «Пахне чабор». А таму і не варта было б прапаноўваць чытачу вялікую большасць яго астатніх твораў.

У творчасці, як вядома, бываюць свае ўзлёты і падзенні. А біяграфія паэта не складаецца толькі з асобных, вырваных з жыцця, старонак. Гэта — суцэльная кніга паэтавай душы і яго пошукаў. Вырываць і выкідваць старонкі з творчай біяграфіі — недарэчная ды і марная справа. Але заўсёды можа ўзнікнуць неабходнасць спыніцца і засяродзіцца хоць на адной з іх, зірнуць на даўно знаёмае крыху іншым, адкарэкціраваным самім часам, позіркам. Хацелася б падобным шляхам пайсці сёння і нам. І, па-

колькі сёлета юбілейны год Перамогі, паспрабуем зазірнуць у адну з тых творча-біяграфічных старонак, якія непасрэдна звязаны з вайной.

Пра ваенны час у біяграфіі П. Броўкі гаворыцца толькі некалькімі радкамі: «У дні Вялікай Айчыннай вайны я пайшоў у Чырвоную Армію, дзе ў 1941—1942 гадах працаваў у франтавой газеце на Бранскім і Заходнім франтах. У канцы 1942 года быў адкліканы ў распараджэнне ЦК КПБ і супрацоўнічаў у партызанскім друку. Пісаў вершы і артыкулы, змяшчаў іх у газетах і выступаў з імі на радыё».

У 1941 годзе Пятрусь Броўка напіша верш «Маці». Паэт увесь час думае і перажывае за лёс маці, якая засталася на акупіраванай тэрыторыі:

Ты ходзіш, маці, сцежкамі вайны,
І з вуснаў рвуцца ворагам праклёны...

Маці будзе сніцца начамі, і вобраз яе паэт пранясе ў думках і сэрцы праз усю векапомную вайну. Ён будзе чакаць той жаданай сустрэчы, якая можа быць толькі ў маці і сына пасля доўгага і цяжкага расстання.

У ліпені 1944 года разам з групай беларускіх пісьменнікаў П. Броўка вернецца ў вызвалены Мінск. Тое, што ён пабачыць, цяжка перадаць словамі. У дзённіку Максіма Танка мне давялося адшукаць наступныя згадкі:

«**6.VII.1944.** Нарэшце — Мінск. Не горад — а велізарны магільнік. Аж страшна хадзіць па яго зарослых травой руінах. Сям-там жаўцеюць лапінкі жыта, зеляненюць градкі нейкай гародніны, ды партызаны папасваюць коней.

**18.VII.** Сёння М. Лынькоў, П. Броўка, А. Куляшоў, Вайняровіч і я ездзілі ў Трасцянец, дзе ўсё яшчэ дагараюць горы трупаў. Кажуць, што тут загінула каля 200 тысяч чалавек. Бачылі ўзарваную печ, у якой палілі трупы, і дзесяткі велізарных ям, дзе ссыпалі косці, попел ахвяр. З гэтага лагера ніхто жывым не вяртаўся. На зямлі ляжалі груды перапаленага жалеззя і розных рэчаў. На кацялках віднеліся розныя надпісы: «Шура Гарадкова, Урбановіч Галя 421, В. В. Луц (надпісы зроблены на беларускай мове), Алек Ступень, сел 18 ноября 1942 г., рожд. 1927 г., Хранкоў, Тимохин Н. И. (гэты надпіс на ацалелай старане біклагі, другая расплавілася на агні). Бондар Сцяпан, Шэлькін, Teresa Kondratowiczywna 4.VI.1944 г., Войтеховский Иван М., 1921...»

На расплаўленай смале ўграз салавей. Ледзь мы яго выратавалі».

Сумнае відовішча чакала паэта і ў яго родных мясцінах. Ад бацькоўскай хаты засталося толькі папялішча. Ужо даўно астыла і вуголле на ім, развеяўся попел. Не давялося пабачыць П. Броўку і сваёй маці Алены Сцяпанаўны. Гітлераўцы пагналі яе разам са сваякамі ў Асвенцім. Там у 1943 годзе яна і загінула. Моцны сыноўні боль і смутак працялі сэрца паэта.

На самым пачатку вайны яго малодшы калега па пяры, пабачыўшы ў «стоптаным жыце» падкошанага кулямі воіна, будзе прасіць: «Маці спаткаеце — ёй не кажыце!» Сэрца маці можа не вытрымаць такога гора. А што ж сказаць сыну пра маці, якой ён ужо ніколі не пабачыць? Прыгнуты горам цяжкое страты, ён і сам яшчэ не ведае пра гэта. Але скажа, абавязкова скажа, каб пачуў увесь свет пра тое гора. Бо сэрца маўчаць не зможа і не будзе. Але на гэта, відаць, спатрэбіцца час.

У 1947 годзе разам з А. Твардоўскім, І. Эрэнбургам і П. Тычынам паэт наведае Асвенцім. Змрочны, ён будзе блукаць тымі страшнымі сцяжынамі, па якіх апошні раз ступалі ногі яго спакутаванай маці. Не, ніякіх сля-

доў між тых калючых дратоў, панурых сцен і чорных трубаў крэматорыя адшукаць ужо не давядзецца:

Толькі вятры мне адказвалі гулам,
Як ні гукаў я, — ты не пачула.

Але ў гэтай збалелай і жудаснай цішыні голас маці, нібы арган, усё ж прагучаў недзе з нябёсаў. Яго пачула сэрца. Тады і пачнуцца подступы да паэмы. Але спачатку напішацца верш пра само сэрца:

Чырвоны камочак.
Ну што ў ім, здаецца, —
Трапечацца ж,
б'ецца,
спачыну не знае...
Калі прыгадаеш маленькае сэрца,
Чаго яно толькі ў сабе не змяшчае!

Новы плённы перыяд, як сцвярджае крытыка, якраз і пачаўся ў паэта з вершаў пра сэрца. І слова гэта ўсё часцей мы пачынаем сустракаць у вершах («сэрца б'е гулка», «чайка махнула крылом і сэрца маё закранула», «на сэрцы так заснежыць», «на сэрцы горыч ды імжа»). Знаходзім і верш пад назвай «Прысяга сэрцам».

А паэма сама выспявала паступова. І вось нарэшце ў 1960 годзе яна з'яўляецца на старонках часопіса «Работніца і сялянка» (№ 8). Адразу, з першых радкоў яе, гучыць горкае прызнанне:

Думаў я, пройдуць зімы і вёсны,
Сціхне ў грудзях маіх боль невыносны,

Сэрца забудзе часіну цяжкую...
Боль не сціхае. Маўчаць не магу я!

Аўтар так і назаве твор — «Маўчаць не магу я». Але пазней зразумее, што гэта ўсё ж голас сэрца і паэма патрабуе адпаведнай назвы.

Паэт пачынае свой твор менавіта з Асвенціма, з той пасляваеннай восені, калі наведаў яго жудасныя сцэны, з жахам глядзеў на пустыя нары, халодную бетонную падлогу, ледзяныя шыбы. Плач па маці пераходзіць у жахлівае апісанне рэчаў канцлагера, а праз іх і жахаў, што там тварыліся. І паступова перад намі паўстае абагулены вобраз усіх маці, што сталі ахвярамі фашызму ў тую страшную вайну. Трывожлівы маналог паэта перарастае ў зварот да ўсіх сучаснікаў і нашчадкаў, у заклік да пільнасці:

Чуеце — вораг узняўся, адужаў,
Ён не збіраецца несці вам ружы.

Лірычнае і публіцыстычнае зліваюцца ў паэме ў адзін сплаў, і голас паэта набывае сапраўдную набатную сілу.

Толькі што надрукаваная паэма «Голас сэрца», неаднаразова агучаная на радыё і змешчаная потым у «Правде», мела шырокі грамадскі розгалас. На імя паэта з розных куткоў вялікай краіны ішлі ўсхваляваныя водгукі. Вось што пісаў рабочы з Сімферопаля Іван Антонавіч Басаў: «Прашу рэдакцыю газеты «Правда» прыняць ад мяне ўдзячнасць за «Літаратурную старонку», якая была змешчана ў «Правде» за 27 жніўня 1960 г. І адначасова ўдзячны і Петрусю Броўку за яго твор, які зрабіў на

мяне вялікае ўражанне і глыбока ўсхваляваў сваім зместам. Гэты твор заклікае нас, савецкіх людзей, быць пільнымі... Я, як былы вязень лагера смерці Заксенгаўзен, не мог маўчаць, таму што пякучы боль кожнага слова, напісанага ў гэтым творы, напамінае мне тыя жахі нямецкага фашызму, якія я сам перанёс...»

А вось радкі з Душанбе ад пенсіянеркі Т. В. Брусневай: «Дарагі сынок, брат Пятрусь Броўка! Толькі цяпер ад пачатку да канца праслухала тваю паэму «Голас сэрца» (па радыё).

Вельмі, вельмі табе ўдзячна за тваю працу — плакала слязьмі радасці, успаміната. Нізкі табе мацярынскі зямны паклон...

Дзякуй, родны».

Час рухаецца наперад і пазначае нашы творы пячаткай сваіх перамен. «Гэта вытрымала маё выпрабаванне, а тое — не», — кажа ён. За сорак пяць гадоў пасля напісання паэмы «Голас сэрца» шмат чаго змянілася, нават зыначылася ў гэтым свеце. Аднак гучання свайго, як мне здаецца, твор Петруся Броўкі не страціў. Думаю, што гэта пацвердзяць і нашчадкі, якім такасама адрасаваны гэты твор.

***Прадмова і падрыхтоўка тэкстаў***
***Казіміра Камейшы.***

## З паэмы «Голас сэрца»

***Памяці маці маёй***

Думаў я, пройдуць зімы і вёсны,
Сціхне ў грудзях маіх боль невыносны,

Сэрца забудзе часіну цяжкую...
Боль не сціхае. Маўчаць не магу я!

Я ўсхваляваны, узрушаны й сёння.
Маці, адна ты, а вас жа мільёны.

Зніклі вы ўсе ў непраглядныя ночы...
Помню, хадзіў я увосень аднойчы,

Поўнымі гора, пакуты вачыма
Клікаў цябе між дратоў Асвянціма.

Толькі вятры мне адказвалі гулам,
Як ні гукаў я, — ты не пачула.

Шыбы ў бараках былі ледзянымі,
Мулкія нары стаялі пустымі.

Глянуў я ў карцэр — таксама нікога.
Дыхала стынню з цэменту падлога.

Нават наручнікі моўчкі ляжалі,
Быццам па целе людскім сумавалі.

Маці! І тут табе быць давялося,
Колькі тваёй тут крыві пралілося.

Знаю, ў жалезе былі твае рукі —
І гэта і гэта не ўсе яшчэ мукі...

Хай бы лепш сэрца не чула, не знала,
Што мне адна паланянка сказала.

Ціхай, знявечанай і ледзяною
З часу таго ты стаіш прада мною,

З болем, што сэрца маё не пазбудзе,
З нумарам, што прапаліў мае грудзі.

Узімку, як снежныя ветры кружылі,
Каты тваю галаву агалілі

І на прамерзлы, лядовы дзядзінец
Вывелі босай ў сарочцы адзінай.

Падала. Білі раз'юшана боты.
А знепрытомнела — пала, а потым...

Шмат валасоў я жаночых пабачыў,
Горы ўзвышаліся іх, не іначай —

Светлыя, чорныя і агнявыя,
Цьмяныя, з попелам, часта сівыя,

Былі, што й колеру нельга адзначыць,
Былі, што лянок пяшчотны, дзіцячы...

Маці, тваю там няшчасную долю
Бачыў, цябе ж знайсці я не здолеў.

Што між барханаў пустэльні пясчынка,
Ты ў такім моры не больш, як слязінка.

Там жа плач матак сабраны са свету...
Як жа забыліся хутка пра гэта!

Шмат каму мусіць яно прыгадацца,
Як з валасоў тых рабілі матрацы.

Дзе ж яны, што карысталіся імі?
Многія ходзяць сягоння жывымі.

Як жа яны, крыважэрныя, спалі,
Спалі на слёзах людскіх, як на хвалях?

Выйшаў. Ад болю пачаў я хістацца,
Чорныя коміны ўбачыў на пляцы,

Быццам што чорныя здані якія,
Памочнікі катаў, каты нямыя.

Колькі крыві на іх з дымам асела,
Колькі жыцця цераз іх праляцела...

Колькі вачэй, і сястрыных і братніх,
На іх паглядала у час свой астатні.

Ведалі, пэўна, старыя, малыя —
Шлях свой праз чорныя коміны тыя.

Выгляд іх чорны звяроў не трывожыў.
Думка жывых пагадзіцца не можа.

Тады, як у печах людзі каналі,
Гралі аркестры і каты скакалі,

Ведзьмы ў спадніцах дарылі ім ласкі,
Бразгалі чаркі, кубкі з шампанскім.

І ў задаволенні рэдкасным балем
Рот да вушэй раздзіралі там «хайлем».

Зноў падступаю да комінаў грозна...
Ды з нежывымі спрачацца няможна.

Дык як жа знайсці нам катаў на свеце,
Тых, што скакалі ля вогнішчаў смерці?

Сэрца ахутала болем трывога.
Маці гукаў я... Нідзе і нікога...

Многа хадзіў я там па сцяжынках,
Можа, з'яўлялася ты мне пылінкай,

Што майго вока кранулася, тою,
Той, на якую азваўся слязою.

Можа, дзе там , на зарослых палетках,
Ты на мяне узіралася кветкай,

Кветкай, што быццам слязой налілася,
Тою, што з сэрца твайго узнялася.

...Досыць мне ростані, родная, досыць.
Што ты загінула, — можа, здалося.

Сенцы адчыніш, паклічаш у хату.
Можа, й не быў я ў тым месцы праклятым,

Дзе ты збылася ў пакуце пякельнай...
А каля печы зазвоніш патэльняй

Ды за сталом, за абрусам бялюткім,
Будзеш расказваць навіны ціхутка.

Лягу з дарогі, а ты пры мне сядзеш,
Сядзеш, маю галаву ты пагладзіш,

Скажаш: — Які ж ты, які ж ты сівенькі... —
А я прыгадаю, як быў шчэ маленькім,

Нашу старую, нізенькую хатку,
Ранне, калі ты пякла нам аладкі,

Полудзень з поліўкай, з кашай ячною,
Потым вячэру з бульбай смачною,

Казку, якая дагэтуль мне сніцца...
Не, мне ніколі таго не забыцца,

Як ты спявала, як прала, як жала,
Як шыла кашульку, як вышывала,

Як пахлі рукі твае лебядою,
І хлебам жытнёвым, і сырадоем...

Як яны нас абдымалі і грэлі,
Як твае вочы ласкава глядзелі...

...Як на світанні уранку ўставала,
На ўсход паглядала, нас ты чакала,

А мы былі дзесьці ў полымі бою.
Ты ж заставалася ў хаце адною.

...Маці! Мы кажам, былыя салдаты, —
Ворага болей не пусцім да хаты.

Сёння імкнёмся насустрач мы зорам,
Сёння не стрэльбамі ў свеце гаворым,

З сэрцамі сэрцы ўзнімаюць размовы.
Сёння магутныя нашыя словы

Скрозь над зямлёю праменнямі свецяць:
— Мір ва ўсім свеце! Мір ва ўсім свеце!

***1960***






# ПОЛЫМЯ

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ

# ВЫКЛАДАННЕ ГІСТОРЫІ Ў ТЭХНІЧНЫХ ВНУ

## *«Круглы стол» часопіса «Полымя»*

Вяртанне гісторыі, трансляцыя гістарычнага вопыту ў сучаснасць сёння набываюць асаблівае значэнне. Пасля перабудовы і звязаных з ёй сацыяльных змен грамадства апынулася на раздарожжы. Гэта тычыцца не толькі Беларусі і не толькі былых рэспублік СССР. Падобная сітуацыя назіраецца ў еўрапейскіх краінах, у ЗША. Можна гаварыць пра сусветную тэндэнцыю. У чым яна? У тым, што грамадства не ведае, як будаваць сваю будучыню, якім шляхам ісці, якія выбраць прыярытэты. Жыццё кардынальна змянілася за неверагодна кароткі адрэзак часу. З аднаго боку — развіццё тэхналогій, з другога — змяненне эканамічнай сістэмы. Публіцысты і навукоўцы звяртаюць увагу на тое, што чалавецтва перайшло ў іншую фармацыю, а змена фармацый адбываецца раз на сотні гадоў.

Мы пабудавалі своеасаблівы лад — грамадства спажывання, якое ўяўляе сабой грамадства збыткоўнай сканцэнтраванасці на матэрыяльных каштоўнасцях, якая не ідзе на карысць развіццю духоўнасці.

Шматлікія даследчыкі адзначаюць, што сучасная цывілізацыя зайшла ў тупік. Знішчэнне прыродных рэсурсаў, разрыў сувязей паміж пакаленнямі, наогул паміж людзьмі — толькі некаторыя з выразных сімптомаў крызісу. Ці зможа чалавецтва існаваць ва ўмовах, калі духоўнасць адыходзіць на ўсё больш далёкі план, калі патрыятызм і чалавечыя якасці губляюць свае пазіцыі, саступаючы іх матэрыяльнаму дабрабыту, кар'ернаму росту, аднадзённым спакусам, гульням па тэлебачанні, дзе можна «ўзяць» лёгкія грошы… Наогул паскарэнню жыцця, калі няма часу на тое, каб азірнуцца назад, прааналізаваць хоць бы свае памылкі, хоць бы свой вопыт. Якую будучыню можа пабудаваць, забыўшыся на мінулае? Такой была асноўная тэматыка, якая задавала тон усёй размове за «круглым сталом» па пытаннях выкладання гісторыі ў тэхнічных ВНУ.

«Круглы стол» быў арганізаваны сумесна рэдакцыяй часопіса «Полымя» і супрацоўнікамі кафедры гісторыі, сусветнай і айчыннай культуры БНТУ.

У «круглым стале» ўдзельнічалі:

галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Мікалай Міхайлавіч Мятліцкі;

прарэктар па навучальнай і інфармацыйна-аналітычнай рабоце БНТУ Канстанцін Іванавіч Баландзін;

дацэнт кафедры гісторыі БНТУ Валерый Захаравіч Протчанка;

дацэнт Беларускага дзяржаўнага аграрна-тэхнічнага універсітэта Валянцін Георгіевіч Маскалёў;

дацэнт кафедры гісторыі БНТУ Алена Генадзьеўна Багдановіч;

дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі Уладзімір Васільевіч Гніламёдаў;

дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі Аляксандр Аляксандравіч Каваленя;

выкладчык кафедры гісторыі БНТУ Аляксей Віктаравіч Бяляеў.

Нельга пакінуць па-за ўвагай той факт, што 10 снежня гэтага года Беларускі нацыянальны тэхнічны універсітэт святкуе сваё 85-годдзе. За час існаван-



*Прарэктар па навучальнай і інфармацыйна-аналітычнай рабоце К. І. Баландзін.*

ня старэйшая ВНУ краіны прайшла вялікі шлях ад невялічкай політэхнічнай вучэльні, дзе займаліся ўсяго некалькі соцен навучэнцаў, да самай буйной у краіне вышэйшай навучальнай установы тэхнічнага профілю. БНТУ падрыхтаваў тысячы высокакваліфікаваных спецыялістаў у самых розных галінах. 15 факультэтаў забяспечваюць патрэбу дзяржавы ў тэхнічных кадрах вышэйшай кваліфікацыі самага рознага профілю: ад машынабудаўнікоў і энергетыкаў да эканамістаў і архітэктараў. Сёння ў БНТУ вучыцца 29 тысяч студэнтаў, магістрантаў, аспірантаў, з якіх 19 тысяч на дзённым аддзяленні. Вялікая ўвага тут надаецца выхаваўчай рабоце, таму не выпадкова «круглы стол» на тэму «Выкладанне гісторыі ў тэхнічных ВНУ» прайшоў менавіта ў сценах БНТУ. Ва ўступным слове да ўдзельнікаў «круглага стала» галоўны рэдактар часопіса «Полымя» **Мікалай Міхайлавіч Мятліцкі** сказаў:

*Мы жывём у незалежнай дзяржаве, якая нарэшце ўспомніла пра свае гістарычныя карані, пра сваю гісторыю глыбінёй у тысячагоддзе. Таму праблема выкладання гісторыі паўстае асабліва важнай і патрабуе вырашэння. Усе мы працуем над тым, каб юнак, які сёння сядзіць за студэнцкай партай, пайшоў у жыццё адухоўленым чалавекам, які ведае гісторыю сваёй радзімы, які засвоіў маральныя каштоўнасці свайго народа, і, кім бы ён ні стаў у будучым, ён на ўсё жыццё павінен заставацца чалавекам свядомым, дзейсным і захоўваць у сэрцы любоў да сваёй айчыны. Я перакананы ў тым, што наша мужная гісторыя — гэта той плацдарм, які выхоўвае патрыятызм. Асабліва важна ўсвядоміць гэта ў бягучым годзе — годзе 60-годдзя Перамогі.*

*Таму сёння мы сабраліся тут — у старэйшай ВНУ краіны, каб абмеркаваць месца гісторыі ў адукацыі будучых спецыялістаў у тэхнічных галінах, якія па родзе заняткаў застаюцца адарванымі ад гуманітарнай сферы. Думаецца, што менавіта ў вашай ВНУ напрацавана многае ў гэтым напрамку, бо выпускнікі БНТУ сцвердзілі сябе ў самых розных галінах дзейнасці, многія сталі не толькі інжынерамі, але і выдатнымі палітыкамі, сапраўды свядомымі людзьмі.*

На пачатку сустрэчы прарэктар па навучальнай і інфармацыйна-аналітычнай рабоце БНТУ **Канстанцін Іванавіч Баландзін** пазнаёміў прысутных з шэрагам лічбаў. У прыватнасці, кожны дзевяты выпускнік школ Беларусі падае дакументы ў тэхнічны універсітэт. Конкурс складае не менш 3 чалавек на месца. У БНТУ, першай з ВНУ краіны, пачала выходзіць каляровая газета на мелаванай паперы «Весці БНТУ», у якой асвятляецца жыццё навучальнай установы. У юбілейную гадавіну Перамогі праведзена каля 40 мерапрыемстваў, прысвечаных гэтай урачыстай падзеі. Медаль «60 год Перамогі» атрымалі 5 супрацоўнікаў БНТУ. Дарэчы, у бягучым годзе тэхнічны універсітэт заняў першае месца ў Мінску па ідэалагічнай рабоце. Ва універсітэце працуе музей, экспанаты якога ілюструюць гісторыю БНТУ; некалькі стэндаў прысвечаны ваеннай тэматыцы; ёсць мастацкая выстава, экспанаты якой мяняюцца кожныя два месяцы. Нават само архітэктурнае аздабленне буйнейшай ВНУ краіны сумяшчае класічныя традыцыі з элементамі дэкору на тэмы беларускай мінуўшчыны.

Сапраўды, у гэтых сценах асабліва адчуваецца судакрананне гістарычнай мінуўшчыны, глыбокіх традыцый і самых сучасных тэхнічных ведаў. Прарэктар БНТУ **Канстанцін Іванавіч Баландзін** адначасова з'яўляецца дацэнтам кафедры гісторыі, сусветнай і айчыннай культуры. Магчыма, гэта таксама адыгрывае сваю ролю ў тым, якое значэнне надаецца ў БНТУ патрыятычнаму выхаванню. У прыватнасці, Канстанцін Іванавіч сказаў:

*Кафедра гісторыі выкладае такія дысцыпліны, як беларусазнаўства, культуралогія, гісторыя Беларусі. Ёсць ваенна-тэхнічны факультэт, дзе праводзіцца вялікая праца па патрыятычным выхаванні навучэнцаў, і факультэт тэхналогій кіравання і гуманітарызацыі, дзе сканцэнтраваны ўсе гуманітарныя кафедры. Выхаваўчай работай займаюцца таксама ўпраўленне выхаваўчай работы з моладдзю, прафкам і камітэт БРСМ, іншыя структуры.*

*Ёсць асаблівасці ў працы выкладчыка гісторыі, які выкладае студэнтам тэхнічных навучальных устаноў, і гэтыя асаблівасці трэба ўлічваць.*

*Перш-наперш трэба адзначыць, што не ўсе выкладчыкі і супрацоўнікі разумеюць неабходнасць выкладання гісторыі ў ВНУ тэхнічнага профілю. З друго-*



*Уладзімір Гніламёдаў, Канстанцін Баландзін, Аляксандр Каваленя.*

*га боку, не ўсе студэнты ўсведамляюць неабходнасць ведання гуманітарных дысцыплін, бо лічаць, што яны «тэхнары» з самага пачатку. У сярэдняй школе яны надавалі асаблівую ўвагу дакладным і прыродазнаўчым навукам. Таму задача выкладчыка-метадыста — закласці цікавасць да гуманітарных дысцыплін. Вопытны выкладчык даводзіць да студэнтаў думку аб тым, што для далейшай працы, для якаснага выканання сваіх абавязкаў чалавеку патрэбны глыбокія веды ў розных галінах і высокі духоўны патэнцыял.*

*Сёння выпускнік любой ВНУ, не толькі тэхнічнай, калі ён не з'яўляецца сапраўдным патрыётам сваёй бацькаўшчыны — проста духоўны інвалід. Яго дзеянні не будуць спрыяць эканамічнаму росквіту краіны.*

*Ёсць і некалькі іншых праблем. Адна з іх — гэта ўдзел у конкурсах студэнцкіх работ Міністэрства адукацыі. Так атрымліваецца сёння, што студэнты першага курса нашай ВНУ (а менавіта на гэтым курсе ў нас выкладаецца курс гісторыі) на роўных умовах спаборнічаюць на конкурсах навуковых прац са студэнтамі пятага курса гістфака БДУ ці педагагічнага універсітэта. Тут праблема ёсць, але пакуль яна не вырашаецца. Будзем спадзявацца, што вырашыцца.*

*Мы маглі б больш эфектыўна працаваць, каб меліся спецыяльныя падручнікі і дапаможнікі па гісторыі для тэхнічных ВНУ. Зразумела, выкладчыкі на лекцыях і семінарскіх занятках даюць больш звестак пра развіццё тэхнікі ў той ці іншы гістарычны перыяд, навукаёмістых тэхналогій і навукі наогул. Пажадана, каб гэтыя звесткі былі сканцэнтраваны ў адным падручніку — гэта стане сапраўднай дапамогай і выкладчыкам і студэнтам. У гэтым накірунку асабліва важным для нас з'яўляецца супрацоўніцтва з нашымі навукоўцамі, з Інстытутам гісторыі НАН Беларусі.*

*На сённяшні дзень студэнты атрымліваюць тыя ці іншыя веды ў галіне гісторыі тэхнікі з некалькіх курсаў. Па-першае, з курса філасофіі, дзе чытаецца філасофія тэхнікі і гісторыя тэхнікі. Тут трэба адзначыць уклад Аляксандра Іванавіча Лойкі, загадчыка кафедры філасофскіх дысцыплін, які распрацаваў гэты курс. Акрамя таго, у курсе уводзін у тую ці іншую дысцыпліну закранаюцца пытанні гісторыі тэхнікі. Але падручнік дапамог бы сканцэнтраваць і ўпарадкаваць гэтыя веды.*

На «круглым стале» закраналіся і пытанні методыкі выкладання гісторыі. Сапраўды, для студэнтаў-гуманітарыяў і студэнтаў тэхнічных спецыяльнасцей метадычныя прыёмы працы выкладчыка будуць мець пэўную спецыфіку. Трэба адзначыць таксама і той факт, што асабліва важным на дадзеным этапе з'яўляецца спалучэнне адукацыі і выхавання, а ролю гісторыі ў гэтым працэсе цяжка пераацаніць. Дарэчы, пасля так званай перабудовы доўгі час выхаванню школьнікаў і студэнтаў не надавалася належнай увагі, і адмоўныя вынікі гэтага мы назіраем цяпер. Як жа зацікавіць студэнта гісторыяй Беларусі і адначасова далучыць яго да духоўных каштоўнасцей, выпрацаваных народам? Удзельнікі «круглага стала» далі шэраг парад, якія будуць карыснымі для многіх выкладчыкаў. У прыватнасці, **Валерый Захаравіч Протчанка**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт БНТУ, паведаміў:

*Мой вопыт, а я працаваў выкладчыкам гісторыі ў БДУ, у прыватнасці на філфаку, дазваляе мне супаставіць, як вядзецца выкладанне гісторыі для студэнтаў-гуманітарыяў і для студэнтаў тэхнічных спецыяльнасцей. Выкладанне гісторыі ў тэхнічных ВНУ мае свае адметнасці і свае праблемы.*

*Адной з форм працы студэнтаў з'яўляецца напісанне рэфератаў па той ці іншай тэматыцы. Але з некалькіх соцень студэнтаў са сваімі тэмамі прыйшлі да мяне пакуль нямногія. Праўда, нельга не адзначыць, што іх тэмы розныя, цікавыя. Большасць тэм пра Вялікую Айчынную вайну, але студэнты цікавяцца і старажытнай гісторыяй, сярэднявеччам, а таксама гісторыяй розных рэлігійных канфесій на Беларусі.*

*Безумоўна, у выкладанні гісторыі праблемы ёсць. У першую чаргу гэта звязана з тым, што нашы студэнты пачыналі рыхтавацца да вучобы ў тэхнічнай ВНУ і далейшай працы па тэхнічных спецыяльнасцях, пачынаючы з 5—7 класа. Асноўную ўвагу яны надавалі, безумоўна, дакладным і тэхнічным навукам, у многім пакідаючы без належнай увагі навукі гуманітарныя.*

*У нас ёсць добрыя традыцыі выкладання гісторыі для студэнтаў тэхнічнага профілю, у нас вялікі патэнцыял, але, на жаль, нам не хапае падручніка. Падручнік і некалькі дапаможнікаў па розных гістарычных перыядах — рэч неабходная ў выкладанні, яны павінны ствараца з улікам спецыфікі тэхнічных ВНУ.*

*На мой погляд, падзеі, што адбыліся 15 год таму, прывялі да вялікіх змен, якія аказалі ўплыў на ўсё, у тым ліку і на выкладчыцкую працу.*

*Пераходны перыяд зацягнуўся, сёння нам трэба ўдасканальваць курс, у прыватнасці яго структуру, колькасць гадзін. Удакладніць, як яго выкладаць. У Расіі, на Украіне выдаюцца добра ілюстраваныя кнігі кшталту «100 знакамітых людзей»... Там можна адшукаць самых розных гістарычных асоб, сустрэць цікавую інфармацыю. У мяне ёсць прапанова: сабраць настаўнікаў і выкладчыкаў гісторыі і вызначыць тую самую сотню ці тысячу знакамітых асоб, якіх павінен ведаць кожны беларус.*

*Задача сучаснага выкладчыка тэхнічнай ВНУ — адрадзіць тыя традыцыі, успомніць тых тэхнічных спецыялістаў мінулага, якія былі не толькі высакакласнымі хімікамі, фізікамі, інжынерамі, але ў першую чаргу — патрыётамі. Мы павінны выхоўваць не проста добрага інжынера, будаўніка або энергетыка, а ў першую чаргу чалавека, які клапоціцца аб будучыні сваёй радзімы.*

У апошні час сярод студэнтаў і моладзі наогул назіраецца цікавасць да культурнай спадчыны народа, да яго гістарычнай мінуўшчыны. У прыватнасці да гісторыі сваёй «малой радзімы» — вёскі ці горада, дзе чалавек нарадзіўся, дзе жылі яго продкі.

**Мікалай Міхайлавіч Мятліцкі** заўважыў:

*Сёння мы ішлі па калідорах гэтага універсітэта, бы па беларускіх дарогах. Сапраўды, тут вучацца прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў Беларусі і студэнты з-за яе межаў. Тут адчуваюцца еднасць нацыі і пульс будучыні. Перад намі маладыя, сапраўды адухоўленыя людзі, і наша задача — умацаваць іх нацыянальную свядомасць. Гісторыя і літаратура — аснова нацыянальнай ідэалогіі, бо без памяці і духоўных памкненняў душа чалавечая стыне, чарсцвее і ператвараецца ў манкурцкую душу. Мы бачым, якая ідзе амерыканізацыя свету, бачым панаванне галівудшчыны — «каштоўнасці», што ідуць на змену тым, сапраўдным каштоўнасцям, якія выпрацавала чалавецтва за тысячагоддзі. Аднапалярнага свету ніколі не будзе. Кожны народ мае права на свой голас. І Беларусь мае права на свой узвышаны голас, наша зямля нарадзіла пакаленне шчаслівых адухоўленых дзяцей, і вам выпаў гонар іх вучыць і выхоўваць. А выхаванне гэтае павінна ісці і ідзе ў рэчышчы самых высокіх традыцый і каштоўнасцей нашага народа.*

Вельмі важна выкарыстоўваць гэтую цікавасць да родных мясцін, да гісторыі і культуры наогул.

**Валянцін Георгіевіч Маскалёў**, дацэнт Беларускага дзяржаўнага аграрнатэхнічнага універсітэта, падзяліўся сваімі педагагічнымі напрацоўкамі:

*Першае, на што мне хацелася б звярнуць увагу, гэта тое, што выкладанне гісторыі Беларусі вядзецца на беларускай мове ў большасці ВНУ. У нас шмат студэнтаў, якія прыязджаюць да нас з іншых дзяржаў, але большасць студэнтаў — беларусы. Для тых жа, хто прыехаў да нас вучыцца з-за межаў Беларусі і не валодае беларускай мовай, ёсць рускамоўныя падручнікі, мы прапануем рыхтавацца па іх, але і гэтыя студэнты наведваюць лекцыі. На мой погляд, такі падыход павінен практыкавацца і далей.*



*Падчас пасяджэння «круглага стала».*

*Такая форма працы, як рэферат, у нас выкарыстоўваецца таксама, але разам з тым я карыстаюся ў сваёй практыцы і яшчэ адной формай далучэння студэнтаў да гісторыі. Нашы навучэнцы прыязджаюць да нас з самых розных куткоў Беларусі, з гарадоў і з зусім маленькіх вёсачак. Мы прапануем ім напісанне прац пад агульнай рубрыкай «Мой родны кут». Гэта невялічкі даклад пра свой горад, пасёлак ці вёску. Такая форма працы прыносіць плён. Студэнты з ахвотай пішуць пра свае родныя мясціны. У гэтых працах асвятляюцца самыя розныя пытанні: гісторыя, помнікі, насельніцтва, рэлігійныя адносіны. Студэнты творча падыходзяць да задання. Яны пішуць сапраўды цікавыя працы, часам цытуюць вершы.*

*Адна з праблем, на якой я хацеў бы засяродзіць увагу, заключаецца ў тым, што ў нашай ВНУ — у Аграрна-тэхнічным універсітэце — формай кантролю ведаў па гісторыі з'яўляецца залік, а не экзамен. У гэтым я бачу сур'ёзны недахоп. Як мы ведаем, тут, у БНТУ, студэнты, праслухаўшы курс гісторыі Беларусі, здаюць экзамен — гэта станоўчая з'ява, але сам разнабой, калі ў розных ВНУ тэхнічнага напрамку працуюць розныя праграмы, гаворыць аб адсутнасці ў нас агульнага падыходу.*

Многа гавораць у наш час пра павышэнне агульнаадукацыйнага ўзроўню навучэнцаў. Сапраўды, у сучасным грамадстве паўстае сур'ёзная праблема аднабаковага развіцця чалавека. Заходняя тэндэнцыя быць высокакваліфікаваным спецыялістам у вузкай галіне сябе не апраўдала. Задача сучаснай адукацыі ў тым, каб максімальна пашырыць кругагляд навучэнца, даць яму як мага больш карысных звестак у розных галінах і навучыць мысліць шырока — перспектыўна і рэтраспектыўна. Кожнае вынаходніцтва, кожная навуковая тэхналогія займаюць сваё месца ў прасторы і часе — у гістарычным працэсе. Яны ўзнікаюць на пэўнай глебе, развіваюцца, пашыраюцца. Яны ўплываюць на развіццё грамадства і культуру таго ці іншага перыяду. У той жа час любое вынаходніцтва ёсць прадукт чалавечай думкі, якая выспела менавіта на дадзеным культурным этапе.

**Алена Генадзьеўна Багдановіч**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры гісторыі БНТУ, звярнула асаблівую ўвагу на неабходнасць знаёміць навучэнцаў з культурай і мастацтвам Беларусі, бо без гэтага немагчыма стварыць цэлас-



*У мастацкай галерэі БНТУ.*

ную карціну яе гістарычнага развіцця. Асаблівую ролю ў выхаванні моладзі павінны адыгрываць музеі.

*Мне хацелася б звярнуць увагу на праблему суадносін выкладання гісторыі ў школе і ў вышэйшай навучальнай установе, асабліва калі гэта ўстанова тэхнічнага профілю. Многія студэнты-першакурснікі разгублены і здзіўлены: «Зноў гісторыя Беларусі?» Тут важна растлумачыць ім, што цяпер, у ВНУ, трэба асэнсаваць гісторыю трошкі па-іншаму.*

*Па-першае, мы вывучаем гісторыю Беларусі ў кантэксце сусветнай цывілізацыі. Па-другое, разгледзець усю гісторыю Беларусі, асэнсаваць яе і прыйсці да пэўных высноў студэнтам даводзіцца ўсяго за адзін семестр.*

*Курс пабудаваны такім чынам, што большую частку яго займаюць лекцыйныя гадзіны. У нашай навучальнай установе 72 гадзіны адведзены на вывучэнне гісторыі Беларусі, з іх 54 — лекцыі. З аднаго боку, добра, што выкладчык мае магчымасць расказаць, давесці да студэнта поўную карціну гістарычнага працэсу. Але, з другога боку, мы маем менш магчымасці для непасрэднага кантакту са студэнтамі, для размовы і для таго, каб навучэнцы прывыкалі да самастойнай працы.*

*Хацелася б засяродзіць увагу на адным станоўчым аспекце — наша ВНУ шырока супрацоўнічае з рознымі музеямі, а фактычна з усімі музеямі горада Мінска. Мы думаем, што трэба паказаць студэнту, чым мы сапраўды можам ганарыцца — гэта спрыяе развіццю сапраўднага гістарычнага мыслення. Студэнты любяць наведваць Музей старажытнай беларускай культуры, Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Нацыянальны мастацкі музей. Работа з музеямі мае вялікае значэнне для студэнтаў-першакурснікаў. Многія з іх толькі прыехалі ў сталіцу, ім трэба многае паказаць. Акрамя таго, мы наладжваем экскурсіі, прычым не толькі па Мінску, а па ўсёй Беларусі.*

*А наогул асаблівасцей выкладання гісторыі для студэнтаў тэхнічных спецыяльнасцей шмат. У тым ліку многім нашым студэнтам цяжкавата бывае разгорнута адказаць, прыгожа і дакладна сфармуляваць сваю думку. Таму на першых жа семінарах мы тлумачым, што задача выкладчыкаў гуманітарных*

*дысцыплін якраз навучыць аналізаваць, супастаўляць розныя пункты погляду, адказваць абгрунтавана.*

*Шмат увагі мы надаём курсу «Вялікая Айчынная вайна савецкага народа». Вучацца ў нас, як вы маглі заўважыць, па большай частцы хлопчыкі. На жаль, культура, мастацтва цікавяць іх у меншай ступені, а вось ваенная гісторыя выклікае жывы інтарэс. Таму для таго, каб зацікавіць студэнтаў гісторыяй культуры, пры выкладанні курса гісторыі Беларусі мы звяртаем асаблівую ўвагу на працэс развіцця айчыннай навукі, тэхнікі, тэхналогій.*

Мастацкая літаратура развівае гістарычнае мысленне, дазваляе эмацыянальна паглыбіцца ў гісторыю, адчуць яе, усвядоміць як неацэнны вопыт. Веданне фактаў і лічбаў — гэта толькі адзін бок ведання гісторыі. І яго недастаткова для таго, каб быць адукаваным чалавекам, для таго, каб сапраўды засвоіць вопыт, што пакінулі нам папярэднія пакаленні. Гісторыя, культура і літаратура павінны ісці поруч. Але, на жаль, сёння мы не зусім усведамляем важнасць гуманітарных навук як у сістэме выкладання, так і наогул у грамадскім жыцці. У працэсе выкладання асноўная ўвага надаецца перадачы вузкапрафесійных ведаў, што бывае не на карысць агульнай адукаванасці і кругагляду будучага спецыяліста. На гэтым засяродзіў асаблівую ўвагу **Уладзімір Васільевіч Гніламёдаў**, акадэмік, дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі.

*Усе мы, і гісторыкі, і філолагі, у наш складаны час сутыкаемся з вельмі сур'ёзнай праблемай — праблемай недаацэнкі гуманітарнай адукацыі. Між тым, без гуманітарных ведаў поўнага шматграннага чалавека і сапраўднага грамадзяніна не атрымаецца. Многія студэнты пакуль гэтага проста не разумеюць у сілу сваёй маладосці. Мы павінны пастаянна даказваць важнасць і неабходнасць шматбаковага выхавання моладзі. Ёсць такія ісціны, якія трэба даказваць і абараняць увесь час.*

*Без ведання гісторыі, культуры і традыцый свайго народа асоба паўстае аднабаковай. Я вярнуся да тэмы студэнцкіх работ. Пачынаць выву-*



*У музеі гісторыі БНТУ.*

*чэнне гісторыі з гісторыі сваёй малой радзімы — гэта вельмі плённа. Студэнт піша пра тое, што яго хвалюе, пра тое, што блізкае яму і роднае. Такі рух ад малога да вялікага, агульнага, сапраўды, закладае адчуванне еднасці з радзімай і ў той жа час дазваляе яшчэ зусім маладому чалавеку адчуць сваё месца ў гістарычным працэсе.*

*Мне здаецца, што ёсць нейкі талент на любоў да роднай гісторыі, і людзі нараджаюцца з рознай ступенню гэтай цікавасці. Мы ведаем нямала асоб сапраўдных падзвіжнікаў з самых розных куткоў Беларусі. Гэтыя людзі не абавязкова атрымалі гуманітарную адукацыю, але цікавасць да гісторыі свайго краю дазваляе ім унесці велізарны ўклад у даследаванне культуры і ў выніку садзейнічае павышэнню духоўнага ўзроўню тых, хто дакранаецца да вынікаў працы такіх краязнаўцаў.*

*Гісторыя выхоўвае чалавека, робіць яго ўсебакова развітым і па-сапраўднаму інтэлігентным.*

*Тое зерне, якое закладае выкладчык, абавязкова прарасце ў сэрцах. Нехта раней, нехта пазней, але кожны адчуе каштоўнасць тых духоўных набыткаў, якія былі закладзены ў студэнцкія гады.*

**Канстанцін Іванавіч Баландзін** яшчэ раз падкрэсліў, наколькі важным з'яўляецца само адчуванне яднання гісторыі з сучаснасцю.

*Наша дзяржава праводзіць мудрую палітыку, калі да пэўнага свята — Дажынак ці Дня пісьменнасці — вялікія матэрыяльныя рэсурсы ўкладаюцца ў той ці іншы горад, населены пункт. Гарады адраджаюцца, набываюць новае аблічча, і жыхары разумеюць, што іх горад сапраўды прыгожы, ім ёсць чым ганарыцца. Узрастае і цікавасць да гісторыі, а многія беларускія населеныя пункты маюць шматвекавую гісторыю, цікавую, насычаную падзеямі.*

*Важна выкарыстоўваць гэтую цікавасць да сваіх родных мясцін у педагагічнай практыцы. Глеба для гэтага ёсць.*

*Гісторыя і літаратура — аснова развіцця любові да радзімы. Аснова ідэалагічнай працы з моладдзю.*



*Сярод студэнтаў універсітэта.*

Невыпадкова ў сваім каментары да папярэдніх выступленняў **Мікалай Міхайлавіч Мятліцкі** звярнуў увагу на цесную сувязь паміж духоўным узроўнем, самасвядомасцю чалавека і глыбінёю яго прафесійнай кампетэнцыі. «*Можа таму нашы спецыялісты так запатрабаваны ў свеце, што гэты духоўны стрыжань высока ўзносіць іх у самых розных сферах дзейнасці. Дазваляе дасягнуць асаблівых поспехаў дзякуючы духоўнай падпітцы.*

*Але, на жаль, часта за тэхнакратыяю мы хаваем нізкі духоўны ўзровень.*

*Я судакрануўся з гэтым, працуючы над кнігай «Бабчын». Гэтая кніга стала лёсавай, бо маёй роднай вёскі не стала пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Мяне гісторыя паставіла перад фактам — калі ты не скажаш пра гэта, яно не стане ў літаратуры гістарычным фактам, сатрэцца, знікне. І падчас працы я многае ўсвядоміў наноў. Я вывучыў гісторыю сваёй вёскі ў чалавечых лёсах глыбінёй у стагоддзе. Упэўнены, што гісторыя кожнага населенага пункта заслугоўвае таго, каб быць часткаю літаратуры, а не толькі часткаю гісторыі.*

**Аляксандр Аляксандравіч Каваленя**, дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі, у сваім выступленні сканцэнтраваў увагу на сучасных шляхах развіцця гістарычнай навукі і звязаных з імі праблемах у галіне адукацыі, у прыватнасці на недастатковай распрацаванасці курса сучаснай гісторыі Беларусі. Хаця ў прынцыпе падобны недахоп існуе ва ўсіх былых рэспубліках СССР з часоў перабудовы.

*Для мяне як для навукоўца важна такое яднанне літаратуры і гісторыі, што адбываецца сёння. Літаратура — гэта гісторыя, выкладзеная ў мастацкай форме. Гэта павінна нас яднаць, і менавіта праз мастацтва мы павінны далучаць моладзь да гісторыі. Грамадазнаўчыя дысцыпліны выконваюць сёння адну з важнейшых функцый — фарміраванне ў падрастаючага пакалення грамадзянскіх пачуццяў, патрыятычнага духу, нацыянальна-дзяржаўнай свядомасці. Без гэтага чалавек не можа стаць сапраўдным грамадзянінам.*

*Мала сказаць: я — беларус, я гэтым ганаруся. Чалавек, які ўсведамляе сябе часткаю гэтага народа, проста не можа дрэнна працаваць, несумленна ставіцца да сваіх абавязкаў. У гэтым сэнсе праблема набывае не толькі гуманітарнае гучанне, а і эканамічную важнасць.*

*Я падзяляю заклапочанасць папярэдніх выступоўцаў тым, што ёсць пэўныя залішне тэхнакратычныя тэндэнцыі ў падрыхтоўцы спецыялістаў, якія прысутнічаюць не толькі ў тэхнічных, але і ў гуманітарных ВНУ. Мы павінны пашыраць менавіта гуманітарную падрыхтоўку ў ВНУ. І ў тэхнічных навучальных установах такая падрыхтоўка мае асаблівае значэнне. Згадзіцеся, выпускнік, закончыўшы ВНУ, ідзе працаваць на вытворчасць, і дзе, калі ён будзе яшчэ вывучаць гісторыю глыбока і сістэматычна як навуковую дысцыпліну? Калі выпускнікі недавучылі пэўных тэхнічных прадметаў, то на вытворчасці само жыццё прымусіць іх запаўняць гэтыя прабелы.*

*Сёння проста разбурана сістэма гуманітарнай адукацыі. У нас не хапае тэхнічных сродкаў навучання для выкладання гуманітарных дысцыплін. Мы павінны сказаць сёння і аб тым, што павінна быць пашырана трансляцыя гістарычнага мінулага. Вялікую ролю ў гэтым працэсе павінна адыграць літаратура. Але ў нас мала гістарычных твораў аб сярэднявеччы, аб старажытнай гісторыі. Грамадства, якое не клапоціцца пра трансляцыю свайго гістарычнага вопыту, проста знікае. Наш гістарычны лёс адзін з багацейшых у Еўропе, мы павінны выкарыстоўваць яго ў поўнай меры.*

*Сённяшняя сустрэча — сур'ёзны крок у накірунку пашырэння трансляцыі гістарычнага вопыту. Гэтае супрацоўніцтва паміж навукай і педагагічнай практыкай, паміж літаратурай і гісторыяй робіцца ўсё больш важным. У гэтым працэсе павінна павялічвацца і роля СМІ. Важнейшая задача ў тым, каб усе нашы навуковыя напрацоўкі даносіліся да грамадства.*

*Наступнае пытанне, на якім мы павінны сканцэнтраваць увагу, — праблема сучаснасці. Ёй трэба адвесці важную ролю ў курсе выкладання гісторыі. Мы не павінны саромеючыся гаварыць аб апошніх 15 гадах жыцця нашай дзяржавы. У краіне зроблена вельмі шмат. Не трэба штучнага валюнтарызму ці культу асобы. Але аб'ектыўная інфармацыя павінна даносіцца да студэнта. Ёсць недахопы, ёсць дасягненні, наша задача аб'ектыўна асвятляць падзеі, сведкамі якіх з'яўляемся. Паглядзіце, як змяніліся нашы гарады: і сталіца, і зусім маленькія населеныя пункты.*

*Наогул трэба ўдасканаліць ідэалагічную складаючую курса гісторыі. Нельга вучыць гісторыю на тых адмоўных момантах, якія раз'ядноўваюць народы, пакаленні. Вучыць трэба на тым, што зблізкае людзей. Так, у нас меліся супярэчнасці, у прыватнасці з Расіяй, але не трэба рабіць выгляду, што ў тагачасных пакаленняў гэта быў асноўны сэнс жыцця. Гістарычныя падзеі — яны такія, якія ёсць. Але менавіта той ці іншы гістарычны выбар даў нам магчымасць у выніку стаць незалежнай Рэспублікай Беларусь.*

*Я нядаўна быў у Маскве на сустрэчы, дзе ішла гаворка аб падручніках па гісторыі розных краін СНД. Калі пазнаёміўся з тым, што пішуць гісторыкі Таджыкістана, Узбекістана, Грузіі, не адшукаў ніводнага станоўчага моманту жыцця ў СССР. Нельга выхаваць чалавека на адмоўным, на тым, што раз'ядноўвае. Мы павінны знаходзіць залатую сярэдзіну і ўвагу акцэнтаваць на тым, што зрабілі беларусы для развіцця еўрапейскай і наогул усёй сусветнай культуры, навукі, паказаць нашу ролю ў гісторыі. Беларусь дала свету больш, чым самой сабе. Роля яе выключная ў самых розных галінах грамадскага жыцця.*

*Па ініцыятыве Прэзідэнта была адкрыта «Лінія Сталіна». Часам мы сустракаем адмоўную ацэнку гэтай падзеі нават з вуснаў настаўнікаў гісторыі! Быццам, навошта гэта нам? Навошта ўкладаць туды грошы. Але паглядзіце, як адрадзілася «Мажыно»? «Лінія Манергейма»? Так, гэта была «Лінія Сталіна». І яна ўвайшла ў гістарыяграфію заходніх краін менавіта як «Лінія Сталіна». Доты, якія засталіся пасля гэтай Лініі, — сімвал мужнасці і самаахвярнасці пакалення вогненных саракавых гадоў. Акрамя таго — гэта адна з пазіцый, цікавая для турызму, у тым ліку і міжнароднага.*

*І яшчэ адно пытанне, якое таксама падаецца немалаважным менавіта ў працэсе падрыхтоўкі кадраў вышэйшай кваліфікацыі, у тым ліку і ў тэхнічных галінах. Гісторыя павінна займаць пэўнае месца ў напісанні дыпломных праектаў студэнтаў. Што гэта за дыпломны праект, які не мае гістарычнай рэтраспектывы? Ва ўводзінах у дыпломны праект павінны змяшчацца пэўныя гістарычныя звесткі. Такім чынам студэнт далучаецца да вопыту папярэднікаў, што вельмі важна ў любой галіне, для чалавека любой спецыяльнасці. Акрамя таго, гісторыя айчыннай навукі, тэхнікі, медыцыны ці архітэктуры — гэта частка гісторыі Беларусі. Нельга выхаваць сапраўднага высокакваліфікаванага спецыяліста, калі ён вывучае гісторыю ў адрыве ад сваіх прафесійных ведаў. Вучэбны працэс павінен яднаць культуру, гісторыю і практычную дзейнасць.*

Гісторыя — не выключна адна бясконцая чарга войнаў і катастроф, змен грамадска-палітычных рэжымаў і фармацый. Яна мае не толькі палітычны і эканамічны бок. І нават не толькі культурны. Гісторыя — бесперапынны працэс удасканалення і развіцця тэхналогій, набыцця культурных і інтэлектуальных каштоўнасцей.

Укараненне ў выкладанне гуманітарных дысцыплін сучасных інфармацыйных тэхналогій стала адной з тэм выступлення **Аляксея Віктаравіча Бяляева** — кандыдата гістарычных навук, выкладчыка кафедры гісторыі БНТУ.

*Я далучаюся да папярэдніх выступоўцаў і хацеў бы зноў засяродзіць увагу на праблеме актуалізацыі гісторыі. Так, гісторыя не павінна быць адарва-*

*на ад сучаснасці. У цяперашніх умовах асабліва важным робіцца ўсведамленне сябе як удзельніка гістарычнага працэсу. Мы павінны закласці ў нашых студэнтаў жаданне жыць і працаваць на гэтай зямлі, на карысць свайго народа. І гэта задача менавіта гісторыкаў. На супрамаце ці вышэйшай матэматыцы ім не скажуць пра душу, пра радзіму. У выніку мы атрымаем спецыяліста, які будзе проста інструментам, дасканалым, якасным інструментам, а не асобай. Менавіта гуманітарныя навукі выхоўваюць грамадзяніна, чалавека, які марыць працаваць для людзей. Наша зямля страчвае многіх спецыялістаў — яны ад'язджаюць за мяжу ў пошуках лепшага жыцця, і адбываецца гэта менавіта таму, што ў іх не выхавана ўсведамленне сваёй еднасці з роднай зямлёй.*

*Але і ў самім працэсе выкладання ёсць пэўныя праблемы метадычнага характару. Трэба адзначыць, што выкладанне гісторыі ў тэхнічных ВНУ вымагае іншай методыкі, іншых падыходаў. Па-першае, мы павінны прывучыць студэнтаў чытаць. Моладзь цяжка прымусіць узяць у рукі кнігу. Іх трэба зацікавіць, выкарыстоўваючы самыя розныя шляхі, у тым ліку і тэхнічныя сродкі.*

*Па-другое, хацелася б сказаць пра гэтыя самыя тэхнічныя сродкі навучання. Сённяшні дзень — дзень высокіх тэхналогій. Выкладанне любой дысцыпліны на належным узроўні немагчыма без іх выкарыстання. Нам патрэбны падручнікі, дапаможнікі не толькі ў папяровым, а і ў электронным варыянце, тым больш, што падручнікаў папяровых цяпер не хапае, мы не можам забяспечыць імі ўсіх студэнтаў. Амаль адсутнічаюць і грунтоўныя інтэрнет-рэсурсы па гісторыі Беларусі.*

*Асобныя выкладчыкі робяць вельмі многае, каб зацікавіць сваіх студэнтаў, даць ім максімум не толькі ведаў па прадмеце, але і пашырыць іх кругагляд. Аднак яны не могуць ахапіць усіх навучэнцаў. Мы ж павінны рабіць стаўку на масавасць, на тое, каб кожны мог дакрануцца да нашай гістарычнай спадчыны, да духоўнага вопыту народа.*

*Аднабакова выхоўваючы тэхнічнага спецыяліста, можна згубіць чалавека і грамадзяніна. Не маючы прывязанасці да сваёй зямлі, студэнт будзе 5 гадоў набываць у ВНУ веды, рабіцца высокакваліфікаваным спецыялістам, але марыць пра тое, каб з'ехаць за мяжу. І ў гэтым ёсць вялікая небяспека.*

Зразумела, гаворка не скончана, засталося нямала пытанняў, але акрэслены і пэўныя шляхі іх вырашэння. Супрацоўніцтву навукоўцаў, выкладчыкаў і СМІ




*Макет будучыні БНТУ.*

належыць вялікая роля ў трансляцыі гістарычных ведаў у сучаснасць — гэта безумоўна — і правядзенне падобных «круглых сталоў» дапаможа ім скіраваць свае намаганні, акрэсліць кола асноўных задач і вызначыць найбольш прадуктыўныя шляхі іх вырашэння.

У заключэнне размовы галоўны рэдактар часопіса «Полымя» **Мікалай Міхайлавіч Мятліцкі** падагульніў:

*Я яшчэ раз пераканаўся ў тым, наколькі наспелі такія размовы ў нашым грамадстве. Нам неабходна аб'яднаць сілы навукі, літаратуры і выкладчыцкай практыкі для таго, каб далучыць маладзь да той багацейшай духоўнай спадчыны, якую пакінулі нам папярэднікі.*

*Веданне гісторыі робіць чалавека адказным перад пакаленнямі, якія жылі да нас. Ён усведамляе, што на сённяшні дзень працавалі сотні, тысячы людзей, што ён адказны перад імі і перад будучым, бо і яго жыццё — частка гістарычнага працэсу.*

*На працягу гісторыі мы рабіліся Народам. Дзякуй Богу, нягледзячы на цяжкія, складаныя перыяды, якіх было многа ў нашым мінулым, ворагі не аднялі ў нас Бацькаўшчыну. Нашы папярэднікі адстаялі яе, далі нам магчымасць жыць і працаваць на вольнай зямлі. Таму мы павінны і працаваць, і жыць сумленна.*

## З летапісу жыцця БНТУ

Стварэнне і станаўленне БНТУ цесна звязана з гісторыяй айчыннай вышэйшай школы, з развіццём эканомікі, тэхнікі і культуры Беларусі.

Беларускі нацыянальны тэхнічны універсітэт утварыўся 10 снежня 1920 года, калі наспела неабходнасць рыхтаваць тэхнічныя кадры вышэйшай кваліфікацыі для прадпрыемстваў краіны. БНТУ (тады Беларускі політэхнічны інстытут) стаў першай вышэйшай навучальнай установай Беларусі.

Першапачаткова інстытут меў у сваім складзе 5 факультэтаў: механічны, інжынерна-будаўнічы, культурна-тэхнічны, хіміка-тэхналагічны і электратэхнічны. Выкладчыкі запрашаліся з ВНУ Масквы і іншых гарадоў СССР. У 1921 годзе ў інстытуце вучылася ўсяго 424 студэнты.

Інстытут пастаянна пашыраўся, ствараліся новыя факультэты, павялічвалася колькасць навучэнцаў. За перыяд з 1933 па 1941 год Беларускі політэхнічны інстытут падрыхтаваў каля 2000 кваліфікаваных інжынераў. Многія з выпускнікоў інстытута занялі кіруючыя пасады на розных прадпрыемствах Беларусі.

Цяжкім выпрабаваннем для першай ВНУ краіны сталі гады Вялікай Айчыннай вайны. Фашысты разбурылі ўсе будынкі інстытута, абсталяванне кабінетаў і бібліятэчныя фонды былі вывезены ў Германію. Інстытут фактычна перастаў існаваць.

Каля 700 выкладчыкаў, супрацоўнікаў, студэнтаў і аспірантаў БПІ пайшлі на фронт і мужна змагаліся з захопнікамі, аб іх складаных лёсах расказвае экспазіцыя музея БНТУ. Многія з супрацоўнікаў загінулі падчас ваенных дзеянняў і акупацыі, іншыя былі вывезены ў Германію ці з'ехалі ў эвакуацыю за межы краіны. На 1 студзеня 1945 года ў інстытуце было толькі 22 выкладчыкі. Між тым менавіта ў пасляваенны час, калі трэба было фактычна занава адбудоўваць Мінск, многія вялікія і малыя гарады Беларусі, аднаўляць знішчаныя прадпрыемствы і наладжваць гаспадарку, патрэба ў інжынерных кадрах значна павялічылася.

Кіраўніцтву інстытута давялося пераадолець вялікія цяжкасці, але 1 студзеня 1945 года заняткі ў першай тэхнічнай ВНУ краіны былі адноўлены. Іх праводзілі 65 выкладчыкаў і 13 лабарантаў, а наведвалі ўсяго 375 студэнтаў.

Але інстытут аднаўляўся хуткімі тэмпамі. Колькасць студэнтаў год ад году расла, павялічвалася і колькасць спецыяльнасцей. Вялікае значэнне ў гаспадарцы краіны мелі навуковыя доследы супрацоўнікаў інстытута. Ужо ў 1948 годзе 33 іх навуковыя распрацоўкі ўкаранілі ў вытворчасць.

У 50—60-я гады БНТУ развіваўся надзвычай хуткімі тэмпамі. Усталёўвалася матэрыяльна-тэхнічная база, павялічвалася колькасць лабараторый і вучэбных кабінетаў, будаваліся інтэрнаты для студэнтаў. Былі адкрыты філіялы інстытута ў Віцебску і Магілёве, Гомелі, Жодзіне і інш.

У 80-я гады інстытут ужо ўваходзіў у лік буйнейшых ВНУ СССР. Важна адзначыць і той факт, што на працягу ўсёй дзейнасці інстытута асаблівая ўвага надавалася навуковым распрацоўкам і ўкараненню іх у практыку. Навуковыя працы ў розных галінах узначальвалі дактары навук, акадэмікі АН БССР. Іх уклад у развіццё прагрэсіўных тэхналогій цяжка пераацаніць.

Час перабудовы паставіў перад супрацоўнікамі інстытута новыя задачы. У прыватнасці, асаблівае значэнне набылі новыя інфармацыйныя тэхналогіі, камп'ютэрызацыя.

Методыка выкладання таксама пастаянна мадэрнізавалася. Менавіта БНТУ ў 1989 годзе першым у рэспубліцы перайшоў на падрыхтоўку бакалаўраў і магістраў.

Работа ідзе ў розных накірунках ад непасрэдна падрыхтоўкі кадраў вышэйшай кваліфікацыі да навуковых распрацовак у розных галінах народнай гаспадаркі. Выкладчыкі і студэнты універсітэта пастаянна ўдзельнічаюць у навуковых канферэнцыях, ім належыць немалая колькасць вынаходніцтваў і рацыяналізатарскіх прапаноў.

Супрацоўнікі часопіса «Полымя» шчыра віншуюць з юбілеем БНТУ ўсіх, чый лёс звязаны з гэтай навучальнай установай, і жадаюць далейшых поспехаў і здзяйсненняў.

***Матэрыялы «круглага стала» падрыхтавала Марыя Шамякіна.***

***Фотаздымкі Кастуся Дробава.***







**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

# СТАРОНКІ БІЯГРАФІІ

*Усё праходзіць, быццам дождж няроўны, —*
*І боль, і злосць, і дробная брыда,*
*А застаецца самы важны і галоўны*
*І самы светлы талент — дабрата.*

З верша «Дабрата»

«З дзяцінства я захварэў невылечнаю любоўю да паэзіі, да літаратуры. Напачатку зацягнулася маё вучнёўства, хоць творца ўсё жыццё — вучань, пакутнік у пошуках слова, праўдзівага і важкага, сагрэтага жарам душы», — напісаў Сяргей Грахоўскі ў 1994 г. І сапраўды, гэтая шчырая і шчодрая любоў была з ім на працягу ўсяго нялёгкага шляху, якім крочыў творца, была яго падтрымкай і выратаваннем...

Сяргей Іванавіч Грахоўскі нарадзіўся 25 верасня 1913 года ў сяле Нобель Пінскага павета Мінскай губерні (сёння гэта Зарэчненскі раён Ровенскай вобласці Украіны) у сялянскай сям'і. Пазней пісьменнік сведчыў, што тых мясцін зусім не памятае: «Імперыялістычная вайна забрала бацьку ў салдаты, а мяне з маці пагнала ў бежанцы. Было амаль усё так, як напісана ў маёй «Паэме дарог». Гады маленства прайшлі на радзіме маці, у мястэчку Глуск Магілёўскай вобласці. Тут скончыў сямігодку, менавіта тут у гады вучобы захапіўся літаратурай, патрапіў у палон магутнага паэтычнага слова. Праз дзесяткі год у сваіх успамінах Сяргей Грахоўскі неаднаразова згадваў пра тую, ні з чым непараўнальную асалоду, якую атрымліваў ад вершаў Янкі Купалы, Якуба Коласа і іншых майстроў беларускага прыгожага пісьменства. Перад вачыма паўставалі вобразы літаратурных герояў, расхіналіся маляўнічыя відарысы... Найвялікшымі падзеямі ў жыцці былі адкрыцці новых твораў і новых імёнаў. Цішка Гартны, Міхась Чарот, Змітрок Бядуля... Яны рабіліся для юнака і настаўнікамі, і дарадчыкамі, і мудрымі сябрамі. «Змітрок Бядуля апавяданнямі і вершамі будзіў хлапчукоўскую фантазію і стаў поруч з нашымі кумірамі Купалам і Коласам. Я ўжо нічога не прапускаў з напісанага ім. Ён рабіў маю душу спагадлівай і мяккай, хацелася быць дабрэйшым і лепшым». Кнігі класікаў беларускай літаратуры былі і першымі ўрокамі творчасці для Сяргея Грахоўскага, і крыніцай паэтычнага натхнення, і ўзорамі майстэрства. Пад іх уплывам трынаццацігадовы падлетак напісаў свой першы верш. Ужо ў гады сталасці з непрыхаванай іроніяй паэт згадваў тыя нясмелыя і няўпэўненыя творчыя крокі: «Тады я ўпершыню адчуў хмельную асалоду бачыць сваё імя на газетнай і часопіснай паласе. Ад майго тэксту без змен асталося толькі прозвішча. У душы было крыўдна і сорамна, што нехта ўсё перапісаў за мяне, а прызнацца ў гэтым я не адважыўся — на людзях ганарыўся і наіўна верыў, што ўжо не толькі дома, а недзе далёка ведаюць маё нягучнае імя».

За сваё жыццё Сяргею Грахоўскаму давялося паспрабаваць сябе ў самых розных прафесіях, але поруч заўсёды была літаратурная творчасць, назаўжды зрабіўшыся натуральнай і неад'емнай часткай яго існавання. У семнаццаць год юнак уладкаваўся рабочым на Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат. У гэты ж час,



у 1930 годзе, пасябраваў з бабруйскімі літаратарамі, шмат пісаў, актыўна выступаў у мясцовым і рэспубліканскім друку. Праз год пераехаў у Мінск, працаваў у Дзяржаўным выдавецтве, у рэдакцыі «Чырвонай змены», паралельна вучыўся на літаратурным факультэце педагагічнага інстытута. У 1935 годзе, скончыўшы інстытут, пайшоў працаваць рэдактарам на Беларускае радыё.

Хваля сталінскіх рэпрэсій, якая стала ўбірацца ў сілу ў пачатку 30-х, імкліва набірала ўсё большыя памеры. «Надышла восень страшнага для беларускай інтэлігенцыі 1936 года. У адну ноч знікала па некалькі пісьменнікаў. Усіх апанаваў страх, гаварылі толькі шэптам. Часам дзівіліся, за што маглі забраць такога сумленнага і ідэйнага хлопца, але думалася: мяне не возьмуць, я ж ні ў чым не вінаваты, а ў яго, мабыць, нешта было», — характарызаваў Сяргей Грахоўскі жудасную атмасферу тых гадоў. Яго самога арыштавалі ў тую ж восень, 19 кастрычніка, па стандартным абвінавачванні ў «беларускім контррэвалюцыйным нацыяналізме». А пазней, 2 кастрычніка 1937 года, — так званы суд вынес сваё рашэнне аб пакаранні: 10 гадоў лагера. Паэт быў высланы ў Горкаўскую вобласць, дзе давялося папрацаваць «на розных, далёкіх ад літаратуры, работах, многаму навучыцца, многае ўбачыць і зазнаць». Але і ў высылцы ён знаходзіў магчымасць рэалізоўваць свае творчыя памкненні: пісаў п'есы пра лагернае жыццё, сам рыхтаваў сцэнарыі, спектаклі, сам іграў ролі. Пісаў вершы на рускай мове, выступаў з імі ў колах таварышаў па няшчасці.

Пасля заканчэння тэрміну зняволення Сяргей Грахоўскі вярнуўся на Беларусь. З 1946 па 1949 год настаўнічаў на Случчыне, выкладаў рускую мову і літаратуру ва Урэцкай сярэдняй школе. Усё, нібыта, наладжвалася. Пра гэты перыяд свайго жыцця паэт згадваў: «А як я акрыяў, калі ў 1947 годзе Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі зняў з мяне судзімасць, як захацелася жыць, натхнёна працаваць, верылася, што будзе ўсё лепш і лепш. Я быў класным кіраўніком дзесятага класа, сябраваў са сваімі вучнямі-падросткамі і іх бацькамі». Але светлым надзеям не суджана было спраўдзіцца. У 1948 годзе паднялася новая хваля суцэльных арыштаў, пачалася новая «чыстка» грамадства.

19 мая 1949 года да Грахоўскага, які рыхтаваўся праводзіць кансультацыю перад выпускным экзаменам у школе, прыйшлі чэкісты. Маёр і капітан доўга ператрасалі сшыткі, планы ўрокаў, падручнікі і, нічога не знайшоўшы, усё роўна загадалі збірацца. Паўторны арышт быў абрунтаваны ранейшым абвінавачваннем і скончыўся высылкай на вечнае пасяленне ў Новасібірскую вобласць. На новым «месцажыхарстве» давялося асвойваць і новыя спецыяльнасці: спачатку сталярства, пазней, калі атрымаў пасаду «заўхоза» ў мясцовай школе, змушаны быў спрабаваць сябе ў шматлікіх іншых «прафесіях». Вось як сам пісьменнік успамінаў сваю «сібірскую адысею»: «Да адлігі я вывез усё сена і дровы, пасля заняткаў да партаў прыбіваў адарваныя вечкі, падцягваў звваленыя вароты ў хляве, даглядаў каня і быкоў, быў рымаром і стальмахом, сталяром і ўсеагульным папіхачом, хоць і лічыўся з а г а д ч ы к а м. Чаго? Ніхто не ведаў». Пазней, дзякуючы клопатам добрых і спагадлівых людзей, атрымаў у школе «гадзіны» — быў прызначаны настаўнікам. Толькі выкладаць давялося зусім не літаратуру — «гэта ж ідэалогія!» — а маляванне, чарчэнне і нямецкую мову, якой зусім не ведаў. Прыйшлося гэтыя дысцыпліны асвойваць разам з вучнямі.

Самым невыносным было ўсведамленне таго, што абазначалася ў так званым «воўчым білеце» — адзіным дакуменце, які выдаваўся ссыльным, — словам «навеч-

на». Не ўяўлялася, як магчыма пражыць усё жыццё па-за межамі радзімы, ніколі не ўбачыць болей родных краявідаў, сяброў, блізкіх... Але неўзабаве падзеі пачалі новы адлік: смерць «правадыра народаў», выкрыццё злачынстваў Берыя, і, нарэшце, доўгачаканае вызваленне. 19 жніўня 1955 года пісьменніка выклікалі ў райаддзел НКУС і абвясцілі, што ён вызвалены са ссылкі «без зняцця судзімасці».

Свае «лагерныя шляхі», фатальную наканаванасць лёсу Сяргей Грахоўскі лаканічна акрэсліў літаральна адным абзацам у нарысе «Такія сінія снягі»: «О, гэтая ракавая лічба 19! У 1936 годзе 19 кастрычніка мяне арыштавалі, праз дзесяць гадоў 19 кастрычніка вызвалілі з лагера, 19 ліпеня 1947 года знялі судзімасць, 19 мая 1949 года арыштавалі другі раз, 19 верасня пастанавілі саслаць на пасяленне і вось 19 жніўня адпускаюць на крыху даўжэйшы павадок: асуджаны чалавек не меў права жыць у буйных гарадах, сталіцах рэспублік, яго пашпарт быў такой серыі, з якою не вельмі прапісвалі і бралі на работу. Зазірну трохі наперад: пастанова аб маёй рэабілітацыі прынята 19 кастрычніка 1955 года, роўна праз 19 пакутніцкіх гадоў. Ну як тут не быць фаталістам?»

Вярнуўшыся на Беларусь пасля рэабілітацыі, на працягу двух гадоў Сяргей Грахоўскі працаваў на Беларускім радыё, з 1957 па 1959 год — загадваў аддзелам рэдакцыі часопіса «Бярозка», у 1959—1960-м — быў літаратурным кансультантам Саюза пісьменнікаў БССР, з 1960 па 1973-ці — літаратурным рэдактарам часопіса «Вясёлка». Гэтыя гады сталіся для пісьменніка перыядам вельмі актыўнай творчай працы. Стымулам тут былі і вымушаны «прастой» у творчасці, і мноства эмоцый ад перажытага, і безліч уражанняў ад зведанага і ўбачанага, якія вярэдзілі душу, патрабавалі выйсця, мастацкай персаніфікацыі. З-пад пяра творцы адзін за адным выходзяць зборнікі паэзіі: «Дзень нараджэння» (1958), «Чаканне» (1960), «Табе зайздросціць сонца» (1963), «Памяць» (1965), «Тры вымярэнні» (1967), «Вершы» (1968), «Паэма дарог» (1970). Новыя далягляды, жыццёвыя працэсы, а таксама і перажытае раней, у маладосці, патрабуюць новага асэнсавання з вышыні часу і асабістага вопыту. Вынікам — кнігі: «Зазімак» (1976), «Лірыка» (1978), «Зачараванасць» (1978), «Асеннія гнёзды» (1982), «Кругі надзеі» (1985), «Верую» (1987), «І радасць, і боль» (1988).

Сяргей Грахоўскі плённа працаваў і ў прозе — выдаў нарыс «Горад маладосці» (1960), зборнік апавяданняў «Які вялікі дзень» (1966), дакументальную аповесць «Рудабельская рэспубліка» (1968), аповесці «Ранні снег» (1975), «Гарачае лета» (1974), «Сустрэча з самім сабою» (1988), кнігу вершаў і аўтабіяграфічных аповесцей «Споведзь» (1990), кнігу ўспамінаў «Так і было» (1986).

Ён шмат пісаў для дзяцей, аўдыторыі юных чытачоў адрасаваныя зборнікі вершаў «Ад вясны да вясны» (1959), «Сёння і заўтра» (1961), «Гарыць касцёр» (1966) і інш., зборнік апавяданняў «Агеньчык у акне» (1972). Плёнам пазначана і яго праца ў галіне публіцыстыкі: у 1971 г. выходзіць кніга «Мінск», у 1972 — нарыс «Бацькі і дзеці».

Вялікі аматар літаратуры, таленавіты пісьменнік з прыроджаным мастацкім густам натхнёна і нястомна працаваў і ў галіне перакладчыцкай дзейнасці. Яшчэ ў перыяд «пачаткоўства» ён пераклаў на беларускую мову «80 000 кіламетраў пад вадой» Ж. Верна (1937, з Ю. Лявонным), аповесць А. Гайдара «Ваенная тайна» (1936). Пазней, пасля вяртання з-за кратаў, Грахоўскі ізноў не пакідае перакладчыцкай працы. Так, у 1958 г. па-беларуску «загучаў» раман Р. Тагора «Крушэнне», у 1980-м — «Выбраныя вершы і паэмы» А. Блока, у 1984-м — зборнік лірыкі «Пасля спаткання» М. Дудзіна, пераклаў асобныя творы А. Пушкіна і С. Ясеніна, М. Забалоцкага і А. Твардоўскага, Т. Шаўчэнкі і Лесі Украінкі, іншых таленавітых майстроў слова. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1983) і Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа за кнігу «Споведзь» (1992).

Зямны шлях Сяргея Грахоўскага абарваўся 11 снежня 2002 года. Пісьменнік прайшоў яго сумленна і годна, пераадолеўшы ўсе выпрабаванні, якіх надта шчодра адмераў яму лёс. А нам у спадчыну засталіся творы, напоўненыя светлым талентам яго дабраты...

# *ВЕРШЫ*

## МАМА

Калі пушок прабіўся над губою
І ў сны прыйшло дзявочае імя,
Я ні аб чым не раіўся з табою,
Матуля адзінокая мая.

Мне сорамна здавалася часамі
Сярод хлапцоў — цыбатых забіяк —
Назваць цябе, як у маленстве, «мама»,
Таму часцей не называў ніяк.

А вечарам, і слова не сказаўшы,
Ішоў блукаць каля чужых варот
І пазіраў, як у акенцы нашым
Мігаў у лямпе да світання кнот.

Не спала ты асеннімі начамі,
Хоць падала ад зморы галава,
Глядзела ў змрок вільготнымі вачамі,
Прывычная да гора удава.

Ты прала кужаль, ты капала гліну,
А ў час жніва зусім не чула ног,
Ды гаварыла ласкава пра сына:
«Хай падрасце, няхай паспіць сынок».

І зноў сама збіралася па дровы,
А ў валасах гусцела сівізна —
«Хоць бы сказаў ён ласкавае слова,
Хоць бы, як калісь, мамаю назваў».

Прайшлі гады. Мы пасівелі самі,
І, мабыць, крыўдна мне не аднаму,
Што гэтае святое слова — «мама»
Цяпер сказаць ужо няма каму.

*1957 г.*

## ДУША

Мяне выхоўвалі,
Мяне захоўвалі,
Я то з'яўляўся,
То знікаў,
Мяне вадзілі
І ахоўвалі,
Хоць я нікуды не ўцякаў.

І пад замкамі,
І пад пломбамі,
Нібы каштоўнасць,
Бераглі
І неба клеткамі
І ромбамі
Разлінавалі,
Як маглі.

Мяне узважвалі
І мералі,
Здымалі ў профіль
І ў анфас,
Але ні разу
Не праверылі
Душы наяўнасць
І запас.

Шкада,
Што не здымаюць копію
З яе юрысты і ўрачы,
І ні адна дактыласкопія
Не можа тут дапамагчы.

Мая душа супраціўлялася,
Бо верыла і тым жыла,
Не чэрствела
І не ламалася —
Была такою, як была.

Хоць дзіўна,
Ў чым яна трымалася?
А паспрабуй
Яе сагні!
Яна ж з маленства
Гартавалася
На чыстым,
Праведным агні.

*1964 г.*

## АБРУЧ

Я гнаў абруч, а думаў: еду, еду
На край зямлі, за сіні небасхіл,
Дзе не відно ні каляін, ні следу,
Дзе асядаў паружавелы пыл.

Я гнаў абруч і бег за доўгім ценем
Праз палыны, каля размытых круч —
І пакаціўся ўслед за летуценнем
Па небе звонкі сонечны абруч,

За пёрыстыя белыя аблокі,
Ў празрыстую нямую цішыню,
А я стаяў і пазіраў здалёку
І ведаў, што яго не даганю,

Што мне хадзіць заўсёды пехатою,
Што век не адарвацца ад зямлі,
Што не падняцца сцежкаю крутою
Туды, дзе праплываюць жураўлі.

Усходзілі, заходзілі свяцілы,
Буялі травы, замеці мялі,
А мне тугія мроіліся крылы,
Што сёння над сусветам паднялі.

Пульсуюць рэактыўныя матoры,
Плыве над намі жураўліны ключ,
І коціцца у залатое мора
Па небе звонкі сонечны абруч.

***1965 г.***

* * *

Мяняешся, нібы рака, ты:
То пацямнееш ад тугі,
То на крутыя перакаты
Ўзлятаеш ветразем тугім,

Іскрышся сонечнай падковай
І лашчышся, нібы прыбой,
Гарыш маланкаю кароткай
І ўслед гукаеш за сабой.

Тут і канчаюцца разлукі.
Сінее дзень, і побач ты
Працягваеш насустрач рукі,
Як два надзейныя масты,

Каб зноў трывожыць і смяяцца,
Знікаць, іскрыцца і любіць, —
Нібы рака, заўжды мяняцца
І, як рака, нязменнай быць.

***1966 г.***

## А ДЗЕ ВЫ?

За сорак год там вырас лес,
Дзе я штодня са скуры лез:

Дзень пілаваў, пасля грузіў,
А мне начальнічак грузіў

І за віну, і без віны
Загнаць да скону на штрафны,

У БУР з парашаю, за краты,
Бо я занадта языкаты,

Бо я абразы не цярплю,
Бо я спагады не малю,

Бо не згадзіўся на даносы,
Таму загнуся голы, босы

На трохстах грамах і вадзе,
І след бясследна прападзе.

Я выжыў. Я усё прайшоў
І месца у жыцці знайшоў.

Загаварыў. Бо не маўчальнік.
А дзе ж вы,
«гражданін начальнік»?

***1986 г.***

* * *

Аселі шэрыя сумёты,
Ляціць апошні цёплы снег,
І я ад суму і самоты
У цішыню лясную збег.

Не вернуцца былыя вёсны,
Што адшумелі назаўжды,
І толькі ціха шэпчуць сосны,
Як у даўнейшыя гады.

Вясновы снег душу сагрэе,
Мае сляды залье вада.
Хоць і нярана вечарэе,
А дня пражытага шкада.

***1978 г.***

## СЦЮЖЫ

Ад сцюжы сэрца халадзела
І прамярзала навылёт,
Шурпацела, як тарка, цела,
Не раставаў на вейках лёд.

Не сунімалася завея,
Збівала і валіла з ног,
Здавалася — душа сівее,
А праведных карае Бог.

За паслушэнства і бязволле,
За непавагу да сябе,
За абыякавасць да болю,
Да гругана, што лоб дзяўбе.

А сцюжы? Сцюжы лютавалі,
Сляпілі вочы ледзяшы,
І часам рэбры прыставалі
Да пасівелае душы.

Я так настыг у маладосці
І навучыўся так цярпець,
Што толькі спадзяюся косці
У крэматорыі сагрэць.

***1996 г.***

## ПЕРАД ЗАСЛОНАЙ

Усе мы трошачкі артысты,
І роля ў кожнага свая.
То абы-як, а то ўрачыста
Іграў сябе самога я.

З усіх няма цяжэйшай ролі,
Бо не хапае з неба зор
І не падказвае ніколі
Жыццё — суровы рэжысёр.

Кім толькі я не быў на сцэне,
Каго я толькі не іграў.
То быў узнёслы летуценнік,
То ўваскрасаў, то паміраў.

Рамэа быў, «Шыльёнскім вязнем»,
Адолець Гамлета хацеў,
Ды, збіўшыся на першым сказе,
У апраметную ляцеў.

І зала адказала свістам
На непрадбачаны правал.
Відаць, заўсёды быць статыстам —
Мой горкі лёс ці ідэал.

Ніхто не заўважаў старання
Да зморы і да забыцця,
Калі вагаўся я на грані
Сапраўднай смерці і жыцця.

Іграў то ўмела, то няўмела,
Бывалі спады і напал,
Пакуль душа не пасівела
І не наблізіўся фінал.

Знялі фанерныя калоны,
Скруцілі заднікі ў рулон.
Вось-вось зацягнецца заслона...
І я выходжу на паклон.

***1988 г.***

# СВЕТЛЫ ТАЛЕНТ:

## *Жыццё і творчасць Сяргея Грахоўскага*

Першы паэтычны зборнік Сяргея Грахоўскага «Дзень нараджэння» (1958) стаўся сведчаннем таго, што ў літаратуру прыйшоў не проста таленавіты, але і мудры мастак, які шмат пабачыў, вынасіў і выгадаваў свае слова на шляхах жыцця, выспеліў думку. Дакладней, чым сказаў аднойчы сам паэт, мабыць, і не скажаш:

Што ж расказаць пра ўласны творчы шлях?
Які там шлях! — няроўная сцяжынка,
Што пачалася ў веснавых палях
І прывяла адразу на дажынкі.

Сапраўды, атрымалася так, што Сяргей Грахоўскі нібыта абмінуў перыяд «пачаткоўства». У большасці твораў з кнігі «Дзень нараджэння» нязмушана ўвасобіліся шчырая і непасрэдная эмацыянальнасць, увага да канкрэтыкі жыцця, ёмістасць паэтычных абагульненняў. Вершы «Мама», «Белыя ліпы», «Народная настаўніца», «Вечны салдат», «Чацвёртая вясна», «Я цябе прыгадаў», «Ноч над Мінскам» — дэманструюць шырыню дыяпазону праблем, якія прыцягваюць увагу паэта, робяцца прадметам яго мастацкага асэнсавання. Нельга не падзяліць перакананне Любові Гарэлік: «Лепшыя яго вершы канца 50-х гадоў і сёння не страцілі свайго эстэтычнага значэння, бо скандэнсавалі ў сабе сапраўдны ўсплёск пачуццяў, музыку і боль душы, настрой і імпрэсію, калі думкі і пачуцці выходзяць за межы асабістага, прыналежнага да лёсу толькі адной асобы». І ўжо ў гэтым зборніку акрэслілася тэматыка, якая будзе дамінаваць ва ўсёй творчасці Сяргея Грахоўскага...

Выключнай шчырасцю напоўнены вершы, прысвечаныя высакароднаму вобразу маці. Спавядальныя радкі гэтых твораў прасякнуты глыбокай пачуццёвасцю, лірызмам і пяшчотай. Думаецца, уменне напоўніць змест твора універсальным сэнсам, праз уласнае, асабістае, закрануць і ўсхваляваць кожнага чытача — адзін з вядучых крытэрыяў таленту мастака. Ці могуць пакінуць абыякавым кагосьці радкі, дзе гучыць такая зразумелая запозненая скруха:

...Прайшлі гады. Мы пасівелі самі,
І, мабыць, крыўдна мне не аднаму,
Што гэтае святое слова «мама»
Цяпер сказаць ужо няма каму.

Вобраз маці ў вершах Сяргея Грахоўскага вельмі шматпланавы. З вялікім спачуваннем паэт дэманструе глыбіню трагедыі жанчыны, што страціла сына на вайне, у вершы «Маці правафлангавага» (1959). Яна паўстае не толькі ва ўсёй духоўнай велічы, сімвалізуючы светаадчуванне ўсіх, каго спаткала на дарозе жыцця гэткая ж бяда, але і ва ўсёй мужнасці сваёй, ва ўсім душэўным харастве і міласэрнасці. Яна ва ўсіх салдатах бачыць свайго ўласнага сына:

Жанчына хустку развязала
І, глянуўшы на ўсе бакі,
На прывітанне адказала:
— Дзень добры, родныя сынкі!

Пераважная большасць вершаў Сяргея Грахоўскага напісана ад першай асобы. І гэта, несумненна, яшчэ адна прыкмета «аўтабіяграфічнасці», жыццёвай выверанасці сюжэтаў і думак. У адным з інтэрв'ю ў паэта запыталі, «жаночыя вобразы прайшлі праз яго жыццё чароўнымі імгненнямі дабрыні

і светласці? Безумоўна, першай ён назваў маці. «...Мне хочацца перш за ўсё расхінуць той куточак душы, дзе заўсёды жыве вобраз маёй маці, Ганны Парамонаўны. Яна прыходзіць ва ўспаміны — вельмі чуллівая, маладая. Яна і памерла маладой, у сорак дзевяць гадоў. Цяпер, калі ў думках вяртаюся ў той далёкі час, разумею, што ўсім, што маю, я абавязаны ёй. <...> Ад маці — любоў да паэзіі. Яна працавала падзёншчыцай, наймалася палоць грады, мыла ў людзей бялізну, а дух яе быў прасякнуты высокім хараством. Такой і помніцца яна. Штодня занятая нялёгкай будзённай працай, але па натуры чалавек незвычайна тонкі, уражлівы». Шчырыя сыноўнія пачуцці паэта сталіся крыніцай яго творчага натхнення, увасобіліся ў пранікнёных радках верша «Размова з маці» (1965):

Яна мяне люляла і лячыла,
Збірала зёлкі, травы і кару,
Яна мяне з маленства навучыла
Так гаварыць, як сёння гавару.

Такою ў памяці і асталася маці,
Калі ішла сцяжынкай за сяло,
Калі збірала збожжа да зярняці,
Каб кожнае сцяблінкай узышло.

Да гэтага дарагога і светлага вобраза Сяргей Грахоўскагі вяртаўся неаднаразова. І кожны чарговы верш — «Пачатак дарогі», «Маці», «Маці не спіць», «Усё ад маці», «Вечная маці», «Сніцца і сніцца маці», іншыя — прасякнуты невымернай удзячнасцю і любоўю да жанчыны, што падарыла жыццё, адкрыла свет. Больш таго, часцінка вобраза маці атаясамліваецца паэтам амаль з кожным жаночым вобразам. Вось, напрыклад, які заклік гучыць у вершы «Плача жанчына»:

Жанатыя і халастыя,
Успамінайце кожны раз,
Што ўсе жанкі крыху святыя,
Што маці нарадзіла вас.

Асэнсаванне ўнутранай прыроды чалавека, матываў, якія кіруюць яго ўчынкамі, імкненне да спасціжэння сутнасці быцця робяцца ў паэзіі Сяргея Грахоўскага ключавымі, вызначальнымі. Мноства вершаў пазначаны выразным лейтматывам «Пра што б ні думаў я, я думаю аб міры, // Аб шчасці і спакоі на зямлі» («Я думаю аб шчасці»). Шэраг філасафічных вершаў, дзе асабісты і агульначалавечы вопыт абагульняюцца, па-мастацку аналізуюцца, надзяляючы радкі глыбокім сэнсам, адначасова ўспрымаецца як мудрыя ісціны і запаветы, спасцігнутыя мастаком у вірлівых варунках эпохі. Паэт нібыта ставіць перад сабою звышзадачу: разабрацца, высветліць, што ёсць зямное шчасце, што робіць чалавека шчаслівым, самадастатковым, гарманічным. І вось такая простая выснова:

Каб сяброў сустракаў клапатлівых
На дарогах далёка ад дому
І каб сам быў заўсёды шчаслівы,
Калі шчасце прыносіць другому.

Гэтая тэма працягваецца і развіваецца ў вершах «Я закаханы...», «Пра шчасце», «Дабрата», «Патрэбен чалавеку чалавек», «Рабінавая цішыня» і інш. Спакваля аўтар падводзіць свайго чытача да высновы, што чалавечае шчасце немагчыма без узаемаразумення, сяброўства, сумленнасці, сардэчнай дабрыні. Нельга аспрэчыць, напрыклад, такое простае, але цалкам справядлівае перакананне паэта: «Бо толькі ў шчодрай дабраце аснова // І шчасця і спакою на зямлі» (Рабінавая цішыня»). Мастак сцвярджае ў сваіх творах спаконвечныя чалаве-

чыя каштоўнасці — павагу да людзей, шчырасць, маральную чысціню, добразычлівасць... Як слушна заўважыў Алег Лойка, «паэзія Сяргея Грахоўскага — гэта перш за ўсё школа выхавання пачуццяў добрых і прыгожых». І, несумненна, для паэта, які шмат год пражыў за межамі Бацькаўшчыны, шчасце не ўяўляецца магчымым без радзімы. Вершаў, прысвечаных радзіме, дарагім сэрцу вобразам прыроды, непаўторным беларускім краявідам, у творчай скарбонцы паэта вялікае мноства. Але далёка не ўсе творы, прыналежныя да названай тэматыкі, заслужылі адэкватную ацэнку.

Даволі часта ў крытычных і літаратуразнаўчых працах Сяргея Грахоўскага называюць летапісцам свайго часу. І сапраўды, у творчасці майстра адбілася амаль усё значнае, складанае і супярэчлівае, што давялося пераадолець яго пакаленню. Зразумела, не пра ўсе з'явы магчыма было сказаць адкрыта і прасталінейна, але, відавочна, што свае ўражанні і пачуцці паэт здолеў увасобіць у мастацкім слове і давесці іх да чытача. Тым не менш Сяргея Грахоўскага часта «дакараюць» некаторымі вершамі, прысвечанымі рэвалюцыйным падзеям, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнам. Часцей за ўсё ў віну мастаку ставіцца, што «трагічную праўду» ён падмяняў «патэтычным услаўленнем гераізму народа», і як прыклад называюцца вершы «Вечны агонь», «Заўсёды ў дарозе», «Бацькі і дзеці», «Беларусь» і іншыя. «Гэтыя вершы, — піша Любоў Гарэлік, — не сталі значным мастацкім набыткам, і не таму, што ў іх услаўляюцца ідэі Леніна, камуністычнай партыі, ідэалы, у якія паэт, бясспрэчна, верыў. Напісаныя без асаблівага творчага гарэння, яны расцягнутыя, шматслоўныя і нагадваюць, хутчэй, зарыфмаваную прозу». Акрамя таго, у даследчыцы выклікае пагарду факт, што паэт «прысягае на вернасць Радзіме, і гатоў аддаць за яе жыццё», а гэтая самая радзіма «аддае на здзек сваіх сыноў, не спрабуючы абараніць іх ад беззаконня і знявагі». Пагадзіцца з гэтым меркаваннем не проста цяжка, а хутчэй, немагчыма. Калі гаварыць пра пафас названых вершаў, то тут выразна выяўлены эмоцыі і пачуцці, вельмі характэрныя, тыповыя для таго часу. Калі б інакш, — ці назвалі б яго гэтым самым «летапісцам»? Літаратуру, якая ствaралася ва ўмовах партыйнага дыктату, разглядаць заканамерна менавіта як грамадскі і эстэтычны дакумент эпохі, тым яна і цікавіць і шараговага чытача, і прафесійнага даследчыка. А што датычыцца «мастацкасці», то нельга не заўважыць, што патрыятычная лірыка Сяргея Грахоўскага пазбаўлена голай рыторыкі, штучнага пафасу і прамоўніцкіх інтанацый. Лірычныя стыхіі пераважнай большасці вершаў — «Вера», «Айчына», «Бацькаўшчына», «Радзіма», «Беларусь» і іншых — бяруць выток з натуральных творчых імпульсаў, іх радкі пластычныя і разняволеныя, прачулыя і мілагучныя:

Беларусь, як шырокая жніўная песня,
Беларусь, як паводка празрыстых крыніц,
Беларусь, Беларусь —
Маладосці прадвесне,
Салаўёў пераклічка і гул навальніц.

І фактычна ў кожным новым творы — штосьці свежае і арыгінальнае, прадметна-канкрэтнае. На шчасце, Грахоўскі ніколі не здраджваў ні сваім эмоцыям, ні прыродзе свайго таленту. Ён пільна і тонка прыкмячаў тое, што не заўсёды заўважаецца намі ў будзённасці, і па-мастацку дасціпна падкрэсліваў хараство і унікальнасць пэўнай з'явы. У вершы «Айчына» гучыць удзячнасць радзіме за «дабрату, і клопаты, і ласку», за «шчодрасць, і суровасць...», але ж нельга інтэрпрэтаваць гэтую думку так прасталінейна, як «ідэалізавана-прыхарошаны падыход да рэчаіснасці», маючы на ўвазе толькі сацыяльна-палітычныя абставіны ў краіне. Паэт, думаецца, укладаў значна больш высокі сэнс у слова «Айчына». Ён перапоўнены ўдзячнасцю да роднай зямлі, якая ўзгадавала



і расхінула перад ім прыгажосць свету, ён перапоўнены ўсведамленнем геранчнага подзвігу суайчыннікаў у дні вайны і сведчыць, што гатовы аддаць усё, каб квітнела, «харашэла і дужэла» радзіма. Справядлівай і аб'ектыўнай ацэнкай творчасці мастака ў цэлым, а патрыятычнай лірыкі ў прыватнасці падаецца меркаванне Міколы Мішчанчука: «С. Грахоўскага жыццё не аднойчы правярала на маральную, духоўную трываласць. Але паэт застаўся верны сваім ідэалам, свайму гуманізму да канца. Мы не знойдзем у яго кніжках «Тры вымярэнні», «Паэма дарог», «Зазімак», «Зачараванасць» крыўдавання на жорсткае стаўленне абставін да паэта, разгубленасці перад імі. Сіла гуманістычнай пазіцыі аказваецца здольнай пераадолець боль, пакуты, паставіць над імі Праўду і Веру. Пафас гуманізму, як аснова асноў паэзіі С. Грахоўскага, становіцца сродкам яе гарманізацыі». Асабліва выразна разуменне Бацькаўшчыны і свае пачуцці да яе Сяргей Грахоўскі вытлумачвае ў вершы «З гадамі маленства здаецца бліжэй...»:

Напэўна б, са светам расстаўся лягчэй,
Каб тых не запомніў кастроў і начэй,
Каб дзічкі вясной на мяжы не цвілі,
Каб песень купальскіх не чуў аніколі,
Каб жытам не пахла дaспелае поле,
Каб так не любіў беларускай зямлі.

Ці не гэтая адданая любоў да радзімы вымушае паэта ўсё часцей звяртацца да асэнсавання свайго ўласнага прызначэння, сэнсу мастацкай творчасці? Тэма паэта і паэзіі, несумненна, хвалявала і непакоіла мастака з першых літаратурных крокаў. Усведамленне магутнай сілы слова — «Ад слова вырастаюць крылы, // І ў сэрцы стукае любоў...» («Словы»), разуменне адказнасці за сваю справу — «Каб у надзённай нашай прозе // Здабыць паэзіі святло» («Дакор сабе») былі натуральнымі чыннікамі светапогляду Сяргея Грахоўскага. Працаваць на карысць сваёй радзімы, быць патрэбным грамадству — імкненні, якія навідавоку ў творах паэта. Часам з-пад яго пяра выходзілі вершы, дзе аўтар дэманстраваў незадаволенасць сваёй творчасцю, дзяліўся з чытачом сумненнямі і роздумамі — ці здольны ён да «сапраўднага мастацтва», ці мае сэнс яго занятак... Цікава тое, што ў вершы «Прафесія» паэт разважае пра ўласную творчасць з непрыхаванай усмешкай, а самаіронія, як вядома, падуладная далёка не ўсім людзям, часцей асобам, надзеленым талентам і інтэлектам.

Бо кожны дзень усё раблю спачатку,
Бо пачынаю з нулявога цыкла,
І ўжо даўно сама рука прывыкла
Выкрэсліваць, сціраць і бракаваць.
Выходзіць —
мне ў падмайстрах звекаваць.
Наўрад ці напішу раман ці п'есу,
Таму зайздрошчу майстру лесу.

Выключна высокая і ганаровая місія мастацкага слова асэнсоўваецца паэтам на працягу ўсёй творчасці. Дыяпазон эмоцый, якімі пазначаны гэтыя творы, надзвычай шырокі. Публіцыстычным гучаннем, бадзёрым аптымізмам напоўнены вершы «Быць паэтам» і «Мой чытач», філасофскім роздумам — вершы «Паэт» і «Мне дзве каханыя спакою не даюць», прачуласцю інтанацый — «Свет паэта» (прысвечаны Петрусю Броўку), ледзь прыкметнай іроніяй — «Каб пісаліся вершы», з'едлівым сарказмам, востра-сатырычным гучаннем — цэлы цыкл вершаў-мініяцюр «Вучоны флюгер», «Тонкі густ», «Яго тэматыка», «Творчая размова», «Што ты робіш?» і інш. А вось тыя імпульсы, што кіруюць мастакоўскім пяром Сяргея Грахоўскага, сама, так бы мовіць, «тэхналогія творчасці» даволі выразна відаць у вершы «Натхненне»:

Як боль Зямлі, як пыл сусвету,
Даходзяць гукі да душы,
І голас ісціны паэту
Ужо загадвае: «Пішы!»

Сціскае сэрца боль пякучы,
Пранізвае і слепіць ток,
І падаеш у бездань з кручы,
Каб першы адшукаць радок.

Роздум аб прызначэнні мастацтва слова, развагі аб маральных крытэрыях, якімі павінен кіравацца творца, нібыта дэманструюць, як пільна паэт «углядаецца» ў рэчаіснасць, заўважае новае, аналізуе перажытае, паступова выспельваючы новыя мастацка-вобразныя рашэнні. 70-я — пачатак 80-х гадоў сталіся ў творчасці Сяргея Грахоўскага этапам пераасэнсавання пройдзенага шляху, перыядам своеасаблівага падвядзення рахункаў. Яго творы, прыналежныя да гэтага часу, пераконваюць у справядлівасці вядомага ў літаратуразнаўстве меркавання пра актыўную ролю ў мастацтве гуманістычнай ідэі як асноўнага фактару яго гарманічнасці і праўдзівасці. «Калі відзён ужо канец дарогі, // Ты сам сабе суддзя і пракурор», — заявіў аўтар у вершы «Прызнанне сабе». Відавочна, паэта ўсё менш задавольвае адлюстраванне свету, якое адбываецца найперш праз вобразна-эмацыянальнае выяўленне. Філасафічнасць твораў Грахоўскага заўважна ўзмацняецца, дэманструе новыя грані арганічнага таленту мастака. Эвалюцыйныя змены, цалкам натуральныя і зразумелыя, адбываюцца і з лірычным героем. Большасць твораў паэта, як вядома, пазначана выразнай аўтабіяграфічнасцю. І хаця немагчыма лірычнага героя поўнасцю ідэнтыфікаваць з аўтарам, ледзь не ва ўсіх вершах у постаці персанажа яскрава бачыцца і характар, і светапогляд, уласцівы творцу. Жыццёвы вопыт, сталасць, не ў малой ступені духоўная загартаванасць — прыкметы, якія характарызуюць героя Грахоўскага гэтага перыяду. Філасафічнасць пошукаў абумоўлена імкненнем паэта пранікнуць у духоўную прыроду чалавека, адшукаць тое галоўнае, што з'яўляецца надзейным апірышчам для асобы ў няпростых варунках лёсу. Высокая патрабавальнасць да сябе і сваёй працы і, галоўнае, дакладная мэта, якой кіруецца мастак, — лепшыя спадарожнікі і стымулы для паэта. Нібыта адгортваючы новую старонку ў сваёй творчасці, у вершы «Сівая маладосць» (1975) Сяргей Грахоўскі адзначае:

І ў нас увосень скроні заінелі,
Але ў душы яшчэ надзея ёсць
Зрабіць усё, што ўчора не паспелі,
Хоць і прыйшла сівая маладосць.

Бо верым — для натхнення і дабра
Настала зорнай восені пара.

Яго «зорная восень» адкрываецца зборнікам «Кругі надзеі», дзе навідавоку новыя прыкметы і якасці паэзіі майстра. Гэты «лірычны дзённік» увабраў перажыванні аўтара за неспакойны час, роздумы пра этыку ўзаемаадносінаў у грамадстве, развагі і думкі пра будучыню, якая чакае чалавецтва. Мастацкія вобразы многіх вершаў надзелены вялікай доляй сімвалічнасці і глыбокім сэнсам. Так, напрыклад, надзея на мірны і спакойны працяг жыцця, на «мудрасць і сумленне на Зямлі» персаніфікуецца ў вершы «Працяг» праз вобраз «маладзенькай маці», у вершы «Абаронцы» — праз вобраз маленькага ўнука. Сцвярджэнне ўсепераможнай сілы дабрыні і прыгажосці ўвасоблена ў вершы «Верасовы цвет» у змястоўным і ёмістым радку «За пагоркам зазімак, а верас цвіце». Але мастакоўская манера пісьма, сталыя прыкметы творчай індывідуальнасці Сяргея Грахоўскага застаюцца нязменнымі: простая і даходлівая думка, лаканічная фраза, вобразная эстэтыка, лагічны і празрысты сюжэт, лірычная мелодыка, шчырасць інтанацый...

Крытыка па-рознаму ацэньвала творчую манеру Грахоўскага. Зразумела, у кожнага даследчыка — свой густ, сваё разуменне «як трэба пісаць». І таму, думаецца, пэўная суб'ектыўнасць у гэтых меркаваннях — з'ява абсалютна натуральная і заканамерная. Так, напрыклад, Рыгор Бярозкін сцвярджаў: «Гавару пра недахопы Сяргея Грахоўскага рэзка, мо і занадта рэзка, бо ведаю, колькі добрых вершаў ёсць у гэтага цікавага паэта. Пазбыцца б яму толькі павярхоўнасці і рэзанёрства, унутранай несвабоды, схільнасці «выкладаць» аздобленае словам пачуццё там, дзе трэба жыць гэтым пачуццём у самім вершы, у самім слове...». Ды толькі насуперак гэтай заўвазе, паэзія Грахоўскага кранала і хвалявала чытача, прываблівала менавіта шчырасцю пачуццяў. Надзвычай паказальнай тут з'яўляецца невялікая замалёўка з кнігі Фёдара Янкоўскага «Радасць і боль». Аўтар расказвае, як у яго гасцявалі сваякі з Палесся, ды, убачыўшы на паліцах кніжкі свайго земляка — Сяргея Грахоўскага, — пачалі іх гартаць, чытаць вершы... І вось рэпліка аднаго з удзельнікаў гэтай сітуацыі, якую мовазнаўца перадае вельмі дакладна, без зменаў лексікі: «Чытаю — то як слухаю разумнага з разумных і дарагога з дарагіх. Мы не якой там высокай навукі. Прачытаць — прачытаем і пісьмо напішам ці якую заяўку. А гэтакае, што піша Сяргей? То яно — усім-усім! І такім, што вучаць, і такім, што самі людзям кніжкі пішуць» . Так што, думаецца, самую аб'ектыўную ацэнку творчасці паэта далі яго чытачы. Такім чынам, выходзячы на новыя абсягі, асвойваючы новыя тэмы і вырашаючы новыя праблемы, Сяргей Грахоўскі застаецца верным сваёй творчай манеры. А на заўвагі крытыкаў, якія патрабуюць то іншай вобразнасці, то глыбейшай пачуццёвасці, ён адгукаецца вершам «Навошта я пішу», як звычайна, простым і змястоўным па сутнасці:

А я ўсё ж яшчэ пішу,
Магчыма, часам і грашу
Тварэннем не метафарычным,
Не надта бойкім і не зычным,
Але ніколі не схлушу,
І, можа, нечыю душу
Сагрэю хоць не надта новым,
Але сумленным, шчырым словам...

Вельмі сімвалічнай падаецца назва зборніка вершаў Сяргея Грахоўскага «Веру». У асэнсаванні складаных праблем, імгненнасці жыцця і вечнасці, залежнасці асобы ад абставін, устойлівасці спрадвечных традыцый маралі і інш., актывізуецца мастацкая думка паэта, лірычныя матывы ўзвышаюцца да ўзроўню актуальных філасофскіх абагульненняў, паглыбляецца гістарызм мыслення. У што ж «веруе» аўтар? Ён тлумачыць: «Веру ў шчасце, толькі ў праўду веру, // У тую праўду, што ў вочы рэжа»... Так, большасць твораў з гэтай кнігі пазначана верай у мудрасць чалавецтва, у яго інтэлект і духоўную веліч. А вось катэгарыч-

нае адмаўленне ў вершах атрымліваюць такія заганныя якасці, як «пустазвонства» («Новая фармацыя»), раўнадушша («Страчаны друг»), прыстасавальніцтва («Ён ужо не ён») і іншыя.

Асобнай увагі ў зборніку «Верую» заслугоўвае нізка мініяцюр «Пацеркі». Клопаты і перажыванні паэта, яркія ўражанні і адкрыцці, добрыя парады і арыгінальныя эпіграмы, накіраваныя на выкрыццё негатыўных праяў жыцця, склалі цыкл гэтых лаканічных вершаў. Цікава тое, што фактычна ўсе ісціны, якія тут адкрываюцца, нібыта ўжо зусім не новыя, даўно вядомыя. Ды толькі сфармуляваныя з мастацкім досціпам і густам, заключаныя ў рацыянальную рамку формы, яны набываюць значна больш выразны сэнс, аказваюць моцнае ўражанне...

Усіх адною меркаю не мерце,
Што з намі і за намі ўслед ідуць.
Адны памруць адразу пасля смерці,
Другія на стагоддзі ажывуць.

У гэтай кнізе добра бачыцца з'яўленне новых штрыхоў у почырку мастака. Яго паэзія ўбірае ў сябе магутныя пласты народнага вопыту, напаўняецца заўважнай экспрэсіяй, дынамікай, многім вершам уласціва палемічнае гучанне. У адной з рэцэнзій на зборнік было заўважана: «Кніга «Верую» — этап у творчасці Сяргея Грахоўскага ў пошуку таго запаветнага радка, «патрэбнага Беларусі». Вынікам гэтых пошукаў робяцца чарговыя кнігі...

Сацыяльна-палітычныя працэсы, якія адбываюцца ў краіне ў канцы 80-х гадоў XX стагоддзя, надаюць новы стымул творчаму плёну Сяргея Грахоўскага. Увачавідкі назіраючы, як паўплывала перабудова на грамадства, паэт імкнецца занатаваць у мастацкім слове і свае ўражанні ад сучаснасці, і спрабуе асэнсаваць складанае, як высветлілася, такое шматстайнае жыццё, і змушаны чарговы раз азірнуцца назад, глянуць на мінулае. У 1988 годзе ён выдае зборнік вершаў і паэм «І радасць і боль», які адразу выклікаў шырокі грамадскі рэзананс. «Гэта самая тонкая з усіх ранейшых паэтычных кніжак Сяргея Грахоўскага, але, мабыць, самая прыкметная і важкая ў творчай біяграфіі паэта. У ёй нямала новага, больш смелага, адкрытага пра ранейшае жыццё самога аўтара і яго таварышаў, незаконна пакараных у гады культу асобы», — пісала Марына Барсток. Сапраўды, для тых, што так доўга «маўчалі», адкрытая перабудоваю «свабода галоснасці» і «плюралізм меркаванняў» сталіся глытком паветра. Гэта ўжо крыху пазней паэтаў зноў пачалі абвінавачваць, што залішне аптымістычнымі вершамі сустрэлі «новую рэвалюцыю», што не ўсё як след узважылі і асэнсавалі, карацей, зноў паспяшаліся... А для іх, якія ўсё жыццё былі зняважаныя і заплямленыя, неслі боль сваіх страт, пакут і прыніжэнняў доўгія дзесяцігоддзі, не маючы магчымасці нават шчыра расказаць пра тое, што зведалі, так званая «галоснасць» дарагога каштавала. Для мастака слова сведчанне, што гучыць паводле Грахоўскага «жыву бядой і радасцю народа і, што падумаў, тое гавару» («Прагноз»), з'яўляецца першачарговым. Дарэчы, беспадстаўным аптымізмам Сяргей Грахоўскі якраз «не захварэў». Ён з адчувальнай заклапочанасцю назіраў за тым, што прыстасаванцы і кар'ерысты пачуваліся даволі ўтульна і ў «новым часе» («Забаронца»), што пачуццё статкавасці, хваравітай «супольнасці» ўласціва і прадстаўнікам «новай фармацыі» («Аднагалоснасць», «Упэўненасць»), ды і ўсё тое негатыўнае, заганнае, што заўсёды існавала ў людскім асяроддзі — зайздрасць, здрадніцтва, плёткарства — гэтаксама засталося «на месцы» («Добрае слова»). Але надзея на лепшае, на стваральныя вынікі перабудовачнага руху пульсуе ў вершах мастака:

Не, расхлябаем лайдакам назло,
І ўсё паправіць наша пакаленне,
Бо кожнай рэвалюцыі залог —
Адвага, Праца, Праўда і Сумленне.

У гэты час, калі былым палітвязням выдалася магчымасць выказацца, Сяргей Грахоўскі гэтаксама змушаны «вярнуцца» ў былое. Так, менавіта змушаны. Бо мінулае адкрывае старыя, незагойныя раны, «што ўсё яшчэ крсватачаць», прыносіць невыносныя пакуты. Але паэт ізноў пайшоў па лагерных шляхах у паэме «Балючая споведзь» і павёў па «казённых» дарогах сваіх чытачоў...

Спытаеце: «Ці не кляпаеш?
Навошта тая даўніна?»
Не, калі крыўду не зламаеш,
Цябе зламае зноў яна.

Паэма расхінае старонкі жыцця аўтара і тысяч яму падобных, ні ў чым не павінных людзей, і паўстаюць жудасныя карціны лагера... Зацкаваныя аўчаркамі, змораныя працаўнікі, «што на пагрузцы падстаўлялі пад шпальнік сцёртыя маслы», яны пілуюць лес у люты мароз, калі «снег і душу, і твар сячэ», і паміраюць за работай. А смерць там, у лагеры, выклікала пачуццё зайздрасці да тых, хто спісваецца з брыгады «ў лепшы бесканвойны свет». Паэма аказвае грандыёзнае эмацыянальнае ўздзеянне на чытача, узрушае да глыбіні душы. Унутраны свет мастака, яго асабістыя перажыванні, — як слушна адзначыў Мікола Арочка, — тут «арганічна зліты з эпічным, публіцыстычным, радкі поўныя пачуцця і думкі, іх хочацца цытаваць, чытаць уголас». Імкненне засцерагчы нашчадкаў ад паўтарэння жахлівай мінуўшчыны вымушае паэта «выпростваць душу», яно водзіць яго пяром. Напрыканцы твора аўтар заяўляе:

Перагартаўшы памяць зноўку,
Для шчасця ўнукаў і сыноў
Не змоўк раней я і не змоўкну,
Каб час той не вярнуўся зноў.

Распачаўшы гэтую тэму, развярэдзіўшы сваю балючую памяць, Сяргей Грахоўскі не адыходзіць ад «лагернай» тэмы, — вельмі ж многае згадваецца, успаміны не даюць спакою. Такім чынам, «зорная восень», што пачалася кнігаю «Кругі надзеі», паступова схілілася да «позняй восені», якая апладніла творчыя набыткі мастака зборнікам аповесцей і вершаў «Споведзь». Безумоўна, гэтая назва адразу дае магчымасць зразумець, пра што пойдзе гаворка... Азіраючыся на пройдзеныя за жыццё шляхі і дарогі, узважваючы набыткі і страты, у прадмове да «Споведзі» аўтар заўважае: «Я пасціў дваццаць гадоў перад споведдзю. І вось настала пара маёй позняй восені, пара шчырай споведзі, бо зазімак стукае ў дзверы, а халодная кароткая вясна маіх няспраўджаных летуценняў прамільгнула даўно і незваротна». Прызнанні, якімі дзеліцца Сяргей Грахоўскі са сваімі чытачамі, — гэта шквал абвостраных эмоцый, выкліканых асэнсаваннем трагедыі асобы ў віхуры бурлівай эпохі. Аўтар шчыра прызнаецца, што страх дагэтуль не пакідае яго («Колішні страх», «А ён яшчэ жывы»), у памяці па-ранейшаму жывуць сябры, што заўчасна развіталіся з жыццём («Вечная памяць»), а ў кашмарных снах бачацца турэмныя засценкі («Прарочыя сны»). Перад вачыма паэта паўстаюць твары бяздушных катаў, якія нішчылі сумленных людзей, калечылі чалавечыя лёсы. Ён не можа забыць і таго суддзю, які калісьці яго, «ні ў чым не вінаватага», адправіў па этапах. Да гэтага, «нічым не мечанага», шараговага служкі «закону» паэт звяртаецца ў вершы «Майму суддзю»:

І не хавайце вочы,
Відаць, хто вы такі...
Скажыце, вас уночы
Не будзяць мерцвякі?

У зборнік «Споведзь» увайшлі і празаічныя творы. Дакументальна-мемуарныя аповесці «Зона маўчання» і «Такія сінія снягі» разгортваюць перад чытачом эпічныя карціны змрочнага лагернага быту. Пра сваіх сяброў, «заплямленых страшэнным таўром 58-й пробы», пра духоўныя пакуты, якія перажывалі гэтыя сумленныя людзі, пра нечалавечую працу ў страшэнны сібірскі мароз ідзе гаворка ў гэтых творах. Чытаючы аповесці, нельга не адчуць, як важна было для Грахоўскага расказаць усю праўду пра лёс годных людзей, без віны вінаватых «ворагаў народа», з якімі дзяліў і кавалак хлеба, і балючую роспач, і светлую надзею... Пісьменнік дзеліцца падрабязнымі ўспамінамі пра жыццё ў зняволенні Сяргея Дарожнага, Уладзіміра Мяжэвіча, Юрыя Такарчука, Васіля Шашалевіча і іншых людзей, якія не скарыліся абставінам, не заплямілі сваіх імёнаў ні здрадай, ні подласцю, пакінулі свет з чыстымі душамі. З'яўляючыся непасрэдным сведкам тых жахлівых падзей, Сяргей Грахоўскі надзвычай добра разумеў, што афіцыйныя звесткі, якія робяцца вядомымі шырокаму грамадству, даволі часта не адпавядаюць рэальнаму стану рэчаў. Гаворка тут ідзе не толькі пра жыццё за дротам, а нават пра абставіны гібелі сяброў. Так, напрыклад, як у «апошнім дакуменце» Сяргея Дарожнага быў зроблены запіс, што памёр ён ад запалення лёгкіх. «Пелагру, дыстрафію, поўнае знясіленне ў лагерных актах аб смерці пераймяноўвалі на больш прыстойныя дыягназы — пнеўманія, сардэчная недастатковасць, рак або язва», — заўважыў пісьменнік у аповесці «Зона маўчання». За падобнымі запісамі, безумоўна, нельга было разгледзець тыя нечалавечыя выпрабаванні, якія выпалі на долю гаротных пакутнікаў эпохі. Таму Грахоўскі свядома імкнуўся распавесці ўсё, што ведаў і бачыў. Ён належаў да тых, «што пранеслі цяжкі крыж, каб сведчыць пра здзекі, знявагі чалавечай годнасці, пра масавае знішчэнне лепшых, сумленнейшых сыноў і дачок краіны, за волю і шчасце якой гінулі многія пакаленні самаахвярных летуценнікаў і волатаў духу».

Сяргей Грахоўскі прайшоў доўгі жыццёвы шлях. Ён на сваім уласным вопыце зведаў кошт сяброўскай падтрымкі, добрага чалавечага слова і шчырай парады. У зборнік «Так і было» ўвайшлі ўспаміны, артыкулы і эсэ пісьменніка пра людзей, з якімі пашчасціла мець знаёмства, пра тых, хто пакінуў у яго душы светлую памяць. Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Міхась Чарот, Тодар Кляшторны, Уладзімір Дубоўка, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Лукаш Калюга і яшчэ мноства таленавітых і сумленных мастакоў слова згадваюцца аўтарам са словамі сардэчнай удзячнасці за сяброўства, за своеасаблівыя ўрокі жыцця і творчасці. Многія з іх моцна паўплывалі на яго светапогляд, на саму творчую манеру. Так, напрыклад, у артыкуле «Іскрынкі памяці» Сяргей Грахоўскі расказвае пра заўвагу, зробленую яму калісьці Купалам. Малады паэт вельмі хацеў пачуць ацэнку сваёй творчасці ад сталага аўтарытэтнага майстра, безумоўна, спадзеючыся на пахвалу. Янка Купала выказаўся, як звычайна, вельмі шчыра: «Пакуль чытаў твой верш, ну ж і накульгаўся, не раўнуючы, па шпалах сігаў і ўсё з нагі збіваўся. Навошта так ламаць радок? Зірні, якім празрыстым і зразумелым стаў Маякоўскі ў канцы. Праўда, чым прасцей, тым цяжэй. Дарма, перахварэеце і гэтым адзёрам». Ці не гэтая парада прымусіла Грахоўскага імкнуцца ў творчасці да «свайго» радка — простага, дакладнага, напоўненага пачуццём і сэнсам? Так ці інакш, але агульны змест творчасці мастака слова — гэта надзвычай цікавы, даверлівы і шчыры дыялог з чытачом. Тут можна пачуць вычарпальныя адказы ледзь не на ўсе пытанні, што найбольш цікавяць нас, тут навідавоку асэнсаванне актуальных праблем нашага жыцця. І, несумненна, аднойчы распачаўшы дыялог з паэтам, чытач зноў і зноў будзе шукаць сустрэчы з гэтым мудрым словам, чарговы раз перагортваць старонкі кніг, каб наталіцца жыццялюбствам і аптымізмам Сяргея Грахоўскага, яго верай у духоўную веліч чалавека.

**Пра паэзію С. Грахоўскага пісалі:**

Арочка М. Час праўды // Літаратура і мастацтва. 1987. 10 ліпеня.
Асташонак Л. В. Талент чалавечнасці // Беларуская мова і літаратура. — 1998. — № 4.
Баравікова Р. З верай у дабро людское // Беларусь. — 1983. — № 9.
Баравікова Р. Святло таемнай зоркі // Работніца і сялянка. — 1993. — № 9.
Барсток М. Дыханне часу // Літаратура і мастацтва. 1978. 3 сакавіка.
Барсток М. Балючая споведзь // Полымя. — 1989. — № 3.
Бур'ян Б. Так сэрца падказала // Полымя. — 1988. — № 8.
Бярозкін Р. Паэзія — маё жыццё. — Мн., 1989.
Васілевіч А. Паэт у дарозе // Работніца і сялянка. — 1983. — № 9.
Вітка В. Паэзія жыццёвых дарог / Грахоўскі С. Выбраныя тв. у двух тамах. — Мн., 1983. — Т. 1.
Гарэлік Л. «Люблю ўсе колеры жыцця...»: Жыццё і творчасць Сяргея Грахоўскага // Роднае слова. — 1993. — № 9. — С. 3 — 10.
Гарэлік Л. Пропаведзь дабра // Полымя. — 1994. — № 2. — С. 228 — 240.
Гілевіч Н. Сталасць думкі, маладосць душы / У кн.: У гэта веру. — Мн., 1978.
Звонак А. Адчуванне вышыні // Полымя. — 1973. — № 9.
Лойка А. У вечным падарожжы // Грахоўскі С. Вершы. — Мн., 1968. — С. 8.
Мішчанчук М. Святло яго душы // На высокай хвалі. Літ.-крытыч. артыкулы. — Мн., 1980. — С. 57 — 77.
Скрыган Я. Адданасць // Літаратура і мастацтва. 1985. 23 верасня.
Янкоўскі Ф. У гасцінах // Янкоўскі Ф. Радасць і боль: Апавяданні, навелы, мініяцюры. — Мн., 1995.
Яскевіч А. Голас сэрца // Маладосць. — 1959. — № 2.

***Аўтар матэрыялаў Лада Алейнік.***
***Падрыхтоўка твораў С. Грахоўскага Л. Галубовіча.***





Анатоль МЯСНІКОЎ

# САЦЫЯЛІЗМ ПА-ШВЕДСКУ

## Замест уступу

Гэта параўнальна невялікая краіна ўжо шмат гадоў займае ў свеце даволі прыкметнае становішча. Адносіцца гэта і да эканомікі, і да палітыкі, і да сацыяльнай сферы... На сусветным гандлёвым рынку прадукцыя са шведскай маркай вызначаецца якасцю, надзейнасцю, дакладнасцю і трываласцю. У палітычным жыцці ініцыятывы, ідэі і прапановы Швецыі, як правіла, набываюць не толькі шырокі грамадскі рэзананс, але і вельмі часта становяцца, так бы мовіць, стартавай пляцоўкай для распрацоўкі і прыняцця важных і вялікіх сусветных і агульнаеўрапейскіх акцый і мерапрыемстваў. Інакш кажучы, выразы кшталту «шведскі вопыт», «шведская мадэль», «шведская ініцыятыва» і іншыя не толькі пастаянна з'яўляюцца ў сродках масавай інфармацыі, але і напаўняюцца канкрэтным — карысным, павучальным і патрэбным сусветнаму супольніцтву — зместам.

«Шведская мадэль» жыцця ва ўсіх сферах дзейнасці чалавека сфарміравалася ў асноўным за апошнія паўстагоддзя. Для гісторыі гэта не такі ўжо і вялікі адрэзак часу. Аднак менавіта за 50 гадоў краіна, насельніцтва якой каля 9 мільёнаў чалавек (фактычна, як і ў Беларусі!), выйшла па ўзроўні жыцця народа на адно з першых месцаў у свеце.

Прыроднымі рэсурсамі Швецыя валодае не надта багатымі і вялікімі. Чаго ўдосталь — дык гэта лесу: не раўнуючы як у нас, у Беларусі. Больш чым дастаткова і воднай энергіі, якая, як і лес, выкарыстоўваецца спаўна і з максімальнай аддачай. З карысных выкапняў больш-менш дастаткова толькі жалезнай руды. Аднак, дзякуючы ўмеламу вядзенню гаспадаркі, ашчаднаму выкарыстанню наяўных і прывезеных рэсурсаў, прыроджанаму працалюбству людзей і да драбніц прадуманай сістэме падрыхтоўкі і выкарыстання патрэбных мясцовай гаспадарцы кадраў, шведы змаглі дасягнуць таго, што іх дзяржава нават сярод самых развітых дзяржаў еўрапейскага кантынента вызначаецца дабрабытам народа, яго сацыяльным забеспячэннем.

Падчас нашага знаходжання ў краіне пры першым жа выпадку шведы не праміналі адзначыць, што з усіх прамыслова развітых дзяржаў Еўропы іх краіна мае самы буйны дзяржаўна-камунальны сектар, самыя высокія падаткі, самыя

---

*__Мяснікоў Анатоль Фёдаравіч__ нарадзіўся 15 ліпеня 1950 года ў вёсцы Шмідзельшчына Талачынскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі і аспірантуру Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у «Чырвонай змене», зараз — у «Звяздзе».*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук.*

*Аўтар кніг публіцыстыкі «Нацдэмы», «Айчыны верныя сыны», «Дзеля гэтага варта жыць...», пяці манаграфій.*

нязначныя адрозненні ў памерах заработнай платы, а таксама — моцныя прафесіянальныя саюзы. Пры ўсім гэтым Швецыя павінна была б несці выдаткі і страты ад вострага прыступу «еўрасклерозу» з яго жорсткім рынкам працы і нягнуткай прамысловасцю... Атрымліваецца ж наадварот: замест эканамічных і сацыяльных узрушэнняў і выняткаў у краіне шмат буйных і жыццядзейных кампаній плюс самы нізкі ўзровень беспрацоўя на нашым кантыненце.

Амаль 9 мільёнаў шведаў — гэта ўсяго толькі каля 0,2 працэнта насельнікаў Зямлі. Аднак на іх долю ў сусветнай вытворчасці прыпадае 1 працэнт прадукцыі, а ў сусветным гандлі — 2 працэнты. У большасці галін краіна знаходзіцца на самым высокім узроўні развіцця. На душу насельніцтва вось ужо на працягу 20 апошніх гадоў тут налічваецца больш прамысловых робатаў, чым у любой іншай дзяржаве. Уплывовы амерыканскі інстытут Брукінгса ў сваіх даследаваннях з году ў год вымушаны прызнаваць, што шведская прамысловасць нават больш устойлівая да знешніх узрушэнняў, чым эканоміка саміх Злучаных Штатаў Амерыкі і Японіі.

Неад'емнымі часткамі «шведскай мадэлі» развіцця з'яўляюцца таксама шырока развіты і выключна дасканалы кааператыўны рух, сацыяльны кампанент, разгалінаваная сістэма дэмакратычных дзяржаўных і грамадскіх інстытутаў... Да апошніх, у прыватнасці, у першую чаргу адносяцца прафсаюзы і Сацыял-дэмакратычная рабочая партыя краіны.

## СДРП Швецыі: клопат аб чалавеку — на першым плане

У 2004 годзе Сацыял-дэмакратычная рабочая партыя Швецыі адзначыла 115-гадовы юбілей. Дарэчы, яна — адна з самых сталых на кантыненце. Да чарговай знамянальнай даты партыя падышла як самая ўплывовая ў краіне палітычная сіла, што мае ў народзе трывалую і надзейную падтрымку і разуменне.

Літаральна з самага пачатку свайго існавання партыя шведскіх сацыялістаў-дэмакратаў пачала абапірацца на прафсаюзны рух. З сямідзесяці арганізацый, якія ў далёкім 1889 годзе былі прадстаўлены на першым устаноўчым з'ездзе СДРПШ, пяцьдзесят былі прафсаюзнымі. І надалей, ажно да цяперашняга часу, партыя самым цесным чынам звязана з рабочым класам і народным рухам. А гэта, у сваю чаргу, накладвае адбітак і на мэты сацыял-дэмакратаў, і на іх практычную праграму, у якой у якасці галоўнай задачы вызначана пастаяннае і няўхільнае імкненне да паляпшэння ўмоў жыцця працоўных, іх сацыяльнай абароненасці ў рамках існуючага дзяржаўнага ўладкавання.

Думаецца, нялішнім будзе згадаць тут некаторыя этапы станаўлення і развіцця дзейнасці партыі шведскіх сацыялістаў-дэмакратаў.

Першыя 40 гадоў (вось гэта настойлівасць і вытрымка!) партыя рабочых Швецыі вяла сапраўдную нястомную барацьбу за дэмакратыю, дэмакратычныя правы народа і ў першую чаргу — рабочага класа. Ужо ў 1918-м яна дабілася адной з асноўных заваёў — усеагульнага і роўнага выбарчага права. Яшчэ ж праз год у краіне быў прыняты закон аб васьмігадзінным рабочым дні. У трыццатыя гады мінулага стагоддзя Сацыял-дэмакратычная партыя Швецыі робіць так званы «палітычны прарыў»: пачынаецца ажыццяўленне цэлага шэрага сацыяльна-эканамічных рэформаў. Сярод галоўных з іх — зацверджаная ў 1933 годзе сумесна з прадстаўнікамі існаваўшай тады сялянскай партыі «крызісная» праграма барацьбы з беспрацоўем і яго вынікамі.

Вось ужо некалькі гадоў нашы сродкі масавай інфармацыі запоўнены-перапоўнены сцвярджэннямі і «запэўніваннямі» ў тым, што нязменным спадарожнікам рынкавай эканомікі і на Захадзе, і ў постсавецкіх краінах з'яўляецца і будзе з'яўляцца беспрацоўе. Не палемізуючы з прыхільнікамі і «аматарамі» такіх перакананняў, зададзім тут толькі адно, у пэўнай меры рытарычнае, пытанне: а чаму ж практычна няма такіх «спадарожнікаў» у Швейцарыі, Бельгіі, Галан-

дыі, той жа Швецыі — у краінах, дзе мне давялося бываць апошнім часам?! А адказ у агульных рысах намі «знойдзены» адзін і той жа: у гэтых дзяржавах эфектыўна і надзейна рэгулюецца занятасць насельніцтва, ажыццяўляецца шырокая і гнуткая дзяржаўная палітыка ў сферы рынку працы.

Для рэгулявання занятасці насельніцтва сацыял-дэмакраты Швецыі прапанавалі і стварылі спецыяльныя механізмы. У прыватнасці, дзяржаўны орган — Упраўленне рынку працы, у састаў якога ўваходзяць прадстаўнікі рыксдага (парламента), прафсаюзаў і буйнейшых кампаній, займаецца працаўладкаваннем у межах праграм па стварэнні рабочых месцаў, прафесіянальнай падрыхтоўкай і асабліва — перападрыхтоўкай работнікаў з улікам патрэб у кадрах больш высокай кваліфікацыі. І ў гэтым адна з прычын таго, што шведы так высока цэняць працу! Менавіта дзякуючы прадуманай і дакладна ажыццявімай дзяржаўнай палітыцы, беспрацоўе ў краіне нават у крызісныя 80-я гады XX стагоддзя не перавышала 2 працэнтаў ад агульнай колькасці насельніцтва.

Дарэчы, праблемы працаўладкавання — найперш моладзі — не-не ды і непакояць кіраўнічыя структуры краіны. Аднак іх вырашаюць спакойна і ўпэўнена. Прадпрыемствы, што маюць намер запрасіць да сябе маладых спецыялістаў, атрымліваюць ад дзяржавы датацыі: на рэгуляванне занятасці насельніцтва асігнаванні з дзяржаўнага бюджэту ў некаторыя гады дасягаюць 9 працэнтаў ягонага агульнага памеру!

Такой жа важнай вяхой у дзейнасці сацыял-дэмакратычнай партыі стала правядзенне рэформы пенсіённага забеспячэння: ад закону аб «народных пенсіях» (так у Швецыі называюць пенсіі па ўзросце, якія, дарэчы, атрымліваюць усе без выключэння жыхары краіны) — да ўвядзення дадатковых пенсій рабочым і служачым. У Швецыі яны атрымалі назву АТП.

Кажуць, аб здароўі таго ці іншага грамадства мяркуюць перш за ўсё па тым, як яно ставіцца да дзяцей і старых. Дык вось, калі гэта насамрэч так, то Швецыя — выключна здаровая нацыя! Узровень сацыяльнай абароны тых жа дзяцей даволі значны: тут і бясплатныя сняданкі, і падручнікі для школьнікаў, і штогадовыя дапамогі на кожнае дзіця, і пастаянныя грашовыя выплаты бацькам... Што ж датычыцца людзей сталага веку, то і яны маюць «сацыяльны дах» над галавой. Прычым большасць з іх маюць магчымасць атрымліваць як мінімум дзве пенсіі: асноўную — па старасці, незалежна ад ранейшай працоўнай дзейнасці; і дадатковую — за выслугу гадоў. Іх агульная сума складае да 80 працэнтаў ранейшага заробку. Праўда, пенсійны ўзрост у Швецыі некалькі вышэйшы, чым у нас, — 65 гадоў, а вось для атрымання дадатковай службовай пенсіі трэба мець не такі ўжо і вялікі працоўны стаж — не менш як 30 гадоў.

Адкуль жа, цікавіліся мы ў многіх субяседнікаў, бяруцца сродкі на назапашванне фондаў для дадатковых пенсій? Высветлілася, што складаюцца яны з узносаў, якія работадаўцы абавязаны штомесяц адлічваць на кожнага працаўніка. Прычым у банках краіны гэтыя грошы не ляжаць мёртвым капіталам. Яны, па-першае, «даюць» працэнты, па-другое, частку гэтых сродкаў уводзяць у абарот, і прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы могуць, напрыклад, набываць на іх акцыі... Больш таго, гэтыя фонды, разумна выкарыстаныя, дазволілі ў гады вострага жыллёвага крызісу ажыццявіць урадавую праграму будаўніцтва мільёнаў кватэр. А было гэта зроблена, як прынята ў нас казаць, у рэкордна кароткі тэрмін — за дзесяць гадоў: з 1964-га па 1974-ы.

Ганарацца шведы і сёння, што тая праграма стала самым смелым абяцаннем іх сацыял-дэмакратычнай партыі. А слова сваё кіруючая партыя краіны стрымлівае, як няцяжка падлічыць, ужо не адно дзесяцігоддзе!

Партыя ніколі не ставіла і не ставіць сваёй мэтай дабівацца эканамічных ці сацыяльных заваёў для рабочага класа за кошт прыцяснення інтарэсаў іншых сацыяльных груп грамадства, скажам, праз змяншэнне сацыяльнай абароненасці сярэдніх слаёў насельніцтва. Рэформы тут імкнуцца ажыццяўляць не ва ўрон стабіль-

насці эканамічнага становішча, прадукцыйнасці працы ці канкурэнтаздольнасці асобных прадпрыемстваў. Сацыялізацыю шведы разглядаюць як сродак, а не як мэту. І гэта, несумненна, адзін з галоўных «сакрэтаў» цяперашняга працвітання краіны. Сацыяльнае забеспячэнне з'яўляецца грамадскім. Больш таго, многія (калі не ўсе) меры ў краіне ажыццяўляюцца не шляхам прыняцця законаў ці пастаноў, а дасягненнем дамоўленасці паміж арганізацыямі працоўных і прадпрымальнікамі.

Сённяшняя шведская рэальнасць, матэрыяльны і сацыяльны дабрабыт большасці насельніцтва сведчаць: тут назапашаны надзвычай цікавы і багаты вопыт грамадскага развіцця. Аб многім, думаецца, сведчыць і той факт, што ў краіне змаглі прыкметна выраўняць розніцу ў рэальных даходах высокааплачваемых і нізкааплачваемых катэгорый насельніцтва. Дасягаецца ж «падцягванне» жыццёвага ўзроўню другіх з іх да першых праз мноства самых розных дапамог і выплат у дадатак да надзвычай дыферэнцыраванай падатковай сістэмы, што прынята тут.

Літаральна па ўсіх, калі можна так сказаць, пазіцыях жыцця, адпачынку, бытавога і сацыяльнага забеспячэння шведская сацыял-дэмакратыя дабілася для працоўных значных пераваг. Рабочы тыдзень доўжыцца 40 гадзін. Аплачваемы водпуск — шэсць тydняў (адзін з іх — абавязкова зімой). Водпускі, як правіла, прадастаўляюцца адначасова ўсім працаўнікам таго ці іншага прадпрыемства, а само яно становіцца на прафілактыку. Даўно падлічылі шведскія спецыялісты: гэта не толькі зручна людзям, але і выгадна дзяржаве.

Адладжаная і стабілізаваная ў Швецыі і сістэма страхавання па хваробе чалавека. Знаходжанне ў бальніцы — бясплатнае, лякарствы абыходзяцца проста ў сімвалічную суму. Яшчэ 30 гадоў назад быў прыняты закон, у адпаведнасці з якім хворы атрымлівае за бюлетэнь да 90 працэнтаў зарплаты. Праўда, у дзяржаўнай бальніцы чаргу на аперацыю трэба іншы раз чакаць некалькі гадоў, а вось у прыватнай іх практычна няма.

Госці з былых савецкіх рэспублік зайздросцяць шведам і адносна жыллёвых умоў. Якой бы вялікай ні была сям'я, кожны член яе мае свой пакой у кватэры плюс адзін пакой агульны — на ўсю сям'ю. Праўда, кватэрная плата вялікая: на яе іншым разам ідзе трэцяя частка зарплаты, а нярэдка — і палавіна. Затое да якасці жылля прэтэнзій няма ні ў кога...

Амаль 30 гадоў назад — у 1976-м — шведскія сацыял-дэмакраты дамагліся прыняцця яшчэ аднаго важнага закону — аб удзеле рабочых у кіраўніцтве вытворчасцю. Гэты дакумент насамрэч дазволіў працоўным умешвацца ў арганізацыю вытворчага працэсу, стварэнне неабходных умоў працы, абмежаваў гаспадароў у прэрагатывах пры вызначэнні напрамкаў дзейнасці прадпрыемстваў, лёсаў людзей увогуле.

Ёсць і іншыя сацыяльныя і дэмакратычныя заваёвы кіруючай Сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі Швецыі. Адна з цікавых — асабліва для прыезджых у краіну замежных гасцей — магчымасць атрымліваць самую шырокую і падрабязную інфармацыю аб дзейнасці ўсіх без выключэння афіцыяльных органаў улады, устаноў і арганізацый. Прызнацца, нямала былі здзіўлены мы, звычайныя госці краіны, калі нам прапанавалі папрысутнічаць на пасяджэнні ...шведскага рыксдага — парламента гэтай краіны!

## Шлях развіцця: капіталізм? А можа — сацыялізм?

Ужо тыя аргументы, што прыведзены вышэй, прымушаюць, хутчэй за ўсё, задумацца: дык што ж, уласна кажучы, уяўляе сабой Швецыя? Квітнеючая капіталістычная краіна? Ці — сапраўдная сацыялістычная дзяржава? А можа, нешта сярэдняе паміж імі — капіталізмам і сацыялізмам?..

Адказаць на гэтыя, у пэўнай меры і наіўныя, пытанні даволі-такі няпроста. Тут, што называецца, і паразважаць ёсць над чым, і падумаць, і паспрачацца... І яшчэ: трэба з'есці з тымі ж шведамі разам калі не пуд солі, дык хоць бы лыжку-другую...

Але лепшым, чым прыведзеныя далей лічбы, факты, меркаванні ды развагі, тут наўрад ці стане што-небудзь сапраўдным і надзейным «дарадчыкам», спадарожнікам...

Дык вось...

Чатыры працэнты жыхароў Швецыі забяспечваюць насельніцтва краіны сельскагаспадарчай прадукцыяй. І не толькі забяспечваюць, але і ствараюць штогод 30-працэнтны рэзерв!!! Тры клічнікі тут пастаўлены зусім не выпадкова: сусветная сельскагаспадарчая практыка такіх аналагаў не ведае. Мясам, да прыкладу, яна забяспечвае сябе на 110—115 працэнтаў, малаком яшчэ больш: на 120—125. Сярэдні гадавы надой на адну карову складае 5800—6100 кілаграмаў малака, ураджайнасць пшаніцы — звыш 60 цэнтнераў з гектара, бульбы — 350.

Рэальная заработная плата ў шведа расце ў сярэднім на 2—3 працэнты штогод. Малавата? Як каму можа падацца! Аднак нават такі «маленькі рост» не дае шведу аніякіх падстаў для хваляванняў за інфляцыю. Ды чаго, уласна кажучы, хвалявацца, калі пераважная большасць прадукцыі краіны — вырабы фірмаў і канцэрнаў «Вольва», «Эрыксан», «Электралюкс», СКФ, «СААБ-Сканія» і іншых у рэкламе не толькі ў Еўропе, але і ва ўсім свеце проста не адчуваюць патрэбы.

Шчыра кажучы, тут здзіўляешся: як могуць «ужыцца» ў межах адной сістэмы грамадска-палітычнага ўладкавання ў прынцыпе «несумяшчальныя» рэчы?! Калі кіравацца зусім нядаўнімі нашымі крытэрыямі і падыходамі, дык атрымліваецца, што ў Швецыі існуюць і «мірна супрацоўнічаюць» капіталізм у вытворчасці і ...сацыялізм у размеркаванні... З аднаго боку — буйны капітал, так званыя буржуазныя партыі, а з другога — насамрэч сапраўдная, а зусім не ўяўная актыўнасць народа, прафсаюзаў, сацыял-дэмакратычнай партыі, якая вельмі і вельмі працяглы час не толькі кіруе дзяржавай, але і шмат гадоў супрацоўнічала з ...камуністамі.

Потым, правёўшы шмат сустрэч і размоў на самых розных узроўнях, мы ўпэўніліся: ажыццяўляючы унікальную для Захаду праграму сацыяльных гарантый, займаючы разам з тым адно з першых месцаў у свеце па прадукцыйнасці працы, шведы не паддаліся высвятленню тэарэтычных аксіём і канонаў (якія б яны ні былі: буржуазныя ці сацыялістычныя), а на справе паказалі: эфектыўнасць працы і справядлівасць у размеркаванні яе вынікаў могуць (і павінны!) сумяшчацца і ўжывацца ў рамках аднаго і таго ж грамадскага ладу.

Самі шведы не прамінаюць назваць яшчэ адзін «сакрэт» сваіх дасягненняў: самакіраванне!

У Швецыі яно мае даўнія і надзвычай трывалыя традыцыі. Яшчэ ў 1862 годзе самакіраванне зацвердзілася тут у заканадаўчым парадку: быў прыняты дэкрэт аб мясцовым кіраванні ў акругах. Імклівае развіццё прамысловасці і міграцыя насельніцтва з вёскі ў горад выклікала неабходнасць змянення тэрытарыяльнага падзелу краіны. Паступова, але вельмі рашуча 2500 шведскіх акруг былі пераўтвораны ў 284 самкіруемыя акругі. Інакш кажучы, мясцовая ўлада стала сапраўдным гаспадаром ва ўласным доме. Адышло ў нябыт цэнтралізаванае кіраўніцтва, сталічны дыктат, што, паводле прызнанняў саміх шведаў, і стала асновай працвітання краіны...

Дарэчы, у Канстытуцыі Швецыі гаворыцца, што кіраўніцтва ў краіне ажыццяўляецца праз дзяржаўны лад, заснаваны на прадстаўнічай парламенцкай сістэме, а таксама пры дапамозе камунальнага самакіравання. Зроблена гэта хутчэй за ўсё для таго, каб «свядома» адлучыць цэнтральныя органы ад замахаў на набыткі і справы камун. Інакш кажучы, камуны ў Швецыі, дзейнічаючы ў рамках закону, з'яўляюцца практычна абсалютна незалежнымі ад цэнтра...

Ці не тое гэта, да чаго варта імкнуцца і нам?!

Што, шчыра кажучы, уразіла, дык гэта надзвычай высокі ўзровень падаткаў. У Швецыі яны «з'ядаюць» да 50—60 працэнтаў заробкаў! Працяглы час гэтыя абставіны былі (а, мабыць, і засталіся) прычынай крытыкі эканамічнай палітыкі сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі. Аднак у большасці камун кіру-

ючыя пасады сацыял-дэмакраты як займалі, так і займаюць!.. Чаму ж? Адказ, аказваецца, ну больш чым «просты»: шведы разумеюць і ўсведамляюць, што сродкі, атрыманыя ў выніку збору падаткаў, потым вернуцца назад, калі будуць па справядлівасці размеркаваны паміж прадстаўнікамі ўсіх слаёў грамадства. Высокая свядомасць? Нам падалося, што і пра яе тут дбаюць таксама...

Хоць, прынамсі, ёсць тут і пакрыўджаныя, тыя, каму высокая шкала падаткаў не па душы. Незадаволены перш-наперш ...мільянеры. Атрымаў ён чарговы мільён крон прыбытку, і, будзь ласкавы, аддай 900 тысяч (!) падаткаў. Вось так: 90 працэнтаў — не менш і не больш...

Акрамя камунальных органаў улады падаткі збіраюць дзяржава, царква. Праўда, і яны абмежаваныя.

Дзейнасць саміх камунальных улад даволі рознабаковая і клапатлівая. Штодзённае функцыянiраванне прамысловасці, транспарту, камунальных і бытавых аб'ектаў, гандлю... У многіх населеных пунктах працуюць сямейныя дзіцячыя садкі. Іх дзейнасць, дарэчы, для нас не зусім звычайная. Сваіх дзяцей бацькі могуць прывесці сюды ў любы час. Такі садок у сябе дома можа адкрыць кожны жадаючы, толькі для гэтага трэба скончыць спецыяльныя курсы. Заработную плату такія выхавальнікі атрымліваюць у залежнасці ад стажу работы, а пачынаючыя — да 9 тысяч крон. Між іншым, за ўтрыманне дзіцяці ў такой хатняй установе бацькі плацяць усяго 10 працэнтаў кошту, а астатняе даплачвае камуна.

Яшчэ адна надзвычай важная задача камунальных улад — ахова здароўя насельніцтва. Шведы з вялікім гонарам паказвалі нам, якія ў іх вялікія і сучасныя бальніцы. Плюс абслуговы персанал, якім таксама нельга не ганарыцца. На 500 кліентаў бальніцы — да 60 урачоў, да 100 спецыялістаў малодшай медыцынскай абслугі. Не менш двух разоў у год кожны жыхар Швецыі праходзіць медыцынскі прафілактычны агляд. І вось вынік эфектыўнасці аховы здароўя ў краіне: тут самая нізкая дзіцячая смяротнасць і самая высокая працягласць жыцця чалавека ва ўсім свеце!

Шмат сродкаў з камунальнага бюджэту ідзе на будаўніцтва і падтрыманне ў належным парадку аб'ектаў адпачынку, культуры і спорту. Плавальныя басейны, турыстычныя базы, крытыя каткі і, вядома ж, хакейныя палацы і стадыёны ёсць практычна ў кожнай шведскай камуне. А карыстаюцца імі мясцовыя жыхары за зусім невялікую, сімвалічную аплату...

Улік і прагназіраванне, распрацоўка блізкай і далёкай перспектывы камуны даўно вядзецца з дапамогай камп'ютэраў і электронна-вылічальных машын. Дакладна і практычна беспамылкова плануюцца праграмы па ўліку фонду заработнай платы, размеркаванню жылля, патрэбы ў рабочых месцах, нават па ўліку і неабходнасці месцаў у дзіцячых садках, рацыянальным выкарыстанні спартыўных збудаванняў. Скажам, захацеў швед пагуляць у тэніс, які, дарэчы, як і хакей з шайбай, карыстаецца ў краіне вялікай папулярнасцю... Тэлефануе ён у інфармацыйную службу і атрымлівае дакладную інфармацыю аб тым, дзе і калі корт не загружаны. Дае згоду, і яму тут жа высылаецца рахунак...

Нам бы такія паслугі і сервіс!

## Працуюць, каб жыць: прыгожа і змястоўна...

У Швецыі не прынята казаць гучныя, напышлівыя прамовы пра нацыянальны патрыятызм, сваё ўласнае жыццё і дабрабыт. Аднак літаральна ўсе жыхары так шчыра і непадробна клапоцяцца аб сваёй радзіме, яе сённяшнім і заўтрашнім дні, росквіце нацыі! На справе, а не на словах клапоцяцца перш за ўсё тыя, каму рабіць гэта даверана і даручана, — кіраўнікі ўсіх без выключэння рангаў. «Чым лепей народ будзе жыць, тым паўней яго аддача грамадству!» — шматкрат чулі мы такія выказванні. І вопыт краіны даўно і трывала пацвердзіў гэту ісціну.

Дыхтоўнасць, высокая якасць шведскіх вырабаў пры нізкіх працоўных затратах дазваляе жыхарам больш-менш спакойна ставіцца да канкурэнцыі з боку іншых

дзяржаў, да сапраўднай экспансійнай палітыкі Еўрапейскага эканамічнага супольніцтва, якая становіцца на кантыненце ўсё больш адчувальнай і прыкметнай.

Тыя інтарэсы і патрэбы розных класаў і сацыяльных груп грамадства, што па пэўных прычынах не супадаюць, у Швецыі вырашаны даўно — яшчэ ў пачатку 30-х гадоў мінулага, XX стагоддзя. Іх, гэтыя інтарэсы і патрэбы, без дэфармацый і іншых сацыяльных узрушэнняў здолелі «ўвязаць», натуральна спалучыць. Зрабіць такую справу аказалася, вядома ж, няпроста. Але прадпрымальныя шведы здолелі падабраць і адпаведную сістэму каардынат, і патрэбны інструментарый для ажыццяўлення пакета палітыкі.

Сістэма каардынат, на першы погляд, простая: на першым плане не толькі сацыяльныя, групавыя інтарэсы, а перш за ўсё — агульнанацыянальныя. А інструментарый — гэта ў першую чаргу падаткі: яны, дарэчы, складаюць звыш палавіны валавога нацыянальнага прадукту, плюс пераразмеркаванне даходаў на карысць усіх членаў грамадства.

З апошніх 70 гадоў пры ўладзе Сацыял-дэмакратычная рабочая партыя знаходзіцца звыш 60-ці. У другой палове сямідзесятых — пачатку васьмідзесятых гадоў таго ж XX стагоддзя каля штурвала краіны пабывалі прадстаўнікі буржуазных партый. Што-кольвечы хацелі яны змяніць, «паднавіць» сацыяльны і грамадскі лад, але — не атрымалася. І ўлада ў рэшце рэшт зноў перайшла да тых жа сацыял-дэмакратаў. Ды інакш і быць не магло: за тыя некалькі гадоў праўлення «новай» улады пачала расці інфляцыя, крона як нацыянальная грашовая адзінка не адзін раз дэвальвіравалася, няспынна раслі цэны, шырокае распаўсюджанне набывала беспрацоўе... Інакш кажучы, шведы на ўласным вопыце пераканаліся, што іх ранейшая мадэль развіцця стабільная і правераная і шукаць дабро ад дабра зусім нявартa!

Адзін з асноўных «камянёў» у фундаменце нацыянальнага дабрабыту краіны — назапашванне вялікага багацця за даволі вялікі час мірнага развіцця Швецыі. Толькі той факт, што яна вось ужо 190 гадоў не прымае ўдзелу ў войнах, гаворыць шмат аб чым. «Мы жывём на зямлі адзін толькі раз, — казалі нам гасцінныя шведы, — і таму імкнёмся рабіць усё, каб жыць прыгожа і змястоўна. А трэба для гэтага так мала — працаваць!»

І яны працуюць: шчыра, дбайна, самаадданa...

* * *

Першыя некалькі дзён знаходжання на Скандынавіі ніяк не мог зразумець: чаму шведы размаўляюць напаўголаса? Прычым — усюды: на вуліцах і праспектах, у грамадскім транспарце, магазінах, тым больш — дома... Доўга не адважваўся спытаць, а калі ўсё ж такі рызыкнуў, мне растлумачылі: маўляў, а чаго нам павышаць голас — праблем жа аніякіх!

Нам бы, як кажуць у такіх выпадках, іхнія клопаты!..

Дэмакратычны сацыялізм — вось што ўяўляе сабой шведская мадэль грамадскага развіцця дзяржавы. Не той, што быў у нас, — казарменны, уяўны, а — сацыялізм рэальны! З сацыяльна-эканамічнымі і палітычнымі асаблівасцямі, уласцівымі і характэрнымі менавіта ёй, шведскай дзяржаве. Сацыялізм дынамічны і эфектыўны. У жыцці шчаслівых грамадзян гэтай скандынаўскай краіны насамрэч атрымалі ўвасабленне многія з тых каштоўнасцей, якія ў нас так і засталіся мроямі...

А ў цяперашнім нашым развіцці беларусам ёсць што запазычыць у шведаў...







**Аляксей НЕНАДАВЕЦ**

# «ОЙ, КОСЮ, МОЙ КОСЮ...»

*Вучыса старой песні. Памром.*
*Ты будзеш яе спяваць, а мне ў зямлі лягчэй будзе.*

Арсень Ліс

Гэта своеасаблівы аспект творчасці Уладзіміра Караткевіча. І нам хацелася б найперш напісаць нават не пра тое, як вусна-паэтычныя лірычныя шэдэўры ўплывалі на творчую душу слыннага беларускага рамантыка, а пра тое, як ён сам асабіста адносіўся да народнай песні, любіў ці не любіў яе, ведаў ці не ведаў, як увогуле ацэньваў месца песні ў фальклоры. Некаторыя адразу кінуцца пярэчыць: «Маўляў, чаго ўжо там! І так колькі ўсяго напісана! А каб сабраць тое, што пра Ул. Караткевіча распавядаюць сябры-знаёмыя, дык не адзін том атрымаўся б!» Не выключана. Толькі і ў такім выпадку абавязкова трэба агаварыцца, бо далёка не кожны з тых, хто пры ўдалай бяседзе, за багатым сталом, «дзярэ горла гарлаючы песні», любіць і разумее сэнс і шчымлівыя пачуцці песні, закладзеныя ў яе нашымі далёкімі продкамі. Таму і пачнём мы нашыя разважанні адразу не з таго, як спяваў сам Уладзімір Сямёнавіч, а з таго, як умеў слухаць іншых, ацэньваць іхні самабытны талент, прадбачыць тое, што, на вялікі жаль, ужо тады пагражала існаванню аўтэнтычнага фальклору, ставіла яго на мяжу імклівага (не пабаімся гэтага слова) вымірання.

А пачаць лепш за ўсё з апісання фальклорнай экспедыцыі на Палессе, у якой прыняў удзел сам Ул. Караткевіч. Тут і эмоцыі, і пачуццё харастава, замілаванне, шчырыя людскія адносіны не толькі да бліжняга свайго, але і да таго, што знаходзілася навокал. Хораша паказана патрыярхальнае вясковае жыццё і вера ў гэтае самае жыццё, у тое, што яно існуе вечна, ніколі не перарываецца і не спыняецца, бо яго лучыць... песня.

«Спявалі дарогаю, трымаючыся ў кузаве адзін за аднаго. Спявалі і потым, ля закансерваванага завода, ля загонаў з ільдзістымі брыламі лізунца. Гарачае сонца драбілася ў іх.

Мы ледзь паспявалі ўпраўляцца. Арсень з магнітафонам, Міша з алоўкам, мы з апаратамі, а я яшчэ й з блакнотам.

Галіна Леўчанка спявала, святочна накінуўшы на галаву ліловую газавую хусцінку. А побач хісталася ў такт ёй белая ў кветкі хустка Насты Сысы. Усмешлівая, вастраносенькая, рот, як месячык, вочы смяюцца. І ўжо зусім прыемна было побач з імі бачыць злёгку надзьмутыя губкі ды шырокія чорныя бровы Дуні Скарбейкі. Усе галасістыя, загарэлыя, як негры. Спявалі «Хадзіла сіротка»:

---

***Ненадавец Аляксей Міхайлавіч** нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Чухава Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага універсітэта. Доктар філалагічных навук, загадчык кафедры грамадскіх дысцыплін Бабруйскага філіяла Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта.*

Як мы любіліса,
То сухія сады цвілы,
Як мы перасталі,
Той зялёныя сів'ялы.

Як слухалі ўсе! Пастух, што толькі прыгнаў каровы, з суровым аблíччам слухаў, успершыся грудзьмі на кій, прыкрыўшы вочы.

Міхась Клочка прыяднаўся, уплёў голас, душэўны і густы:

Плакала, рыдала,
Лічко пабеліло,
Наверна дзяўчына
Вяночак жалела.
Вяночак жалела,
Усе тайныя рэчы,
Касу распусціла
На ўсе свае плечы.

Наталля Сыса ўступіла за імі, старэйшая крыху за іх. Адразу гожым зрабілася добрае мілае аблічча, задрыжэлі завушніцы-паўмесяцы ў вушах:

Ой, жалю мой, жалю,
Вялікі пячалю.

Яшчэ мужык не вытрымаў. Вастраносік-верабей. І хахалок з-пад кепкі. Іван Шут:

Ой ты, гара, гара,
Гара высокая,
Што й на тобі, гара,
Чотыры сокала.

Кожны голас — скарб! Няма кепскіх, каб яны здаровыя былі. Кожны не з горла цісне, а душой спявае. Як мяняецца чалавек, калі спявае! Колькі ў ім адразу вышняй прыгажосці!»

Так дасканала і прачула перадаць задушэўнае выкананне песні мог толькі чалавек, які сам тонка разбіраўся ў фальклоры, адчуваў ягоную глыбіннасць, нёс у сабе генетычны зарад памяці, што назаўсёды злучыў яго з памяццю продкаў. Цікава і тое, што Ул. Караткевіч і сам хораша спяваў. Мала гэтага, ведаў процьму народных песень, самых разнастайных, ад жартоўных і да абрадавых, ад сумных і да гарэзных. У гэтым праяўлялася асаблівасць характару пісьменніка, сіла ягонага найбагацейшага таленту. Вядома ж, многія задавалі яму пытанне: адкуль такое веданне народнага песеннага меласу, адкуль у яго такое майстэрскае выкананне? Ул. Караткевіч і сам неадназначна гэта тлумачыў. І тым не менш да гонару яго дадамо — ніколі не адмаўляў у гэтым ролю (няхай сабе і генетычна-ўскосную) продкаў.


*Уладзімір Караткевіч, 1958 г.*

«Што спрыяла? Зноў жа асяроддзе. Сваякі (і на суседзяў шанцавала) былі людзі спявучыя, вельмі музычныя, многія з добрымі галасамі, з апавядальным талентам (здзіўляюся, чаму не стаў прафесійным спеваком бацька, пісьменнікамі — дзядзькі, асабліва адзін). Усе з гумарам і схільнасцю да іроніі (у тым ліку да самаіроніі»).

Так ён пісаў пра сваіх родных і блізкіх, не толькі памятаючы, як яны спрыялі развіццю ягонай спеўнасці. Але і таму, што ён, паўторымся, ведаў і надзвычай тонка адчуваў песенную душу самога беларускага народа.

Продкі... Для яго яны не толькі былыя пакаленні. Для ягонай багатай натуры яны былі пастаянна жывымі. Іхняя памяць ажывала якраз-такі ў словах песняў. На першы погляд, не надта прывабных, ці, як гавораць, «кідкіх», але затое надзвычай задушэўных, што змушалі да пастаяннага роздуму над адвечнымі жыццёвымі праблемамі, над вечнасцю прыроды і прыродных з'яў, над складанасцю сацыяльных пытанняў. І яшчэ адно. У песні нішто не заставалася без адказу. Гэта ўжо была здавён заведзеная традыцыя. Як бы там ні было, але адказ павінен быў прысутнічаць. Не выключана, што і гэта таксама прыцягвала ўвагу Ул. Караткевіча. Ён адчуваў усё, а іначай і быць не магло.

«Іхнія песні плылі над вёскай да залатой завесы захаду. Плылі над гэтай сумнай, вячэрняй, нібы закінутай зямлёй. І песні гэтыя былі — дзіва. І казалі яны пра каханне, пра варанога коніка і дальнюю дарогу, пра здраду і рэўнасць, пра гэтыя дубы — пра ўсё, што было і давеку будзе на зямлі», «Дрэва вечнасці»).

Ведаючы песні, цудоўна арыентуючыся ў іхнім багацці, Ул.Караткевіч мог свабодна вар'іраваць, прапаноўваць чытачам і даволі нечаканыя варыянты ад ужо агульнавядомых. Гэтым дасягаўся незвычайны эфект. Хутчэй за ўсё — гумарыстычна-саркастычны:

Раскажыце мне, добры людзейкі,
Дзе мой любы начуе.
Калі ў дальняй дарозе —
Памажы яму, божа,
Як ва ўдовачкі на пасцелечцы —
Пакарай яго, божа.
Як ва ўдовачкі на пасцелечцы...

Хтосьці прыўзняў галаву ад стала і праспяваў свой варыянт апошняга радка:

Пам-мажы яму... тож-жа.

*(«Дзікае паляванне караля Стаха»)*

А пра тое, што пісьменнік добра ведаў песенны мелас беларускага народа, сведчыць і наступны эпізод.

«Неяк, у студзені 71-га, ён зайшоў на агучванне майго фільма «Песняры». Расказаўшы пра здымкі, я заўважыў, што ў песні «Касіў Ясь канюшыну», якой было наканавана доўгае жыццё ў народных застоллях, няўдалая, не ўласцівая народнай творчасці, нейкая «каравая» рыфма: «Станіславу не хочу, бо на лаву не ўсаджу». Валодзя зараз жа растлумачыў:

— Дык «Песняры» твае наўмысна так спяваюць — крыху «прыстойней». Бо ў народным варыянце так спяваецца: «Станіславу не хачу, бо на лаву не ўскачу!» Што-што, а ўжо дасканалыя рыфмы ў народнай песні заўсёды ёсць!

Растлумачыўшы гэта, Валодзя тут жа, на рагу майго мантажнага стала на адвароце аркушыка сцэнарыя, намаляваў у сваёй, крыху шаржавай манеры малога хліпака Яся і таўстазадую Станіславу, якую той безвынікова імкнецца заваліць, ускаціць на лаву. Растлумачыў ён гэта нам наглядна і пайшоў. А рэдактар нашага фільма рупліва склаў аркушык з графікай Караткевіча і схаваў у кішэню»[1].

Сёння, з пазіцый фалькларыста, можна адназначна пацвердзіць тое, што пісьменнік меў рацыю, бо ў сучаснай апрацоўцы «Песняроў» адвольна была зменена («упрыстойнена») рыфма, што, аднак, не ўзмацніла песню, а наадварот, зрабіла

[1] Арлоў У. Усё яшчэ наперадзе.

яе ў гэтым месцы малазразумелай. Здавалася б, няма нічога асаблівага — драбніца, ды гэтая драбніца ў пэўнай (адвечна выпрацаванай) сістэме займала сваё цвёрдае месца, валодала толькі сваім, а не інакшым, сэнсам.

Сябра Ул. Караткевіча — Рыгор Барадулін — прыводзіць у сваіх успамінах іншы прыклад. Там ужо сам выканаўца песні — Уладзімір Сямёнавіч — яўна з маральных намераў памяняў усяго адно слова (дакладней, мабыць, падмяніў), і яно лёгка падразумяваецца. Тым не меней песня гучыць хораша.

«У доме акцёра мой невялікі вечар. Пасля традыцыйнае застолле. У перапынку пад нізкім скляпеннем пастаўленым голасам Караткевіч спявае:

Багаты чалавек каня запражэ
Дый выедзе,
А бедны чалавек жонку пакладзе
Дый вылюбе.
Радуйся, сарока, радуйся, варона,
Радуйся і ты, верабей-цудатворца!

Саліст оперы Віктар Чарнабаеў аж рот адкрыў. Здорава да зайздрасці!»[1]

Таму і балела пісьменніку, што на яго вачах (на ягоным веку) адмірала, адыходзіла ў нябыт сапраўдная беларуская песня. Ул. Караткевіч не толькі гэта бачыў, не толькі адчуваў, але і чуў ад многіх старэйшых, якія таксама перасцерагалі, што разам з імі, з іхнім адыходам з жыцця, адыдзе беззваротна і значны пласт духоўнай народнай культуры. Яны гэта ведалі, прадбачылі, але не чакалі (вось гэтага ўжо ні ў якім разе не маглі прадбачыць!), што іхнія любімыя ўнукі-праўнукі акажуцца такімі ўжо абыякавымі да песеннага багацця продкаў. Вельмі ўсё імкліва здарылася. Можна сказаць, што зусім нечакана чужое для, здавалася б, народнага, выцесніла ўласна народнае, спрадвечнае. Даўней жа думалі, што ўсё гэта непарушнае, вечнае, а на паверку аказалася далёка не так.

Таму гарачаму прыхільніку народнай песні і майстравітаму яе выканаўцу так і балела: «І вось з-за нашай безуважлівасці цудоўная наша песня саступае месца нейкай «Ладзе», што, як трызненне, гналася за намі ўсё падарожжа, нейкай «Ладзе», крыклівай і нахабнай, як хам у Луўры, навязлівай, як свіння, што кладзе ногі на стол, песні, якую заўтра забудуць, але якая зрабіла частку сваёй справы, саступіўшы месца такому ж сабачаму трызненню, але на хвіліну адштурхнуўшы сапраўднае, песні апафеозу дрэннага густу, песні, якая не песня, якую, можа й, помніць будуць толькі таму, што пара дубовых галоў (і ў тым ліку я) мелі глупства памянуць яе нядобрым словам».

Бліжэйшыя сябры-паплечнікі Ул. Караткевіча найбольш яркія старонкі сваіх успамінаў, ці ўвогуле першыя сцэны знаёмстваў, звязвалі з цудоўным выкананнем нашым слынным пісьменнікам народных песень. Так, на гэта неаднаразова ўказвае ў кнізе «Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча» Адам Мальдзіс: «Памятаецца толькі, што Валодзя спяваў старыя беларускія і ўкраінскія песні...

...Караткевіч запяваў і хораша вёў «Ой, косю мой, косю», «Ой, расцвіла ружа», «Ад панядзелка да панядзелка», старыя рэлігійныя гімны.

...Захоўваліся многія старыя абрады, у тым ліку і выкраданне нявесты, дзяльба караваю. Спяваліся беларускія, украінскія, рускія, польскія песні, а Уладзімір Караткевіч жвава вытанцоўваў полечку з Валянцінай Нікіцінай і ўвогуле быў завадатарам усялякіх «хохмаў».

...Потым спявалі песні. Валодзя — свае любімыя «Ой, косю мой, косю», «На цвердыню тваю ўповаю». Усе разам, пад баян — народныя»[2].

---

[1] Рыгор Барадулін. І коскі з месца не зрушу!.. Мн., 2000. С. 22—23.

[2] Мальдзіс А. Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча. Партрэт пісьменніка і чалавека. Мн., 1990. С. 19; 63; 105—169.


*Уладзімір Караткевіч і Янка Брыль, 1959 г.*

Янка Брыль згадвае пра іншае: «Смейся, мой слаўны, і спявай, як мы смяяліся і спявалі, асабліва ў дарозе!» («Наш Караткевіч»)[1].

Адным словам, там, дзе толькі надаралася магчымасць паспяваць, адвесці душу выкананнем пяшчотных народных мелодый, Ул.Караткевіч спяваў. Рабіў гэта так, што іншыя, якія былі знаёмыя з ім, але не ведалі пра такі бок яго таленту, здзіўляліся, слупянелі, адчувалі, як многа траціў той, хто не быў надзелены ад прыроды тонкім слыхам і добрым голасам. Ці то вясёлая, ці то журботная песня прыдавалася заўсёды, і не было асабліва вялікай розніцы, у якой кампаніі яна гучала, бо народная песня неяк улагоджвала, супакойвала, мірыла ўсіх. Вось тут і паспрабуй зразумей, з якой нагоды можа спяваць чалавек і якая мелодыя глыбей закранае слухача. Але ж можна гаварыць і пра адваротнае — Ул. Караткевіч, калі спяваў, то таксама заставаўся не проста выканаўцам, ён жа перажываў падзеі, тонка адчуваў створаную некалі, даўнымдаўно народнымі дарадцамі, сітуацыю. Усе, хто назіраў у такія хвіліны за пісьменнікам, адзначаў, як ён проста на вачах перайначваўся, «дзейнічаў у такт дзеянню і мелодыі». Тут многае праяснялася: буйства, адоранасць, шматгранны талент, знаходзілі выйсце не толькі ў самабытных творах, але і ў старадаўніх ды і не толькі ўласна беларускіх песнях. Гэтыя ж самыя рысы, уласцівыя характару Ул. Караткевіча, падкрэслівае і Янка Брыль.

«Дзесяць пісьменнікаў, што дзесяць дзён знаёмілі магнітагорцаў з беларускай літаратурай, мы там былі, вядома, не адны, з гаспадарамі і гаспадынямі. І зноў жа — столькі смеху было, столькі песень! І нават сярод маладых ды маладзейшых за яго самым вясёлым, непасрэдным бачыўся, чуўся ён, Валодзя...»[2]

Пісьменнік ад прыроды быў шчодра надзелены не толькі талентам, але і прыгожым, добра пастаўленым, сакавітым (па сведчаннях сяброў) голасам. Майстэрскае, прачулае выкананне любімых самім ім народных песень, даволі часта выклікала ў яго нечаканых слухачоў не толькі пачуццё захаплення, асалоды, але і... зайздрасці. Спашлёмся ў гэтым выпадку на наступнае сведчанне, якое належыць ягонай перакладчыцы твораў на рускую мову Валянціне Шчадрыной:

«Той вечар, здавалася, быў бясконцы. І бясконцай была пад добрае кактэбельскае віно гаворка пра літаратуру, пра жыццё. А пасля Валянціна Браніславаўна папрасіла мужа праспяваць яго любімую песню.

Як сёння памятаю: ласкавы подых мора і Караткевіч на балконе. Калі пачула моцны, прыгожы голас і словы: «Ой, косю, мой косю, чаму ж ты не весел, чаму ж ты не весел, галованьку звесіў...» — то расплакалася. Гэта быў нейкі цуд, а я наогул люблю спевы, усё жыццё з задавальненнем спявала на розных бяседах, але тут, пасля шматгадовага маскоўскага жыцця мяне зачаравала невядомая беларуская песня і сам гэты незвычайны голас. І ў сваім захапленні я была не адзінокая. Ніхто з насельнікаў «Дома творчасці», што ўжо да гэтага часу паснулі, але прачнуліся ад песні Караткевіча, не выказаў свайго абурэння. Пэўна ж, усе слухалі гэты магутны голас, які пераймала горнае рэха.

---

[1] Янка Брыль. Выбраныя творы ў трох тамах. Т. 3. Мн.: Мастацкая літаратура, 1993. С. 483.

[2] Янка Брыль. Выбраныя творы ў трох тамах. Т. 3. С. 485.

Пасля былі іншыя вечары, іншыя песні, але той вечар застаўся ў памяці назаўсёды»[1].

Вядома ж, такое нечаканае раскрыццё новай грані таленту рабіла моцнае ўражанне, асабліва на чалавека чуллівага да прыгажосці слова, да ўсяго таго народнага, што ўжо тады імкліва знікала, але ўсё яшчэ ўчэпіста, насуперак усяму, трымалася ў такіх людзей, як Ул. Караткевіч. Пасля такіх спеваў на яго пачыналі глядзець зусім па-іншаму: не як на пакаёвага, хатняга пісьменніка, які пісаў пра жыццё не ведаючы яго, а наадварот, як на творцу, што ў сваіх разважаннях, сюжэтах, памкненнях сягаў ажно да самых глыбінных першаасноў усяго чыстага, а не выдуманага, не нагрувашчанага псеўдатворцамі, народнага.

Вось пра што згадвае Ул. Калеснік, успаміны якога ці не найбольш поўна адлюстроўваюць няўрымслівасць натуры Ул. Караткевіча, яго ўменне «раставарацца» ў сітуацыі, быць душою самай *разнашэрснай* кампаніі.

«...У спеўным настроі мы вярнуліся ў хату... Нам перадавалася атмасфера зычлівасці, гармоніі, лагоднай усмешлівасці. Пявучых спадарожнікаў пацягнула на песні, і я меў прыемнасць слухаць мо самы багаты рэпертуарам пісьменніцкі канцэрт. Валодзя цягнуў барытонам, Янка запяваў тэнарам, леснічыха *повічкавала* мяккім сапрана. Які мы спеўны і які недалужны народ — не ўмеем паказаць таго, што ўмеем»[2].

Пра гэтае ж «спеўнае» падарожжа на Наваградчыне ёсць успаміны і ў яго другога ўдзельніка — Янкі Брыля:

«А для пачатку мы ў машыне, сонечнай раніцай, на лёгкапаходнай дарозе, спявалі, балбаталі і смяяліся (мы — Р. Барадулін, Ул. Караткевіч, Я. Брыль. — **А. Н.**). Былі і песні-імправізацыі. Скажам, на паскакушна-хлёсткую мелодыю «бульбы», якую, як вядома, вараць, параць і таўкуць, складалася песня, новая, з жывымі героямі ды пацешнымі, якая ў запісе, калі б я зрабіў яго, не гучала б так весела і бяскрыўдна для некаторых сяброў і таварышаў рознага ўзросту і рангу, як бяскрыўдна, дасціпна гучала яна тады. Радасць палёту ў родную, новую красу, да новых людзей шукала выхаду, знаходзіла яго ў блазенскім рыфмаплёцтве, то разам, то на змену, ад кожнага па кветцы, па калючцы»[3].

Гэта жартоўна-гумарыстычны бок выканання Ул. Караткевічам і ягонымі сябрамі песень. Але ж быў і адваротны бок, куды больш сур'ёзны, удумлівы, не выпадковы, калі, адпаведна, і песні, якія заклікалі да развагі, да ацэнак мінулых падзей, да таго, што адбывалася «не за нашым часам», а стагоддзе-два таму назад. Пра гэта таксама ні ў якім разе нельга забывацца, тым болей, што ўспаміны многіх літаратараў і людзей блізкіх да мастацтва і да пісьменніка, сведчаць пра такі факт.

Мала гэтага, працуючы над сваім чарговым творам, асабліва буйным, Ул. Укараткевіч, акрамя таго, што начытваўся спецыяльнай дакументальна-гістарычнай, мастацкай і публіцыстычнай літаратуры, знаёміўся са шматлікімі архіўнымі звесткамі-дакументамі, абавязкова шукаў народныя песні, якія цесна перапляталіся з адлюстроўваемымі ім гістарычнымі надзеямі, бо яны раскрывалі яму эпоху, у значнай ступені дапамагалі арганічна ўжывацца ў той перыяд, маляваць чытачу такія сцэны, якія б не выклікалі ў яго нейкага пярэчання сваёй гістарычнай неадпаведнасцю. Прыгадаем «Песню пра Андрэеўну» (у некаторых выпадках — баладу), якая выкарыстоўвалася (згадвалася) паэтам. Яе сюжэт апрацоўваўся не менш чатырох разоў, пачынаючы ад першага паэтычнага зборніка «Матчына душа», і ў значна пазнейшых вершах і паэмах.

---

[1] Шчадрына Валянціна. Як у Маскве выйшлі «Каласы пад сярпом тваім» // Уладзімір Караткевіч і яго творчасць у еўрапейскім культурным аспекце. Мн., 2000. С. 64.

[2] Калеснік У. Усё чалавечае. Мн., 1993. С. 82.

[3] Янка Брыль. Выбраныя творы ў трох тамах. Т. 3. С. 484.

Не сакрэт, што знаныя майстры-даследчыкі архіўных спраў беларускай мінуўшчыны Г. Кісялёў і А. Мальдзіс шукалі для Ул. Караткевіча характэрныя песні той эпохі. Напрыклад, паўстання 1863 года. Самае цікавае, што знаходзілі. Пра гэта сведчаць наступныя прыклады.

«Здаецца, тады, над Свіцяззю, Караткевіч запяяў беларускую песню паўстанцаў Каліноўскага «Ой, закурэла ды сырымі дрывамі». Спаўняліся ж сотыя ўгодкі паўстання 1863...»[1].

Або ў успамінах Р. Барадуліна чытаем:

«Уладзімер дужа шчымліва спяваў гэтую песню з часінаў паўстання Кастуся Каліноўскага, праўда, крыху з іншымі словамі:

Краю наш,
Раю наш,
Мы цябе не ўбачым»[2].

Гэтыя песні пастаянна нібы прытрымлівалі аўтара самага рэалістычнапраўдзівага рамана пра паўстанне 1863 года па беларускай зямлі ў рэчышчы падзей, а магчыма, нават не давалі яму «расхалоджвацца», адчуваць унутраныя перажыванні сваіх герояў, сачыць за ходам іхніх думак-памкненняў, меркаваць, як павесці дыялог, месца якому маналогу тут знойдзецца і г. д. Ул. Караткевіч тонка ўлаўліваў гэты аспект. І, безумоўна, напяваў песні адчайна-смелых паўстанцаў і ў тыя хвіліны, калі і яму самому было не надта камфортна на душы. Не выключана яшчэ і тое, што наўмысна ў некаторых выпадках выкананнем такіх песняў падкрэсліваў тое, што паўстанне не проста адбылося, яго не проста задушылі і пастараліся ўсё чыста выкарчаваць з памяці нашчадкаў, але ўспаміны пра суровыя будні барацьбы не на жыццё, а на смерць засталіся назаўсёды ў архіўных справах, ва ўспамінах выжыўшых і прайшоўшых праз баі і турмы, дастаткова толькі пашукаць, знайсці і пераканацца ў шчымліва-гаротнай, самаахвярнай сіле такіх песень.

Іншая справа, калі гаворка заводзілася пра шчырае мужчынскае застолле, дзе душа таксама шукала адпаведнага выйсця і яно знаходзілася праз «на поўны рот спяванне». Вядома ж, і песні былі адпаведныя.

«Пахадзіўшы з Міхасём Стральцовым у парку Чэлюскінцаў, вярталіся да мяне на Бялінскага пазваніць Уладзіміру Караткевічу, каб разам пасядзець. Тут мы вучылі Георгія Вылчава, крытыка, даследчыка беларускае літаратуры, прапагандыста ўсяго балгарскага, пяяць песню «Капаў-капаў крынічаньку». Усё ішло добра, толькі словы:

Ой, жаль не памалу
Любіў дзеўчыну змалу,
Любіў дый не ўзяў.

Георгій пяяў:

Ой, жал не памалу»[3].

Да застольнай весялосці, якая сыходзіла ад сумесна ўжытага «віна зялёнага», дадавалася яшчэ і камічнасць створанай балгарскім перакладчыкам сітуацыі, які хоць і ведаў даволі зразумелую яму беларускую мову, але здагадваўся далёка не пра ўсе яе «тонкасці». Ды яшчэ, само сабою, і сябры падкузьмілі. Вось і «жал» ён дзяўчыну «не памалу», не шляхотна, як астатнія за сталом, а з усяго свайго гарачага балканскага тэмпераменту!

Праўда, згадвалася і іншае. Даволі традыцыйнае для беларускай літаратуры. Прыгадаем філарэтаў і філаматаў з іхнімі памкненнямі пісаць пад народ-

[1] Калеснік У. Усё чалавечае. Мн., 1993. С. 82.
[2] Барадулін Р. Кніга летніх дарог. З запазух // Наша ніва. № 33, 12 верасня 2003 г.
[3] Барадулін Р. На таку майго веку. Маладосць, № 10. 1994. С. 63—64.

ныя песні, падрабляць пад іх уласныя творы, каб пры належным выпадку ўрачыста выконваць. Не перарвалася гэтая традыцыя і ў сумнавядомы «застойнасавецкі» перыяд.

Нават афіцыйныя ўлады, іхнія шматлікія дзяржаўныя ўстановы выклікалі ў творцаў далёка неадназначную ацэнку. Пра гэта, хоць і з гумарам, але надзвычай праўдзіва, зазначыў пазней Рыгор Барадулін:

«І як на дзіцячую гульню глядзеў Уладзімір Караткевіч на дзейнасць кіраўнікоў Саюза. Часта мы ў добрым настроі спявалі на матыў «Мы, цыганы, добры людзі».

Кожны дзень мы п'ём «Зуброўку» за здароўе Пеці Броўкі.
За здароўе Броўкі Пеці мы прап'ём усё на свеце,
За здароўе Петруся вып'ю літр і вытруся.
За здароўе Куляшовай вып'ем толькі не дзяшовай,
За здароўе яе мужа вып'ем, братцы, ды не дужа,
За здароўе М.Ткачова будзем піць мы хоць з начовак[2].

Вось як адносіўся Ул. Караткевіч і ягоны найбліжэйшы сябра Рыгор Барадулін да пампезна-афіцыйных устаноў, саюзаў, усемагчымага лаўрэацтва і ўзнагароджвання (любімага многімі да бяспамяцтва) ордэнамі і медалямі.

Яны заставаліся творцамі. Жывымі людзьмі, якім «усё было характэрна». Асабліва Ул. Караткевічу.

Адным словам, хораша спяваў Ул. Караткевіч. Многае прадбачыў, прарочыў, але не заўсёды, далёка не заўсёды прыслухоўваліся... А дарма... Многіх памылак можна было б пазбегчы.

І ўсё роўна, дастаткова дастаць з кніжнай паліцы томік пісьменніка, разгарнуць, прыплюшчыць вочы і пальецца, нібы сама па сабе, ягоная любімая песня:

Ой, касю, мой касю,
Чаму ж ты не весел,
Чаму ж ты не весел,
Галаваньку звесіў?



[2] Барадулін Р. На таку майго веку. Маладосць, № 10, 1994 г. С. 59—60.





**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# УЗЛЁТ І ВЯРТАННЕ

**«ГРАМАДЗЯНІН СВЕТУ»** *(Юбілейная кніга да 95-годдзя Барыса Уладзіміравіча Кіта)*, Мінск, БелСаЭС «Чарнобыль», 2004




Беларусы ўведалі пра свайго «грамадзяніна» (*прафесара, доктара філасофіі ў галіне матэматыкі, акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, акадэміка і ганаровага віцэ-прэзідэнта Міжнароднай акадэміі навук і мастацтваў Еўраазіі, ганаровага доктара навук Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, ганаровага грамадзяніна горада Навагрудка*) не так даўно, па вялікім рахунку, толькі пасля абвяшчэння суверэнітэту сваёй дзяржавы.

Нарадзіўшыся ў Санкт-Пецярбургу 6 красавіка 1910 года, Барыс Кіт выхоўваўся і мужнеў у родных Агародніках, якія сёння знаходзяцца ў межах Карэлічаў. Неўзабаве бацька адвёз яго на вучобу ў Беларускую гімназію ў Навагрудку са словамі: *«Болей, сын, я табе нічым дапамагчы не змагу, далей дабівайся ўсяго сам»*. І Барыс мэтаскіравана ўзяўся за вучобу. Праз пэўны час стаў студэнтам Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторыя, пасля быў выкладчыкам матэматыкі і дырэктарам Віленскай, а затым Навагрудскай гімназій, змагаўся з апалячваннем і русіфікацыяй, гарой стаяў за беларускае школьніцтва. Падчас Другой сусветнай вайны, у пару жорсткай фашысцкай акупацыі, аберагаў дзяцей і моладзь ад угону ў Германію, заснаваўшы ў Маладзечне Адміністрацыйна-гандлёвы інстытут, за што сядзеў і пры паляках у Лукішках, і пры немцах у Глыбоцкай турме. Апынуўшыся ў Амерыцы, ён адным з першых заснаваў там беларускую калонію ў Саўт-Рыверы. Працаваў у Лос-Анжэлесе і Вашынгтоне, пачынаючы ад супрацоўніка розных фірм да навукоўца, аднаго з вядомых першапраходцаў амерыканскай астранаўтыкі. Вось такі цікавы лёс беларускага чалавека, які не згубіўся ў вялікім чужамоўным свеце, бо ведаючы французскую, ня-

---

***Леанід Міхайлавіч Галубовіч*** *нарадзіўся ў вёсцы Вароніна Клецкага раёна ў 1950 годзе. Скончыў Грыцэвіцкую СШ, ГПТВ у Слуцку, Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Літаратурным інстытуце ў Маскве (1987—1989). Працаваў электрыкам у Жабінцы, Слуцку, Клецку і ў родным калгасе, пасля — рэдактарам літаратурна-драматычных праграм на Беларускім тэлебачанні, рэдактарам аддзела літаратуры часопіса «Крыніца», рэдактарам аддзела крытыкі тыднёвіка «ЛіМ». Аўтар сямі кніжак паэзіі і прозы. Апошнім часам практыкуе ў крытыцы.*

мецкую, польскую, рускую і беларускую мовы, без асаблівых цяжкасцей авалодаў і англійскай. Як аднойчы сказаў пра Барыса Кіта наш слынны пісьменнік Васіль Быкаў: *«Талерантная натура Барыса Кіта прагнула міру і душэўнай гармоніі, пры якіх толькі магчыма было разгарнуць свае стваральныя здольнасці. Тое надарылася не адразу, але, як сказана, — шукайце і знойдзеце...»*

Усю гэтую цікавую фактуру выкладае ў змястоўнай прадмове да кніжкі «Грамадзянін свету» вядомая даследчыца Лідзія Савік, якая выдала паасобныя кніжкі пра Б. Кіта яшчэ раней («Вяртанне», 1993 і «Космас Беларуса», 1998). У сваім артыкуле «Барыс Кіт у прасторы і часе» яна зазначае: *«Пасля некалькіх гадоў працы ў амерыканскай касманаўтыцы напісаў першы ў гісторыі падручнік па ракетных палівах, які стаў настольнай кнігай для тых, хто займаўся астранаўтычнымі даследаваннямі. Барыс Кіт садзейнічаў паяднанню высілкаў амерыканскіх і савецкіх вучоных у даследаванні космасу, выступаў як першакласны перакладчык прафесійнай навуковай тэрміналогіі, калі адбываліся сустрэчы вучоных розных краін, напісаў (сумесна з Ф. Ордвеем) кнігу пра развіццё савецкай касманаўтыкі, удзельнічаў у падрыхтоўцы палёту амерыканцаў на Месяц».*

Пры гэтым Барыс Уладзіміравіч не забываўся і на сваю першую прафесію педагога і настаўніка. Быў прафесарам Мэрылендскага універсітэта, раз'язджаў з лекцыямі па яго еўрапейскіх філіялах, жывучы ў Франкфурце-на-Майне. Ён быў абраны членам шмат якіх навуковых таварыстваў і акадэмій свету, адзначаны Залатым медалём Германа Обэрта. Барыс Кіт быў асабіста знаёмы з такімі сусветнавядомымі вучонымі, як Г. Гейзенберг, Р. Опенгеймер, Т. фон Карман, В. фон Браўн. Яго імя разам з імёнамі славутых вучоных Амерыкі замуравана ў капсуле часу ў сцяну Капітолія, каб праз вякі нашчадкі мелі ўяўленне пра інтэлект чалавецтва XX стагоддзя.

Барыс Кіт заўжды даводзіў, што ён стаіць над палітыкай і не належаў ані да якіх партый. Палітыка для яго — гэта чалавечае сумленне і змястоўнае цікавае жыццё, якое ўзрастае на хрысціянскіх законах.

Агулам, гэтая гожа выдадзеная і аб'ёмная кніжка змяшчае ў сабе шмат артыкулаў розных людзей, якія мелі гонар быць знаёмымі з Б. Кітам альбо наладжвалі з ім пэўныя рабочыя ці таварысцкія дачыненні (ёсць у кніжцы і вялікі фотаілюстрацыйны блок). Найбольш уражваюць, вядома, запісы Васіля Быкава, якія ён зрабіў падчас сустрэч з Б. Кітам у Франкфурце-на-Майне з вясны 2001 па вясну 2002 года. Гэтыя два высокаінтэлектуальныя чалавекі, дзве адухоўленыя асобы паразумеліся адразу, таму іх шчырасць у развагах пра жыццё і светаўладкаванне выклікае шырокую чытацкую ўвагу (дарэчы, «Аповяды Барыса Кіта ў запісах Васіля Быкава» ўпершыню друкаваліся ў нашым часопісе ў 2002 годзе).

Вось што пісаў В. Быкаў пра гэтыя «аповяды»: *«Як вядома, пра Кіта напісана ўжо некалькі кніжак, у тым ліку і на беларускай мове, і ў Беларусі яны выдадзеныя. Але ўсё ж быў вельмі важны яго суб'ектыўны погляд на многія рэчы. І, каб найбольш наблізіцца да гэтай ісціны яго жыцця, я падумаў, што патрэбна, каб загучаў яго голас — менавіта з яго інтанацыямі, з яго ацэнкамі, асабліва што датычыць іншых людзей, гістарычных постацяў, якія не знайшлі справядлівай ацэнкі ў гісторыі Беларусі, у мінулым Беларусі. А Кіт быў апошні або ёсць апошнім, хто можа засведчыць праўду на гэты конт».*

І трэба сказаць, што «аповяды» напраўду даюць шмат карыснай і нярэдка невядомай да гэтага часу інфармацыі. Асабліва для тых, хто любіць і шануе сваю Айчыну.

У кнігу ўвайшлі таксама ўспаміны вучняў, сяброў і супрацоўнікаў Барыса Уладзіміравіча Кіта: Тамары Вяршыцкай, Руслана Качаткова, Уладзіміра Копаля, Славы Лягенчанкі, Адама Мальдзіса, Крыштофа Марліча, Людмілы Пятровай, Дзмітрыя Паўлоўскага, Гарумі Танакі, Леслі Тэнэн, Ёханеса Шлоца, Яўгена Шыраева ды іншых. Падаюцца таксама кароткія вытрымкі з лістоў Б. Кіта, хроніка яго жыцця і гісторыя прэміі яго імя, якая была ўстаноўлена ў 2000 годзе .

Не трэба думаць, што кніжка наўпрост распісана славаслоўем і алілуйшчынай пра гэтага знакамітага чалавека. Тут вельмі шмат зводдалі незаўважнага, быццёвага, з чаго ўрэшце і складаецца чалавек як асоба. Да прыкладу, як піша С. Лягенчанка, былая загадчыца аддзялення Рэспубліканскага шпіталя інвалідаў Айчыннай вайны: *«Ён прадстаўляўся мне нейкім недасягальным гігантам. І вось ён перада мной: добры, маладжавы (у сваё амаль што 90 гадоў) твар, жвавы позірк маладых вачэй, хуткая паходка, ды... неверагодная прастата. Сапраўды, як кажуць, усё вялікае — простае. Барыс Уладзіміравіч аказаўся настолькі гасцінным, што адразу запрасіў мяне, а таксама маю дачку з усёй яе сям'ёй у рэстаран. Ён валодае шмат якімі замежнымі мовамі, і на зайздрасць многім беларусам на Бацькаўшчыне, прыгожай беларускай мовай у дасканаласці. Ён, як так званая «хадзячая энцыклапедыя», ведае пра ўсё. Ён расказаў нам пра гісторыю наваколля Франкфурта, у прыватнасці, Бад-Хомбурга, дзе жылі і тварылі Тургенеў, Дастаеўскі і іншыя. Яго светлы розум, прыроднае пачуццё гумару рабілі нашыя размовы цікавымі і карыснымі»*.

І, каб не падацца галаслоўным, прывяду вытрымку з тэкста Яўгена Шыраева, прафесара Маскоўскага універсітэта імя Ламаносава, Прэзідэнта Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі: *«Борису Киту присуще удивительное сочетание человеческих качеств, таких, как доброжелательность, добродушие, внимательность к собеседнику, сдержанность, толерантность. Деятельность Бориса Кита в родной Беларуси известна хорошо. Для меня, как и для многих, Борис Кит легендарная личность, которым может гордиться каждый белорус»*.

У беларускім вайсковым часопісе «Армия» (№ 5, 2002) быў надрукаваны артыкул з падрабязнай хронікай жыццядзейнасці славутага земляка «Кит Борис Владимирович — математик, физик, доктор философских наук а области математики и истории науки», які таксама змешчаны ў кніжцы «Грамадзянін свету».

Адным словам, гэтая вартая кніжка пакідае вельмі добрае ўражанне пра цудоўнага беларускага чалавека, які ўзняўся з-пад Карэліч у свой інтэлектуальны космас і зараз вяртаецца да нас...





# *МЕТРЫКА*

*літаратурная*

## СНЕЖАНЬ

**355**

гадоў назад нарадзіўся **Тарасевіч** Лявонцій (1650?—1710?), гравёр, творчасць якога звязана з Беларуссю і Літвой.

Вучыўся ў гравёраў Кіліянаў у Германіі. Пераважна працаваў у тэхніцы афорта і разцовай гравюры на медзі. Творы вылучаюцца дакладнасцю малюнка, разнастайнай штрыхоўкай, цэласнасцю сюжэтнай кампазіцыі: партрэты К. С. Радзівіла, М. Слупскага, ашмянскага прыстольніка Г. Зямлі, гербы віленскага епіскапа К. Бжастоўскага, Агінскіх... У творах выкарыстоўваліся барочная сімволіка і алегорыі.

**225**

гадоў назад у горадзе Елгава нарадзіўся **Дамель** Ян (1780—1840), беларускі жывапісец.

У 1809 годзе ён скончыў Віленскі універсітэт. Быў вучнем Ф. Смуглевіча і Я. Рустэма. З 1820 па 1822 год быў у ссылцы ў Сібіры. Потым жыў у Мінску. Пераважна займаўся гістарычным жывапісам. Сярод яго найбольш вядомых твораў: «Смерць магістра крыжаносцаў Ульрыха фон Юнгінгена ў бітве пад Грунвальдам», «Смерць князя Панятоўскага», «Хрышчэнне славян», «Смерць Глінскага ў цямніцы», «Твардоўскі паказвае Жыгімонту Аўгусту цень яго жонкі Барбары», «Адступленне французаў праз Вільню ў 1812 годзе». У 1820 годзе зрабіў некалькі замалёвак на тэмы побыту народаў Сібіры. Аўтар шэрага твораў на рэлігійныя сюжэты, а таксама партрэтаў Д. Радзівіла, І. Храптовіча, К. Тышкевіча, М. Спяранскага і пейзажаў Мінска ды яго ваколіц («Вадзяны млын», «Дрэвы над вадой»).

**140**

гадоў назад у вёсцы Забаб’е Жлобінскага раёна нарадзіўся **Гаспадароў** Піліп Паўлавіч (1865—1938), беларускі і рускі казачнік. У 1905 годзе за ўдзел у сялянскіх выступленнях на Магілёўшчыне быў сасланы ў Аланецкую губерню. У 1907 годзе быў вызвалены ад паліцэйскага нагляду і працаваў кавалём у Петразаводску. Аснову яго вуснага рэпертуару складалі казкі, перанятыя ў аднавяскоўца К. К. Шаўцова. У 1937—38 гадах ад Гаспадарова было запісана 106 казак. У 1941 годзе ў Петразаводску выйшла кніжка сабраных ім казак на рускай мове, якая так і называлася «Сказки».

**105**

гадоў назад у Кіеве нарадзіўся **Крошнер** Міхаіл Яўхімавіч (1900—1942), беларускі кампазітар, заслужаны артыст Беларусі. У 1937 годзе скончыў Беларускую кансерваторыю. Быў канцэртмайстрам-піяністам Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. Аўтар першага нацыянальнага балета «Салавей», у музычнай драматургіі якога вялікую ролю адыгрываў народны танец (пастаўлены ў 1939 годзе ў Мінску і ў Адэсе).

**85**

гадоў назад у горадзе Гомелі быў заснаваны **Беларускі трэці дзяржаўны тэатр** (БДТ-3). Спачатку ён называўся Трупа беларускіх артыстаў пад загадам Галубка, а з 1926 года — дзяржаўным вандроўным тэатрам, з 1933 года — БДТ-3. Мастацкім кіраўніком быў У. Галубок. Калектыў працягваў традыцыі беларускага народнага тэатра, Першай беларускай трупы І. Буйніцкага. Спектаклі былі насычаныя песнямі і танцамі, вызначаліся народным каларытам, таму былі вельмі папулярнымі ў народзе. Ставіліся п'есы самога У. Галубка, Ф. Аляхновіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Чарота, В. Дуніна-Марцінкевіча. Тэатр за сваю савецкую гісторыю зазнаў шмат крытыкі і партыйных вымоваў. У 1937 годзе Галубок і вядучы акцёр Згіроўскі былі арыштаваныя, і тэатр быў расфарміраваны.

## СНЕЖАНЬ

**8**

— **70** гадоў з дня нараджэння **Скобелева** Эдуарда Марцінавіча, беларускага празаіка, паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

Нарадзіўся ў горадзе Мінску ў 1935 годзе ў сям'і ваеннага інжынера-будаўніка. У 1953 годзе скончыў СШ у Ташкенце, а ў 1959 — Маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных зносін. Працаваў у Міністэрстве замежных спраў СССР рэферэнтам-перакладчыкам у пасольстве СССР у Швейцарыі, сакратаром Міністэрства замежных спраў БССР у Мінску. Прымаў у дзел у многіх міжнародных канферэнцыях і пасяджэннях. З 1973 да 1990 года працаваў інспектарам аддзела замежных сувязей ЦК КПБ, а з 1991 года — намеснікам дырэктара міжнароднага цэнтра Акадэміі кіравання пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь. Цяпер — у Адміністрацыі Прэзідэнта РБ.

У 1966 годзе пачаў публікаваць вершы, якія потым увайшлі ў зборнікі «Дорога» і «Капли дождя». Вершы Э. Скобелева вылучаюцца сціпласцю, афарыстычнасцю і філасофскімі падтэкстамі. Піша і прозу: гістарычнага плана («Мирослав — князь дреговический», «Свидетель») і маральна-этычнага («Катастрофа», «Чудо любви», «Маятник надежды», «Гладиатор»).

Выйшлі ў свет зборнікі паэтычных драм («День из жизни Сократа», «На Куликово — трудный путь»)... Піша і для дзяцей (казка «Приключения Арбузика и Бебешки», экранізаваная пад назовам «Путешествие в страну чудовищей»). Аўтар радыёп'есы «Дело доктора Дариеля». Займаецца перакладам вершаў асобных беларускіх паэтаў на рускую мову. На яго словы напісана некалькі песень кампазітарам Г. Вагнерам. Актыўна выступае з публіцыстычнымі і літаратурна-крытычнымі артыкуламі.

Піша на рускай і беларускай мовах.

**10**

— **135** гадоў таму ў вёсцы Багданаў Валожынскага раёна нарадзіўся **Рушчыц** Фердынанд (1870—1936), жывапісец, графік, тэатральны дэкаратар і педагог.

Пачатковую мастацкую адукацыю атрымаў у Мінску ў мастака К. Ермалаева. У 1897 годзе скончыў Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў. Вучыўся ў І. Шышкіна і А. Куінджы. Быў прафесарам Школы прыгожых мастацтваў у Варшаве (1904—07), Кракаўскай Акадэміі мастацтваў (1907—08), аддзялення прыгожых мастацтваў Віленскага універсітэта (1919—32). Наследаваў творчыя традыцыі беларускага, рускага, польскага і французскага мастацтва. У некаторых выпадках адчуваўся ўплыў стылю мадэрн. Сацыяльныя матывы выяўляюцца ў карцінах «Каля касцёла», «У свет», «Эмігранты», эпічныя — у карціне «Зямля». Лірычнай тонкасцю і глыбінёй напоўнены пейзажы «Вясна», «Млын ноччу», «Пустка», «Зімовая казка», «Лясны ручай». Рэалізм высвеч-

ваецца ў такіх яго работах, як «Мінск зімою», «Крэва», «Былое», «Багданава» ды ў шэрагу іншых. Працаваў таксама і ў графіцы, быў аўтарам станковых работ. Афармляў спектаклі ў Вільні.

**10**

— **75** гадоў таму ў вёсцы Вецявічы Слонімскага раёна ў сялянскай сям'і нарадзіўся **Арочка** Мікалай Мікалаевіч, беларускі паэт і літаратуразнаўца. Пачынаў вучобу ў польскай пачатковай школе. Пасля скончыў Азярніцкую сярэднюю школу. Першыя спробы вершавання пабачылі свет у баранавіцкай абласной газеце «Чырвоная звязда» і слонімскай раённай «Вольная праца». Першае выступленне ў рэспубліканскім друку адбылося ў газеце «Савецкі селянін». Аднак гэтыя спробы пяра былі заўважаныя і М. Арочка быў запрошаны на III нараду маладых пісьменнікаў (1950). У 1956 годзе ён паспяхова скончыў беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ. Працаваў літаратурным супрацоўнікам у часопісе «Сельская гаспадарка Беларусі», а пасля — загадчыкам аддзела літаратуры штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Там і пачаў прафесійна займацца крытыкай і літаратуразнаўствам. Вывучаў творчасць В. Таўлая. З 1966 года працаваў навуковым супрацоўнікам у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук Беларусі.

Выдаў зборнікі вершаў: «Не ўсе лугі пакошаны...», «У птушынай вёсцы», «Кветкі бяссмертніка», «Падземныя замкі»... А таксама кнігі літаратурна-крытычных артыкулаў: «Валянцін Таўлай», «Галоўная служба паэзіі», «Беларуская савецкая паэма», «Саюз часу і майстэрства», «Пад высокай зоркай»... Спрабаваў сябе і ў мастацкай прозе.

Як зазначаў Ф. Янкоўскі, «асноўныя рысы паэзіі М. Арочкі — задушэўнасць, засяроджаны роздум аб жыцці і часе, зварот да перажытага ў вайну і гістарычнага мінулага».

На жыццё М. Арочкі выпала шмат трагедый, якія ён мужнаператрываў і дарэшты не адчаяўся... Апошнія гады жыве ў роднай вёсцы. Займаецца гаспадаркай і творчай работай.

**15**

— **110** гадоў таму ў вёсцы Чарняўка Крупскага раёна ў яўрэйскай сям'і нарадзіўся **Камянецкі** Гірш Мордухавіч, беларускі паэт.

Вучыўся ў яўрэйскіх рэлігійных школах хедэры і ешыбоце. Працаваў цырульнікам у Барысаве. Удзельнічаў у грамадзянскай вайне ў складзе Чырвонай Арміі. Пасля дэмабілізацыі зноў працаваў у цырульні. Вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта БДУ. З 1930 года быў на творчай рабоце. У 1937—41 гадах быў адказным сакратаром яўрэйскай секцыі СП БССР. У час вайны працаваў цырульнікам у Чкалаўскай вобласці. Па вяртанні ў Мінск кароткі час — рэдактар мастацкай літаратуры ў Дзяржвыдавецтве БССР (1948—49). У 1950 годзе быў незаконна асуджаны да лагерных работ і да 1956 года знаходзіўся ў лагерах Іркуцкай вобласці. Вярнуўся інвалідам. Рэабілітаваны і адноўлены ў правах сябра Саюза пісьменнікаў у 1956 годзе.

Пісаць і друкаваць вершы пачаў у 1924 годзе. Друкаваўся ў яўрэйскіх выданнях, а таксама ў перакладах на беларускую мову. Выдаў сем зборнікаў вершаў, у тым ліку выбранае ў перакладзе на беларускую мову (1960). Як адзначае крытык І. Багдановіч: *«У лірычных вершах асабістага плана ён больш арыгінальны, чым у вершах, напісаных па сацыяльнаму заказу, дзе адчуваецца штучнасць і дэкларатыўнасць»*.

Памёр у 1957 годзе, пахаваны ў Барысаве.

**16**

— **100** гадоў таму ў горадзе Самара нарадзіўся **Сярдобаў** Мікалай Мікалаевіч, беларускі спявак, педагог, народны артыст Беларусі, заслужаны артыст Арменіі.

Скончыў Куйбышаўскі музычны тэхнікум у 1929 годзе. З 1946 па 1960 гады быў салістам Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. З 1965 года — выкладчыкам і рэжысёрам Опернай студыі Беларускай кансерваторыі. Яго творчасць была адметнай свабодным валоданнем вакальнымі і акцёрскімі сродкамі выразнасці.

Сярод партый: Каліноўскі («Кастусь Каліноўскі» Дзм. Лукаса), Дзяніс Давыдаў («Надзея Дурава» А.Багатырова), Мацей («Страшны двор» С. Манюшкі), Фігара («Севільскі цырульнік» Дж. Расіні) ды іншыя.

Памёр вядомы артыст у 1990 годзе.

**18**

— **70** гадоў таму ў вёсцы Вялікія Лазіцы Шклоўскага раёна ў сялянскай сям'і нарадзілася **Галіноўская** Ніна Васільеўна, беларуская паэтэса. Скончыла Магілёўскае дашкольнае педагагічнае вучылішча (1955). Працавала выхавацелькай у дзіцячым садку торфапрадпрыемства «Калпеніца» Брэсцкай вобласці і дзіцячага дома ў вёсцы Лунна Гродзенскай вобласці. На пачатку 60-х была карэктарам у газеце «Мінская праўда», а потым — у друкарні выдавецтва «Звязда». З 1967 года — рэдактар па рэкламе мастацкіх фільмаў газеты «Кинонеделя Минска». З 1988 года — на творчай працы.

Першы лірычны верш (на рускай мове) надрукавала ў Скідальскай раённай газеце ў 1958 годзе. У рэспубліканскім друку выступае з 1960 года. У асноўным піша для дзяцей. На некаторыя яе тэксты напісаны песні.

**20**

— **165** гадоў назад у вёсцы Дэмбрава Шчучынскага раёна нарадзіўся **Альхімовіч** Казімір, жывапісец, графік, прадстаўнік позняга рамантызму і рэалізму.

Вучыўся ў Варшаве, Парыжы, у 1875 годзе скончыў Мюнхенскую Акадэмію навук. За ўдзел у паўстанні 1863—64 гадоў сасланы ў Сібір, дзе і знаходзіўся да 1869 года.

На гістарычныя тэмы стварыў карціны «Пахаванне Гедзіміна», «Смерць Маргера», «Абарона Ольштына», «Смерць Глінскага ў турме». Гаротны лёс беларускага сялянства адлюстраваў у карцінах «Жніво», «Наём работнікаў», «Парабкава хата», «Шляхціц і селянін». Пад уплывам ссылкі з'явіліся работы «Смерць у выгнанні», «Пахаванне на Урале», «На этапе». Таксама стварыў цэлую серыю карцін па матывах творчасці А. Міцкевіча, у прыватнасці 12 ілюстрацый да яго сусветна вядомай паэмы «Пан Тадэвуш». Прымаў удзел у размалёўцы касцёла Святой Кацярыны ў Пецярбургу.

Памёр мастак у 1916 годзе.

**20**

— **115** гадоў таму ў Львове нарадзіўся **Марыкс** Аскар Пятровіч, беларускі мастак тэатра, графік, педагог, народны мастак Беларусі.

Скончыў Акадэмію мастацтваў у Празе ў 1912 годзе. З 1920 года быў мастаком, галоўным мастаком БДТ-1 (тэатра імя Я. Купалы), а ў 1940—46 — тэатра імя Я. Коласа. Выкладаў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Адзін з вядучых мастакоў у беларускім тэатры.

Найбольш значныя работы: «Машэка», «Кастусь Каліноўскі», «Каваль-ваявода» Е. Міровіча, «Салавей» Зм. Бядулі, «Ваўкі» Р. Ралана. Апроч афармлення спектакляў, пісаў партрэты, пейзажы і нацюрморты.

Памёр мастак у 1976 годзе.

**20**

— **80** гадоў у вёсцы Гаць Крупскага раёна ў сялянскай сям'і нарадзіўся **Шуцько** Іван Цітавіч, беларускі паэт, празаік.

Скончыў Выдрыцкую сямігадовую школу ў 1939 годзе. Да пачатку вайны працягваў навучанне ў Крупскай сярэдняй школе. Працаваў у раённым камітэце

радыёінфармацыі. У 1943 годзе разам з вяскоўцамі быў вывезены ў нямецкі канцэнтрацыйны лагер пад Гданьскам. У 1944 годзе яму ўдалося ўцячы з лагера і з цяжкасцямі дабрацца да роднай вёскі. У 1944—45 гадах служыў у кулямётна-артылерыйскім батальёне на Беларускім фронце. Пасля вайны ў складзе савецкіх войск знаходзіўся ў Польшчы. Пасля дэмабілізацыі працаваў дзесяць гадоў брыгадзірам у роднай вёсцы. З 1958 года быў літсупрацоўнікам Крупскай раённай газеты. Вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве (1961—63). З 1964 года працаваў фотакарэспандэнтам Крупскай раённай газеты.

Першы свой верш надрукаваў у 1940 годзе ў газеце «Піянер Беларусі». Рэгулярна выступаць у рэспубліканскім друку пачаў з 1949 года. Першую кніжку для дзяцей выдаў у 1953 годзе. Пісаў у асноўным для дзяцей — і вершы, і прозу. Праўда, у бібліятэцы «Вожыка» ў 1966 годзе выдаў зборнік баек і гумарыстычных мініяцюр «Са свайго пункту гледжання».

**21**

— **115** гадоў таму ў горадзе Пецярбургу нарадзіўся **Аладаў** Мікалай Ільіч, беларускі кампазітар і педагог, народны артыст Беларусі.

Экстэрнам скончыў Пецярбургскую кансерваторыю. З 1924 года жыў і працаваў у Мінску. Адзін з арганізатараў і першых выкладчыкаў Беларускага музычнага тэхнікума і кансерваторыі (з 1946 года — прафесар, а з 1948 — яе дырэктар).Удзельнічаў у стварэнні беларускай кампазітарскай арганізацыі. Залажыў асновы многіх жанраў беларускай прафесійнай музыкі.

Сярод твораў М. Аладава: опера «Андрэй Касценя», музычная камедыя «Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат», вакальна-сімфанічная паэма «Над ракой Арэсай», дзесятак сімфоній, канцэртных фантазій, камерныя інструментальныя і вакальныя творы.

Памёр знакаміты кампазітар у 1972 годзе.

**24**

— **95** гадоў назад у Мінску ў сям'і рабочага нарадзіўся **Сядура** Уладзімір Ільіч (псеўд. Уладзімір Глыбінны), беларускі празаік, літаратуразнаўца і мастацтвазнаўца.

У 1927 годзе паступіў у Мінскі белпедтэхнікум, дзе далучыўся да літаратурнага таварыства «Маладняк». У 1930 годзе паступіў на лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ. У 1933 годзе быў арыштаваны і высланы на два гады ў Сібір. Пасля вызвалення вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, а ў 1939 годзе скончыў Ленінградскі універсітэт. Абараніўшы дысертацыю, працаваў выкладчыкам у Мінскім педагагічным інстытуце. У першы дзень вайны быў арыштаваны, але на этапе блізу Чэрвеня ўцёк з-пад варты падчас бамбардзіроўкі. У 1944 годзе апынуўся ў Германіі. А з 1951 года стала жыў у ЗША. Працаваў там у розных навучальных установах, чытаў лекцыі.

З артыкуламі і рэцэнзіямі ў беларускім друку пачаў выступаць з 1929 года. Пісаў пра гісторыю Беларусі і яе мастацтва. Выдаў на англійскай мове ў ЗША кнігу «Беларускі тэатр і драма». У ЗША лічыўся выбітным спецыялістам па рускай літаратуры, у прыватнасці па творчасці Ф. Дастаеўскага. Яго кніга на рускай мове «Дастаеўсказнаўства ў СССР» (1955) была перавыдадзена на англійскай мове ў Нью-Йорку (1957) і ў Лондане (1958) як падручнік для студэнтаў. Выдаў некалькі кніг мастацкай прозы — «На берагах пад сонцам», «На святой зямлі», «Вялікія дарогі», «Пад лебядзіным знакам» (пра М. Багдановіча).

Памёр у 1995 годзе.

**28**

— **95** гадоў таму ў вёсцы Талька Пухавіцкага раёна нарадзіўся **Шаціла** Іван Браніслававіч, беларускі акцёр, народны артыст Беларусі.

У 1932 годзе скончыў драматычныя курсы ў Мінску. Працаваў у Беларускім тэатры імя Я. Купалы, у Дзяржаўным рускім тэатры Беларусі. Быў акцёрам яркіх эмоцый і сцэнічнага абаяння.

Да лепшых яго роляў можна залічыць: Мікола Верас («Пяюць жаваранкі» К. Крапівы), Якім Сарока («Паўлінка» Я. Купалы), Янка Купала («Шчасце паэта» В. Віткі), Тыбальд («Рамэо і Джульета» У. Шэкспіра), Хельмер («Нора» Г. Ібсена).

Памёр вядомы акцёр у 1977 годзе.

**31**

— **125** гадоў назад у горадзе Марыупалі на Украіне нарадзіўся **Баначыч** Антон Пятровіч, рускі спявак і педагог.

У 1901 годзе скончыў Пецярбургскую кансерваторыю. З 1928 года працаваў у Мінску, адразу кіраўніком класаў опернай падрыхтоўкі, пасля сольных спеваў і камернага ансамбля Беларускага музычнага тэхнікума і Беларускай студыі оперы і балета. З 1932 года — загадчык кафедры Беларускай кансерваторыі. Зрабіў вялікі ўклад у станаўленне опернага мастацтва на Беларусі.

Сярод яго вучняў Л. Александроўская, І. Балоцін, С. Друкер.

Памёр спявак у 1933 годзе.

**31**

— **70** гадоў таму ў г/п Памяць Парыжскай Камуны на Ніжагародчыне (Расія) нарадзілася **Малышава** Клара Мікалаеўна, беларуская артыстка балета, педагог, народная артыстка Беларусі.

Скончыла Пермскае харэаграфічнае вучылішча ў 1955 годзе. З 1965 па 1977 год — салістка Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. З 1977 года — педагог і мастацкі кіраўнік Беларускага харэаграфічнага вучылішча. Балерына шырокага творчага дыяпазону, валодала высокай тэхнікай, экспрэсіўнай манерай танца.

Сярод найбольш значных партый на беларускай сцэне: Джулія, Няўзіра («Альпійская балада» і «Выбранніца» Я. Глебава), Дзяўчына («Пасля балю» Г. Вагнера), Доўрская дзяўчына («Пер Гюнт» на музыку Э. Грыга), Кітры («Дон Кіхот» Д. Мінкуса), Золушка» («Золушка» С. Пракоф'ева), Аўрора («Спячая прыгажуня» П. Чайкоўскага).

— **60** гадоў назад, з пачатку снежня 1945 года, два разы на тыдзень на беларускай мове пачала выходзіць **«Настаўніцкая газета».**

Разлічана на работнікаў адукацыі і навукоўцаў. Асвятляе праблемы педагагічнай практыкі і навукі, стварэння нацыянальнай школы, падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі спецыялістаў, кіравання адукацыяй і яго структурнай перабудовы, адукацыйных стандартаў. Публікуе матэрыялы для педагогаў, выхавацеляў, студэнтаў і бацькоў.

*Аўтар рубрыкі Леанід Галубовіч.*



# ЗМЕСТ ЧАСОПІСА ЗА 2005 ГОД

## ПРОЗА



## ПАЭЗІЯ

## НА ПАВЕРЦЫ — ІМЁНЫ



## СПАДЧЫНА



## ПЕРАКЛАДЫ



## СТАРОНКІ ЛЁСУ



## НАВУКА

## НЕЗАБЫЎНАЕ



## ШКОЛЬНЫ ФАКУЛЬТАТЫЎ



## КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА



## ПУБЛІЦЫСТЫКА



## МЕТРЫКА ЛІТАРАТУРНАЯ



*Падрыхтавала М. Гусева.*

## *Паважаныя чытачы!*

*Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва», якая выпускае часопіс «Полымя», з-за аб'ектыўных прычын не пастаўляе свае выданні ў кіёскі і магазіны УП «Белсаюздрук» у абласцях, акрамя Мінскай. Таму раім чытачам і аўтарам афармляць падпіску ў паштовых аддзяленнях сувязі. Пачалася падпіска на 2006 г.*

*А падпісныя цэны на «Полымя» наступныя:*

***індывідуальная (індэкс — 74985) на 1 месяц — 4000 руб., на 3 месяцы — 12000 руб.; ведамасная (індэкс — 749852) на 1 месяц — 5000 руб., на 3 месяцы — 15000 руб.; льготная (індэкс — 00727) на 1 месяц — 4100, на 6 месяцаў — 24600 руб.***

*У Мінску часопіс «Полымя» можна купіць як у кіёсках, так і ў магазінах УП «Мінгарсаюздрук». Нерэалізаваныя праз кіёскі і магазіны горада выданні пасля двух месяцаў з даты выхаду перадаюцца ў магазіны па наступных адрасах:*
*№ 2 — пр. Незалежнасці, 44, а, тэл. 284-83-59*
*№ 3 — пр. Незалежнасці, 76, тэл. 232-46-23;*
*№ 8 — вул. Сурганава, 40, тэл. 232-45-10;*
*№ 15 — вул. М.Танка, 16, тэл. 203-82-39;*
*№ 18 — падземны пераход на пл. Перамогі, тэл. 284-31-06*

*Нагадаем, што ў выпадку неабходнасці ўдакладніць наяўнасць патрэбных вам нумароў часопіса ў гандлёвых прадпрыемствах УП «Мінгарсаюздрук» або заказаць іх можна праз магазін № 18 (тэл. 284-31-06) ці праз дыспетчара «Мінгарсаюздруку» (тэл. 232-00-41).*

**Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца. У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.**

***e-mail: minsk@lim.by***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў прозы, паэзіі, навукі, крытыкі і літаратуразнаўства — 284-80-12.

Стыльрэдактар *М. І. Гусева*
Камп'ютэрная вёрстка *С. І. Сяргейчык*

---

Падпісана ў друк з гатовых дыяпазітываў 29.11.05 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 18,20. Ул.-выд. арк. 17,91. Тыраж 3199 экз. Зак. 3085.

---

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.

Нашы індэксы
індывідуальны — 74985
ведамасны — 00141



# Чытайце ў наступным нумары:

Мікола Маляўка
Анатоль Зэкаў
Міхась Пазнякоў
Вершы

Эрнест Ялугін
Ідзі і кажы (раздзелы)
Іван Шамякін
З дзённікаў

Уладзімір Гусакоў
Праграма сацыяльна-
эканамічнага развіцця краіны...

Уладзімір Гніламёдаў
Пра паэзію Максіма Танка

ПОЛЫМЯ

ISSN 0130 — 8068